АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

Г. В. ШТЫХАЎ

# КРЫВІЧЫ



ПА МАТЭРЫЯЛАХ РАСКОПАК КУРГАНОЎ
У ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1992

ББК 63.3(2Б)
Ш 94

Посвящена исследованию процесса формирования и истории кривичей — раннесредневековой этнической общности. Основным источником изучения являются материалы раскопок курганных могильников VI—XIII вв. в северной части Белоруссии (территория бывшего Полоцкого княжества).
Рассчитана на историков, археологов, этнографов, работников культуры, краеведов.

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук
|М. А. ТКАЧОЎ|

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук
Л. У. ДУЧЫЦ, В. Е. СОБАЛЬ

**Штыхаў Г. В.**
Ш 94 Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі / Пад рэд. |М. А. Ткачова|.— Мн.: Навука і тэхніка, 1992.— с. 191: іл.
ISBN 5-343-01037-1.
Штыхов Г. В. Кривичи: По материалам раскопок курганов в Северной Белоруссии.

Прысвечана даследаванню працэса фарміравання і гісторыі крывічоў — раннесярэднявечнай этнічнай супольнасці. Асноўнай крыніцай даследавання з'яўляюцца матэрыялы раскопак курганных могільнікаў VI—XIII стст. у паўночнай частцы Беларусі (тэрыторыя былога Полацкага княства).
Разлічана на гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, работнікаў культуры, краязнаўцаў.

Ш $\frac{0503020903-149}{М 316(03)-92}$ 22—92

**ББК 63.3(2Б)+63.4(2)**



ISBN 5-343-01037-1

*Памяці беларускіх археолагаў ахвяраў палітычных рэпрэсій 30-х гадоў А. М. Ляўданскага, С. А. Дубінскага, А. Д. Кавалені прысвячаю*

АЎТАР

# Уводзіны

Крывічы — вялікая групоўка ўсходніх славян, якая знаходзілася ў вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі (паводле паведамлення «Аповесці мінулых гадоў»), р. Вялікай і Пскоўскага возера (па археалагічных даных) [1]. Крывічоў, якія жылі па сярэднім і верхнім цячэнні Заходняй Дзвіны, летапіс называе таксама «палачанамі» [2]. Па сутнасці гэта жыхары Полацкай зямлі — буйнога ва Усходняй Еўропе княства [3].

Даследчыкі даўно вылучаюць асобныя групы полацкіх, смаленскіх, пскоўскіх крывічоў па палітычных прыкметах — княствах на чале з іх галоўнымі гарадамі Полацкам, Смаленскам, Псковам. «Першае насельніцтва ў Полацку крывічы»,— гаворыцца ў летапісе. Першапачатковае ядро полацкіх крывічоў (крывічоў-палачан) фарміравалася, як пацвярджаюць археалагічныя даследаванні, у водападзеле правых прытокаў Заходняй Дзвіны (Дрыса, Усвяча) і вярхоўяў рэк Ловаць, Вялікая. У далейшым рассяленне крывічоў-палачан распаўсюдзілася на ўсё Беларускае Падзвінне і ў суседнія раёны Верхняга Падняпроўя.

Несумненную навуковую цікавасць перш за ўсё для вывучэння гісторыі насельніцтва Беларусі ўяўляюць старажытныя курганныя могільнікі ў Віцебскай вобласці і сумежных тэрыторыях. Народная назва курганоў у Паўночнай Беларусі «валатоўкі», магчыма, звязана са старажытным эпасам усходніх славян [4]. Найменне ўрочышча «Валатоўкі» сведчыць пра наяўнасць курганнага могільніка. У Віцебскай вобласці вядомы назвы вёсак «Валатоўкі» паводле бліжэйшага курганнага могільніка, які існуе або існаваў раней [5].

У актавых дакументах урочышчы Валатоўкі засведчаны ў XVI—XVII стст [6]. Згодна з легендамі, у курганах быццам бы пахаваны волаты. Волат — персанаж беларускай міфалогіі, асілак высокага росту [7]. Можна пагадзіцца з тым, што ўяўленне пра пахаванне ў «валатоўцы» чалавека-волата (асілка) вядома на вялікай тэрыторыі Усходняй Еўропы [8]. Аднак найбольш яны распаўсюджаны ў Паўночнай Беларусі і суседніх Пскоўскай, Смаленскай абласцях, усходняй Латвіі [9].

Чэшскі і славацкі гісторык П. І. Шафарык выказаў меркаванне, што першапачатковымі насельнікамі Беларусі з'яўляліся вялеты, ці люцічы, пра якіх пісаў Пталамей у II ст. н. э. У VIII—XII стст. вялеты вялі ўпартую барацьбу супраць германскага панавання. Адсюль узнік эпітэт «ваўкі», «люцічы»[10]. Беларускія даследчыкі В. Ю. Ластоўскі, Я. Ю. Лёсік станоўча адносіліся да гіпотэзы П. І. Шафарыка. У 1928 г. М. Каспяровіч на аснове распаўсюджанай анкеты аб «волатах, люцічах і ваўках» выказаў думку, што з назвай курганоў «валатоўкі» звязана ўяўленне аб народзе волатах — продках беларусаў[11]. Польскія этнографы першай паловы XIX ст. лічылі, што «крывічы» — гэта беларусы[12]. Такая думка пазней неаднаразова выказвалася ў літаратуры. В. Ю. Ластоўскі пісаў: «Наша сапраўднае плсмяннос і нацыянальнае найменне ёсць крывічы»[13].

Задоўга да ўзнікнення старажытнарускай дзяржавы на чале з Кіевам у канцы IX ст. у выніку складаных этнічных працэсаў у Беларускім Падзвінні адбывалася фарміраванне крывічоў-палачан. Каб усвядоміць гэту з'яву, неабходна закрануць этнічныя аспекты гісторыі насельніцтва Беларусі ў больш раннія часы.

У VIII ст. да н. э.— IV ст. н. э. Беларускае Падзвінне насялялі ўсходнебалцкія плямёны днепра-дзвінскай культуры, асноўнымі археалагічнымі помнікамі якой з'яўляюцца гарадзішчы[14]. Віцебская вобласць — адзін з рэгіёнаў вялікага арэала днепра-дзвінскай культуры, пахавальныя помнікі якой працягваюць заставацца невядомымі[15].

Значная частка заходняй і сярэдняй Беларусі, таксама як Латвіі і ўсходняй Літвы, з першай паловы 1-га тысячагоддзя да н. э. да пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. была заселена ўсходнебалцкімі плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі[16]. Днепра-дзвінская культура, паводле шматлікіх даных, блізкая да культуры штрыхаванай керамікі. Выразна акрэсленых граніц паміж гэтымі археалагічнымі культурамі не існавала. Былі мясцовасці, дзе насельніцтва культур змешвалася або жыло чераспалосна[17]. Крайняя поўнач Беларусі (днепра-дзвінская культура) і сярэдняя Беларусь (культура штрыхаванай керамікі) — асноўныя рэгіёны, дзе названыя культуры выяўлены ў больш або менш нязмешаным, чыстым выглядзе.

Такім чынам, у Беларускім Падзвінні, як і ў многіх суседніх раёнах сярэдняй Беларусі, славяне не былі карэнным насельніцтвам. Гэты вывад з'яўляецца значным дасягненнем сучаснай археалагічнай навукі[18].

У трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. амаль па ўсёй тэрыторыі сярэдняй і паўночнай Беларусі размяшчаліся гарадзішчы-сховішчы, вядомыя ў археалагічнай навуцы як помнікі тыпу «верхняга слоя Банцараўшчыны, Тушамлі, Калачына». Большасць даследчыкаў лічаць гэтыя помнікі балцкімі[19]. А. Р. Мітрафанаў прапанаваў тэрмін «банцараўская культура», якую ён таксама




Мал. 1. Карта-схема Полацкай зямлі у X—XII стст. з абазначэннем асноўных даследаваных курганных могільнікаў (табл. 1, 9)

ўпэўнена лічыў балцкай [20]. Матэрыялы такой культуры V—VIII стст. знойдзены ў найстаражытнейшым культурным слоі на гарадзішчах і паселішчах у Віцебску, Лукомлі [21]. Яе прыкметы выяўлены на Полацкім гарадзішчы.

Паўстае пытанне, якія дачыненні мела насельніцтва банцараўскай культуры да фарміравання крывічоў-палачан, звесткі пра якіх з IX ст. змешчаны ў летапісах? Адказаць на яго можна, грунтоўна вывучаючы археалагічныя помнікі і ў першую чаргу курганныя могільнікі.

У 60—70-я гады аўтар даследаваў найбольш раннія курганы сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. Паводле выяўленых матэрыялаў, сярод курганных могільнікаў Беларускага Падзвіння можна вылучыць тры стадыі адпаведна тром храналагічным перыядам: курганныя могільнікі сярэдзіны трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., курганы апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і помнікі XI—XII стст.— пачатку XIII ст. Гэты культурна-гістарычны прынцып пакладзены ў аснову структуры ўсёй манаграфіі, уключаючы дадатак.

Увогуле з 1849 па 1990 г. у Беларускім Падзвінні археолагамі было даследавана каля 800 курганоў у 117 пунктах (табл. 1). З іх 202 курганы ў 19 пунктах раскапаны аўтарам і падрабязна прадстаўлены ў манаграфіі. Надрукаваныя матэрыялы іншых даследчыкаў выкарыстаны ў якасці аналогій і для статыстычных падлікаў.

Полацкія крывічы даволі рана сталі пранікаць на тэрыторыю рассялення сваіх бліжэйшых суседзяў — дрыгавічоў. Некаторыя даследчыкі лічаць, што «граніца» паміж тэрыторыяй рассялення крывічоў-палачан і дрыгавічоў праходзіла ў раёне Заслаўя, Лагойска, Барысава [22]. На самой справе ў вярхоўях рэк Дняпроўскага басейна Свіслачы, Бярэзіны, Друці крывічы-палачане жылі цераспалосна ці змешваліся з дрыгавічамі. Частка зямель, населеных дрыгавічамі на поўдзень ад Менска, Заслаўя, Барысава, адышла да Полацкай зямлі.

Акрамя сістэматычных раскопак у Віцебскай вобласці археалагічны атрад Інстытута гісторыі АН Беларусі (начальнік атрада Г. В. Штыхаў) вывучаў курганныя могільнікі ў паўночнай частцы Менскай вобласці, у наваколлі Менска, у Заслаўі, Барысаўскім і Лагойскім раёнах, гэта значыць, на тэрыторыі той часткі Верхняга Падняпроўя, якая ўваходзіла ў склад Полацкай зямлі. Усяго за 150 год археолагамі раскапана каля 900 курганоў.

Курганныя могільнікі, у якіх знойдзены зярнёныя металічныя пацеркі, залічаны П. Ф. Лысенкам да дрыгавіцкіх і ўключаны ў межы рассялення дрыгавічоў [23]. Дадатковыя, не ўлічаныя ў кнізе «Дрыгавічы» матэрыялы даследаванняў аўтара змяшчаюцца цяпер у гэтым выданні. У наваколлі старажытнага Менска, Заслаўі, Барысаўскім раёне аўтарам раскапана каля 80 курганоў з 1967 па 1982 г.

Асаблівае значэнне ўяўляе даследаванне курганнага



*Мал. 2. Ізбішча. Упрыгожанні з падвескамі-манетамі і падвескай, выкананай «у стылі Барэ», канца X ст. (к. 26)*




*Мал. 3. Ізбішча. Жаночыя ўпрыгожанні з кургана 2: 1 — 10 — вырабы з бронзы; 11, 13 — шкляныя пацеркі; 12 — сердалікавыя пацеркі*

могільніка каля в. Ізбішча Лагойскага раёна. Могільнік размешчаны на беразе р. Дзвінаса, прытока Віліі і адносіцца да рэк басейна Балтыйскага мора. Тут быў даследаваны амаль поўнасцю курганны могільнік, дзе раскапана В. У. Казеем (1987—1989 гг.) і Г. В. Штыхавым (1990—1991 гг.) 108 кургаоў. Археалагічны комплекс каля в. Ізбішча заслугоўвае асобнага манаграфічнага выдання.

Мэта дадзенай работы — увесці ў навуковы ўжытак вялікі новы матэрыял, які быў атрыманы яе аўтарам у выніку шматгадовых раскопак, асэнсаваць яго, улічваючы надрукаваныя даследаванні іншых археолагаў, і выказаць меркаванні пра час і шляхі фарміравання полацкіх крывічоў, якім належыць значная роля ў гісторыі старажытнага насельніцтва, што знаходзілася на тэрыторыі былога Полацкага княства. Гэта насельніцтва прыняло ўдзел у фарміраванні беларускага народа. Таму праблеме пра этнакультурнае развіццё полацкіх крывічоў надаецца ў рабоце асаблівае значэнне. Пытанні пра сацыяльна-эканамічнае развіццё палачан і іх палітычную гісторыю разглядаліся ў іншых публікацыях [24].

# 1

# Вывучэнне курганных могільнікаў крывічоў-палачан



урганныя могільнікі Беларускага Падзвіння звярнулі ўвагу аматараў старажытнасцей ужо ў канцы XVIII ст. Ёсць звесткі, што В. Мінліх раскапаў курганы ля маёнтка Мосар [1]. У канцы 40-х гадоў XIX ст. Ф. А. Вільчынскі даследаваў некалькі кургаaноў паблізу ад м. Ушач і в. Павулле [2].

У пачатку 50-х гадоў XIX ст., цікавячыся пошукамі Альгердавай дарогі, К. А. Гаворскі звярнуў увагу на курганны могільнік у раёне Полацка, але з яго паведамлення не зразумела, каля якой вёскі размяшчаліся раскапаныя ім насыпы — Рудні, Бяздзедавіч ці Вусця. У насыпах ён знаходзіў попельныя праслойкі, перапаленыя косці, ва ўсіх курганах, за выключэннем двух, выяўлены грубыя, відаць, ляпныя гаршкі [3]. Адсутнасць навуковых публікацый і нават абазначэння населеных пунктаў, каля якіх размешчаны курганы, абясцэньваюць матэрыял для археалагічнай навукі.

М. Ф. Кусцінскі з 1855 г., пасяліўшыся ў радавым маёнтку Завідзічы каля Лепеля, вывучаў курганы да 1890 г. у Віцебскай губерні, пераважна на Лепельшчыне. Ён раскапаў звыш за 100 курганоў, пра што ёсць кароткае ўпамінанне ў друку [4]. Падобна да К. А. Гаворскага, М. Ф. Кусцінскі не ўвёў у навуковы ўжытак матэрыялаў з раскопак курганоў, паводле некаторых звестак склаў археалагічную карту Лепельшчыны, таксама не надрукаваную [5].

Асноўнымі прыёмамі вывучэння курганоў у сярэдзіне XIX ст. і пазней з'яўляліся раскопкі калодзежам, ці траншэяй, г. зн. вузкай ямай або ровам. Такі прыём пры вывучэнні курганных насыпаў быў распаўсюджаны як у Расіі, так і за яе межамі.

Некаторыя звесткі пра стан курганоў у Беларускім Падзвінні і знаходках прыводзяцца ў краязнаўчых работах А. М. Семянтоўскага [6]. Да 80—90-х гадоў адносяцца працы выдатных даследчыкаў старажытнай гісторыі Беларусі А. П. Сапунова і Е. Р. Раманава. У апублікаваных працах А. П. Сапуноў неаднаразова закранаў помнікі археалогіі, не займаючыся сам іх раскопкамі [7].

Е. Р. Раманаў на працягу 20 год пачынаючы з 1886 г. служыў у Віцебску ў якасці інспектара народных вучылішчаў і вывучаў курганы.

Каштоўныя матэрыялы атрыманы ім пры раскопках курганных могільнікаў каля вёсак Вядцы, Спіцы, Лукомлі[8], Закур'е, Чарцы ў былым Сеннінскім павеце, а таксама каля маёнтка Кахоўка (цяпер урочышча паблізу в. Сакольнікі Віцебскага раёна). Пра гэтыя даследаванні ёсць падрабязныя публікацыі. Вынікі гэтых даследаванняў прыдатныя для выкарыстання. Е. Р. Раманаў праводзіў раскопкі курганоў паслойна, добра фіксуючы пахаванне.

Істотны ўплыў на развіццё археалагічных даследаванняў у Беларусі зрабіў IX археалагічны з'езд у Вільні (1893 г.). З'езду папярэднічала шырокая падрыхтоўчая работа. Спецыяльны камітэт указаў на неабходнасць новых археалагічных работ. Супрацоўнік Віленскага музея Ф. У. Пакроўскі прадставіў на з'езд археалагічныя карты, дзе былі сабраны звесткі пра шматлікія помнікі Беларусі[9]. Ён правёў дэталёвыя раскопкі значнай колькасці курганоў[10]. Апублікаваныя работы Ф. У. Пакроўскага не страцілі свайго значэння да нашага часу.

Але гэтыя даследаванні былі аднабаковымі. Работы праводзіліся дзякуючы адданасці археалагічнай навуцы асобных энтузіястаў-вучоных. Працягвалі выкарыстоўвацца прыёмы раскопак курганоў траншэямі[11]. Лепшым спосабам вывучэння курганоў у пачатку XX ст. лічыліся раскопкі дзвюма траншэямі (крыж-накрыж), што ў буйных курганах не дазваляла поўнасцю вывучыць насып.

Шырокае даследаванне курганоў у 20-я гады звязана з навуковай дзейнасцю А. М. Ляўданскага. А. М. Ляўданскі згуртаваў калектыў археолагаў-энтузіястаў, які ўнёс значны ўклад у вывучэнне старажытнасцей Беларусі (К. М. Палікарповіч, С. А. Дубінскі, І. А. Сербаў, А. Д. Каваленя, В. Р. Тарасенка, М. М. Улашчык, С. С. Шутаў і інш.)[12].

А. М. Ляўданскі належным чынам ацаніў прыём раскопак курганоў «на знос», які, паводле яго слоў, «дае магчымасць лягчэй і паўней выявіць і зафіксаваць усе наслаенні, лепш вывучыць увесь насып кургана і абрад пахавання»[13]. Пачынаючы з 1926 г. усе беларускія археолагі даследавалі курганы такім спосабам. Методыка даследавання курган-



*Мал. 4. Дарахі I. Курган у працэсе даследавання*

нага насыпу «на знос» з фіксацыяй яго будовы ў чарцяжах з'яўляецца абавязковай у цяперашні час.

Пад кіраўніцтвам А. М. Ляўданскага было арганізавана планамернае археалагічнае вывучэнне тэрыторыі Беларусі ў яе тагачасных межах. Пра размах работ у Паўночнай Беларусі можна меркаваць па выніках палявых работ 1928 г. Экспедыцыя кафедры археалогіі Інстытута беларускай культуры вывучала помнікі ў Полацку, Віцебску, курганы каля вёсак Старое Сяло, Гаравыя, Бельчыцы, Рудня Полац-



*Мал. 5. Янкавічы, ур. Павалішына. Раскопкі падоўжанага кургана 3*

кага раёна. Комплекснае параўнаўчае вывучэнне гарадзішчаў, селішчаў і курганных могільнікаў мела значны плён. А. М. Ляўданскі прыйшоў да вываду, што ў VIII—IX стст. Полацк размяшчаўся на гарадзішчы. Гэта пацверджана цяпер [14]. Вучоны адзначыў малую колькасць курганоў у наваколлі Полацка, у той час як пад Мінскам і ў вярхоўі Пцічы іх існавала мноства, нягледзячы на паўсюднае разворванне, і меркаваў, што ў Полацку пад уплывам хрысціянства даволі рана пераcталі хаваць нябожчыкаў у курганах.

Даследаваўшы курганны могільнік каля Бельчыц пад Полацкам, А. М. Ляўданскі вызначыў эвалюцыю пахавальнага абраду: «У гэтых курганах мы бачым: 1) трупаспаленне — такая форма абраду для полацкіх крывічоў з'яўляецца тыповай у IX—X стст; 2) звычайныя пахаванні (інгумацыя), з рэчамі на грунце і часам на вогнішчы — форма абраду, тыповая для XI і пачатку XII стст.; 3) звычайныя пахаванні ў ямах, большай часткай без рэчаў — гэты абрад набліжаецца да хрысціянскага, але захоўваецца яшчэ курганны насып, тыповы для XII ст. За апошнім абрадам ідзе ўжо цалкам хрысціянскі абрад пахавання ў могілках без насыпання кургана» [15]. А. М. Ляўданскі паведамляе далей, што гэтая схема змены пахавання назіралася ім у курганах смаленскіх крывічоў (раскопкі 1926—1927 гг.), на Гомельшчыне (каля вёсак Бердыж і Іванаўка Чачэрскага раёна) і ў Барысаве [16]. Прапанаваная схема эвалюцыі пахавальнага абраду ў полацкіх крывічоў і наогул на ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў у асноўным вытрымала вы-

прабаванне часам. Матэрыялы раскопак А. М. Ляўданскага на працягу доўгага часу заставаліся асноўнай крыніцазнаўчай базай пры асвятленні гісторыі крывічоў.

Экспедыцыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта і краязнаўчага таварыства пад кіраўніцтвам І. А. Сербава правяла абследаванне і раскопкі помнікаў ва Ушацкім раёне (1928 г.). І. А. Сербаў адзначыў густое размяшчэнне курганных могільнікаў на берагах р. Ушачы, дзе ў раннефеадальны перыяд, відаць, цягнуліся рады паселішчаў. У ад-




*Мал. 6. Знаходкі з помнікаў каля в. Старое Сяло: 1—4 — з гарадзішча, 5—7, 8, 10 — з кургана 1 (раскопкі А. М. Ляўданскага)*

даленні ад р. Ушачы курганных могільнікаў менш. І. А. Сербаў склаў карту археалагічных помнікаў Ушацкага раёна і раскапаў тут некалькі курганоў і магілу, абкладзеную камянямі. Адзначаная даследчыкам узаемасувязь паміж колькасцю могільнікаў і паселішчаў пацверджана новымі данымі.

На працягу 1933—1934 гг. секцыя археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай Акадэміі навук у складзе супрацоўнікаў А. М. Ляўданскага, К. М. Палікарповіча і А. Д. Каваленi правяла шэраг археалагічных даследаванняў у паўночнай частцы Беларусі. Летам 1933 г. абследаваліся помнікі археалогіі розных перыядаў па Заходняй Дзвіне, а таксама па яе прытоках. У курганных могільніках паўсюдна сустракаліся доўгія курганы, некаторыя буйныя насыпы дасягалі вышыні 5—6 м. У задачу гэтай экспедыцыі ўваходзіў таксама збор матэрыялаў для гісторыі воднага шляху «з варагаў у грэкі». Вынікі экспедыцыі пераконваюць, што ён мог праходзіць па верхняму Дняпру (адрэзак Орша — Смаленск) — р. Каспле — р. Заходняй Дзвіне — р. Усвяці (тут быў волак) — р. Ловаці — воз. Ільмень [17].

На тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ў 1921 г. адышла да Поль-

шчы, у 30-я гады правялі значныя раскопкі археолагі У. Галубовіч і яго жонка А. Цягак-Галубовіч. Прыкладна 150 вывучаных імі курганоў размешчаны ў раёнах Беларускага Падзвіння [18]. Буйныя раскопкі былі распачаты каля в. Чарневічы. Даследчыкі лічылі, што курганы з трупаспаленнем, магчыма, належалі розным славянскім плямёнам, якія былі суседзямі ў раёнах правабярэжнай Дзісны з іншым неславянскім насельніцтвам.

Матэрыялы раскопак У. Галубовіча і А. Цягак-Галубовіч выдадзены



*Мал. 7. Вянок з пяці радоў спіраляў і бронзавае скроневае крывіцкае кальцо з кургана XI ст. каля в. Дымава Шклоўскага раёна (раскопкі М. Турбіна)*

часткова. Вайна перашкодзіла іх поўнай публікацыі. Месцазнаходжанне справаздач і дзённікаў дакладна невядома. Рэчавы матэрыял захаваўся да цяперашняга часу ў фондах Гісторыка-этнаграфічнага музея Літвы (г. Вільнюс).

Кароткія звесткі пра археалагічныя помнікі Паўночнай Беларусі ёсць у працах Л. В. Аляксеева, І. І. Ляпушкіна, Г. В. Штыхава, В. В. Сядова [19].

Даследчыкі прыйшлі да высновы, што курганныя могільнікі ў верхнім і сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны, таксама як і ў верхнім Падняпроўі, трэба звязваць з крывічамі, пра якіх паведамлялася на першых старонках «Аповесці мінулых гадоў». Л. В. Аляксееў прасачыў, што курганныя могільнікі размяшчаюцца не раўнамерна, а згусткамі, у раёнах, дзе затым адбывалася фарміраванне старажытных гарадоў [20].

В. В. Сядоў неаднаразова звяртаўся да курганных старажытнасцей смаленскіх і полацкіх крывічоў, разглядаючы іх як адно цэлае і падкрэсліваючы, што важнейшыя культурна-этнічныя прыкметы смаленска-полацкіх крывічоў у значнай ступені абумоўлены славянізацыяй балтаў [21]. Такія погляды намнога раней выказваў А. М. Ляўданскі [22].

Новыя шырокія даследаванні курганоў праведзены полацка-віцебскім атрадам Інстытута гісторыі АН Беларусі ў 1965—1990 гг. (табл. 1), калі пад кіраўніцтвам аўтара вывучаліся курганы ў розных раёнах

Табліца 1. **Курганы, даследаваныя ў Віцебскай вобласці (да 1990 г.)**

| Населены пункт | № на карце | Даследчык | Год раскопак | Усяго вывучана курган. | Абрад | | Стагоддзе |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | крэмацыя | інгумацыя | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| Абрамава | 1 | З. Сяргеева | 1974 | | | | |
| | | | 1975 | 12 | × | × | X—XII |
| Арэхаўск | 2 | В. Ляўко | 1990 | 7 | × | | |
| Аўсянікі | 3 | Е. Раманаў | 1882 | | | | X—XI |
| Ахрэмаўцы | 4 | Ф. Пакроўскі | 1892 | | × | | |
| | | А. Галубовіч | 1938 | | | | |
| (Бяльмонты) | | У. Галубовіч | 1976 | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1982 | 14 | | | VIII—IX |
| Бабруйшчына | 5 | | 1967 | | | | |
| Багрынава | 6 | З. Сяргеева | 1969 | 6 | | × | XI |
| Банонь | 7 | Г. Штыхаў | 1967 | 7 | × | | |
| (в. Экімань) | | | 1970 | | | | |
| Баркі | 8 | » | 1971 | 9 | | | VIII—IX |
| Бароўна | 9 | М. Кусцінскі | 1860 | 3 | | × | XI |
| Бельчыца | 10 | А. Ляўданскі | 1928 | | × | × | |
| | | С. Дубінскі | | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1965 | 10 | | | X—XII |
| Бірулі | 11 | А. Галубовіч | 1938 | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1939 | 4 | × | × | X—XI |
| Богіна | 14 | Ф. Пакроўскі | | 3 | × | × | X—XI |
| Браслаў | 12 | Ф. Пакроўскі | 1893 | 6 | × | × | X—XI |
| (Заборныя Гумны) | | | | | | | |
| Бяздзедавічы | 13 | М. Кусцінскі | 1884 | 10 | × | × | |
| Бяскатава | 15 | Г. Штыхаў | 1975 | 2 | × | | VIII—IX |
| Вайшкуны | 16 | Я Звяруга | 1975 | 9 | × | | IX—XI |
| Валатоўкі | 17 | А. Ляўданскі | 1933 | 1 | × | | |
| Варганы | 18 | Г. Штыхаў | 1965 | 2 | × | | VIII—IX |
| Ворань | 19 | М. Кусцінскі | 1867 | 2 | | × | XI—XII |
| Воўкалата | 20 | А. Галубовіч | 1939 | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1939 | 4 | × | | |
| Воўкавічы | 21 | З. Сяргеева | 1971 | 2 | | × | XI |
| Вусце | 22 | Ф. Пакроўскі | 1893 | | | | |
| Браслаўскі р-н | | Л. Дучыц | 1982 | | | | |
| | | В. Шадыра | 1987 | 20 | × | × | VII—XI |
| Вусце | 23 | Г. Штыхаў | 1974 | 1 | × | | VIII—IX |
| Полацкі р-н | | | | | | | |
| Вышадкі | 24 | Г. Штыхаў | 1971 | | | | |
| | | | 1980 | 25 | × | × | IX—XII |
| Вядзец | 25 | Е. Раманаў | 1893 | 5 | × | | X—XI |
| (Малы Азярэцк) | | | | | | | |
| Вята | 26 | А. Галубовіч | 1937 | | | | |
| | | У. Галубовіч | | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1977 | | | | |
| | | В. Шадыра | 1983 | 10 | | | |
| Галошава | 119 | М. Турбін | 1885 | 12 | × | | XI—XII |
| Гаравыя | 27 | А. Ляўданскі | 1928 | | | | |
| | | В. Булкін | | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1980 | 10 | × | | VI—VIII |
| Гарадзец | 28 | І. Сербаў | 1928 | 1 | | × | XI |
| Гарадок | 29 | В. Ляўко | 1986 | 1 | × | | X |
| Гатоўкі | 30 | А. Галубовіч | 1938 | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1939 | | | × | XI—XII |
| Глінішча | 31 | Г. Штыхаў | 1965 | | | | |
| | | | 1967 | 20 | × | × | IX—X |
| Глыбочыца | 32 | М. Кусцінскі | 1851 | | | | |
| (Грошаўка) | | А. Мітрафанаў | 1976 | 12 | | × | XI—XIII |
| Гразівец | 33 | М. Брандэнбург | 1889 | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | А. Ляўданскі | 1928 | | | | |
| | | С. Дубінскі | | 8 | × | × | XI—XII |
| Гуркі | 34 | Г. Штыхаў | 1975 | 1 | × | | VIII—IX |
| Гутаўская дача | 35 | М. Кусцінскі | 1879 | 15 | | | |
| Дарахі | 36 | Г. Штыхаў | 1971 | | | | |
| | | | 1973 | | | | |
| | | | 1975 | 40 | × | × | VI—XI |
| Далёкія | 37 | Ф. Пакроўскі | | | | | VIII—XI |
| Даўборы | 38 | Ф. Пакроўскі | 1893 | 8 | × | × | X—XI |
| Двор Саланевічы | 39 | Г. Штыхаў | 1974 | | | | |
| | | | 1975 | 2 | × | × | |
| Дзянісенкі | 40 | З. Сяргеева | 1974 | | | | |
| | | М. Савіцкі | 1982 | 9 | × | × | |
| Домжарыцы | 41 | В. Собаль | 1975 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1979 | 12 | | × | XI |
| Дроздава | 42 | В. Ляўко | 1987 | 13 | × | × | X—IX |
| Дубраўкі | 43 | Л. Лазарэвіч- | | | | | |
| | | Шэпялевіч | 1901 | 4 | × | × | |
| Забалоцце | 44 | М. Кусцінскі | 1857 | 2 | | | |
| Забор'е | 45 | Г. Штыхаў | 1974 | 1 | | × | XI |
| Завідзічы | 46 | Ф. Кусцінскі | 1853 | | | | |
| | | | 1890 | 9 | | × | |
| Загараддзе | 120 | Е. Раманаў | 1888 | 2 | × | × | X—XI |
| Закур'е | 47 | Е. Раманаў | 1888 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1971 | 7 | × | × | XI |
| Залессе | 48 | А. Галубовіч | 1938 | 3 | | × | XI |
| Замошша | 49 | Л. Дучыц | 1979 | 1 | | | |
| Занькі | 50 | М. Кусцінскі | | 9 | | | |
| Захарнічы | 51 | Г. Штыхаў | 1969 | 5 | | × | XI |
| Зашчырына | 52 | З. Сяргеева | 1975 | 6 | | × | XI |
| Зябкі | 53 | А. Галубовіч | | | | | |
| Ігналіна | 54 | З. Сяргеева | | | | | |
| | | М. Савіцкі | 1974 | 1 | × | | |
| Кавалі | 55 | М. Кусцінскі | | 2 | | × | |
| Казімірава | 56 | М. Кусцінскі | | 1 | | × | |
| Кастрыца | 57 | Г. Штыхаў | 1965 | 2 | | × | X—XI |
| Кахоўка | | | | | | | |
| (Сакольнікі) | 58 | Е. Раманаў | 1891 | 3 | × | × | |
| Крапіўна | 121 | В. Ляўко | 1990 | 3 | | | XII—XVII |
| Кублічы | 59 | М. Кусцінскі | 1861 | | | | |
| | | | 1883 | | | | |
| | | І. Сербаў | 1928 | 4 | | × | XI |
| Кублішчына | 60 | Л. Дучыц | 1977 | | | | |
| (Махіраўка) | | | 1979 | | | | |
| | | | 1886 | 25 | × | × | X—XII |
| Кузьмаўшчына | 61 | Л. Дучыц | 1979 | 2 | | × | XI |
| Курына | 62 | М. Кусцінскі | 1872 | 2 | | × | XI |
| Лепель | 63 | М. Кусцінскі | 1887 | 3 | | × | |
| Лісна | 64 | З. Сяргеева | 1975 | 6 | | × | XI—XII |
| Лукомль | 65 | Е. Раманаў | 1888 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1965 | | | | |
| | | | 1967 | 5 | | × | XI |
| Лынтупы | 66 | Ф. Пакроўскі | 1894 | | | | |
| | | Я. Звяруга | 1977 | 14 | × | | X—XI |
| Любасна | 67 | З. Сяргеева | | | | | |
| | | М. Савіцкі | 1974 | 2 | × | | |
| Лясная | 68 | Л. Дучыц | 1979 | | | | |
| | | | 1980 | 20 | | × | XI |
| Лятохі | 69 | А. Супінскі | 1925 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1965 | | | | |
| | | | 1972 | 5 | × | | VI—VIII |
| Майшулі | 70 | Ф. Пакроўскі | 1892 | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1977 | | | | |
| | | В. Шадыра | 1983 | 4 | × | | VI—XI |

*Працяг табл. 1*

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Малое Сітна | 71 | Г. Штыхаў | 1969 | 2 | | × | XI |
| Мацюшына Сцяна | 72 | М. Кусцінскі | 1872 | 2 | | × | XI |
| Мінтурова | 73 | Г. Штыхаў | 1965 | | | | |
| | | Г. Семянчук | 1989 | 3 | | × | XII—XIII |
| Мосар | 74 | В. Мінліх | | 6 | | × | XI |
| Мяжа | 75 | А. Ляўданскі | 1934 | | | | |
| | | К. Шут | 1964 | 4 | × | × | |
| Навінка | 76 | З. Сяргеева | 1973 | 15 | | × | XII—XIII |
| Нарушова | 77 | А. Галубовіч | | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1938 | 1 | | × | XI—XII |
| Несіна | 78 | М. Кусцінскі | 1873 | 3 | | × | XI |
| Опса | 79 | Ф. Пакроўскі | 1893 | 11 | × | × | VII—XI |
| Орша (ур. Дубкі) | 80 | А. Ляўданскі | 1928 | 3 | | × | XI—XII |
| Павулле | 81 | Ф. Вільчынскі | 1849 | 2 | | | |
| Паддубнікі | 82 | А. Галубовіч | | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1938 | 6 | × | × | |
| Перавоз | 122 | Л. Дучыц | 1989 | 16 | × | × | |
| Плусы | 83 | Г. Штыхаў | 1965 | | | | |
| | | | 1967 | 14 | × | × | X—XI |
| Прыхабы | 84 | Г. Штыхаў | 1970 | 1 | × | | |
| Пуканаўка | 85 | Г. Штыхаў | 1967 | 6 | × | × | X—XI |
| Пуцілкавічы | 86 | Ф. Вярэнька | 1887—1891 | | | | |
| | | А. Ляўданскі | 1931 | 37 | | × | XI—XII |
| Пышна | 87 | М. Кусцінскі | 1872 | 3 | | × | XI |
| Пясчанка | 88 | М. Кусцінскі | 1883 | | | | |
| Ражкі | 89 | Л. Дучыц | 1981 | 2 | | | |
| Рудня (Полацкі р-н) | 90 | К. Гаворскі | 1852 | | | | |
| | | А. Ляўданскі | 1928 | | | | |
| | | С. Дубінскі | 1928 | | | | |
| | | А. Мітрафанаў | 1961 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1967 | 33 | × | × | IX—X |
| Рудня (Расонскі р-н) | 91 | Г. Штыхаў | 1970 | 3 | × | | |
| Рыбакі | 92 | Л. Дучыц | 1990 | | | | |
| Свіла I | 93 | Г. Штыхаў | 1974 | | | | |
| | | В. Шадыра | 1990 | 3 | | | |
| Селішча | 94 | І. Сербаў | 1928 | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1990 | 17 | | × | X—XI |
| Сінчукі | 95 | Л. Аляксееў | | | | | |
| | | С. Шырынскі | | 2 | × | | |
| Скавышкі | 96 | З. Сяргеева | 1973 | 3 | × | × | XI—XII |
| Слабодка | 97 | Г. Штыхаў | 1967 | 20 | × | × | X—XI |
| | | | 1969 | | | | |
| | | | 1971 | | | | |
| | | | 1974 | | | | X—XI |
| Славені | 98 | І. Сербаў | 1928 | 2 | × | × | VIII—IX |
| Смалькі | 99 | Г. Штыхаў | 1973 | 2 | × | | |
| Снегі | 100 | Л. Дучыц | 1982 | 2 | | | XI |
| Спіцы (Ціміразева) | 101 | Е. Раманаў | | 2 | | × | |
| Старое Сяло | 102 | М. Кусцінскі | 1872 | | | | |
| | | А. Ляўданскі | 1928 | | | | |
| | | Г. Штыхаў | 1973 | 9 | × | × | VI—X |
| Стары Лепель | 103 | М. Кусцінскі | 1872 | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1986 | | × | × | |
| Субаўшчына | 104 | Л. Дучыц | 1987 | 5 | × | | VII—VIII |
| | | | 1986 | 5 | × | | |
| | | В. Шадыра | 1990 | 3 | | | |
| Сукалі | 105 | З. Сяргеева | 1974 | | × | | |
| Узрэчча | 106 | А. Галубовіч | | 2 | | | |
| | | У. Галубовіч | 1938 | | | | |
| Укля | 107 | Ф. Пакроўскі | | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| (Загор'е) | | Л. Дучыц | 1980 | 26 | × | × | XI—XII |
| Ушачы | 108 | Ф. Вільчынскі | 1849 | 2 | | | |
| Чабаны | 109 | А. Галубовіч | | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1935 | 6 | | × | XIV |
| Чаркасава | 110 | А. Аніхоўскі | 1922 | | | | |
| | | Л. Аляксееў | | | | | |
| | | А. Каваленя | | | | | |
| | | А. Ляўданскі | 1928 | 22 | | × | XI—XII |
| Чамяры | 111 | Л. Дучыц | 1977 | | | | |
| | | | 1985 | 25 | | | |
| Чарневічы | 112 | А. Галубовіч | 1935 | | | | |
| | | У. Галубовіч | 1937 | | | | |
| | | | 1938 | 79 | × | × | VIII—XII |
| Чэрцы | 113 | М. Кусцінскі | 1856 | 2 | | | |
| Чурылава | 114 | Галубовічы | 1937 | | | | |
| | | Л. Дучыц | 1987 | 10 | | | |
| Шалтэні | 115 | Ф. Пакроўскі | 1893 | | | | |
| (ур. Рацкі бор) | | Л. Дучыц | | | | | |
| | | В. Шадыра | 1983 | 23 | × | × | VIII—X |
| Шо | 116 | Галубовічы | 1939 | 16 | | × | XI—XII |
| Янкавічы | 117 | Г. Штыхаў | 1967— | | | | |
| (ур. Атокі, Павалі-цына) | | | 1970 | | × | | V—VII |
| Янова | 118 | Я. Звяруга | 1975 | 2 | | | |

Віцебскай і паўночнай частцы Мінскай абласцей. Курганныя насыпы даследаваліся поўнасцю пры іх раскопках «на знос» (мал. 4).

Л. В. Аляксееў, даследуючы Друцк, адначасова вывучаў курганы ў яго наваколлі (Сінчукі, Арава, Чаркасава) [23]. З. М. Сяргеева даследавала 45 кургаоў на тэрыторыі былога Друцкага княства [24]. Яна спецыяльна разгледзела пытанне пра ўзаемапранікненне элементаў матэрыяльнай культуры балтаў і славян [25]. Акрамя таго, З. М. Сяргеева ў 1974—1975 і 1981 гг. даследавала ў Верхнядзвінскім раёне 40 курганоў каля вёсак Абрамава, Сукалі, Лісна, Зашчырына, Дзянісенкі [26].

Курганы ў наваколлі Асвейскага возера, на думку З. М. Сяргеевай, аналагічныя могільнікам Пскоўшчыны, дзе распаўсюджаны курганы без інвентару і урнаў [27].

Л. У. Дучыц даследавала ў Браслаўскім, Верхнядзвін-



*Мал. 8. Маніста з шкляных пацерак з кургана XI ст. каля в. Чарчевічы Глыбоцкага раёна (раскопкі А. і У. Галубовічаў)*

скім і Міёрскім раёнах з 1977 па 1985 г. 90 курганоў каля вёсак Бяльмонты, Вята, Загор'е, Кублішчына, Кузьмаўшчына, Лясная, Ражкі, Снегі, Вусце, Чамяры, Чурылава [28]. Яна вызначыла курганныя могільнікі пачатку 2-га тысячагоддзя, зрабіла спробу акрэсліць, паводле абрада пахавання і інвентару, асобныя мікрараёны ў Браслаўскім Паазер'і [29], выказала меркаванне пра ўзнаўленне язычніцкага абраду пахаванняў у некаторых месцах у перыяд позняга феадалізму [30]. Вывучэнне курганных могільнікаў працягваюць В. І. Шадыра і Г. М. Семянчук. Апошні даследаваў таксама грунтовы могільнік крывічоў X—XI стст. каля в. Казлоўцы Міёрскага раёна.

Цяжка пераболыпыць значэнне суцэльнага даследавання археалагічных помнікаў Паўночнай Беларусі, праведзенага ў 70-я — пачатку 80-х гадоў беларускімі археолагамі. Абследаванне гарадзішчаў, паселішчаў і курганоў праводзілі ва ўсіх адміністрацыйных раёнах абласцей навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН Беларусі.

У перыяд даследаванняў былі ўдакладнены вядомыя раней звесткі пра курганныя могільнікі [31], адкрыты новыя помнікі, зняты іх планы, зроблена прывязка помнікаў да населеных пунктаў, якія існуюць цяпер. Збіраліся звесткі пра курганныя могільнікі, якія існавалі раней, але цяпер разбураныя. Матэрыялы праведзенай работы захоўваюцца ў архіве аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН Беларусі, а таксама ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Цяпер ёсць больш дакладныя даныя пра тапаграфію могільнікаў, колькасць раскапаных помнікаў, чым мелі вучоныя раней. Вынікі надрукаваны ў асобных тамах [32].

Зручным спосабам фіксацыі месцазнаходжання археалагічных помнікаў з'яўляецца прывязка іх да сучасных блізка размешчаных населеных пунктаў. Гэтага прытрымліваецца і аўтар у дадзенай працы. Аднак у табліцах 1, 9 у некаторых выпадках захоўваюцца назвы былых населеных пунктаў, пад якімі курганныя могільнікі даўно ўведзены ў навуковы ўжытак з указаннем сучаснага бліжэйшага населенага пункта, да якога прывязаны курганы ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».

# 2

# Асаблівасці курганных могільнікаў трэцяй чвэрці І-га тысячагоддзя н.э.



адзвычай важныя курганныя могільнікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. зафіксаваны на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Такія могільнікі вывучаліся паблізу в. Янкавічы ва ўрочышчы Атокі і Павалішына, Рудня (Расонскі раён), Гаравыя (Полацкі раён), Лятохі, Старое Сяло (Віцебскі раён). Асаблівую цікавасць выклікаюць курганныя могільнікі ў наваколлі в. Дарахі Гарадоцкага раёна на паўднёвым беразе воз. Сенніца. Паблізу курганоў выяўлены сінхронныя паселішчы. Курганы раскіданы групамі на плошчы ў некалькі квадратных кіламетраў. Усяго зафіксавана каля 150 курганоў у 11 курганных могільніках (мал. 9). Сем невялікіх курганных могільнікаў адносяцца да трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (даследавана 26 курганоў), адзін — да VIII—IX стст. і самы вялікі могільнік — да X—XI стст. Наколькі можна меркаваць на прыкладзе Дарахоў і Старога Сяла, могільнікі размяшчаліся ў 1—1,5 км ад сінхронных ім паселішчаў і прыкладна на такім жа аддаленні ад берага ракі або возера. Могільнікі амаль заўсёды размешчаны на лясных сухапутных дарогах (некаторыя з іх выкарыстоўваюцца да цяперашняга часу).

У Віцебскай вобласці звычайна могільнікі невялікія і налічваюць да двух дзесяткаў курганоў. Па абрысах насыпаў у могільніках ёсць розныя курганы: доўгія, падоўжаныя, круглыя. Насыпы бываюць такіх абрысаў, што іх можна назваць круглымі, авальнымі і г. д. Названыя асноўныя формы насыпаў звычайна прысутнічаюць у адным могільніку. Так, у Дарахах у курганным могільніку з 13 курганоў адзін насып доўгі, пяць — падоўжаных, сем — круглых.

Доўгімі курганамі называюцца валападобныя насыпы, даўжыня якіх значна перавышае шырыню (у два і больш разы). Круглыя ў плане насыпы нагадваюць па знешняму выгляду паўсферу або сегмент. Падоўжаныя і авальныя курганы выглядаюць паўяйкападобнымі. Доўгія курганы нізкія і выцягнутыя, падобныя на невысокія валы. Стромкасць схілу насыпаў розная, але звычайна невялікая з прычыны таго,

што насыпы апаўзлі, некаторыя курганы сплошчаныя. Вышыня круглых у плане курганоў ад 0,6 да 2,1 м, доўгіх і падоўжаных — ад 0,8 да 1,6 м. Зрэдку сустракаюцца падоўжаныя насыпы вышынёй да 2 м (вёскі Баркі, Вышадкі, Дзеравушка).

Усе курганныя насыпы земляныя, як правіла, з пяску. У вывучаемых курганах ніякіх каменных збудаванняў у насыпах і вакол іх не выяўлена. Пясок, неабходны для ўзвядзення насыпу, браўся паблізу пляца, прызначанага для будавання кургана.




*Мал. 9. Дарахі (Гарадоцкі раён). План паселішчаў і курганных могільнікаў на беразе воз. Сенніца*

Доўгія курганы розныя па памерах. Іх даўжыня вагаецца ад 14 да 110 м. Больш распаўсюджаны насыпы даўжынёй у некалькі дзесяткаў метраў. Паблізу в. Янкавічы ва ўр. Атокі даследаваўся курган даўжынёй 110 м. Яго шырыня 9—10 м, вышыня 1—1,5 м. Кургаиоў такой даўжыні ў археалагічнай навуцы вядома нямнога. Насып быў аднародны, прыкмет яго ўзвядзення ў некалькі этапаў не выяўлена.

Інакш выглядае доўгі курган каля в. Лятохі пад Віцебскам. Яго даўжыня 70 м. Курган выцягнуты па лініі поўнач — поўдзень. У гэтым напрамку накіравана і суседняя дарога. Вышыня насыпу ў паўднёвым канцы 1,5 м. У паўночным напрамку яна памяншаецца. Пасярэдзіне вышыня насыпу 1 м, а на паўночным канцы — 0,3 м.

Вакол многіх кургаиоў можна знайсці сляды былых раўкоў. У Атокінскім могільніку каля в. Янкавічы вакол доўгага кургана на працягу 110 м з абодвух бакоў размешчаны раўкі глыбінёй 0,2—0,4 м. Доўгі курган паблізу в. Лятохі паказальны тым, што памерам вышыні яго насыпу на асобных адрэзках адпавядае значная глыбіня раўка. Найбольшай вышыні кургана адпавядае вялікая глыбіня раўкоў (месцамі да 1 м). Там, дзе вышыня нязначная, равок ледзь прыкметны. Раўкі

глыбінёй да 1 м, зафіксаваны каля некаторых вялікіх курганоў паблізу в. Рудня (Расонскі раён). Ля падножжа круглых курганоў раўкі і паміж імі перамычкі — ад дзвюх да чатырох. Пры даследаванні раўкоў у шэрагу выпадкаў зафіксаваны прыкметы рытуальнага вогнішча. Але ёсць раўкі, дзе не выяўлена такіх прыкмет.

У многіх круглых і доўгіх курганах ля падэшвы на ўсёй плошчы насыпу прасочваецца моцная попелавугальная праслойка, месцамі — абпалены мацярык, як гэта было ў доўгім кургане Атокінскага могіль-




*Мал. 10. Янкавічы, курганны могільнік Атокі: 1 — 3 — пахаванні-трупаспаленні, а — вугаль, б — урна, в — кальцыніраваныя косці, г — пясок, д — грунт (мацярык). Курганны могільнік Павалішына: 1—7 — раскапаныя курганы. Курганны могільнік каля в. Рудня (Расонскі раён): 1—3 — даследаваныя насыпы*

ніка. Нярэдка бывае, што каля падножжа насыпу доўгіх, падоўжаных і круглых курганоў прыкметная толькі праслойка старажытнага гумусавага слоя з асобнымі вугольчыкамі. Магчыма, попел з дробным вуголлем прыносілі сюды з іншага месца.

У большасці выпадкаў доўгія курганы ўзводзіліся ў адзін прыём. Зрэдку доўгія курганы насыпаліся ў два прыёмы (курган 1, 3 у Павалішынскім могільніку паблізу Янкавічаў, курган 9 могільніка 1 каля в. Дарахі).

У раскапаных курганах усе пахаванні — трупаспаленні. Звычайна спаленне нябожчыка адбывалася па-за месцам пахавання, г. зн. у баку ад яго і толькі зрэдку на месцы ўзвядзення насыпу.

Спробу стварэння агульнай тыпалогіі пахаванняў культуры доўгіх курганоў зрабіў В. В. Сядоў. У аснову яго класіфікацыі пакладзены спосаб размяшчэння рэштак крэмацыі ў курганны насып, паводле чаго даследчык вылучыў 11 тыпаў [1]. Аднак зусім відавочным недахопам пра-

панаванай класіфікацыі з'яўляецца адсутнасць прыкмет, якія звязаны з размяшчэннем пасудзіны ў насыпе.

Матэрыялы раскопак помнікаў культуры доўгіх курганоў V—VIII стст. Паўночнай Беларусі дазваляюць зрабіць больш абгрунтаваную класіфікацыю. Пахаванні падзяляюцца на бязурнавыя і урнавыя, у якіх рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў пасудзіну-урну.

Сярод бязурнавых пахаванняў можна вылучыць шэсць наступных



*Мал. 11. Пахаванне па абраду трупаспалення: 1 — курган 2 у могільніку каля в. Варганы, 2 — Баркі (к. 6), 3 — Янкавічы (Паваліішына) (к. 4), 4 — Янкавічы (Атокі) (к. 1), 5 — Дарахі IV (к. 5)*

тыпаў: 1) месцазнаходжанне пахавання пад насыпам кургана на мацерыку ці ў спецыяльна вырытай ямцы, 2) пахаванне ў ямцы ў сярэдзіне насыпу, 3) пахаванне россыпам на падсыпцы, 4) пахаванне на спецыяльна выраўненай пляцоўцы, на якой зрэдку паліўся рытуальны агонь, 5) пахаванне ў ямцы пад дзірваном (у круглых курганах звычайна на вяршыні насыпу, 6) пахаванне россыпам пад дзірваном. Тры тыпы (3, 4, 6) характэрныя толькі для доўгіх ці падоўжаных па форме курганоў. Рэшткі трупаспаленняў у бязурнавых пахаваннях бываюць ачышчаныя ад вугольчыкаў і неачышчаныя.

Сярод урнавых пахаванняў, паводле ўліку месцазнаходжання урнаў, вылучаюцца тры наступныя тыпы: 1) пахаванні ў аснове кургана (урна стаіць на мацерыку ці на вугальнай праслойцы, у Паўночнай Беларусі гэты тып размяшчэння урнаў характэрны выключна для доўгіх курга-

поў), 2) пахаванні ў сярэдзіне насыпу, пахаванні на паверхні насыпу (пад дзірваном).

Паводле спосабу пастаноўкі урнаў, пахаванні падзяляюцца таксама на тры віды: 1) пахаванні з урнамі, якія пастаўлены гарлавінай уверх (мал. 11, 4), 2) пахаванні з урнамі, пастаўленымі ўверх дном (мал. 11, 1, 2), 3) пахаванні ў урне, якая накрыта другой пасудзінай, пастаўленай уверх дном. Варыянтам гэтага спосабу з'яўляецца размяшчэнне дзвюх урнаў пад адной вялікай пасудзінай, што іх накрывае (мал. 13).



*Мал. 12. Курганны могільнік Павалішына. Размяшчэнне гаршка ў верхняй частцы кургана 7*

Асобным спосабам пахавання з'яўляецца размяшчэнне крэмацыі ў ямцы ў сярэдзіне насыпу, над якой знаходзіліся рэшткі разбітай у якасці ахвяраприношэння пасудзіны. Такое пахаванне выяўлена ў круглым кургане 1 (могільнік IV) каля в. Дарахі.

У доўгіх і падоўжаных курганах, як правіла, пахаванняў некалькі. Часам іх колькасць дасягае сямі—васьмі. Так, у Дарахах у падоўжаным кургане 5 было восем пахаванняў, з іх два — у урнах.

Калі сярэдняя вага шкілета чалавека складае 11 кг, дык косці з трупаспалення складаюць у сярэднім каля 1% яго[2]. У даследаваных курганах часта сустракаецца вялікая колькасць перапаленых касцей. У шэрагу выпадкаў вага касцей дасягае 1—3 кг і больш. У Дарахах I у доўгім кургане 9 налічвалася сем пахаванняў, з якіх пахаванне 6, што знаходзілася ў ямцы, складала 8 кг перапаленых касцей (калі косці высахлі, іх вага складала 5 кг). Трэба думаць, што такія пахаванні змяшчалі спаленне трупаў некалькіх чалавек. Побач з касцямі людзей было шмат касцей жывёл. Яны адрозніваліся большай таўшчынёй і цёмным адценнем. Знаходкі спаленых касцей чалавека, жывёл і птушак у пахаваннях даследчыкі адзначалі неаднаразова[3]. Шырока распаўсюджанай з'явай было ахвярапрынашэнне казла ці барана[4]. У выніку даследавання трупаспалення з Дарахоўскага курганнага могільніка 1 (курган 4, пахаванне 1) I. I. Салівон і Л. I. Цягака вызначылі, што была

спалена маладая жанчына 18—20 год. Сярод рэштак крэмацыі (каля 400 г) выяўлены косці жывёлы.

У Дарахоўскім курганным могільніку косці жывёлы разам са спаленымі касцямі людзей знойдзены неаднаразова. Так, у могільніку Дарахі IV (курган 5, пахаванне 1) выяўлены перапаленыя косці каня і быка. Зубы хатняга быка, паводле вызначэння В. В. Шчагловай, знойдзены ў кургане і гэтага могільніка. Ахвярапрынашэнне дамашніх жывёл, відаць, было распаўсюджана ў плямён культуры доўгіх курганоў



*Мал. 13. Дарахі I. Урны і гаршчок для іх накрывання (з разбураным дном), размешчаныя ў вяршыні кургана 5*

Паўночнай Беларусі ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., таксама як і ў больш познія часы.

Сярод курганоў шмат насыпаў парожніх, магчыма, кенатафаў, якія не мелі пахаванняў і насыпаліся ў тых выпадках, калі памёршага па нейкіх прычынах нельга было пахаваць.

Усе апісаныя курганы трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. уяўляюць сабой земляныя насыпы. Пры іх збудаванні камяні не прымяняліся.

Рэчавы пахавальны інвентар у курганах нешматлікі. Ён прадстаўлены бронзавымі бляшкамі-шкарлупінамі, шклянымі пацеркамі з сіняга празрыстага шкла, фрагментаванымі касцянымі вырабамі, жалезнымі спражкамі, кольчатымі цуглямі, выраблеными з двух жалезных стрыжняў, невялікай шпорай з кручкамі (мал. 17, 6) і ляпной керамікай. У большасці пахаванняў рэчы адсутнічаюць. Часам трапляюць косці жывёл.

У доўгім кургане Атокінскага могільніка ў пахаванні 2 выяўлена 19 бронзавых бляшак-шкарлупін, якія служылі для папругі або галаўнога ўбору. Бляшкі-шкарлупіны сустракаюцца ў каменных могільніках Эстоніі, якія выкарыстоўваліся для пахаванняў у II—III стст. [5] Бляшкі-шкарлупіны выяўлены ў доўгіх курганах Пскоўшчыны (Светлыя Вешкі [6], Міхайлаўскае, Жарабяціна) [7], дзе датуюцца V—VI стст. [8] Доўгі курган Атокінскага могільніка паблізу в. Янкавічы ўзведзены не пазней

VI ст., і яго трэба аднесці прыблізна да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.

Тое ж самае можна сказаць пра некаторыя курганы Павалішынскага могільніка паблізу гэтай вёскі. Найбольш цікавы курган 3. Пахаванне 2 у ім знаходзілася адразу пад дзірваном (мал. 15). На плошчы ў некалькі квадратных метраў былі раскіданы чарапкі ляпной керамікі, гладкасценнай з прачэрчваннямі, зробленымі на паверхні пасудзіны грабеньчатым штампам, так званымі «расчэсамі». Тут жа знаходзіліся перапаленыя косці і рэшткі вогнішча. У вогнішчы знойдзена 100 г перапаленых касцей і расціснутая пасудзіна з расчэсамі. Кераміка з расчэсамі ў некаторай ступені была распаўсюджана ў III—IV стст.[9] На тэрыторыі Беларусі яна больш не бытуе пасля канца V — пачатку VI ст.[10] В. В. Сядоў, разглядаючы курган 3 Павалішынскага могільні-




*Мал. 14. Янкавічы, Атокінскі могільнік. Знаходкі з кургана 1, пахавання 2 (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н. э.): 1—22, 23 — бронза, 24—27 — косць, 28—29 — крэмень*

Табліца 2. **Пахавальны інвентар курганоў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.**

| Населены пункт | Курганная група | Курган, пахаванне | Жалеза: цуглі | Жалеза: шпоры | Жалеза: спражкі | Жалеза: ланцуг | Бронза: шкарлупіны | Бронза: кольцы | Бронза: спіралькі | Косць: фраг. вырабаў | Шкло: пацеркі | Гліна: гаршкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гаравыя | | к. 1 | | | | | | | | | | × |
| | | к. 6 | | | | | | | | | 1 | × |
| | | к. 7 | | | | | | | 1 | | 1 | |
| Дарахі | I | к. 1 | 1 | | | | | | | | | × |
| | | к. 4, п. 2 | | | | | | | | | 1 | × |
| | | к. 5 | | | | 1 | | 1 | | | 1 | × |
| | | к. 9, п. 6 | | | 1 | | | | | | | × |
| | IV | к. 1, п. 1 | | 1 | | | | | | | | × |
| | | к. 1, п. 3 | | | 1 | | | | | | | × |
| | | к. 5, п. 5 | | | | | | 1 | | | | |
| | VI | к. 4, п. 2 | | | | | | | | | 10 | × |
| Лятохі | | к. 5 | | | | | | | | | | × |
| Старое Сяло | | к. 1 | | | | | | | | | | × |
| Янкавічы | Атокі | к. 1. п. 1 | | | | | | | | | | × |
| | | к. 1, п. 2 | | | | | 19 | | | 3 | | × |
| Янкавічы | Паваліі шына | к. 2 | | | | | | | | | | × |
| | | к. 3, п. 1 | | | | | | | | | 6 | × |
| | | к. 3, п. 4 | | | | | | | | | 1 | × |
| | | | 1 | 1 | 2 | 1 | 19 | 2 | 1 | 3 | 21 | |

ка, піша: «Ствараецца ўражанне, што частка керамічнага матэрыялу належыць культурнаму слою паселішча, з якога ўзведзены насып. Ці належыць гэты насып да ліку доўгіх курганоў, сказаць немагчыма»[11].

З такім меркаваннем нельга пагадзіцца. Прыкмет культурнага слоя пад даследаванымі курганамі і побач з імі не выяўлена. Між тым апісанае пахаванне 2 з кургана 3 нагадвае пахаванне, адкрытае В. В. Ся-




*Мал. 15. Янкавічы, Паваліішынскі могільнік. План падоўжанага кургана 3: 1—4 — трупапаленне; а — кавалкі керамікі з перапаленымі касцямі, б — ямы ў мацерыку, в — пахаванне ў урне, г — пясок, д — пясок з дамешкай глебы, е — грунт, ж — гумусавы пласт*

довым паблізу в. Казіха на Пскоўшчыне ў кургане 22. Яно «адбылося на паверхні кургана, а спаленыя косці былі рассыпаны на схіле насыпу на плошчы 2,85×2,1 м» [12].

У Дарахах у курганнай групе IV (курган 1, пахаванне 1) знойдзена жалезная шпора з вострым канічным шыпам і адагнутымі наверх кручкамі на канцах (мал. 17, 6). Найбольш старажытныя ўзоры шпор такога тыпу са сплошчанай дужкай датуюцца III—IV стст. н. э. і дажываюць да VI—VII стст.[13] У курганнай групе I (курган 9) выяўлена жа-



*Мал. 16. Янкавічы, Павалішынскі могільнік, курган 3. Ляпная кераміка з расчэсамі (пахаванне 2)*

лезная спражка з рамкай круглай формы. У курганнай групе IV (курган 1) знойдзена спражка паўкруглай формы. Прамая частка рамкі служыла воссю для хобатападобнага язычка. Падобныя спражкі вядомы з Зімнаўскага гарадзішча [14] і іншых помнікаў VII—VIII стст. (мал. 15, 9).

Пацеркі з сіняга шкла — частая знаходка ў курганах гэтага перыяду. Іх знойдзена 19. Усе яны моцна аплаўленыя, пра іх форму цяжка гаварыць.

Табліца 3. **Вымярэнні посуду з курганоў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя**

| Помнік, курган, пахаванне | H | $H_1$ | $Д_1$ | $Д_2$ | $Д_3$ | $Д_4$ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дарахі I, к. 4, п. 2 | 25,00 | 17,00 | 22,29 | 21,65 | | 13,76 |
| Дарахі I, к. 4, п. 1 | 24,10 | 19,00 | 20,86 | 20,76 | 21,14 | 15,22 |
| Дарахі I, к. 5, п. 1 | 20,50 | 16,00 | 17,75 | 17,38 | 17,51 | 11,62 |
| Дарахі I, к. 5, п. 1 | 10,40 | 7,00 | 10,35 | 10,03 | 10,12 | 7,20 |
| Дарахі I, к. 6 | 13,10 | 9,00 | 14,00 | 13,53 | 13,85 | 9,87 |
| Дарахі I, к. 4, п.1 | 15,60 | 10,80 | 15,60 | 14,87 | 15,92 | 11,14 |
| Дарахі IV, к. 5, п. 1 | 35,30 | 24,30 | 32,16 | 31,05 | 31,37 | 20,02 |
| Дарахі IV, к. 5, п. 2 | 28,80 | 24,30 | 24,78 | 23,79 | 23,88 | 15,80 |
| Дарахі VI, к. 2 | 28,30 | 20,50 | 26,90 | 25,95 | 26,25 | 17,74 |
| Дарахі VI, к. 4, п. 2 | 22,30 | 15,00 | 19,80 | 19,40 | 19,70 | 14,00 |
| Атокі, к. 1, п. 1 | 27,2 | 19,00 | 21,60 | 20,90 | 23,20 | 15,80 |
| Павалішына, к. 3 | 14,10 | 11,40 | 13,50 | 13,10 | 13,37 | 8,53 |
| Павалішына, к. 4 | 28,45 | 17,00 | 29,00 | 28,18 | 27,54 | 19,00 |

Заўвага. H — агульная вышыня гаршкоў; $H_1$ — вышыня найбольшага пашырэння; $Д_1$ — дыяметр вусця; $Д_2$ — дыяметр горла; $Д_3$ — дыяметр найбольшага пашырэння; $Д_4$ — дыяметр дна.

У пахаваннях выяўлена 13 ляпных пасудзін, якія захаваліся цалкам (мал. 18). Яны выкарыстоўваліся ў якасці урнаў або пасудзін для накрывання. Пасудзіны выраблены з гліны з дамешкай буйной жарствы. Паверхня гаршкоў шурпатая з прычыны таго, што жарства выступае з гліны. Паверхня выглядае бугрыстай, калі жарства загладжана. Аўтар вызначыў параметры гаршкоў паводле існуючай методыкі [15].

Усе пасудзіны характарызуюцца агульнымі прыкметамі — гэта гаршкі выцягнутых прапорцый, якія маюць найбольшае расшырэнне ў верхняй частцы тулава і звужаюцца каля дншча і горла. Многія з іх са слаба выяўленымі плечыкамі. Вышыня пасудзін знаходзіцца ў межах ад 10,4 да 35 см (мал. 18).

У дзевяці пасудзін (табл. 2) вышыня максімальнага расшырэння ($H_1$) складае 0,66—0,79 ад вышыні гаршка (H). Уяўленне пра прафілёўку гаршкоў даюць суадносіны дыяметра максімальнага расшырэння тулава ($D_3$) і дыяметра горла ($D_2$). $D_3 : D_2 = 1{,}01—1{,}07$. Паміж пасудзі-



*Мал. 17. Дарахі. Рэчы з раскопак курганоў з трупаспаленнем: 1—10 — знаходкі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.; 11—21 — інвентар курганоў канца VIII—IX стст.; 1—3, 6, 8, 9, 10 — жалеза; 5, 11—18, 21 — бронза; 4, 15, 20 — шкло; 7 — косць; 19 — гліна*

намі ёсць некаторыя адрозненні ў профілі іх верхняй часткі. Адны пасудзіны маюць крыху намечаную шыйку і адагнуты край, другія без шыйкі са злёгку адагнутым краем, які часам бывае патоўшчаны. Дзве пасудзіны характарызуюцца больш выцягнутымі прапорцыямі.

Адзінкавай па сваёй форме з'яўляецца урна, знойдзеная ў кургане № 4 (пахаванне 1) курганнага могільніка Дарахі I. Гэта прысадзісты гаршчок з прамой высокай шыйкай. Плечыкі размешчаны нізка і пе-



*Мал. 18. Ляпныя пасудзіны трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. з раскопак курганоў: 1 — Янкавічы, Атокінскі могільнік (к. 1); 2 — Дарахі I (к. 5); 3 — Янкавічы, Павалішынскі могільнік (к. 4); 4 — к. 3; 5 — Дарахі I (к. 6); 6 — Дарахі I (к. 5); 7 — Дарахі III (к. 5, п. 1); 8 — Дарахі VI (к. 2); 9 — Дарахі I (к. 4, п. 1); 10 — Дарахі I, урна (к. 4, п. 2); 11 — Дарахі VI (к. 4)*

раходзяць у рабро. Максімальнае расшырэнне ў верхняй частцы пасудзіны ($H_1 : H = 0,65$).

Параўноўваючы гліняны посуд з керамічнымі комплексамі іншых тэрыторый, трэба сказаць, што ў курганах Беларускага Падзвіння прадстаўлены не ўсе тыпы пасудзін, якія выяўлены ў іншых раёнах шырокага арэала помнікаў тыпу Банцараўшчыны — Тушамлі — Калочына. У курганах няма конусападобных пасудзін з амаль прамымі, расшыранымі ўверх бакамі, вядомых на паўднёвым усходзе Беларусі (Кало-




*Мал. 19. Варганы. Знаходкі з паселішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.: 1, 7, 8 — жалеза; 2, 3, 6 — гліняныя прасліцы; 4, 5 — гліняныя адліваныя формы*

чын) [16], на Смаленшчыне (Акатава) [17]. У Беларускім Падзвінні не выяўлены цыліндра-канічныя пасудзіны з цыліндрычнай верхняй і ўсечана-канічнай ніжняй часткамі, распаўсюджаныя ў Смаленскім Падняпроўі (Дзямідаўка), у сярэдняй і паўднёвай частках Беларусі (Банцараўшчына, Калочын, Новы Быхаў). У керамічным комплексе разглежданых курганоў няма біканічных гаршкоў і рабрыстых місак, распаўсюджаных у басейне Дзясны і на Дняпроўскім Левабярэжжы [18], а таксама цыліндрычных па форме пасудзін, выяўленых у доўгіх курганах на Пскоўшчыне (Казіха, Лезгі) [19].

Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што кераміка з курганоў Беларускага Падзвіння мае рысы, якія збліжаюць яе з посудам, распаўсюджаным на іншых помніках тыпу Банцараўшчыны — Тушамлі — Калочына. Для ўсяго іх арэала характэрны слабапрафіляваныя гаршкі, якія складаюць большасць керамікі ў сінхронных курганах Беларускага Падзвіння (мал. 18, 3, 7).

Як адзначыла І. П. Русанава, «асобныя тыпы посуду то аб'ядноўваюць, то раз'ядноўваюць паміж сабой розныя раёны» [20]. Але І. П. Ру-

санава, аналізуючы кераміку Беларусі, не вылучае асобных раёнаў з лакальнымі асаблівасцямі посуду на гэтых тэрыторыях. Асобныя віды гаршкоў, якія яна лічыць характэрнымі для ўсёй тэрыторыі Беларусі, у Беларускім Падзвінні адсутнічаюць.

Адметнай рысай керамікі паўночнай часткі Беларусі з'яўляюцца некаторыя асаблівасці яе прапорцый. Вышыня найбольшага пашырэння большасці гаршкоў прыпадае на верхнюю частку іх тулава. Улічваючы своеасаблівасць пахавальных помнікаў, якімі з'яўляюцца доўгія курганы, і характэрную для іх ляпную кераміку, можна гаварыць пра лакальны (атокінскі) варыянт банцараўскай культуры ў Беларускім Падзвінні.

Археалагічныя помнікі банцараўскай культуры прадстаўлены селішчамі, гарадзішчамі-сховішчамі і пахаваннямі. Пахавальныя помнікі патрабуюць асобнага разгляду. Для роднаснай тушамлянскай археалагічнай культуры на Смаленшчыне характэрныя грунтовыя могільнікі. Яны ў невялікай колькасці адкрыты ў Паўночнай Беларусі. Адметная асаблівасць атокінскага варыянта банцараўскай культуры — трупаспаленні ў курганах, пра якія гаварылася вышэй (Атокі і інш.).

Банцараўская культура належала плямёнам, якія ў V—VIII стст. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Верхнім Панямонні, Верхнім і Сярэднім Падзвінні. Назва культуры пайшла ад назвы гарадзішча Банцараўшчына каля Ждановіч (Мінскі раён). Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй. Былі развіты дабыча і апрацоўка жалеза. Аб бронзаліцейнай справе сведчаць знаходкі гліняных формаў (мал. 19, 4, 5) і тыгляў на паселішчы каля в. Варганы (Докшыцкі раён). Асноўны тып пасяленняў — адкрытыя неўмацаваныя паселішчы. Паселішчы ўзнікалі каля гарадзішчаў ранняга жалезнага веку, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі і пераўтвараліся ў гарадзішчы-сховішчы.

Матэрыялы банцараўскай культуры ў вялікай колькасці знойдзены пры археалагічных раскопках у Віцебску, Лукомлі. Вынікі раскопак гарадзішча і селішча ў 1972, 1974 гг. каля в. Лужасна (Віцебскі раён) сведчаць, што жыхары селішча V—VIII стст. умацоўвалі больш магутнымі валамі гарадзішча ранняга жалезнага веку днепра-дзвінскай культуры.

Гарадзішча каля в. Лужасна на краі выспы, абкружанай з усіх бакоў балотам (уваход ёсць толькі з паўночнага боку, праз селішча). Пляцоўка гарадзішча авальная, памерам 50×45 м, вышынёй да 20 м, добра ўмацавана двума падкованападобнымі валамі: адзін — на краі пляцоўкі, другі — на схіле гарадзішча. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,6 м, каля яе краёў 2,5 м. Гарадзішча выкарыстоўвалася як сховішча ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Пры раскопках (100 м$^2$) знойдзена ляпная кераміка днепра-дзвінскай культуры ранняга жалезнага веку і банцараўскай культуры V—VIII стст., косці жывёлы, два жалезныя сярпы, тры нажы, бронзавая трапецападобная падвеска з арнаментам, чатырохвугольная бляшка, касцяная праколка.

Да гарадзішча з паўночнага боку прымыкае селішча памерам 150×35 м, на якім было даследавана 196 м$^2$ плошчы. У культурным пласце таўшчынёй каля 1 м выяўлены рэшткі жытла памерам 4×5 м, крыху паглыбленага ў грунт, з печчу-каменкай (1×2 м, вышынёй 0,6 м), каля якой знаходзілася шмат ляпной керамікі, гліняны цігель, два гліняныя праслiцы з вялікімі адтулінамі для верацяна, бронзавы пінцэт з шырокімі канцамі (мал. 20, 4), цэльнаметалічнае шыла даўжынёй 15 см з жалезнай ручкай у выглядзе пласкай лапатачкі.

Для банцараўскай культуры характэрныя жытлы паўзямлянкавыя і наземныя. Паўзямлянкі былі пераважна зрубнай канструкцыі, ніжнія іх вянкі паглыбляліся ў зямлю ад 0,2 да 0,8 м. Наземныя жытлы мелі слупавую канструкцыю. Плошча жытлаў складала ад 8 да 20 м², унутры іх размяшчаліся печы-каменкі, радзей агнішчы на вымастках з дробных камянёў. Насельніцтва выраблялa слабапрафіляваныя ляпныя гаршкі. Пасудзіны мелі крыху адагнуты венчык, слабавыражаную шыйку, моцна апушчаны плячук, злёгку пукатае тулава. Траплялiся



*Мал. 20. Лужасна: 1—3 — бронзавыя вырабы з гарадзішча; 4 — бронзавы пінцэт; 5 — гліпянае прасліца з селішча V—VIII стст.*

таксама круглабокія цыліндрычна-канічныя і міскападобныя пасудзіны. У Беларускім Падзвінні выкарыстоўваліся слоікападобныя гаршкі.

Даследчыкі, якія лічаць банцараўскую культуру балцкай, падкрэсліваюць, што паміж ёй і пазнейшымі славянскімі культурамі той жа тэрыторыі няма ніякай пераемнасці [21]. Праблема «генетычнай» пераемнасці складаная і ў гэтым выпадку не можа мець адназначнага рашэння.

На балцкі субстрат наслойваліся славянскія раннесярэдневяковыя культуры, адбываліся асіміляцыйныя працэсы, меў месца балта-славянскі сімбіёз і не менш дзвюх хваляў славянскай каланізацыі рэгіёна. Нягледзячы на цяжкасці выяўлення ў такіх варунках пераемнасці ў развіцці славянскай культуры на працягу другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э., неабходна адзначыць некалькі момантаў на карысць таго, што славяне маюць адносіны да банцараўскай культуры [22].

Па-першае, на тэрыторыі Беларусі на гарадзішчах банцараўскай культуры і на сінхронных паселішчах сустракаюцца гаршкі, па сваіх прапорцыях блізкія да агульнапрызнаных формаў славянскай керамікі. Яны змешчаны на зводнай табліцы керамікі, апублікаванай Л. Р. Мітрафанавым [23].

Па-другое, на помніках трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у Беларусі (паселішчы паблізу вв. Равячка, Гарадзішча Мядзельскага раёна, Дзядзілавічы Барысаўскага раёна) [24] адкрыты паўзямлянкавыя жытлы з печкамі-каменкамі, вельмі падобныя на тыповыя славянскія паўзям-

лянкі пражскай культуры, што пацвярджае дачыненне славянскага насельніцтва да пералічаных помнікаў Паўночнай Беларусі.

Па-трэцяе, на паселішчах тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі сустракаюцца каменныя жорны (гарадзішчы Тушамля і Гарадок у вярхоўях Сожа [25], паселішча Дзядзілавічы [26], селішча паблізу в. Дарахі), што можа сведчыць пра з'яўленне славян [27].

Па-чацвёртае, на паселішчах банцараўскай культуры (Гарадзішча, Лукомль, Равячка, Тайманава) на Беларусі знойдзена пяць жалезных




*Мал. 21. Дарахі, планы курганных могільнікаў: а — курганны могільнік I з абазначэннем раскапаных курганоў; б — могільнік Дарахі II; в — могільнікі Дарахі III і Дарахі IV; г — могільнік ля дарогі ў в. Кайкі; д — могільнік каля дарогі ў в. Рудню*

нажоў з валютападобным навершам рытуальнага прызначэння, якія з'яўляюцца прадметамі славянскай культуры [28]. Сустракаюцца ўтульчатыя наканечнікі стрэл, характэрныя для славян. Славянскімі лічаць скроневыя кольцы з завітком [29]. Такі тып упрыгожанняў знойдзены ў культурным слоі паселішча паблізу в. Бельчыца з керамікай, якая мае расчэсы і датуецца не пазней рубяжа V—VI стст.

Па-пятае, пахавальны абрад трупаспалення ў круглых, падоўжаных і доўгіх курганах трэцяй чвэрці I-га тысячагоддзя н. э., сам факт узвядзення гэтых могільнікаў, у якіх на тэрыторыі Беларускага Падзвіння пераважаюць круглыя ў плане насыпы, сведчыць на карысць славянскіх рыс у пахавальным абрадзе і супярэчыць аднясенню гэтых помнікаў выключна да ўсходніх балтаў. Культура доўгіх курганоў адлюстроўвае прысутнасць славян ва Усходняй Еўропе.

Па-шостае, гідраніміка ў Беларускім Падзвінні, блізка размешчаным да тэрыторыі Літвы і асабліва Латвіі, не можа з'яўляцца канчатковым сведчаннем позняга знаходжання балтаў як асноўнага насельніцтва краю. Аналіз гідронімаў паказаў, што тут ёсць раннія, бясспрэчна, славянскія гідронімы і іх працэнт нават некалькі вышэй, чым пра-

цэнт балцкіх гідронімаў [30]. На тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі ў паўднёва-ўсходняй частцы зарэгістравана некалькі дзесяткаў гідронімаў славянскага паходжання [31].

Па-сёмае, славянскія тапонімы на «вічы», іх шырокае распаўсюджанне ў Паўночнай Беларусі і на Пскоўшчыне, як гэта паказаў польскі даследчык Г. Лаўмянскі, сведчаць пра рассяленне тут славян не пазней VII ст.[32]

Па-восьмае, у старажытных гарадах Беларускага Падзвіння (Ві-



*Мал. 22. Ляпныя пасудзіны сярэдзіны — трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.: 1 — з Павалішынскага могільніка (к. 4); 2 — Дарахі IV (к. 5)*

цебск, Лукомль) выяўляецца значны культурны слой трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Паміж ім і наступнымі культурнымі напластаваннямі, звязанымі з усходнеславянскім насельніцтвам IX—X і XI—XIII стст., няма стратыграфічных разрываў, стэрыльных і іншых праслоек. Па сутнасці, гэта назіраецца і на Полацкім гарадзішчы. Прадвеснік Віцебска ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. знаходзіўся ў акружэнні некалькіх гарадзішчаў паселішчаў, якія адносяцца да банцараўскай культуры (Лужасна, Старое Сяло і інш.). Між тым гарады на тэрыторыі Беларусі стварылі ўсходнія славяне, а не балты, і цяжка ўявіць, каб напярэдадні станаўлення гэтых гарадоў уся навакольная тэрыторыя была заселена балтамоўным насельніцтвам. У балцкіх плямёнаў не склаліся ўмовы для ўзнікнення гарадоў у IX—X стст., і таму ў іх гарады ўзніклі пазней, чым ва ўсходніх славян, у XIII ст. і нават яшчэ пазней [33].

Помнікі тыпу Банцараўшчыны ахопліваюць усю тэрыторыю Полацкай зямлі і выходзяць далёка за яе межы. Важна акрэсліць арэал першай фазы культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі.

У 1980 г. аўтарам выяўлены могільнік з 50 курганоў каля в. Пагадзіца ў раёне г. Барысава. Курганы цягнуцца паласой 500 м абапал дарогі з Барысава ў в. Круглае. У адных месцах яны размешчаны кучна, па некалькі насыпаў, у другіх — на значнай адлегласці адзін да другога. Магчыма, тут некалькі асобных курганных груп могільнікаў.

На ўсходнім канцы паласы бліжэй да в. Пагадзіца ёсць валападобны курган. Яго даўжыня 13 м, шырыня 6 м, вышыня 1,8 м. Ён самы высокі ў могільніку. Прыкладна пасярэдзіне могільніка размешчана група з васьмі курганоў. Сярод іх адзін доўгі (15×6×1,5 м). У заходняй частцы могільніка 22 круглых у плане насыпы і адзін нізкі падоўжаны. У 1980 г. раскапаны два невялікія курганы. У кургане 1 пахаванне не знойдзена. Пад насыпам было паглыбленне, у якім выяўлены вугольчыкі (мал. 23). У кургане 2 пахаванне таксама не выяўлена. На ўзроўні гарызонта зафіксаваны вялікі камень. Аднак з боку насыпу ў яго аснове знойдзена жалезная спражка з вогнутымі бакамі, відаць, ад вупражы каня (мал. 24, 3). Падобныя спражкі датуюцца VII—VIII стст. Не выключаецца яе датаванне VII—IX стст.[34] У 1982 г. быў даследаваны яшчэ адзін малы курган (дыяметр 3,5 м, вышыня 0,75 м). У насыпе выяўлены попел і вуголле. Такім чынам, курганы бедныя на знаходкі і толькі ўмоўна іх можна аднесці да другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э.

У другім месцы каля гп Арэхаўск Аршанскага раёна В. М. Ляўко і Ю. У. Каласоўскі (1990 г.) даследавалі доўгі курган, у верхняй частцы якога знойдзена трупаспаленне і кераміка тыпу Банцараўшчыны. Гэта сведчыць пра арэал помнікаў, якія, відаць, ахоплівалі частку Верхняга Падняпроўя.




*Мал. 23. Пагадзіца: 1 — план кургана 2; 2 — план кургана 1, а — дзірван, б — пясок, в — попел, вугалі, г — камяні, д — месца знаходкі спражкі, е — памеры плямы попелу, ж — грунт*




*Мал. 24. Рэчы з раскопак курганоў: 1 — Вусце; 2 — Варганы; 3 — Пагадзіца*

Колькасць даследаваных курганоў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Беларусі паступова павялічваецца. Такія курганы раскапала Г. Ф. Салаўёва каля в. Дзям'янкі (Добрушскі раён) на Гомельшчыне. Для курганоў радзімічаў гэта рэдкая, не зусім звычайная знаходка [35]. Паколькі гаршкі-урны калочынскага тыпу знойдзены на ўзроўні ніжняй часткі насыпу курганоў, узнікла спрэчнае пытанне, ці адносіліся гаршкі да кургана або курганы насыпаны на месцы больш ранняга грунтовага могільніка і гаршкі выпадкова апынуліся над насыпам [36]. На погляд аўтара, Г. Ф. Салаўёва правільна вылучыла курганы трэцяй чвэрці і канца 1-га тысячагоддзя н. э. каля в. Дзям'янкі. Другі такі выпадак выяўлены ў кургане каля в. Колас (Жлобінскі раён). У. У. Багамольнікаў (1974 г.) даследаваў пашкоджаны курган з трупаспаленнем. У насыпе знойдзены вялікі ляпны слабапрафіляваны гаршчок VI—VII стст.

У басейне Віліі выяўлены грунтовыя пахаванні з трупаспаленнямі і керамікай банцараўскай культуры. Тры пахаванні вывучаны А. Р. Мітрафанавым на паселішчы каля в. Равячка (Мядзельскі раён) [37]. Пахаванне 1 урнавае. Урна была пастаўлена ў круглую яму і зверху прыкрыта перавернутым уверх дном гаршком, які па форме належыць да найбольш характэрных для трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. цюльпанападобных пасудзін. Пахаванне 2 бязурнавае. Кальцынiраваныя косці, ачышчаныя ад пахавальнага вогнішча, былі змешчаны ў круглай ямцы дыяметрам 0,4 м, глыбінёй 0,15 м. Каля касцей быў пастаўлены горлам уверх гліняны гаршчок. Пахаванне 3 бязурнавае. Рэшткі крэмацыі знаходзіліся ў авальнай яме глыбінёй 0,55 м. У яме былі раскіданы дробныя неапаленыя косці і рэшткі раздробленага на мелкія кавалкі чэрапа дарослага чалавека.

Варта адзначыць, што менавіта на паселішчы банцараўскай культуры ў Равячцы знойдзены два суцэльнametалічныя нажы з валютападобным завяршэннем ручкі, славянская прыналежнасць якіх даказана.

На тэрыторыі былога Полацкага княства вывучаны грунтовы могільнік на беразе воз. Узмень (Усвяцкі раён), дзе зафіксавана 34 пахаванні. Восем пахаванняў былі урнавымі. У астатніх выпадках рэшткі трупаспаленняў ссыпаны ў ямкі. Могільнік і размешчанае побач паселішча датуюцца сярэдзінай і трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. [38] У Акатаўскім могільніку на Смаленшчыне даследавана 20 пахаванняў. У адных выпадках урны з трупаспаленнямі накрыты пасудзінамі, перакуленымі ўверх дном, у другіх — рэшткі крэмацыі ссыпаны непасрэдна ў ямку [39].




*Мал. 25. Дарахі I. План кургана 9 з абазначэннем пахаванняў-трупаспаленняў і ямак ў грунце*

Пахавальны абрад курганных могільнікаў, выяўлены ў выніку даследавання культуры доўгіх курганоў, мае шмат агульных рысаў з рытуалам грунтавых могільнікаў. Трупаспаленне праводзілася часцей за ўсё па-за тым месцам, дзе потым закопваліся рэшткі крэмацыі, памёршага спальвалі разам з рэчамі, якія яму належалі пры жыцці, пахаванні былі бязурнавыя і урнавыя. Памеры ям для змяшчэння пахаванняў бываюць звычайна невялікія — ад 0,2—0,3 да 0,4—0,7 м. Палажэнне гліняных урнаў рознае: урна пастаўлена горлам уверх, аднак перакрыта другім большым па памерах гаршком, урна перавернута ўверх дном над касцямі ці над ямкамі з рэшткамі крэмацыі. Колькасць урнавых пахаванняў у грунтавых могільніках і курганах розная. У грунтавых пахаваннях, як і ў адначасовых ім курганных могільніках, пахавальны інвентар вельмі бедны.

У матэрыяльнай культуры насельніцтва Паўночнай Беларусі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. прысутнічаюць рысы, якія вылучаюць яе сярод іншых раёнаў роднасных культур: банцараўскай, тушамлянскай, калочынскай.




*Мал. 26. Дарахі IV. План кургана 5 з абазначэннем пахаванняў: а — дзірван; б — пясок; в — попелавугальная праслойка; г — урна; д — межы плямы; е — пахаванні; ж — грунт*

Нягледзячы на знешняе падабенства (слабая прафіліроўка, суадносіны прапорцый і інш.), кераміка Беларускага Падзвіння канца V — пачатку VIII стст. мае адрозненні ў параўнанні з пасудзінамі іншых раёнаў распаўсюджання культуры тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны, Тушамлі, Калочына.

Жытлы паселішчаў Паўночнай Беларусі ўяўлялі сабой паўзямлянкавыя і наземныя пабудовы (слупавай і зрубнай канструкцый) і мелі свае асаблівасці. На шэрагу паселішчаў жытлы размяшчаліся на схілах узвышшаў. Па гэтай прычыне іх ніжнія вянкі апускаліся ў зямлю на неаднолькавую глыбіню, так што розніца часам складала ад 0,1 м да 1,8 м. Паводле назіранняў за жытламі паселішча каля в. Дзядзілавічы (Барысаўскі раён), за кошт выкінутай з ямы зямлі вакол жытлаў утваралася гарызантальная «тэраса», на плошчы якой размяшчаўся невялікі панадворак [40].

Пахавальныя помнікі Беларускага Падзвіння таксама маюць своеасаблівыя рысы. У адрозненне ад шэрагу помнікаў Пскоўшчыны яны фактычна пазбаўлены каменных канструкцый. Ёсць адрозненні ў кераміцы, у сувязі з чым варта прыгадаць помнікі, якія вывучала Я. В. Станкевіч (1953 г.) на поўнач ад возера Сенніца.

Археалагічны комплекс каля в. Жабіна (Усвяцкі раён) уключае гарадзішча-сховішча, селішча і курганны могільнік з трупаспаленнем.

Я. В. Станкевіч датавала селішча V—VI стст. Тут знойдзены ляпныя гаршкі усечана-канічнай формы, у якіх значна пашырана верхняя частка з крыху адагнутым верхнім краем [41]. Падобная кераміка знойдзена ў падоўжаным кургане каля в. Міхайлаўскае. Пахаванне было над дзірваном, урна з кальцыніраванымі касцямі накрыта другой пасудзінай. Сярод крэмацыі знойдзены бронзавыя бляшкі-шкарлупіны [42].

Пасудзіны з селішча Жабіна і з кургана каля в. Міхайлаўскае па форме набліжаюцца да керамікі з плечыкамі тыпу доўгіх курганоў Смаленшчыны і ў той жа час маюць агульныя рысы з гаршкамі трэцяй чвэрці І-га тысячагоддзя н. э., выяўленымі ў курганных могільніках каля в. Дарахі. На Віцебшчыне і ў прылягаючых да яе раёнах Пскоўшчыны вылучаецца першая стадыя існавання культуры доўгіх курганоў.

# 3

# Даследаванні курганоў апошняй чвэрці I-га тысячагоддзя н.э.



ідаць, курганы з трупаспаленнямі тыпу Атокінскага могільніка каля Янкавіч і могільніка Дарахі I у канцы трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. змяняюцца могільнікамі другога перыяду (стадыі). Гэтыя могільнікі змяшчаюць пераважна падоўжаныя (даўжыня 12—16 м, шырыня прыкладна ў 1,5 раза менш) і спадарожныя ім круглыя і акруглыя ў плане насыпы. У такіх курганных могільніках зрэдку бываюць доўгія валападобныя насыпы, але іх даўжыня параўнальна невялікая. Значны па памерах курган гэтага перыяду даследаваны аўтарам каля в. Баркі ў Полацкім раёне. Яго даўжыня 25 м, шырыня 8 м, вышыня 2 м. Відавочна, што доўгія валападобныя насыпы звыш за 40—50 м — прыкмета больш ранніх курганных могільнікаў, хоць яны рэдка сустракаюцца.

Курганы па памерах і знешняму выгляду амаль не адрозніваюцца ад падобных насыпаў папярэдняга перыяду. Таксама няма розніцы ў тапаграфіі могільнікаў. Дарахоўскі другі могільнік (Еўграфаў хутар) VIII—IX стст. размешчаны недалёка ад могільнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Усе яго курганы крыху падоўжаныя і больш высокія, чым ранейшыя насыпы (мал. 21, б).

Звычайна могільнікі VIII—IX стст. налічваюць 20—40 кургаyоў. Могільнікі, узнікшыя ў X ст., значна большыя (60—100 насыпаў) і складаюцца з круглых у плане курганоў (Глінішча, Слабодка I). Гэтыя больш познія насыпы з трупаспаленнем зрэдку збудаваны на месцы селішчаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (Бельчыца, Рудня ў Полацкім раёне, Слабодка I у Чашніцкім раёне).

У. В. Енукоў, разглядаючы этапы фарміравання насельніцтва, выключае доўгія курганы V—VII стст., выяўленыя ў Беларускім Падзвінні, з ліку найбольш ранніх помнікаў полацкіх крывічоў і робіць катэгарычны вывад, што культура доўгіх курганоў канца VIII—IX стст. узнікла незалежна ад культуры доўгіх курганоў VI—VII стст. Довады, на якіх ён грунтуецца, непераканаўчыя. Так, даследчык бачыць розніцу ў асаблівасцях збудавання насыпаў у тым, што на Пскоўшчыне доўгія курганы насыпаны ў адзін прыём, а на Смаленшчыне ў аснове збудавання доўгіх насыпаў ляжыць «прынцып паэтапнасці» [1]. У такім вы-

падку з новымі пахаваннямі насып кургана павялічваўся ў даўжыню, рабіўся ў некалькі прыёмаў. У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што ў Беларускім Падзвінні паэтапнасць збудавання насыпу даволі рэдкая з'ява як у могільніках трэцяй чвэрці, так і ў курганах чацвёртай чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

На паселішчах і гарадзішчах трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя ў шэрагу выпадкаў выяўлена прымесь керамікі з плечыкамі IX ст. Гэта ўстаноўлена аўтарам на селішчы Лужасна пад Віцебскам, на селішчы



*Мал. 27. Пахаванне па абраду трупаспалення: а — Банонь (Экімань) (к. 7); б — Смалькі (к. 1)*

ў Лукомлі, на Банцараўскім гарадзішчы каля Ждановіч[2]. Такая ж з'ява адзначана Я. А. Шмідтам на Смаленшчыне: на селішчах Кісялі (Веліжскі раён), Аносенкі, Шугайлава, Ярылава (Дзямідаўскі раён)[3]. На двух селішчах каля в. Кіслая (Смаленскі раён) таксама знойдзена кераміка двух перыядаў і скарб арабскіх дырхемаў другой паловы IX ст. У курганным могільніку раскапаны падоўжаны курган з трупаспаленнем у невялікай урне[4].

У курганах апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя трупаспаленне ў большасці выпадкаў знаходзіцца пад насыпам, на гарызонце. Бывае, што кальцыніраваныя косці сабраны ў неглыбокай ямцы, зверху змешчаны перавернуты ўверх дном гаршчок. Гэтая дэталь пахавальнага звычаю збліжае курганы другога перыяду з больш раннімі насыпамі першага перыяду.

Істотнае значэнне мела даследаванне ў 1928 г. курганнага могільніка каля в. Рудня (Полацкі раён), поўная публікацыя матэрыялаў і іх абгрунтаваная інтэрпрэтацыя А. М. Ляўданскім. Курганны могільнік з дзвюх груп (73 і 23 курганы) размешчаны на мысах берага р. Ушачы на месцы селішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Па форме курганы круглыя, падоўжаныя, зрэдку чатырохвугольныя. У 1928 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі раскапалі 14 курганоў. Абрад пахавання — пераважна трупаспаленне. Толькі ў адным выпадку (курган 13) знойдзены касцяк жанчыны. Крэмацыя праходзіла на месцы ўзвядзення курганоў або ўбаку ад яго (курганы 5, 10). Паленыя косці змяшчаліся на вогнішчы ў большасці выпадкаў на грунце, у насыпе (курганы 4, 7,

10) і адначасова на вогнішчы, на грунце і ў насыпе кургана (курганы 2, 8, 14). У некаторых курганах знойдзена многа паленых касцей, што сведчыць пра крэмацыю некалькіх нябожчыкаў. Ва ўсіх курганах знойдзены лянныя гаршкі, зрэдку па два—тры разам. Адны пасудзіны былі разбіты ў час трупаспалення (курганы 2, 8, 12), іншыя папсаваны агнём (курганы 5, 10), некаторыя пастаўлены цэлымі з трупаспаленнямі або без іх. У кургане 4 тыповым ляпным гаршком з плечыкамі накрыты перапаленыя косці. Побач з гаршком сярод перапаленых касцей знаходзілася падкованападобная бронзавая спражка, у якой канцы закручаны ў выглядзе спіралі, а таксама жалезны нож.

У курганах каля в. Рудня знойдзены пасудзіны, якія вылеплены ад рукі без прымянення ганчарнага круга. Паводле свайго знешняга выгляду і формы яны блізкія да керамікі Смаленшчыны. Як вынікае з публікацыі А. М. Ляўданскага, ім знойдзены асобныя гаршкі, падпраўленыя на ганчарным крузе. На паверхню аднаго з іх нанесены хвалісты арнамент. На дне ўсіх гаршкоў ёсць пясок, які падсыпаўся ў час іх вырабу. Ад пахавальнага інвентару захаваліся рэшткі пацерак, гліняпае прасліца, бразготка, накладкі для пояса. Сустракаюцца рэчы ўсходнебалцкіх тыпаў — бронзавыя спіралькі, папэўна, ад жаночага галаўнога ўбору, шыйныя грыўні (мал. 65). Сярод рэчаў ёсць паламаныя, напрыклад бранзалет, спражка, грыўні. А. М. Ляўданскі датаваў могільнік каля в. Рудня VIII—IX стст.[5] Але нельга прызнаць гэтае датаванне без папраўкі. У курганным могільніку ёсць насыпы X ст.

Пераканаўча пра гэта сведчаць вынікі раскопак аўтара ў 1967 г., калі было вывучана яшчэ пяць курганоў, у якіх знойдзены ганчарны посуд. Прыкладна тое ж самае можна сказаць пра датаванне курганнага могільніка каля в. Старое Сяло пад Віцебскам, насыпанага на месцы селішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., якія вывучаў ў 1928 г. А. М. Ляўданскі. Гэта рэдкі выпадак знаходжання ў адным кургане (курган 6) побач з двума ляпнымі гаршкамі аднаго ганчарнага (мал. 6, 5, 9). Ляпны гаршчок мае аналогіі сярод керамікі доўгіх курганоў. Ганчарныя пасудзіны — тыповыя для ўсходнеславянскіх старажытнасцей X ст.[6] А. М. Ляўданскі, робячы шэраг агаворак, лічыў курганы каля в. Рудня славянскімі і адзначаў, што яны па абраду пахавання маюць шмат агульнага з даследаванымі ім курганамі каля в. Бельчыца пад Полацкам і в. Старое Сяло каля Віцебска, якія з'яўляліся, на яго думку, бясспрэчна славянскімі [7].

Супярэчлівы погляд на этнічную інтэрпрэтацыю пахаванняў у круглых і падоўжаных курганах выказаў І. І. Ляпушкін. Ён налічваў у лясной зоне каля 200 пунктаў, у якіх пры раскопках выяўлены круглыя курганы са славянскімі, па яго сцверджанні, пахаваннямі. У спіс гэтых курганных могільнікаў з тэрыторыі Паўночнай Беларусі ўвайшлі Бельчыца, Вядзец, Гаравыя, Гразівец, Закур'е, Лятохі, Аўсянікі, Паддубнікі, Рудня (Полацкі раён), Селішча, Старое Сяло, Стараселле, Тачылішча, Чарневічы [8].

Абрад трупаспалення ў славян вядомы, на думку І. І. Ляпушкіна, з VI ст. Верхняй датай існавання такога рытуалу з'яўляецца X ст. Зыходзячы з гэтага даследчык адзначаў, што ў лясной паласе найбольш раннімі славянскімі помнікамі можна прызнаць толькі звычайныя, невялікія па памерах, паўсферычныя курганы з трупаспаленнем [9]. Доўгія, падоўжаныя і іншыя фігурныя насыпы ён не лічыў за славянскія. Спрэчнасць такога сцверджання робіцца зразумелай пры аналізе вынікаў раскопак курганоў, якія былі праведзены ў Віцебскай вобласці пасля выхаду кнігі І. І. Ляпушкіна.

Курганныя могільнікі другой паловы VIII—IX стст. вывучаліся аўтарам паблізу вёсак Бяскатава, Баркі, Дарахі. Напэўна, да гэтых стагоддзяў адносяцца курганы каля вёсак Гуркі, Прыхабы, Смалькі, Вусце. У гэтых могільніках побач размешчаны курганы падоўжаныя і круглыя ў плане паўсферычнай формы (мал. 29).

Уяўленне пра характар помнікаў даюць матэрыялы раскопак каля в. Баркі, што за 26 км ад Полацка. З 18 курганоў тут раскапана 9, якія лепш захаваліся (адзін доўгі, тры падоўжаныя, пяць круглых). У круглым кургане 2 крэмацыя праведзена на месцы яго збудавання. Рэшткі крэмацыі сабраны і змешчаны ў выкапаную ў грунце ямку. У ёй выяўлена прыкладна 200 пашкоджаных агнём рэчаў. Сярод іх 11 касцяных птушак, напэўна качак, 20 бронзавых трапецападобных падвесак,




*Мал. 28. Рудня Полацкага раёна. Рэчы з раскопак курганоў: 1—5 — курган 2—67; 6 — курган 5—67*

Табліца 4. **Даныя аб курганах апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.**

| Курганны могільнік | № на карце | Раскапана курганоў | Абрад пахавання: крэмацыя | Абрад пахавання: т/п | Від крэмацыі: у баку | Від крэмацыі: на месцы | Палажэнне крэмацыі: пад курганом | Палажэнне крэмацыі: на падсыпцы | Асаблівасці пахавання: пад гаршком | Асаблівасці пахавання: у ямцы | Асаблівасці пахавання: інвентарныя | Асаблівасці пахавання: без інвентару | Асаблівасці пахавання: з косткамі жывёл | Курганы без пахавання з попельнай праслойкай | Курганы пустыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Банонь | 28 | 7 | 5 | — | — | 5 | 5 | — | — | 1 | 2 | 5 | 1 | 2 | — |
| Баркі | 32 | 9 | 6 | — | 4 | 1 | 4 | 1 | 2 | 3 | 6 | — | 1 | 1 | 1 |
| Бяскатава | 149 | 2 | 1 | — | — | 1 | — | — | — | 1 | 1 | — | — | 1 | — |
| Вышадкі | 152 | 25 | 11 | 8 | 9 | 2 | 11 | — | — | — | 6 | 5 | — | 2 | 4 |
| Вусце | 60 | 1 | 1 | — | 1 | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — |
| Гліншча | 36 | 20 | 14 | 1 | 10 | 4 | 12 | 5 | — | — | 12 | 2 | — | 5 | — |
| Гуркі | 154 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 | — |
| Дарахі II | 156 | 3 | 3 | — | 3 | — | 3 | — | 2 | 2 | 3 | — | 1 | — | — |
| Прыхабы | 24 | 1 | 1 | — | — | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — |
| Свіла I | 335 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| Слабодка I | 259 | 12 | 6 | 1 | 5 | 1 | 1 | 2 | — | 2 | 2 | — | — | 2 | 2 |
| Смалькі | 172 | 2 | 1 | — | 1 | — | 1 | — | 1 | 1 | 1 | — | — | 1 | — |
| | | 84 | 49 | 10 | 33 | 15 | 38 | 8 | 5 | 10 | 34 | 12 | 3 | 15 | 8 |

жалезная спражка з вогнутымі бакамі, спіралькі, фрагменты шыйнай грыўні і інш. (мал. 31, 9—29).

Курган 6 падоўжаны. Пад насыпам трупаспаленне ў трох месцах. У адным выпадку косці ў ямцы, над якой змешчаны ляпны гаршчок уверх дном (мал. 11, 2). Другі гаршчок ляжаў на баку. Знойдзены пяць бронзавых спіралек, тры трапецападобныя падвескі, пацеркі з блакітнага празрыстага шкла. У пахаванні прадстаўлены рэшткі маніста, у якім чаргаваліся шкляныя пацеркі і рады спіралек, фрагменты пласцінкавага бранзалета, шыйнай грыўні. У другім пахаванні знойдзена жа-




*Мал. 29. Планы курганных могільнікаў з абазначэннем раскапаных курганоў: а — Баркі, б — Малы Стахаў*

лезная абойміца ад пояса. У кургане два пахаванні — жаночае і мужчынскае. Сярод рэчаў прадстаўлены набор жаночых упрыгожанняў, распаўсюджаных у балтаў і характэрных для культуры доўгіх курганоў Смаленшчыны (мал. 35) [10].

Асаблівую цікавасць уяўляюць багатыя па інвентару курганы сярод курганных могільнікаў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Узорам можа служыць у гэтых адносінах курган, раскапаны каля в. Вышадкі (Гарадоцкі раён). У 1980 г. у цэнтральнай частцы могільніка выяўлена 11 малых курганоў (вышыня 0,3—0,8 м), якія змяшчалі трупаспаленні IX — пачатку X ст. У большасці крэмацый інвентар адсутнічае або вельмі бедны. Аднак круглы ў плане курган 14 адрозніваецца вялікай колькасцю знаходак. У гэтым зусім малым кургане (дыяметр 3,6 м, вышыня 0,65м ), які нічым не адрозніваўся ад іншых навокал размешчаных сінхронных насыпаў, знойдзена звыш за 100 фрагментаў розных упрыгожанняў. Сярод іх два трымальнікі з адтулінамі, трапецападобныя падвескі, мноства дробных і буйных спіралек (мал. 30). Багацце пахавальнага інвентару ў асобных курганах VIII—IX стст., мабыць, з'ява не столькі сацыяльная, якая сведчыць пра маёмасную няроўнасць, колькі этнагенетычная. Папулярнасць металічных жаночых упрыгожанняў




*Мал. 30. Вышадкі, рэчы з кургана 14: 1—11 — бронза; 12 — кераміка; 13, 16 — крышталь; 14, 15 — сердалік; 17 — паста (шкло)*

сведчыць пра славянізаваных балтаў, напэўна, адносна нешматлікіх на тэрыторыі фарміравання полацкіх крывічоў.

У Барках у паўсферычным кургане 7 пад насыпам было трупаспаленне чалавека, а таксама жывёл. Паводле заключэння В. В. Шчагловай, у пахаванні прысутнічаюць косці каня і свойскага быка. Як паказала даследаванне, косці належалі дробным асобінам. Вядома, нельга выключаць усадкі касцей у моцным агні. Але, улічваючы гэта, трэба адзначыць, што конь і бык былі невялікія. Такая ж з'ява выяўлена пры даследаванні астэалагічнага матэрыялу з гарадзішча ва ўр. Падгай у вярхоўі Заходняй Дзвіны [11]. Наяўнасцю сярод рэшткаў пахавання касцей жывёлы тлумачыцца вялікая іх агульная колькасць у кургане (вага



*Мал. 31. Баркі, інвентар курганоў канца VIII—IX стст.: 1—6, 19—23, 27—29, 31, 33, 34, 36—43 — бронза; 7, 8, 18, 26, 35, 47 — жалеза; 9—17, 32, 44—46 — косць; 24, 30 — шкло*

4,3 кг). Адсюль вынікае, што, калі трупаспаленне прадстаўлена вялікай колькасцю касцей, у ім спалены акрамя людзей (ці аднаго чалавека) і жывёлы.

У курганным могільніку каля в. Баркі зрэдку трупаспаленне праведзена на тым месцы, дзе насыпаны курган, але ў шэрагу выпадкаў у баку ад кургана. Попелавугальны слой пад насыпам звычайна нязначны. Суцэльны і тоўсты праслой ні ў адным выпадку не выяўлены.

Усяго ў курганах каля Баркоў знойдзена пяць ляпных пасудзін



*Мал. 32. Бяскатава. Рэчы з раскопак падоўжанага кургана 1 другой паловы VIII—IX ст.: 1, 3 — бронза; 2, 4, 5 — косць; 6 — шкло*

(мал. 34, 1—3). Усе яны прысадзістыя, вышыня заўсёды менш за дыяметр (табл. 5). Гліна ўключае значную колькасць грубай жарствы і пяску. Гаршкі па форме, прапорцыях і памерах ніяк не адрозніваюцца ад пасудзін з пахаванняў курганных могільнікаў Смаленшчыны, якія датуюцца VIII—IX стст. [12] Тое ж самае можна сказаць пра характар усяго пахавальнага матэрыялу разгледжаных курганоў Паўночнай Беларусі, асаблівасцю якіх з'яўляецца наяўнасць мініяцюрных касцяных птушак (качак) (мал. 31, 9—16). Выявы такіх птушак трапляюцца ў курганах Смаленшчыны [13], распаўсюджаны ў старажытнасцях Прыкам'я [14].

Для датавання пахаванняў у курганным могільніку каля в. Баркі мае значэнне знойдзеная ў кургане 3 частка шыйнай грыўні з плоскімі серпападобнымі канцамі, якія заходзяць адзін за другі (мал. 31, 29). Такія грыўні былі вядомы ў латгалаў. Яны знойдзены ў вялікай колькасці ва Усходняй Латвіі (Лудзенскі раён) у могільніку Кіўты, які датуецца VII—XII стст. [15], у Нукшынскім могільніку IX—XII стст. [16] У Літве яны выяўлены на помніках ва ўсходніх раёнах (25 экз.), дзе з'явіліся ў канцы VIII ст. і характэрны для пахаванняў X—XI стст. [17] На аснове адзінай знаходкі грыўні ў кургане каля в. Баркі археолаг У. В. Енукоў зрабіў вывад, што на тэрыторыі Беларусі культура доўгіх курганоў смаленскага тыпу з'явілася толькі ў канцы VIII ст., амаль на паўстагоддзе пазней, чым на Смаленшчыне [18].

У сувязі з гэтым уяўляюць цікавасць вынікі раскопак курганоў каля в. Бяскатава (Гарадоцкі раён). У падоўжаным кургане 1 на гарызонце знойдзена трупаспаленне ў ямцы, дзве касцяныя мініяцюрныя качачкі,

Табліца 5. **Вымярэнні ляпнога посуду з паселішчаў і курганоў VIII—X стст.**

| Помнік, курган, пахаванне | H | $H_1$ | $Д_1$ | $Д_2$ | $Д_3$ | $Д_4$ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Баркі, к. 3 | 7,00 | 5,30 | 10,35 | 10,12 | 10,68 | 7,00 |
| Баркі, к. 6 | 8,50 | 6,50 | 11,62 | 11,52 | 12,19 | 8,15 |
| Баркі, к. 7 | 10,30 | 8,10 | 11,60 | 11,52 | 11,58 | 6,70 |
| Віцебск | 11,00 | 8,90 | 10,55 | 10,20 | 10,90 | 6,80 |
| Вусце, к. 1 | 11,00 | 8,40 | 11,30 | 11,21 | 12,74 | 8,00 |
| Глінішча, к. 3 | 8,30 | 6,95 | 10,80 | 11,46 | 12,90 | 7,10 |
| Глінішча, к. 5 | 9,50 | 7,50 | 11,78 | 11,88 | 12,85 | 8,80 |
| Глінішча, к. 6 | 12,40 | 9,70 | 11,00 | 11,40 | 12,75 | 8,50 |
| Глінішча, к. 8 | 8,00 | 5,65 | 9,60 | 9,99 | 11,11 | 7,40 |
| Глінішча, к. 19 | 7,60 | 5,60 | 8,30 | 8,50 | 9,70 | 6,65 |
| Домжарыцы, к. 1 | 11,50 | 8,90 | 12,20 | 11,80 | 14,00 | 8,56 |
| Домжарыцы, к. 2 | 8,15 | 5,45 | 9,55 | 9,47 | 10,89 | 6,40 |
| Домжарыцы, к. 3 | 8,70 | 5,80 | 9,15 | 9,33 | 10,76 | 6,40 |
| Дарахі II, к. 3 | 7,60 | 5,50 | 12,25 | 12,40 | 14,00 | 10,00 |
| Дарахі II, к. 1 | 9,60 | 7,50 | 11,14 | 10,89 | 12,42 | 9,60 |
| Дарахі II, к. 1 | 8,40 | 6,70 | 11,36 | 11,14 | 11,50 | 5,80 |
| Дарахі II, к. 2 | 8,60 | 6,60 | 12,35 | 12,57 | 13,50 | 8,50 |
| Лукомль | 19,10 | 15,60 | 16,08 | 15,90 | 18,47 | 10,00 |
| Лукомль | 15,30 | 12,50 | 12,73 | 12,16 | 14,17 | 7,50 |
| Лукомль | 22,30 | 16,50 | 18,79 | 17,90 | 21,14 | 10,00 |
| Плусы, к. 3 | 12,30 | 9,30 | 11,40 | 11,11 | 12,42 | 9,30 |
| Полацк | 21,70 | 18,50 | 20,07 | 19,58 | 21,81 | 10,80 |
| Пуканаўка, к. 4 | 8,45 | 5,20 | 10,82 | 9,17 | 10,73 | 7,00 |
| Слабодка I, к. 3 | 12,10 | 9,70 | 11,70 | 11,45 | 12,80 | 7,80 |
| Смалькі, к. 1, п. 1 | 10,55 | 8,10 | 11,40 | 11,81 | 12,99 | 9,40 |
| Смалькі, к. 1, п. 2 | 9,10 | 6,40 | 11,75 | 11,90 | 12,42 | 8,10 |

шкляная падвоеная пацерка зялёнага колеру (мал. 32, 6), скроневае кальцо, невялікі гаршчок (мал. 32, 1). Інвентар пахавання нагадвае той, які знойдзены ў Барках, а таксама каля в. Арэфіна на Смаленшчыне. Асаблівую цікавасць уяўляе скроневае кальцо з плоскай серпападобнай ніжняй часткай, у якой зроблены адтуліны для прымацавання трапецападобных падвесак. Акрамя Арэфіна такія скроневыя кольцы знойдзены ў курганах на Смаленшчыне (Цуркаўка, Акатава) [19] і ў Старой Ладазе — старажытным горадзе Ноўгарадскай зямлі. Скроневае кальцо са Старой Ладагі выяўлена ў гарызонце культурнага слоя, які датуецца 760—780 гг. [20] Прыведзеная аналогія сведчыць пра памылковасць сцвярджэнняў У. В. Енукова пра больш позняе датаванне курганоў Беларускага Падзвіння ў параўнанні з курганамі Смаленшчыны. Дарэчы, у Барках у кургане 6 знойдзен фрагмент, відаць, бронзавага бранзалета з патоўшчанымі канцамі, якія звычайна датуюцца VI—VIII стст. (мал. 31, 34), у кургане 8 — глінянае прасліца (мал. 31, 48), падобнае тым, якія характэрны для банцараўскай культуры гэтага часу (мал. 37, 9).

Кераміка, аналагічная гаршкам з курганоў Смаленшчыны, выяўлена ў курганным могільніку каля в. Смалькі (Гарадоцкі раён). У падоўжаным кургане пад насыпам знаходзіліся два ляпныя гаршкі, перавернутыя ўверх дном (мал. 34, 45). Каля в. Вусце (Полацкі раён) ляпная пасудзіна знойдзена ў попелавугальным праслоі даследаванага кургана (мал. 34, 6).

У могільніку Дарахі II раскапаны тры крыху падоўжаных курганы. Пад іх насыпамі на гарызонце былі трупаспаленні з ляпной керамікай. У курганах 1, 2 перавернутыя гаршкі знаходзіліся паверх ям, дзе змешчаны трупаспаленні. У кургане 1 сярод кальцыніраваных касцей знай-

дзены дзве бронзавыя спіралькі, абломкі серпападобнага скроневага кальца. У кургане 3 ляпны гаршчок быў пастаўлены гарлавінай уверх на ўскраіне ямы з трупаспаленнем. Блізка да цэнтра на гарызонце выяўлены ніжні камень ад жорнаў. Ён належаў складанаму тыпу жорнаў з порхліцай і рухавой воссю. У Сярэднім Падняпроўі такія жорны былі вядомы плямёнам чарняхоўскай культуры. Яны знойдзены на тэрыторыі Польшчы і ў іншых месцах [21]. Камень ад жорнаў доўгі час знаходзіўся ў карыстанні, пра што сведчаць канцэнтрычныя лініі на яго паверхні. Каля Дарахоў на селішчы 2 трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя знойдзен яшчэ адзін падобны камень. Прыкладная дата могільніка Дарахі II — другая палова VIII—IX ст. Уся яго кераміка характэрная для курганоў Смаленшчыны.

Большасць курганоў VIII—IX стст., як круглых, так і падоўжаных, бедныя на інвентар ці наогул яго не маюць. Сярод іх, напэўна, ёсць пахаванні славянскія, як раней меркаваў І. І. Ляпушкін [22], але пацвердзіць гэта комплексамі пахавальнага інвентару немагчыма.

Пахаванні курганнага могільніка каля в. Глінішча пад Полацкам маюць вузкую храналагічную дату і амаль цалкам адносяцца да X ст. У могільніку 60 паўсферычных курганоў, з якіх даследавана 20 (мал. 68). Толькі ў адным кургане знойдзены касцяк, у іншых выпадках—тру-




*Мал. 33. Глінішча, знаходкі з курганоў: 1—4 — з кургана 12; 5 — з кургана 16; 7, 8 — з кургана 17; 9, 13,14 — з кургана 18; 16, 17, 19 — з кургана 19; 20 — з кургана 2*

паспаленне. Спаленне памерлых праводзілася на месцы ўзвядзення насыпу (мал. 39). Пра гэта сведчыць абпалены грунт. Толькі пра курган 9 можна з упэўненасцю сказаць, што спаленне праводзілася па-за курганом. Асновай абрада пахавання ў курганным могільніку з'яўляецца трупаспаленне, галоўным чынам на гарызонце, на месцы ўзвядзення насыпаў. Рэшткі крэмацыі збіралі ў кучку і на месцы вогнішча ўзводзілі насып. Пры раскопках гэтыя кучкі з крэмацыяй выяўляюцца ў выглядзе чорных плямаў. Спецыяльнай ямкі для змяшчэння кальцыніраваных касцей не рабілі. Звычайна рэштказ крэмацыі ў пахаванні не больш за 100—200 г. Тры курганы (2, 6, 8) у сваіх асновах мелі парныя кучкі трупаспаленняў, якім адпавядалі два гаршкі, што звязана з парнымі пахаваннямі. Пры трупаспаленнях меўся такі рэчавы матэрыял, як жалезныя падкowападобныя фібулы, абломак сярпа, тачыльны брусок, шкляныя пацеркі («лімонкі» і ў вочкі), накапечнік стралы, нажы, глінянае прасліца, абломкі серпападобнага скроневага кальца.

У курганах каля в. Глінішча знойдзена шэсць ляпных пасудзін і чатыры кругавых, захаваўшыхся амаль цалкам (мал. 34). Датаванне вывучаных курганоў знаходзіцца ў межах канца IX — пачатку XI ст. У іх ёсць выразны рэчавы матэрыял X ст. (шкляныя пацеркі, кругавыя гаршкі). Большасць курганоў датуецца менавіта гэтым стагоддзем. Ляпныя пасудзіны вельмі архаічныя, магчыма, спецыяльна зробленыя для пахаванняў. Вызначэнне гэтых курганоў як пахаванняў полацкіх крывічоў наўрад ці можа выклікаць сумненне. Паміж культурай доўгіх курганоў VIII—IX стст. і апісанымі круглымі ў плане курганамі X ст. ёсць агульныя рысы як у пахавальным абрадзе, так і ў рэчавым матэрыяле, асабліва ў ляпной кераміцы. Курганны могільнік каля в. Глінішча пад Полацкам з'яўляецца звязваючым звяном паміж культурай доўгіх курганоў VIII—IX стст. і ўсходнеславянскімі курганнымі пахаваннямі з трупапалажэннямі XI ст.

У курганным могільніку каля в. Глінішча ў кургане 8 знойдзены абломкі ляпнога і кругавога посуду. У курганным могільніку Слабодка I у кургане 3 выяўлена шэсць гаршкоў, якія былі пастаўлены разам на абпаленым грунце. Адзін гаршчок ляпны з плечыкамі, астатнія — раннекругавыя (мал. 49, 4).

Усяго ў курганах апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. выяўлена каля 20 ляпных гаршкоў, якія захаваліся амаль цалкам. Керамічныя комплексы вывучаны паводле праграмы статыстычнай апрацоўкі [23]. Даныя асноўных вымярэнняў 19 пасудзін прыведзены ў табл. 5. Для параўнання прыводзяцца даныя пра пасудзіны з Полацка, Лукомля, Віцебска [24].

Ляпны посуд з курганоў, як правіла, прысадзісты. Вышыня гаршкоў меншая за іх дыяметр. Посуд мае гаршкападобную або місападобную форму. У гліне вялікая колькасць жарствы і пяску, якія замешаны нераўнамерна. Посуд не заўсёды добра абпалены, на зломе двухкаляровы. Механічная трываласць яго невялікая.

Адметная рыса ляпнога посуду другой паловы VIII — першай паловы X ст. — акруглае плечыка, якое знаходзіцца ў верхняй частцы тулава гаршка, шыйка з адагнутым ці прамым венчыкам (мал. 34). Зрэдку сустракаюцца пасудзіны, арнаментаваныя па краю венчыка насечкамі (Дарахі II). У многіх гаршкоў дно з вонкавага боку пасыпана пяском. Найбольшы памер шырыні тулава прыпадае на верхнюю частку пасудзіны (табл. 5). Гэта кераміка пераходзіць непасрэдна ў раннекругавы ўсходнеславянскі посуд (мал. 49). Прыкметы пераемнасці ў развіцці форм керамікі могуць быць доказам таго, што сярод паха-

ванняў культуры доўгіх курганоў другой паловы VIII — першай паловы X ст. ёсць славянскія.

Усе ляпныя гаршкі VIII — пачатку X ст. прафіляваныя, найбольшае пашырэнне тулава адзначаецца ў верхняй частцы пасудзіны. ($H_1 : H = 0{,}61—0{,}85$). У параўнанні з посудам трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., для большасці якіх паказчык роўны 0,66—0,78, у адным гаршку VIII—X стст. ён вызначаецца лічбамі 0,70—0,79, але ў дзвюх пасудзінах роўны 0,61—0,66. Гаршкі, у якіх гэты паказчык перавышае 0,8, знойдзены на гарадзішчах у Лукомлі, Полацку, Віцебску, у курган-



*Мал. 34. Ляпная кераміка з раскопак курганоў: 1—3 — Баркі; 4, 5 — Смалькі; 6 — Вусце; 7—10 — Дарахі II; 11—15 — Глінішча; 16 — Плусы; 17 — Слабодка I; 18—19 — Домжарыцы; 20 — Пуканайка*

ным могільніку ля в. Глінішча (курган 3) пад Полацкам, у курганным могільніку Слабодка I пад Лукомлем.

Ступень плячыстасці большасці гаршкоў ($Д_3—Д_2$) характарызуецца лічбамі 1,13—1,18. Аднак больш за 1/3 вывучанага матэрыялу мае паказчык прафіліравання, блізкі да посуду трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ($Д_3 : Д_2 = 1,00—1,09$). Цікава параўнаць даныя асноўных вымярэнняў ляпнога посуду VIII — пачатку X ст. (табл. 5) з вымярэннямі ганчарных гаршкоў X—XI стст. (табл. 8). У большасці ганчарных пасудзін назіраецца змяншэнне вышыні, на якой размешчана максімальнае пашырэнне тулава, павялічваецца іх «плячыстасць». Гэта служыць пацвярджэннем той высновы, што ляпная кераміка з плечыкамі VIII—IX стст. непасрэдна пераходзіць у раннекругавую ўсходнеславянскую кераміку.

У інвентары курганоў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. асаблівую цікавасць выклікаюць бронзавыя плоскія (серпападобныя) скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, арнаментаваныя выпуклымі паяскамі, з двух бакоў якіх ёсць зубчатая нарэзка (мал. 65, 36). Яны выяўлены на Смаленшчыне ў курганах навокал вёсак Цуркаўка, Слабада, Хатынь, Слабада-Глушыца, Заазер'е, Акатава (мал. 35, 19, 34), Васілеўшчына [25], на Віцебшчыне ў курганах каля вёсак Бяльмонты, Вусце (Богінскае возера) [26], Рудня і Глінішча пад Полацкам, Дарахі, а таксама на селішчы каля в. Гнездава ля Смаленска, гэта значыць на тэрыторыі, дзе адбывалася фарміраванне смаленскіх і полацкіх крывічоў. Такія ж упрыгожанні знойдзены на гарадзішчы Камно ў наваколлі Пскова і на гарадзішчы пад Вялікімі Лукамі.

Такіх скроневых кольцаў на тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі няма, але яны былі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Смаленшчыны і Віцебшчыны. Таму ёсць падставы лічыць скроневыя серпападобныя кольцы жаночымі ўпрыгожаннямі ранніх крывічоў. Блізкія па форме прататыпы гэтых рэчаў — плоскія серпападобныя шыйныя грыўні, пра якія гаварылася вышэй. Серпападобныя скроневыя кольцы з'яўляюцца ўпрыгожаннямі-гібрыдамі, якія з'явіліся ў крывічоў у працэсе балтаславянскага сімбіёзу.

Можна зазначыць другую катэгорыю ўпрыгожанняў, якія выкарыстоўвалі нашчадкі крывічоў, прататыпам якой паслужылі формы вырабаў, распаўсюджаных у балтаў. Размова ідзе пра невялікія дэталі (трымальнікі) з трыма адтулінамі ў складзе падвесак (мал. 30, 2). На беразе Богінскага возера каля в. Вусце Ф. В. Пакроўскі знайшоў бронзавыя ўпрыгожанні, якія складаюцца са спіралькі, злучальнага звяна — трымальніка з круглымі адтулінамі і дзвюх трапецападобных падвесак (мал. 24, 1) [27]. Такія трымальнікі выяўлены ў кургане 14 у Вышадках (Гарадоцкі раён). Прататыпамі літых з бронзы трымальнікаў X — пачатку XI ст. былі вырабы, сагнутыя з дроту, накшталт біэсападобных трымальнікаў, распаўсюджаных у латгалаў [28]. Знойдзены яны неаднаразова ў Беларусі [29]. Упрыгожанне VII—IX стст. з біэсападобным трымальнікам, на якім былі дзве трапецападобныя падвескі, знойдзена на гарадзішчы Язна Міёрскага раёна.

Літыя трымальнікі з трыма адтулінамі знойдзены на паселішчы на Менцы [30]. На гарадзішчы Гарадок каля Вялікіх Лук выяўлены доказы таго, што тут мясцовыя ювеліры ў каменных формах адлівалі такія трымальнікі [31]. Усё гэта сведчыць пра рэчы-гібрыды, якія з'явіліся ў ранніх крывічоў у выніку ўзаемасувязей паміж балтамі і славянамі.

У IX ст. адбываліся істотныя змены ў жыцці крывічоў. Гэта быў пачатак фарміравання Полацкага княства, найбольш старажытнага дзяр-




*Мал. 35. Рэчы культуры доўгіх курганоў Смаленшчыны другой паловы VIII—IX ст. (в. Акатава, даследаванні Я. А. Шмідта)*

жаўнага ўтварэння на тэрыторыі Беларусі. Гарадзішча, дзе размяшчаўся першапачаткова Полацк, моцна пашкоджана могілкамі XIX — пачатку XX ст.[32] Таму для вывучэння крывічоў-палачан навуковую цікавасць уяўляе гарадзішча, якое добра захавалася каля в. Свіла I (Глыбоцкі раён). Ад астатніх умацаванняў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. гэта гарадзішча адрозніваецца значнымі памерамі, наяўнасцю магутных кальцавых валоў і равоў.

Гарадзішчы-сховішчы VIII—IX стст. вядомы ў заходніх і ўсходніх славян, а таксама ў балтаў і іншых плямёнаў. Яны бываюць круглымі ў плане, маюць кольцападобную сістэму пабудоў, якія прымыкаюць да ўнутранага схіла вала. Гарадзішчы-сховішчы засяляліся часова на выпадак ваеннай небяспекі. Сюды заганялася жывёла, хавалася іншая маёмасць. Сховішчы сведчаць пра калектыўны характар абароны, калі асноўнай формай войнаў былі неспадзяваныя набегі з мэтай рабаўніцтва. Такія гарадзішчы-фартэцыі мелі народны характар, служылі сховішчамі для ўсяго насельніцтва тэрытарыяльнай абшчыны — гнязда паселішчаў і іх абаранялі ад ворагаў усе дарослыя, здольныя насіць зброю. У той час яшчэ захоўваліся моцныя перажыткі родаплемяннога ладу[33].

Характэрнай асаблівасцю гарадзішчаў банцараўскай культуры з'яўлялася тое, што яны не былі месцамі пастаяннага пражывання. У наваколлі такога гарадзішча, відаць, знаходзіліся невялікія неўмацаваныя паселішчы, насельніцтва якіх займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі і інш. Калі набліжаўся вораг, людзі перабіраліся на гарадзішча, узяўшы з сабой усё, што маглі вынесці,— зброю, прылады працы, розныя прадметы побыту, запасы ежы і г. д. Такія гарадзішчы выконвалі ролю абшчынных цэнтраў-сховішчаў[34].

У Беларускім Падзвінні гарадзішча каля в. Свіла I мае пляцоўку 100 м у даўжыню і 80 м у шырыню. Яго абарончая сістэма складалася з двух глыбокіх равоў і трох высокіх валоў. Пры раскопках аўтара ў 1967 г. у паўднёва-ўсходняй частцы гарадзішча выяўлены культурны пласт таўшчынёй 20—30 см. У ім знойдзена ляпная кераміка ад пасудзін з расчэсамі не пазней V—VI стст. і некалькі венчыкаў ад гаршкоў банцараўскай культуры трэцяй чвэрці I-га тысячагоддзя н. э.[35] У 1974 г. А. Р. Мітрафанаў даследаваў 168 м² плошчы гарадзішча. На мацерыку былі выяўлены два грунтавыя пахаванні-трупаспаленні. У першым пахаванні, акрамя дробных кальцыніраваных касцей, нічога не было. У другім пахаванні разам з перапаленымі касцямі чалавека і кавалкамі ад гаршкоў з добра выражанымі плечыкамі ляжалі два нанізаныя адно на другое скроневыя кольцы і двухшыпны ўтульчаты наканечнік стралы (мал. 36). Такія наканечнікі стрэл, якія шырока распаўсюджаны на заходнеславянскіх помніках Польшчы і Чэха-Славакіі, на тэрыторыі Беларусі з'явіліся не раней VII ст.

Навуковую каштоўнасць уяўляе раскапаная гаспадарчая яма. Яна мела яйкападобную форму. Даўжыня ямы 2,6 м, шырыня 2,15 м. На дне ямы знойдзены ляпны гаршчок з плечыкамі (мал. 36) і некалькі раструшчаных пасудзін. У гаршку знаходзіліся зярняты азімага жыта. У верхняй частцы ямы ляжаў жалезны наканечнік стралы ромбападобнай формы, якая часта сустракаецца на ўсходнеславянскіх помніках апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

У культурным пласце гарадзішча ля в. Свіла I знойдзены пасудзіны і гліняныя праслiцы, характэрныя для банцараўскай культуры (мал. 36). А. Р. Мітрафанаў зрабіў слушную выснову, што знаходкі з гарадзішча адлюстроўваюць працэс асіміляцыі балтамоўнага насельніцтва

славянамі. «Можна дапусціць, што і ўзнікненне гарадзішча было абумоўлена менавіта гэтым. Яго заснавалі крывічы як апорны пункт пры асваенні новых зямель»,— адзначаў даследчык [36]. Гарадзішча было пакінута крывічамі ў канцы IX ст. За 1,5 км ад гарадзішча размешчаны курганны могільнік, у якім захавалася 40 насыпаў. Курганы дыяметрам 15—16 м, вышынёй 1—1,5 м. Некаторыя насыпы падоўжаныя. Адзін курган вылучаецца значнымі памерамі і мае вышыню звыш за 3 м. У 1967 г. невялікі пашкоджаны курган быў абследаваны аўтарам. На



*Мал. 36. Свіла І, гарадзішча: 1 — наканечнік стралы з гаспадарчай ямы; 2 — двухшыпны наканечнік стралы; 3 — скроневыя кольцы з пахавання; 4, 5 — гліняныя прасліцы; 6 — гаршчок з гаспадарчай ямы*

мацерыку выяўлена попелавугальная праслойка. У ёй знойдзены перапаленыя косці і малыя кавалкі ад ляпнога гаршка з буйной жарствой у гліне, напэўна, IX — пачатку X ст. У 1974 г. быў раскапаны другі малы курган (дыяметр 5 м, вышыня 1 м). На глыбіні 0,8 м выяўлена старажытная дзённая паверхня. На ёй зафіксаваны дробныя вугольчыкі.

У сярэдзіне і трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на левабярэжжы Верхняга Нёмана, якое, відаць, знаходзілася на тэрыторыі Полацкай зямлі, пражывалі плямёны банцараўскай культуры. Да пахавальных помнікаў другой паловы 1-га тысячагоддзя адносіцца курганны могільнік каля в. Сосенка (Вілейскі раён), які апынуўся ў зоне будаўніцтва вадасховішча і быў вывучаны Я. Г. Звяругам. Могільнік з 23 курганоў,

круглых у плане, размяшчаўся на беразе Віліі. Курганы насыпаны на месцы селішча трэцяй чвэрці І-га тысячагоддзя. Абрад — трупаспаленне, якое праводзілася па-за месцам пахавання. У адным кургане — ад аднаго да трох трупаспаленняў.

У пяці курганах трупаспаленні былі змешчаны ў верхняй частцы насыпу непасрэдна пад дзірвановым слоем. У двух курганах знойдзена па адной спражцы з увагнутымі бакамі, у чацвертым — два біэсападобныя трымальнікі [37], у пятым — пласцінкавы бранзалет. У іншых курга-




*Мал. 37. Бельчыца. Курган 11 (1965 г.): 1—9 — знаходкі з культурнага слоя селішча; 10 — пацерка ў вочкі; 11 — восці з пахавання*

нах пахаванні зроблены на гарызонце. Трупаспаленні высыпаліся прама на грунт. У пяці пахаваннях кальцыніраваныя косці былі накрыты перавернутымі ўверх дном урнамі. Большасць пахаванняў безынвентарныя, у некаторых былі бронзавыя спіралькі, трапецападобныя падвескі. Знойдзена 6 гаршкоў, якія цалкам захаваліся [38]. Усе пасудзіны ляпныя з плечыкамі, па форме і прапорцыях блізкія да керамікі культуры доўгіх курганоў Віцебшчыны і Смаленшчыны апошняй чвэрці І-га тысячагоддзя. Згодна назіранням Я. Г. Звяругі, амаль увесь інвентар з раскопак курганоў каля в. Сосенка ідэнтычны комплексу рэчаў з курганнага могільніка Акатава на Смаленшчыне [39].

Аналагічныя помнікі крывічоў былі раней даследаваны каля в. Занарач (Мядзельскі раён). У адным з трох курганоў, якія раскапаў Ф. В. Пакроўскі ў 1895 г., былі два пахаванні: адно ў вяршыні, другое ў невялікай грунтавой ямцы пад насыпам. Рэшткі крэмацыі ў першым пахаванні змешчаны ў урне ўсечана-канічнай формы. У другім кургане пахаванне без інвентару знаходзілася пад дзірваном у насыпе [40].

Плённымі былі археалагічныя раскопкі паселішча крывічоў каля в. Мікольцы (Мядзельскі раён). Тут выяўлены наземныя зрубныя жытлы і паўзямлянкі, якія размяшчаліся ў два рады. Знойдзена шмат рэ-

чаў VI—IX стст., сярод якіх тры каўпачкападобныя падвескі [41]. Форма гэтых жаночых упрыгожанняў стандартная — асноўную частку складае «каўпачок» з полем, у якім зроблены тры адтуліны для прымацавання трапецападобных падвесак. Да гэтага часу было вядома дзевяць знаходак такіх упрыгожанняў (усе з курганоў Смаленскага Падняпроўя) [42]. Такія ўпрыгожанні толькі з чатырма адтулінамі знойдзены ў Люцынскім могільніку латгалаў [43].

Разгледжаныя помнікі каля вёсак Сосенка, Занарач, Мікольцы з'яўляюцца крайнімі пунктамі, якія вядомы на паўднёва-заходняй мяжы крывічоў-палачан. На захад ад гэтых пунктаў на тэрыторыі Астравецкага, Ашмянскага, Смаргонскага раёнаў Гродзенскай вобласці былі распаўсюджаны ўсходнелітоўскія курганы, відаць, аўкштайтаў (мал. 64).

На тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі не выяўлены доўгія валападобныя курганы. Аднак, па сцвярджэнню Я. А. Шмідта, у курганах Усходняй Літвы X—XI стст. (Стакай, Забожжа) прысутнічаюць гліняныя пасудзіны, падобныя гаршкам з доўгіх курганоў Смаленшчыны. Гэтыя пасудзіны ўвязваюцца з больш ранняй керамікай і з'яўляюцца як быццам далейшым развіццём формаў, якія ўзніклі ў VI—VII стст. У якасці прыклада Я. А. Шмідт называе пасудзіны з курганоў Кармазіны каля Тракая, дзе раскопкі праводзіла А. Галубовіч [44]. Калі гэта сапраўды так, дык Мядзельшчына з'яўляецца краем, дзе павінна было адбывацца фарміраванне ранніх крывічоў, што можна яшчэ раз пацвердзіць матэрыяламі з раскопак паселішча Мікольцы, курганоў ля вёсак Занарач і Сосенка.

Пытанне пра паселішчы крывічоў ва Усходняй Літве падымалася ў літаратуры. Як меркаваў У. Галубовіч у выніку праведзеных ім археалагічных раскопак, такім пунктам быў у XI—XII стст. Крывы горад на тэрыторыі Вільні (Вільнюса) [45]. У Вільнюсе А. Таутавічус пры раскопках Ніжняга замка (1964 г.) знайшоў культурны пласт таўшчынёй 25—30 см, у якім была кераміка дзвюх розных груп: з шурпатай («аблітой») паверхняй і гладкасценная, характэрная для сярэдзіны і другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. [46] Кераміка з «аблітой» паверхняй лічыцца балцкай. Што датычыць гладкасценных пасудзін, складана гаварыць, да якой культуры яны адносяцца, тым больш, што адсутнічае падрабязная публікацыя выяўленых на Ніжнім замку матэрыялаў. Некаторыя пасудзіны з раскопак археалагічных помнікаў у Літве нагадваюць гладкасценныя прысадзістыя ляпныя гаршкі з плечыкам з курганоў Паўночнай Беларусі [47].

У другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. насельніцтва культуры доўгіх курганоў па леваму берагу Заходняй Дзвіны пранікае ў паўночна-заходнія раёны Беларусі. Пра гэта сведчаць курганныя могільнікі з падоўжанымі і доўгімі насыпамі (Рацкі Бор, Бяльмонты, Ігналіна і інш.) і пахавальны інвентар, праўда, бедны, які ў іх быў знойдзены. Пра складаны этнічны працэс, які тут адбываўся ў раннім сярэднявеччы, слушна піша Л. У. Дучыц [48]. Гэта выснова была яшчэ раз пацверджана ў выніку вывучэння грунтавога могільніка каля в. Казлоўцы (Міёрскі раён). Было выяўлена два тыпы пахаванняў — крэмацыя (два пахаванні) і інгумацыя (сем касцякоў). Знойдзены шкілет каня ў яме з вуголлем. Сярод пахавальнага інвентару драцяныя бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, шкляныя пацеркі, грушападобныя бразготкі [49]. Ёсць рэчы, якія часта сустракаюцца ў пахаваннях балтаў: спіральны пярсцёнак, вітая (тардзіраваная) грыўня, літыя бронзавыя бранзалеты з зааморфнымі канцамі, пласцінкавы бранзалет з пашыранымі канцамі. Грунтавы могільнік сведчыць пра

змешанае балта-славянскае насельніцтва паўднёвага захаду Беларускага Падзвіння.

На суседняй тэрыторыі Усходняй Латвіі таксама перамяшаліся розныя этнічныя групы, у тым ліку балцкія і славянскія. Латышскія археолагі выявілі на ўсходняй ускраіне Латвіі 23 курганныя могільнікі другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э., якія адрозніваюцца ад грунтавых і каменных могільнікаў мясцовага насельніцтва латгалаў. Доўгія і падоўжаныя курганы з трупаспаленнямі на тэрыторыі Усходняй Прыбал-




*Мал. 38. Ляпная кераміка: 1 — Дарахі 1 (к. 5, п. 1); 2 — Лятохі (к. 5); 3 — Гаравыя (к. 22); 4 — Глівін 1 (к. 2)*

тыкі, як мяркуюць археолагі, існавалі ў другой палове 1-га тысячагоддзя н. э.[50] Інтэнсіўнае рассяленне крывічоў на паўднёвым усходзе Латвіі лічыцца адной з прычын, якая выклікала пераход латгалаў на поўнач, у раёны, якія раней былі заселены прыбалтыйскімі фінамі[51]. Такое меркаванне здаецца верагодным. Археалагічныя даныя пацвярджаюцца лінгвістычнымі, антрапалагічнымі, этнаграфічнымі і фальклорнымі данымі. Латышы ўсходніх славян называюць «крыві» ці «крыева» (ад слова «крывічы»)[52].

Крывічы ў раннім сярэднявеччы праніклі на тэрыторыю Усходняй Эстоніі. Археалагічныя і тапанімічныя факты не заўсёды знаходзяць аднолькавае тлумачэнне. Адны эстонскія археолагі (старэйшага пакалення) звязвалі з'яўленне на паўднёвым усходзе Эстоніі культуры доўгіх курганоў з перамяшчэннем на поўнач у асяроддзе эстонскіх плямё-

наў славянскага насельніцтва — крывічоў [53]. Другія даследчыкі сцвярджаюць, што доўгія і сінхронныя ім круглыя курганы ўсёй пскоўскай групы пакінуты мясцовым чудскім насельніцтвам [54]. На думку М. Э. Аун, гэтыя помнікі з'явіліся не ў выніку пранікнення сюды прыйшоўшага насельніцтва, а ў сувязі з пераходам карэннага насельніцтва да новага звычая пахавання [55]. Аднак нельга пагадзіцца з поўным выключэннем пры характарыстыцы помніка ўплыву на змяненне ў пахавальным абрадзе новага насельніцтва, з'яўленне якога адлюстравана ў лек-




*Мал. 39. Глінішча. План кургана 12: 1—6 — месцы размяшчэння рэчаў, а — дзірван; б — пясок; в — перапаленыя косці; г — вугаль; д — кераміка; е — гумус; ж — мацярык. План кургана 14*

сіцы (выpускі дыялект) паўднёва-ўсходняй Эстоніі. Як сцвярджаюць некаторыя эстонскія даследчыкі, выpускі дыялект успрыняў шмат славянскіх элементаў [56].

У апошнія гады стала вядомым, што агульная мяжа культуры доўгіх курганоў праходзіць значна далей на паўночны ўсход, чым лічылася да гэтага часу. Помнікі распаўсюджаны да вярхоўяў рэк Сясі і Малогі ў Валагодскай вобласці. Увогуле арэал культуры доўгіх курганоў у паўночнай сваёй частцы супадае з тэрыторыяй распаўсюджання сопкападобных насыпаў [57]. Аднак пытанне пра суадносіны доўгіх курганоў і пахавальных сопак выходзіць за межы даследавання. На тэрыторыі Беларусі не атрымалі распаўсюджання пахавальныя помнікі тыпу сопак IX—X стст., якія ў вялікай колькасці вядомы на паўночным захадзе еўрапейскай часткі Расіі [58].

У Беларускім Падзвінні ў пахавальным абрадзе помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э. і помнікаў чацвёртай чвэрці, якія з'яўляюцца дзвюма стадыямі існавання культуры доўгіх курганоў, назіраецца нямала агульных рысаў. Няма істотнай розніцы ў тапаграфіі

курганных могільнікаў, доказам чаму з'яўляюцца могільнікі VI—X стст., размешчаныя на невялікай адлегласці адзін ад другога на беразе воз. Сенніца (мал. 9). Падоўжаныя і круглыя ў плане насыпы дзвюх стадый па знешняму выгляду часта маюць падабенства. Трупаспаленне праводзілася па-за межамі таго месца, дзе потым насыпаўся курган, ці на месцы яго ўзвядзення, пахаванні змяшчаліся ў ямках ці на пляцоўках (роўнай паверхні), былі бязурнавыя і урнавыя.

Істотнай асаблівасцю кургаоў другой стадыі з'яўляецца тое, што рэшткі крэмацыі накрываліся перавёрнутым уверх дном гаршком. Пачатак гэтай традыцыі назіраецца ў курганах першай стадыі, што зафіксавана ў самых старажытных курганах Павалішынскага могільніка каля в. Янкавічы, дзе выяўлены пахаванні, якія былі накрыты перавёрнутымі слабапрафіляванымі гаршкамі (мал. 5). Сярод кальцыніраваных касцей разам з рэшткамі шкілетаў людзей прысутнічаюць косці жывёлы. У пахавальным інвентары назіраюцца адрозненні, што можна растлумачыць як храналагічнымі змяненнямі, так і прытокам новых груп насельніцтва, якое змешвалася з абарыгенамі.

Напрамкаў рассялення і перасялення славян у другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. на тэрыторыі Беларусі магло быць некалькі з розных бакоў, аднак галоўным быў іх рух з поўдня ў Верхняе Падняпроўе.

# 4

# Абрад пахавання і інвентар курганоў XI–XII стст.



арактэрная асаблівасць размяшчэння курганоў у могільніках усходніх славян — скучанасць пахавальных насыпаў, якія размешчаны блізка адзін да другога і зрэдку нават зліваюцца асновамі.

На тэрыторыі Віцебскай вобласці можна адзначыць 82 курганныя могільнікі, у якіх выяўлены абрад пахавання (табл. 1). Пры даследаваннях знойдзена крэмацыя ў 23 могільніках, што складае 28,4% ад агульнай колькасці вывучаных помнікаў. У 34 могільніках (40,74%) зафіксавана інгумацыя. У 25 курганных могільніках (30,86%) змешаны абрад пахавання: у адных курганах выяўлены трупаспаленні, у другіх — трупапалажэнні. Курганы, у якіх спалучаюцца абодва абрады, сустракаюцца рэдка. Часам здаралася, што ў гатовы насып з крэмацыяй уключана больш позняе трупапалажэнне. Каля в. Плусы ў кургане выяўлены два розначасовыя пахаванні. Верхняе трупапалажэнне (XI ст.) зроблена ў гатовым насыпе. Ніжэй на гарызонце — другое пахаванне па абрадзе крэмацыі. У попелавугальнай праслойцы вылучаюцца дзве плямы з вуголлем і перапаленымі касцямі [1]. Гэта пахаванне, напэўна, парнае X ст. У Дарахах (курганны могільнік V) устаноўлена, што курган 2 узводзіўся ў X ст. і не змяшчаў пахавання таго часу. Насып гэтага падоўжанага кургана быў выкарыстаны пазней для пахаванняў. Ямы пахаванняў выяўлены ў профіле насыпу (мал. 69). На ўзроўні гарызонту знойдзены адно мужчынскае і два жаночыя трупапалажэнні. Паводле інвентару, пахаванні адносяцца да X ст.

Даследаваныя курганы XI—XII стст. у плане круглыя, па форме паўсферычныя, падобныя на круглыя насыпы ранейшых перыядаў. Могільнікі размешчаны на роўных сухіх мясцінах, звычайна недалёка ад вадаёма, таму што каля рэк і азёр знаходзіліся паселішчы, з якімі могільнікі звязаны. Нярэдка курганы насыпаліся на месцы папярэдніх ім селішчаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (Плусы, Дарахі V, Вышадкі, Слабодка I).

Колькасць курганоў у могільніку розная. Каля в. Захарнічы ў могільніку, які добра захаваўся, налічваецца 15 курганоў, каля в. Вышадкі прыкладна 200 курганоў (мал. 71). Звычайна могільнікі XI—

XII стст. змяшчаюць больш курганоў (70—80 насыпаў), чым курганныя групы папярэдніх часоў (15—20 насыпаў). Напэўна, у вялікім курганным могільніку пахаваны жыхары некалькіх суседніх паселішчаў, якія ўваходзілі ў адну абшчыну.

Скапленне курганоў зафіксавана ў басейне Ушачы на поўдзень ад Полацка, што сведчыць пра шчыльнае засяленне гэтага раёна Полацкай зямлі. Каля в. Матырына знаходзяцца два могільнікі, у якіх налічваецца адпаведна 129 і 69 курганоў. Іх сярэдняя вышыня 1—2 м, але




*Мал. 40. Плусы. План курганнага могільніка на беразе воз. Суя з абазначэннем даследаваных насыпаў*

ёсць насыпы да 4 м. Навокал Лясных азёр звыш за 100 курганоў [2] вышынёй 1—4 м. Параўнаўча добра даследаваны могільнікі ля в. Пуцілкавічы, дзе раскапана 36 курганоў з трупапалажэннямі на гарызонце, некаторыя касцякі размешчаны ў ямках [3].

Вялікія курганныя могільнікі да гэтага часу захаваліся ў Лепельскім раёне, на поўдзень ад басейна р. Ушачы. Курганны могільнік каля в. Ворань налічвае 110 насыпаў вышынёй ад 0,5 да 4 м, каля в. Домжарыцы 205 курганоў, навокал в. Красналучка захавалася прыкладна столькі ж курганоў, размешчаных у трох месцах.

На мяжы X—XI стст. у пахавальных помніках Беларускага Падзвіння, як і на іншых тэрыторыях Усходняй Еўропы, атрымлівае распаўсюджанне інгумацыя. З трупапалажэннямі XI—XII стст. раскапана 256 курганоў (табл. 1). У 103 курганах (42,2%) касцякі знаходзіліся ў аснове насыпу, з іх 51 на попелавугальным пласце таўшчынёй 10—20 см, які ўяўляе сабой змешаныя попел, вугаль і пясок. У астатніх 52 курганах пахаванні былі на чыстым грунце.

У 121 выпадку зафіксаваны трупапалажэнні ў ямах пад курганамі. Ямы ў плане прамавугольныя з закругленымі вугламі. Іх даўжыня ў асноўным 1,8—2,5 м, шырыня 1,2—1,5 м, глыбіня ад 0,5 да 1,1 м.

У шэрагу выпадкаў выяўлена, што спачатку гарызонт абпальваўся, затым выкопвалася яма, у якую клаўся нябожчык. Такія пахаванні да-

следаваны аўтарам у курганным могільніку каля в. Захарнічы (мал. 45, 2—24).

Трупапалажэнні ў насыпе, якія знаходзяцца на спецыяльнай падсыпцы вышынёй прыкладна 0,5 м, у Падзвінні рэдкія (7,38%). Яшчэ радзей сустракаюцца пахаванні, зробленыя пазней у гатовым насыпе.

Сляды дрэва ў пахаваннях, што можа ўказваць на наяўнасць дамавіны, выяўляюцца нячаста. Дамавіна — драўлянае пахавальнае збудаванне, у якой, як лічаць некаторыя даследчыкі, заключана ідэя жылля, дома.




*Мал. 41. Вышадкі. 1 — план кургана 1; 2 — план кургана 2*

Прыкметы выкарыстання дамавін у большасці выпадкаў ускосныя. У курганах каля в. Ізбішча Лагойскага раёна адваліўшыяся скіўіцы ў шкілетаў сведчаць пра наяўнасць першапачаткова пустаты ў пахаванні, куды затым, калі струхлела дамавіна, прасыпалася зямля.

У Вышадках, Плусах абрысы дамавін выразна прасочваліся ў падкурганнай яме (мал. 73). Відаць, дамавіны былі прамавугольныя.

Пра драўляныя дамавіны, якія знаходзіліся ў пахаваннях, можна меркаваць па знаходках жалезных цвікоў. Іх параўнаўча нямнога (Лукомль, Закур'е, Заслаўе). У кургане каля Лукомля вакол касцяка ля галавы і ступняў ног знойдзена 11 цвікоў даўжынёй 10—11 см, верагодна ад труны. У Закур'і ў кургане 2 (5) былі чатыры цвікі каля ног і галавы. Іх даўжыня 11—12 см, у папярэчным разрэзе яны амаль прамавугольныя (мал. 42, 12) . Варта зазначыць, што ў могільніку каля Ізбішча, дзе даследавана 108 курганоў, жалезных цвікоў наогул не выяўлена.

Неабходна прыгадаць для параўнання, што ў Мінску на замчышчы раскапана звыш за 20 дамавін пачатку XIII ст., якія вельмі добра захаваліся. Яны рабіліся з тоўстых дошак, што замацоўваліся з дапамогай пазоў і драўляных планак з выразамі. Зрэдку дамавіны абклада-

ліся берастай. Жалезныя цвікі зусім не ўжываліся [4]. Варта пагадзіцца з меркаваннем, што ўжыванне цвікоў з'яўлялася патрабаваннем пахавальнага абраду [5]. Калі гэта сапраўды так, то ў полацкіх крывічоў такая дэталь абраду назіраецца рэдка.

У большасці даследаваных курганоў на Віцебшчыне рэштак драўляных збудаванняў не выяўлена. Дамавіны, зробленыя без цвікоў, маглі поўнасцю знікнуць. Аднак частка памёршых, відаць, хавалася без дамавін.




*Мал. 42. Закур'е. 1, 2, 10, 14, 15 — знаходкі з мужчынскага пахавання (к. 5); 3, 4—9, 11, 12, 13 — рэчы з жаночага пахавання (к. 6)*

Такая ж з'ява назіраецца ў іншых месцах на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Нябожчыкаў маглі заварочваць у саваны ці накрываць тканінай [6]. Для гэтай мэты магла выкарыстоўвацца бяроста. У Мінску берастай абкладвалі крышкі дамавін [7].

А. Галубовіч і У. Галубовіч насуперак меркаванням іншых археолагаў прыйшлі да высновы, што курганы з трупапалажэннямі ў ямах няправільна лічыць больш познімі ў параўнанні з пахаваннямі на грунце ў аснове кургана. З раскапаных імі ў басейне Дзісны 77 курганоў з трупапалажэннямі XI—XII стст. толькі ў васьмі былі касцякі на гарызонце, ва ўсіх іншых яны знаходзіліся ў падкурганных ямах [8]. Раскопкі ў Захарнічах, Плусах і іншых месцах паказваюць, што пахаванні ў ямах (спачатку неглыбокіх) праводзіліся сапраўды ўжо ў першай палове XI ст., калі быў шырока распаўсюджаны абрад пахавання на гарызонце.

Для характарыстыкі пахавальных археалагічных помнікаў істотнае значэнне мае пытанне арыенціроўкі памёршых галавой на захад ці ў іншых напрамках. У Беларускім Падзвінні маецца дакладны матэрыял са 154 пахаванняў. Большасць трупапалажэнняў у курганах арыентавана галавой на захад (уключаючы паўночны захад і паўднёвы захад). Адпаведна зробленаму статыстычнаму падліку яны складаюць 81,82%.

Заходняя арыенціроўка нябожчыкаў, як вядома, характэрная для ўсіх усходнеславянскіх плямёнаў. Яна тлумачыцца ўсведамленнем рэлігійнай ідэі, паводле якой замагільны свет знаходзіўся ў баку захаду сонца, куды накіроўваюцца душы нябожчыкаў [9].

Трупапалажэнні з усходняй арыенціроўкай (уключаючы паўночна-ўсходнюю) складаюць 11,04%. Верагодна, на тэрыторыі Беларусі гэтая з'ява абумоўлівасцца ўплывам балцкай пахавальнай абраднасці, як лічыць В. В. Сядоў [10]. На другіх тэрыторыях аналагічная з'ява можа тлумачыцца па-іншаму [11].

Курганы з мерыдыяльнымі трупапалажэннямі складаюць 6,50%. Калі ў іх таксама бачыць субстратную з'яву, дык варта меркаваць пра ўплыў фіна-угорскай пахавальнай абраднасці, для якой характэрна паўночная арыенціроўка пахаваных [12].

Для параўнання варта нагадаць адпаведныя даныя, выяўленыя пры




*Мал. 43. Домжарыцы. Трупапалажэнне ў курганах: 1 — курган 3; 2 — курган 4; 3 — курган 5; 4 — курган 6; 5 — курган 7; 6 — курган 8; 7 — курган 9; 8 — курган 10; 9 — курган 11; 10 — курган 12*

Т а б л і ц а 6. **Віды трупапалажэнняў у курганах**

| Могільнік | Віды і дэталі пахаванняў | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | у яме | у аснове насыпу | | у насыпе | упускныя | прыкметы дамавіны | |
| | | на мацерыку | на попельнай праслойцы | | | | |
| Абрамава | 10 | | | | | | 10 |
| Аўсянікі | | | 3 | 1 | | | 4 |
| Банонь | | | 1 | | | | 1 |
| Бароўна | | 3 | | | | | 3 |
| Бельчыца | 3 | 1 | | | | × | 4 |
| Браслаў | | 4 | | | | × | 4 |
| Вышадкі | 8 | 1 | | | | × | 9 |
| Гарадзец | | | 1 | | | | 1 |
| Глінішча | | 1 | | | | | 1 |
| Дарахі | | 2 | 7 | 1 | 4 | | 14 |
| Двор Саланевічы | | 4 | 1 | | | | 5 |
| Дзянісенкі | | 1 | | | | | 1 |
| Домжарыцы | 10 | 2 | | | | | 12 |
| Забор'е | 1 | | | | | | 1 |
| Загор'е | | 4 | 6 | | | | 10 |
| Закур'е | 2 | 1 | 1 | | | × | 4 |
| Залессе | | 1 | | | | | 1 |
| Захарнічы | 4 | | | | | × | 4 |
| Зашчырына | | 6 | | | | × | 6 |
| Кастрыца | | 3 | | 1 | | | 4 |
| Кахоўка | | | 1 | 5 | | × | 6 |
| Кублічы | | 1 | 1 | | | | 2 |
| Кублішчына | | | 12 | | | | 12 |
| Лісна | 6 | | | | | | 6 |
| Лукомль | | | | 5 | 1 | | 6 |
| Лясная | | | 7 | | | | 7 |
| Малое Сітна | | 1 | | | | | 1 |
| Мацюшына Сцяна | | 1 | | | 2 | | 3 |
| Опса | | 1 | | | | | 1 |
| Плусы | 6 | | | | 1 | | 7 |
| Паддубнікі | | | 2 | | | | 2 |
| Пуканаўка | | | 2 | | | | 2 |
| Пуцілкавічы | 6 | 1 | | | | | 7 |
| Пышна | | 1 | | | | | 1 |
| Рудня (Полацкі р-н) | | 1 | | | | | 1 |
| Слабодка I | | 1 | | | | | 1 |
| Слабодка II, III | | | 6 | 2 | | | 8 |
| Славені | | 1 | | 1 | | | 2 |
| Спіцы | | 2 | | | | | 2 |
| Старое Сяло | | 2 | | 2 | | | 4 |
| Ствольна | 2 | | | | | | 2 |
| Чабаны | 6 | | | | | | 6 |
| Чарневічы | 42 | 3 | | | | | 45 |
| Шалтэні | | 1 | | | | | 1 |
| Шо | 15 | 1 | | | | | 16 |
| | 121 | 52 | 51 | 18 | 8 | | 256 |

вывучэнні курганных могільнікаў у верхнім цячэнні Свіслачы ў паўднёвай частцы Полацкай зямлі. У курганных могільніках Заслаўя (Мінскі раён) пераважае заходняя арыенціроўка касцяка (68%), аднак у ранніх могільніках II, III яна крыху перавышае палову ўсіх пахаванняў (53,8%), а ў больш позніх могільніках V, VI складае 80%. Усходняя арыенціроўка ў значнай колькасці прысутнічае ў ранніх могільніках II, III — 35,7% пахаванняў, з якіх большасць мужчынскія. Мерыдыяльная, а таксама паўднёва-ўсходняя, паўднёва-заходняя і паўночна-

заходняя арыентацыя складае ад агульнай колькасці пахаванняў 1,8—5,45% [13]. Прыведзеная статыстыка арыенціроўкі пахаванняў, узрастанне колькасці нябожчыкаў з заходняй арыенціроўкай у больш позніх курганах, калі колькасць славянскага насельніцтва павялічвалася, сведчаць на карысць гіпотэзы, што ўсходняя арыенціроўка памёршых мае вытокам звычаі балтаў.

Ва ўсіх курганах, якія раскапаны на тэрыторыі Полацкай зямлі, звычайна касцякі ляжаць на спіне. Палажэнне рук памёршых мае многа




*Мал. 44. Домжарыцы: 1 — план кургана 3; 2 — план кургана 10, а — дзірван, б — пявок, в — распалажэнне знаходак, г — грунт*

варыянтаў: абедзве рукі выцягнуты ўздоўж тулава, адна рука выцягнута ўздоўж тулава, другая — ляжыць на жываце ці ў нізе жывата на тазавых касцях, абедзве рукі складзены на жываце, адна рука выцягнута ўздоўж тулава, кісць другой — каля падбародка, кісці дзвюх рук — каля падбародка (характэрны для балтаў звычай), дзве рукі складзены на грудзях (хрысціянскі звычай) і інш. Падобнае палажэнне рук адзначана ў іншых усходнеславянскіх плямён, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі [14].

Для нашчадкаў полацкіх і смаленскіх крывічоў XI—XII стст. характэрны пэўны тып жаночых упрыгожанняў — скроневыя бранзалетападобныя кольцы. Дыяметр кольцаў 5—11 см. Пскоўскія крывічы гэтымі ўпрыгожаннямі не карысталіся.

Вучоныя картаграфіравалі скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, акрэслілі тэрыторыю крывічоў [15]. Уяўленне пра два камплекты скроневых кольцаў крывічоў (12 штук) дае другі гараўлянскі скарб, знойдзены ў Глыбоцкім раёне [16]. Варта адзначыць, што скроневыя кольцы з завязанымі канцамі знойдзены пры раскопках дзядзінца Полацка. Крывіцкія скроневыя кольцы — частая знаходка ў курганах, даследаваных на тэрыторыі былога ўдзельнага Друцкага княства [17].

Жаночыя ўпрыгожанні ў курганах Полацкай зямлі даволі разнастайныя. Шыйныя маністы ўключаюць розныя, пераважна шкляныя, радзей сердалікавыя пацеркі. Нярэдка іх бывае ў пахаванні да 100 штук.

У Ізбішчы даследаваны курган, у якім было каля 600 пацерак. У Чарневічах пацеркі, нанізаныя ў некалькі радоў на ніткі, утваралі прыгожае маніста жоўтага колеру (мал. 8). У маніста з пацерак уключаліся металічныя падвескі, некаторыя зроблены з сярэбраных манет. У багатых пахаваннях упрыгожанне з маністаў дапаўнялася металічнай грыўняй (мал. 46). На руках пахаваных часта бываюць бранзалеты і пярсцёнкі.

У жаночых пахаваннях сустракаюцца нажы, якія знаходзіліся каля пляча, і гліняныя пасудзіны, зрэдку оўруцкія прасліцы.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што ўсходнеславянскае насельніцтва Паўночнай Беларусі захоўвала ў X—XI стст. пэўныя балцкія традыцыі ў матэрыяльнай культуры і было цесна звязана з плямёнамі ўсходняй Прыбалтыкі. Гэта прасочваецца на прыкладзе так званых змеегаловых бранзалетаў (мал. 56, 7), якія знойдзены на шэрагу пом-




*Мал. 45. Рэчы з курганоў XI ст.: 1 — з кургана ў в. Палучча; 2—24 — з курганоў каля в. Захарнічы*

Таблiца 7. **Арыенціроўка курганных пахаванняў па краінах свету**

| Могільнік | Арыенціроўка касцякоў | | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | З | ПнЗ | ПдЗ | Пн | ПнУ | У | Пд | |
| Абрамава | 4 | | | | | | | 4 |
| Аўсянікі | | 4 | | 1 | | | | 5 |
| Браслаў | | | 1 | | 1 | | 1 | 3 |
| Вышадкі | 7 | | | | | | 1 | 8 |
| Гарадзец | 1 | | | | | | | 1 |
| Глінішча | 1 | | | | | | | 1 |
| Дарахі | 12 | | | 2 | | | | 14 |
| Двор Саланевічы | 2 | | | 1 | | | | 3 |
| Дзянісенкі | 1 | | | | | | | 1 |
| Домжарыцы | 11 | | 1 | | 1 | | 1 | 14 |
| Забор'е | 1 | | | | | | | 1 |
| Загор'е | 5 | | | | | | | 5 |
| Закур'е | 2 | | | 1 | | | | 3 |
| Захарнічы | 4 | | | | | | | 4 |
| Кастрыца | 1 | 2 | | | | | | 3 |
| Кахоўка | 4 | | | | | | | 4 |
| Кублічы | 2 | | | | | | | 2 |
| Кублішчына | 9 | | 3 | | | | | 12 |
| Кузьмаўшчына | 1 | | | | | | | 1 |
| Лісна | 6 | | | | | | | 6 |
| Лукомль | 3 | | 2 | | | | | 5 |
| Лясная | 4 | | | | | 2 | | 6 |
| Малое Сітна | | | | 1 | | | | 1 |
| Опса | | | | | | 1 | | 1 |
| Плусы | 2 | | 1 | 2 | | | | 5 |
| Пуканаўка | 1 | | | | | | | 1 |
| Пуцілкавічы | 9 | | | | 4 | 6 | | 19 |
| Рудня | | 1 | | | | | | 1 |
| Слабодка II, III | 3 | 2 | | | | | | 5 |
| Славені | | 2 | | | | | | 2 |
| Чарневічы | 13 | 2 | | 1 | | | | 16 |
| Шалтэні | 1 | | | | | | | 1 |
| | 110 | 13 | 8 | 9 | 6 | 9 | 3 | 160 |

нікаў Полацкай зямлі (Браслаў, Кублічы, Парэчча, Плусы, Наўры, Багрынава, Лагойск, Чарневічы і інш.). Найбольшая колькасць такіх бранзалетаў выяўлена ў міжрэччы Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, у вярхоўях Пцічы [18]. Даволі часта разам з такімі бранзалетамі выяўлены другія знаходкі прыбалтыйскіх тыпаў: латгальскія галаўныя ўпрыгожанні, складзеныя са спіралек (мал. 7), асобныя тыпы шыйных грыўняў, спіралевідныя пярсцёнкі, трапецападобныя падвескі. Балцкія элементы ў некаторых курганах настолькі значныя, што можна меркаваць аб захаванні невялікіх астравоў балцкага насельніцтва ў пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. [19]

У раннім сярэдневякоўі на тэрыторыі Полацкай зямлі шырока былі распаўсюджаны металічныя падкowападобныя фібулы. Паколькі такія вырабы ў старажытнасцях балтаў з'яўляюцца некалькі раней, чым у славян, у вялікай колькасці прадстаўлены многімі варыянтамі, прынята лічыць, што землі балтаў былі першай галіной вырабу і развіцця гэтага тыпу ўпрыгожанняў. На тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі знойдзена звыш за 2500 экземпляраў падкowападобных фібул, якія тыпалагічна падраздзяляюцца на пяць асноўных груп: 1) са спіральна загнутымі канцамі; 2) з гранёнымі гузікамі на канцах; 3) з макападобнымі канцамі; 4) з патоўшчанымі і расшыранымі канцамі; 5) з канцамі ў выглядзе звярынай галавы [20]. Фібулы ўсіх пералічаных тыпаў




*Мал. 46. Ізбішча. Комплекс знаходак з багатага пахавання жанчыны (узрост 25 год) у кургане 43 канца X — пачатку XI ст. (раскопкі В. У. Казея, 1987 г.)*

знойдзены на тэрыторыі Полацкай зямлі пры раскопках пахаванняў і старажытных гарадоў.

Самы распаўсюджаны тып фібул у курганах — бронзавыя вырабы са скручанымі ў выглядзе спіралі канцамі. Яны маюць рознае сячэнне: круглае, авальнае, трохвугольнае, ромбападобнае. Асобныя варыянты фібул паступалі ў Полацкую зямлю ў выніку гандлю. Аднак большасць, асабліва спіралеканцавых, выраблялісся, відаць, на месцы.

У курганах X—XI стст. сустракаюцца зусім незвычайнага тыпу




*Мал. 47. Манетападобныя скроневыя кольцы XI ст. з раскопак курганоў: 1—6 — Абрыцкая Слабада (Мінскі раён); 7—8 — Стахаўшчына (Барысаўскі раён). Раскопкі Ю. В. Шавельскага. Матэрыялы ў Эрмітажы*

скроневыя кольцы. Такое кальцо знойдзена ў кургане каля в. Лясная. Выраб мае выгляд круглай бляхі з дугападобнай іголкай для падвешвання. На бляшцы адлюстраванні невялікіх канцэнтрычных акружнасцей [21]. Падобны выраб знойдзены на гарадзішчы Пруднікі ў тым жа Міёрскім раёне [22]. Два скроневыя кальцы, зробленыя адным майстрам, выяўлены ў Латвіі. Э. С. Мугурэвіч адзначае, што, паколькі такое кальцо выяўлена ў Старой Ладазе, манетападобныя скроневыя кольцы маглі трапляць ва Усходнюю Латвію з Прыладажжа [23].

Колькасць такіх знаходак намнога большая, ёсць экземпляры, да гэтага часу не надрукаваныя. У Эрмітажы захоўваюцца матэрыялы з раскопак, якія праводзіў у цэнтральнай Беларусі археолаг Ю. В. Шавельскі (1915 г.). Сярод іх ёсць восем экземпляраў падобных вырабаў, якія былі выяўлены ў курганах Абрыцкая Слабада каля Мінска і маёнтка Стахаўшчына (в. Малы Стахаў) каля Барысава [24]. Напэўна, у беларускіх землях была наладжана вытворчасць такога тыпу ўпрыгожанняў (мал. 47). Тое ж самае можна сказаць пра шыйныя грыўні з падвешанымі да іх бразготкамі, якія былі знойдзены Ю. В. Шавельскім у гэтых месцах (мал. 48).

У курганах Полацкай зямлі зрэдку трапляюцца эсаканечныя кольцы. Яны знойдзены ў Заслаўі, Слабодцы III, Ізбішчы (мал. 3). Такія скроневыя кольцы былі распаўсюджаны ў XI—XII стст. у дрыгавічоў

і радзімічаў, да якіх трапілі ў выніку міграцый насельніцтва з захаду, з тэрыторыі Польшчы, і, верагодна, з поўдня, з абласцей рассялення валынян, палян, драўлян [25].

Інвентар мужскіх пахаванняў бяднейшы, чым жаночых. Але тут часцей сустракаюцца прылады працы. У некаторых могільніках частай знаходкай з'яўляюцца сякеры (Заслаўе, Ізбішча). У Ізбішчы выяўлена 26 жалезных сякер. Каля пояса пахаванага знаходзіўся нож і падковападобная фібула. У мужчынскіх пахаваннях, таксама як і ў жаночых,



*Мал. 48. Бронзавая шыйная грыўня XI ст. з раскопак кургана каля в. Абрыцкая Слабада ў 1915 г. (Эрмітаж)*

часта бываюць гаршкі. Зрэдку памёршаму клалі зброю, што пацвярджаецца знаходкамі наканечнікаў дзідаў і стрэлаў, а таксама рыбалоўныя прыстасаванні (знаходкі восцяў) і сярпы.

Як ужо адзначалася вышэй, гліняны посуд бывае ў мужчынскіх і жаночых пахаваннях. Даныя асноўных вымярэнняў 16 ганчарных пасудзін з курганоў канца X—XI ст. прыводзяцца ў табліцы 8. У большасці гаршкоў назіраецца змяншэнне вышыні плечыка ці найбольшага пашырэння ($H_1 : H = 0{,}61—0{,}67$), радзей гэты паказчык роўны 0,73—0,74 і 0,59. Павялічваецца «плячыстасць» пасудзін. У 64,7% даследаваных экземпляраў $Д_3 : Д_2 = 1{,}20—1{,}35$. У асобных гаршкоў з Глінішча, Дарахоў, Банові «плячыстасць» меншая ($Д : Д_2 = 1{,}07—1{,}09$). Ёсць падстава гаварыць пра пераемнасць паміж гэтай ганчарнай керамікай і ляпнымі «плячыстымі» гаршкамі VIII—IX стст., якія ўжо разглядаліся.

Клеймы на днішчах гаршкоў сустракаюцца рэдка. Па сутнасці, толькі на адным гаршку з кургана каля в. Плусы змешчана выразнае клеймо ў выглядзе пялёсткавай разеткі (мал. 56, 16).

Нажы, выяўленыя ў курганах X—XI стст. (Глінішча, Плусы, Закур'е, Слабодка), вырабляліся па тэхналогіі трохслойнага пакета з наступнай тэрмаапрацоўкай. Сустракаюцца вырабы з уваранай сталёвай працоўнай часткай у двухпалоснае жалезнае лязо, таксама з наступнай закалкай (Плусы). Некаторыя экземпляры рабіліся, як і ў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. (Лужасна), з нераўнамерна навугляроджанага

Табліца 8. **Асноўныя вымярэнні кругавога посуду з курганоў X—XI стст.**

| Могільнік | № кургана | Н | $Н_1$ | $Д_1$ | $Д_2$ | $Д_3$ | $Д_4$ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Банонь | 2 | 9,40 | 6,20 | 10,10 | 10,50 | 11,53 | 6,55 |
| Банонь | 7 | 10,70 | 6,60 | 11,20 | 9,30 | 12,29 | 7,60 |
| Глінішча | 1 | 8,50 | 5,60 | 8,90 | 8,53 | 9,17 | 6,20 |
| Глінішча | 2 | 12,20 | 8,10 | 11,55 | 11,11 | 14,10 | 6,80 |
| Дарахі V | 4 | 9,95 | 7,30 | 11,55 | 11,21 | 12,19 | 6,80 |
| Домжарыцы | 2 | 10,10 | 6,30 | 9,30 | 8,59 | 11,62 | 6,00 |
| Домжарыцы | 6 | 10,80 | 6,30 | 12,45 | 11,50 | 14,10 | 8,40 |
| Забор'е | 1 | 11,80 | 7,80 | 13,50 | 12,26 | 14,71 | 7,40 |
| Кастрыца | 1 | 8,70 | 5,80 | 9,25 | 8,75 | 10,54 | 5,50 |
| Плусы | 1 | 10,50 | 7,00 | 10,10 | 9,17 | 11,34 | 6,00 |
| Плусы | 4 | 8,40 | 5,50 | 9,40 | 8,59 | 10,50 | 5,05 |
| Плусы | 5 | 12,10 | 8,00 | 12,58 | 11,49 | 14,33 | 6,70 |
| Плусы | 13 | 12,10 | 8,00 | 12,75 | 11,35 | 12,69 | 6,50 |
| Пуканаўка | 1 | 10,45 | 7,80 | 11,40 | 10,30 | 11,65 | 6,10 |
| Рудня (Полацкі р-н) | 1 | 10,90 | 7,05 | 10,30 | 10,19 | 12,77 | 6,10 |
| Рудня (Полацкі р-н) | 2 | 8,20 | 5,50 | 10,05 | 9,17 | 11,21 | 6,55 |

жалеза без дадатковых складаных прыёмаў металаапрацоўкі. Так, адзін з нажоў XI ст. (Плусы) з'яўляецца простым з пункту гледжання тэхналогіі вырабу [26].

Трохслойнае лязо нажоў сведчыць пра высокі ўзровень кавальскай справы. Такія нажы, мабыць, зроблены ў гарадах Полацкай зямлі, у самім Полацку і сведчаць пра гандлёвыя сувязі горада з акругай.

Манеты знойдзены ў курганах на тэрыторыі Полацкай зямлі ў шэрагу пунктаў (Багрынава, Багданаўскае возера, Вядзец, Заслаўе, Ігуменскі ўезд, Ізбішча, Навасёлкі, Парэчча, Пуцілкавічы, Слабодка, Чарневічы, Шо) [27]. У курганах пераважаюць сярэбраныя арабскія манеты. У кургане каля в. Славені ў складзе маніста выяўлена падвеска, выраблeная з саманідскага дырхема, чаканенага пры эміры Наср Ібн-Ахмедзе ў г. Шашы (914—943 гг.). Палова арабскага дырхема выяўлена ў кургане на ўскраіне г. Гарадок 892—902 гг. (Саманіды, Ісмаіл Ібн-Ахмат) [28].

У курганным могільніку Слабодка III знойдзена сярэбраная манета, выкарыстаная ў якасці падвескі-ўпрыгожання. Манета Этэльрэда II (979—1016 гг.) чаканеная ў Англіі. На адваротным яе баку выява «доўгага крыжа». Час абароту такіх манет 997—1003 гг. [29] Колькасць манет у пахаваннях невялікая — звычайна адзін экземпляр. Выключэннем з'яўляецца пахаванне каля в. Ізбішча, дзе знойдзена восем манет. Большасць манет па функцыянальнаму прызначэнню былі манетамі-ўпрыгожаннямі. Такая з'ява распаўсюджана ва Усходняй Еўропе, але некаторыя манеты мелі рытуальнае прызначэнне «аболаў мёртвых» [30].

На тэрыторыі, дзе абарачаліся арабскія дырхемы і сярэбраныя злiткі, ужываліся гіркі-разнаважкі. Чатыры гіркі канца X ст. выяўлены ў кургане Даўборскага могільніка каля в. Опса (Браслаўскі раён). Дзве чашачкі ад шаляў і шэсць гірак выяўлена ў кургане каля в. Драздова (Талачынскі раён) [31]. Гіркі і дэталі шаляў у курганах сведчаць, што тут былі пахаваны людзі, якія мелі адносіны да гандлю. Гіркі-разнаважкі служылі ім для зверкі на шалях грашова-вагавых адзінак, якія меліся ў абароце. Гіркі з'явіліся тады, калі ў скарбах другой паловы X ст. распаўсюдзіліся абломкі манет, што было выклікана неабходнасцю ўзважваць манетнае серабро, у тым ліку абрэзкі дырхемаў.

Можна меркаваць, што ў наваколлі Полацка, Віцебска, Лукомля існавалі дружынныя курганныя могільнікі. У 1888 г. Е. Р. Раманаў даследаваў у Лукомлі курганны могільнік за 0,9 км ад Лукомльскага гарадзішча. У кургане знойдзены два пахаванні: асноўнае і ўпускное. Каля асноўнага пахавання XI ст. былі гаршчок, тачыльны камень, чакан, наканечнік дзіды даўжынёй 25 см, утулка якога інкруставана срэбрам [32]. У 1966 г. аўтарам раскапаны курган 2. Каля касцяка былі наканечнік дзіды, невялікая жалезная баявая сякера, бронзавая фібула і два паясныя кальцы, жалезны нож з касцяным дзяржаннем, на якім



*Мал. 49. Ганчарная кераміка з раскопак курганоў: 1 — Дарахі V; 2—3 — Банонь—Экімань; 4 — Слабодка; 5—6 — Рудня; 7—8 — Глінішча; 9 — Кастрыца; 10—13 — Плусы; 14 — Забор'е; 15 — Пуканайка; 16 — Домжарыцы; 17—18 — Заслаўе*

выгравіраваны княжы знак — трызубец, які нагадвае знак Уладзіміра Святаславіча (мал. 50). Падобны трызубец быў у яго сына — полацкага князя Ізяслава [33]. Княжым знакам упрыгожвалі рэчы князёў і іх дружыннікаў. У 1969 г. выпадкова знойдзена пахаванне, каля якога быў жалезны наканечнік дзіды даўжынёй 42,5 см са срэбранай інкрустацыяй на ўтулцы [34]. Падобныя наканечнікі дзідаў былі шырока распаўсюджаны ў Еўропе ў VIII—XI стст. звычайна ў пахаваннях дружыннікаў [35].



*Мал. 50. Лукомль. Інвентар XI ст. з кургана 2 (1966 г.) (мяркуемае пахаванне дружынніка)*

Знаходкі мячоў у курганах Беларусі — з'ява надзвычай рэдкая. Такі курган раскапаны каля в. Гарадзілава (Маладзечанскі раён). У ім была урна з перапаленымі касцямі, сагнуты меч, два наканечнікі дзідаў, цуглі, спражка. Кальцавая бронзавая пазалочаная спражка дыяметрам 8 см зроблена з тоўстага гладкага дроту з разамкнутымі канцамі, на якія насаджаны дзве літыя пацеркі. Трэцяя такая ж пацерка складае аснову для іголкі спражкі [36]. Відаць, спражка зроблена ў паўднёвай Швецыі. Аналагічны выраб быў знойдзены ў 1841 г. на Пскоўшчыне ў скарбе X—XI стст.[37] Пахаванне ў в. Гарадзілава ў Верхнім Панямонні пакуль што адзінае на тэрыторыі Беларусі, пра якое з упэўненасцю можна гаварыць як пра варажскае.

Добра вывучаным помнікам другой паловы X—XI ст. на тэрыторыі Полацкай зямлі з'яўляецца Заслаўскі курганны могільнік. У бліжэйшай акрузе Заслаўя ў радыусе 2—3 км ад замчышча Вал першапачаткова было выяўлена шэсць курганных могільнікаў (груп). Па стану на 1926 г. тут знаходзіўся 271 курган. Раскопкі кurganоў праводзілі ў 1878 г. Р. Г. Ігнацьеў, у 80-я гады XIX ст. М. М. Турбін, у 1921 г. В. П. Сушчынскі і І. Поляк, у 1926, 1928 гг. А. М. Ляўданскі, П. В. Харламповіч, С. А. Дубінскі, А. Дз. Каваленя, у 1957, 1965 гг. Э. М. Загарульскі, у 1960, 1967, 1971 гг. Г. В. Штыхаў. А. М. Ляўданскі абагульніў звесткі пра 40 раскапаных кurganоў, надрукаваў планы шасці курганных груп. У 1977—1980, 1982 гг. Ю. А. Заяц выявіў чатыры новыя курганныя групы, правёў шырокае даследаванне многіх кurganоў [38]. Цяпер маюцца звесткі пра раскапаныя 142 курганы [39].

Пераважная большасць кurganоў па форме круглыя, дыяметрам ад 3 да 12,5 м, вышынёй ад 0,45 да 2,4 м. У могільніках I—IV, IX, X было ад аднаго да сямі падоўжаных насыпаў. Каля некаторых насыпаў прасочваліся раўкі. Самыя раннія курганы ў наваколлі Заслаўя адносяцца да сярэдзіны X ст. Большасць раскапаных кurganоў належыць да пе-




*Мал. 51. Заслаўе. Курганная група II, курган 1. Інвентар крывіцкага пахавання (раскопкі А. М. Ляўданскага)*

рыяду канца X — першай паловы XI ст. Пахаванняў другой паловы XI ст. значна менш. Қ гэтаму часу некаторыя курганныя могільнікі ўжо не функцыяніравалі. У пачатку XII ст. адзінкавыя пахаванні адзначаны ў курганах толькі ў могільніку V і, верагодна, у могільніку IV.

Курганныя могільнікі тапаграфічна звязаны з асобнымі часткамі старажытнага горада (дзядзінцам, пасадам) і іншымі блізка размешчанымі паселішчамі. Курганная група I адносіцца да гарадзішча Замачак. Курганныя групы II, III, напэўна, з'яўляюцца рэшткамі могільніка старажытнага горада Полацкай зямлі — Ізяслаўля на Свіслачы [40].

У Заслаўскім курганным могільніку выключна рэдка сустракаюцца трупаспаленні — іх знойдзена толькі пяць, прычым у трох выпадках рэшткі крэмацыі былі змешчаны ў курганах з пахаваннямі на абраду трупапалажэння. Асноўная колькасць пахаванняў належыць да абраду трупапалажэння на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні. У пахавальным рытуале амаль заўсёды выкарыстоўваўся агонь. Пахаванні на падсыпцы ў насыпе ці ў падкурганных магільных ямах сустракаюцца рэдка. У некаторых пахаваннях прасочаны рэшткі дамавін, вымастак з дошак, падсцілак з кары.

Па этнічнай прыналежнасці большасць пахаванняў у курганных могільніках II, III крывіцкія. Тут у жаночых пахаваннях знойдзены тыповыя для крывічоў бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі (мал. 51) [41]. Некаторыя мужчынскія пахаванні былі арыентаваны на ўсход, што сустракаецца ў крывічоў. Напэўна, адзінкавыя пахаванні ў могільніку II належаць прадстаўнікам фіна-угорскага этнасу, пра што сведчыць мерыдыяльная арыенціроўка нябожчыкаў.

У курганных могільніках IV, V, VI, дзе выяўлены металічныя зярнёныя пацеркі і трупапалажэнне на падсыпцы, пахаваны дрыгавічы. Тут знойдзены сярод скроневых упрыгожанняў пярсцёнкападобныя кольцы з самкнутымі канцамі, паўтараабаротныя, а таксама з адваротным ці з эсаканечным завітком на адным канцы.

Большасць пахаванняў належала свабодным людзям. Значная колькасць мужчынскіх пахаванняў у курганных могільніках II, III мае зброю — дзіды, суліцы, сякеры. Паводле знаходак баявых наборных паясоў і іншых даных, можна гаварыць пра пахаванні дружыннікаў. Вызначаны пахаванні залежных людзей — халопаў і рабынь, якія суправаджалі асноўныя пахаванні [42].

У жаночых пахаваннях знойдзены скроневыя кольцы, жалезныя і бронзавыя шыйныя грыўні, маніста з разнастайных шкляных, крышталёвых і сердалікавых пацерак, колькасцю ад некалькіх дзесяткаў да дзвюх-трох соцень, разнастайныя бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, фібулы, жалезныя нажы, шыферныя праслiцы. Часта побач з нябожчыкамі ставіліся гліняныя гаршкі, значна радзей — драўляныя вёдры з жалезнымі абручамі і дужкамі.

У мужчынскіх пахаваннях выяўлены жалезныя нажы, фібулы, спражкі з жалеза і каляровых металаў, рэдкімі знаходкамі з'яўляюцца пярсцёнкі, бранзалеты, касцяныя грабяні. Знойдзены таксама заходнееўрапейскія дынарыі Атона і Адыльгейды (Германія), Стэфана I Святога (1000—1038 гг.) (Венгрыя) і палова дырхема Нуха Ібн-Насра (943—954 гг.) [43]. Адно пахаванне з дынарыем належала рамесніку — кавалю ці ювеліру.

Амаль поўнасцю даследаваны курганны могільнік каля в. Ізбішча Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Археалагічны комплекс знаходзіцца за 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Селішча ва ўр. Калыскаўка на першай надпойменнай тэрасе правага берага р. Дзвінаса памерам

306×150 м. Даследавалі В. У. Казей (1987, 1989), Г. В. Штыхаў (1990, 1991). Культурны слой 0,5 м, раскапана 824 кв. м. Выяўлены рэшткі печаў, складзеных з камянёў, невялікія адкрытыя ачагі, гаспадарчыя ямы. Паселішча ўзнікла ў 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Знойдзены дзве познлатэнскія фібулы III—IV стст., гліняныя прасліцы, ляпны посуд (з расчэсамі, штрыхамі, шурпатай і глянцаванай паверхняй). Выяўлены кераміка такіх культур, як банцараўская і доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі, гліняныя прасліцы. Найбольшая колькасць даследаваных матэрыялаў адносіцца да X—XI стст. Знойдзены бронзавая лунніца, шкляная пацерка ў вочкі, арнаментаваная накладка для папругі, бранзалет са змяінымі галоўкамі, форма для адліўкі ўпрыгожанняў, крэсіва,




*Мал. 52. Заслаўе. Курганная група VI: 1—8, 16 — з кургана 6; 9—11 — з кургана 7; 12—14 — з кургана 9; 15 — з кургана 8; 1, 3, 8 — жалеза; 2 — бурштын; 4 — скура; 5, 7 — крэмень; 6 — фрагмент дынарыя (Атон і Адыльгейда); 9, 10, 14 — бронза; 11—13, 15, 16 — кругавая кераміка*

чыў, што ўтварэнне велікарускага народа звязана з каланізацыяй славянамі з Падняпроўя басейна Акі і Верхняй Волгі і было вынікам змяшэння славянскіх і мясцовых фінскіх (мурама, мера, весь) элементаў. Гэты працэс ён адносіў да XII—XIII стст.[37] Такімі ж самымі былі перадумовы фарміравання беларускага народа. Праблема этнічнага развіцця Кіеўскай Русі, вытокаў беларускага, рускага, украінскага народаў да канца не высветлена. Больш таго, яна аказалася штучна заблытанай.

У 20—30-я гады для вызначэння этнічнай супольнасці ўсходніх славян IX—XII стст., у тым ліку крывічоў, выкарыстоўваліся розныя назвы: «рускія славяне», «рускі народ», «усходнія славяне», «славяне»[38].

На пачатку 50-х гадоў стаў распаўсюджвацца тэрмін «старажытнаруская народнасць». Яго з'яўленне тлумачылася жаданнем адзначыць розніцу паміж усходнеславянскім насельніцтвам Кіеўскай Русі, уключаючы продкаў рускіх, украінцаў і беларусаў, і назвай рускага (велікарускага) народа XIV—XVI стст. Тэрмін быў прызнаны правамерным пасля публікацыі ў 1950 г. работы Сталіна «Марксізм і пытанні мовазнаўства» і хутка стаў хрэстаматыйным[39].

У разуменні тэрміна «старажытнаруская народнасць» назіраюцца разыходжанні і непаслядоўнасць. Адны сцвярджаюць, што адзіная старажытнаруская народнасць была сапраўднай этнічнай супольнасцю, ва ўсялякім разе ў IX—XI стст. Другія лічаць, што гэта народнасць не склалася канчаткова і яе распад вызначыўся распадам старажытнарускай дзяржавы на чале з горадам Кіевам у час сярэднявечнай феадальнай раздробленасці[40].

Пра адзіную старажытнарускую народнасць многа пісалі У. В. Маўродзін і Б. А. Рыбакоў. Але ў іх сцвярджэннях адчуваюцца няпэўнасць і супярэчлівасць. Спачатку У. В. Маўродзін быў больш паслядоўным і адзначаў, што працэс утварэння старажытнарускай народнасці не завяршыўся, а феадальная раздробленасць, нашэсце мангола-татар і іншыя фактары спынілі яго[41]. У больш позніх работах такіх разважанняў ужо не адзначаецца[42]. Б. А. Рыбакоў, дэталёва ўнікнуўшы ў сутнасць справы пры вывучэнні прыкладнога мастацтва, вымушаны быў насуперак сваім хрэстаматыйным дэфініцыям[43] засведчыць: «зліццё земель былых племянных саюзаў у адзіную старажытнарускую народнасць не было поўным і канчатковым»[44].

У сапраўднасці эканамічныя сувязі паміж землямі старажытнарускай дзяржавы былі слабымі. Моўныя, культурныя і іншыя этнічныя асаблівасці ўсходнеславянскіх груповак не паспелі сцерціся. У адзенні, упрыгожаннях, побыту, мове, вераваннях асобных галін ўсходніх славян захоўвалася шмат адрозненняў яшчэ ад племянных асаблівасцей.

У гарадоў Полацка, Віцебска, Смаленска ў пачатку XIII ст. пачыналі складвацца ўстойлівыя ўзаемныя гандлёвыя сувязі. Збліжэнне іх гандлёвых інтарэсаў адлюстравалася ў заключэнні дагавора з Рыгай. У «Хроніцы Лівоніі» гаворыцца пра заключэнне дагавора Полацка з немцамі ў 1210 г. пры ўдзеле Смаленска. Упершыню Заходняя Дзвіна была аб'яўлена свабоднай для плавання купцоў на ўсім працягу ў дагаворы 1212 г. Полацка з Рыгай[45].

Важнай крыніцай з'яўляецца дагавор («Праўда») Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., які распаўсюджваўся таксама на Полацк і Віцебск. Ён стаў асновай для арганізацыі гандлю па Заходняй Дзвіне на працягу доўгага часу. Сумесныя ўмовы гандлю з нямецкімі гарадамі выпрацоўваліся на з'ездах («снемах») прадстаўнікоў Смаленска, Полацка, Віцебска[46]. Усё гэта пацвярджае, што ў Полацкай і Смаленскай



*Мал. 65. Рэчы з курганоў каля в. Рудня Полацкага раёна (1928 г.): 9—11, 13, 21, 25, 26, 30, 34, 42, 43, 50 — з кургана 1; 12, 24, 27, 28, 33 — з кургана 2; 14, 15 — з кургана 3; 41 — з кургана 4; 46 — з кургана 5; 32 — з кургана 8; 8, 49 — з кургана 9; 3—6, 31, 36—39, 47, 48 — з кургана 10; 7, 17—20, 22, 23, 40, 44, 45 — з кургана 12; 1, 2, 29, 35 — з кургана 13; 16 — з кургана 7 каля в. Гаравыя Полацкага раёна (па А. М. Ляўданскаму)*

землях мелі месца кансалідацыйныя тэндэнцыі ў перыяд феадальнай раздробленасці.

Назіраюцца моцныя ўзаемасувязі Полацка і Смаленска ў домабудаўніцтве, у галіне манументальнай архітэктуры [47].

Не выпадкова ў помніках пісьмовасці, якія звязаны з Полацкам, разам з агульнымі ўсходнеславянскімі моўнымі асаблівасцямі паступова пачынаюць выяўляцца з'явы, якія сведчаць пра складванне беларускай мовы. Гэта назіраецца ў Смаленскай грамаце 1229 г., шэрагу полацкіх грамат другой паловы XIII ст.[48] Вакол Полацка і Смаленска ўзнік буйны мясцовы смаленска-полацкі дыялект [49]. Спачатку ён адыграў значную ролю ў яе складванні. Удзел нашчадкаў смаленска-полацкіх крывічоў у фарміраванні беларускай народнасці ў якасці аднаго з кампанентаў пацвярджаюць акрамя археалогіі даныя мовы, генетычна звязаныя, верагодней за ўсё, з крывіцкімі племяннымі дыялектамі.

# Заключэнне

Тэрыторыя рассялення полацкіх крывічоў у Беларускім Падзвінні — гістарычнае ядро Полацкай зямлі — буйнога княства, што склалася ў IX—X стст. у паўночнай частцы Беларусі. Вызначэнне этнічнай прыналежнасці насельніцтва, якое тут знаходзілася, з'яўляецца праблемай фарміравання заходняга адгалінавання крывічоў, ці палачан, як яго называюць летапісы. Выяўленне курганных могільнікаў V—VII стст. з'яўляецца важным даследаваннем кургаиоў у Беларускім Падзвінні.

У самых старажытных курганных могільніках побач з валападобнымі доўгімі курганамі прысутнічаюць насыпы, у плане падоўжаныя і круглыя. У Віцебскай вобласці вядома каля 50 такіх могільнікаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. Курганныя могільнікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. вывучаліся аўтарам каля в. Янкавічы, Рудня (Расонскі раён), Дарахі (Гарадоцкі раён), Гаравыя (Полацкі раён), Лятохі, Старое Сяло (Віцебскі раён). Асаблівую цікавасць маюць курганныя могільнікі ў наваколлі в. Дарахі на паўднёвым беразе воз. Сенніца ў вярхоўі Ловаці, дзе выяўлена каля 150 курганоў у 11 курганных могільніках. Сем невялікіх груп адносіцца да трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., адзін могільнік да VIII—IX стст. і адзін да X—XI стст. (мал. 9).

Могільнікі V—VII стст. звычайна налічваюць да двух дзесяткаў курганоў. Насыпы доўгія, падоўжаныя, круглыя. У іх знойдзены ляпныя слабапрафіляваныя гаршкі (мал. 18), характэрныя для помнікаў тыпу верхняга пласта гарадзішча Банцараўшчыны (банцараўская культура). Курганныя могільнікі канца VIII—IX ст. даследаваліся каля вв. Баркі, Бяскатава, Дарахі (могільнік II), Вышадкі, Смалькі, Вусце. Большасць курганоў бедныя на інвентар ці зусім яго не маюць. Таму пацвердзіць наяўнасць славянскіх круглых курганоў з трупаспаленнем, калі яны сапраўды прысутнічаюць, цяжка. Адпак зрэдку сустракаюцца пахаванні з мноствам пашкоджаных агнём жаночых упрыгожанняў: выявы касцяных птушак (Баркі, Бяскатава), бронзавыя трапецападобныя падвескі, бронзавыя спіралькі, фрагменты шыйных грыўняў і інш. (мал. 31). Такія віды ўпрыгожанняў распаўсюджаны ў балтаў, некаторыя з іх — у фіна-ўграў. Яны характэрныя для культуры доўгіх курганоў Смаленшчыны.

Славянскімі рысамі курганоў ёсць падставы лічыць абрад крэмацыі і наяўнасць ляпных гаршкоў з акруглым плячом у верхняй частцы тулава (мал. 34), якое захавана і ў кераміцы, зробленай на ганчарным крузе (мал. 49). Археалагічныя даныя пацвярджаюць, што ў доўгіх курганах паўночнай Беларусі, якія варта разглядаць як асобную археа-

лагічную культуру, пахаваны славянізаваныя балты ці славяне з моцным уплывам матэрыяльнай культуры і традыцый балтаў. З'яўленне доўгіх курганоў адлюстроўвае той перыяд, калі на поўначы Беларусі і на суседніх тэрыторыях рассяляліся славяне, якія асімілявалі мясцовае балцкае і фінскае насельніцтва, у выніку чаго ўтварыўся цэлы рэгіён крывічоў. Але гэтая хваля славянскай каланізацыі Беларускага Падзвіння не прывяла да канчатковай славянізацыі насельніцтва. Славяне ўспрымалі ў большай ці ў меншай ступені культурна-этнаграфічныя асаблівасці балтаў. У выніку склалася рознаэтнічная археалагічная культура.

Пахаванні курганнага могільніка каля в. Глінішча, што знаходзіцца ў 6 км ад Верхняга замка ў Полацку, амаль усе належаць да X ст. Паміж культурай доўгіх курганоў VIII—IX стст. і курганамі, даследаванымі каля в. Глінішча, назіраюцца агульныя рысы як у пахавальным абрадзе трупаспалення, так і ў рэчавым інвентары, асабліва ў ляпным посудзе. У некаторых пахаваннях у Глінішчы прысутнічае посуд, зроблены на ганчарным крузе (мал. 49, 7, 8). Ляпны посуд пераходзіць непасрэдна ў раннекругавы, характэрны для ўсходніх славян.

Сярод інвентару курганоў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. асобную цікавасць уяўляюць бронзавыя плоскія серпападобныя скроневыя кольцы, якія можна аднесці да ўпрыгожванняў-гібрыдаў, што з'явіліся ў крывічоў у працэсе балцка-славянскага сімбіёзу.

На мяжы X—XI стст. у пахавальных помніках Беларускага Падзвіння распаўсюджваецца трупапалажэнне. Большасць памёршых у курганах (81%) арыентавана галавою на захад. У заходніх раёнах тэрыторыі рассялення полацкіх крывічоў, дзе яны больш працяглы час межавалі з балцкімі плямёнамі латгалаў, ёсць курганы, у якіх сустракаецца ўсходняя арыентыроўка мужчынскіх пахаванняў.

У XI—XII стст. больш распаўсюджана трупапалажэнне ў аснове насыпу (Чаркасава, Багрынава, Кастрыца, Закур'е). Часта пахаванні змешчаны ў грунтовых ямах пад курганом (Захарнічы, Плусы, Вышадкі), якія з'явіліся на поўначы Беларусі ў пачатку XI ст. і існавалі на працягу XII ст. і пазней. Для полацкіх і смаленскіх крывічоў XI—XII стст. характэрны асобны тып жаночых упрыгожванняў — скроневыя бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, што пацвярджае асаблівую блізкасць гэтых роднасных прабеларускіх этнічных супольнасцей.

Даныя археалагічнага вывучэння крывічоў-палачан даюць магчымасць прасачыць перадумовы фарміравання беларускай народнасці.

На тэрыторыі Беларусі адбывалася пранікненне славян у вобласці, дзе знаходзіліся балты, якія звычайна не пакідалі месц свайго пражывання. Першапачаткова балты і славяне жылі побач, аднак потым пачалі паступова змешвацца паміж сабой і адбывалася славянізацыя дняпроўскага балцкага насельніцтва.

Уплыў балтаў прасочваецца на знешнім выглядзе (фізічным тыпе) шматлікіх груп крывічоў-палачан, таксама як дрыгавічоў, радзімічаў. Існуе шэраг даных, што іх антрапалагічны тып сфарміраваўся ў выніку змешвання і своеасаблівага сімбіёзу славян з балтамі.

Абагульненне матэрыялу археалагічных раскопак, даных антрапалагічнай, лінгвістычнай, этнаграфічнай і іншых навук прывяло да стварэння тэорыі субстратнага паходжання беларусаў. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што ў выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змешвання з ім прышлых носьбітаў славянскай мовы акрэслілася вылучэнне адасобленай часткі ўсходніх славян, што прывяло да станаў-

лення беларускай мовы і народа. Паводле даных археалагічных даследаванняў, адбывалася гэта на працягу доўгага часу ад мяжы VII—VIII стст. да канца XIII ст.

Новыя археалагічныя матэрыялы пацвярджаюць такую выснову пра перадумовы паходжання беларусаў на прыкладзе крывічоў-палачан. У складаным этнагенетычным працэсе іх фарміравання было тры стадыі.

Да першай адносяцца археалагічныя помнікі банцараўскай культуры (назва ад Банцараўскага гарадзішча каля Ждановіч) і культуры доўгіх курганоў паўночнай Беларусі VI—VII стст. на Віцебшчыне. У добра ўмацаваных гарадзішчах насельніцтва хавалася ў час ваеннай небяспекі, была арганізавана яго калектыўная абарона. Гарадзішчы-сховішчы з'яўляліся і рэлігійнымі цэнтрамі. Распаўсюджанымі былі неўмацаваныя паселішчы, якія можна разглядаць як пераходную форму ад родавай да сельскай абшчыны, дзе вялікія патрыярхальныя сем'і існавалі побач з вылучаўшыміся малымі сем'ямі.

Другая стадыя перадумоў фарміравання беларусаў датуецца VIII—IX стст. і характарызуецца больш інтэнсіўным пранікненнем славян у асяроддзе мясцовых плямён. Адносіны паміж славянамі і балтамі не былі адназначнымі. Мелі месца мірнае суіснаванне, ваенныя сутыкненні, асіміляцыйныя працэсы, прычым асімілявалі не толькі славяне балтаў, але ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваны балтамі. З узнікненнем сталых умацаваных цэнтраў, непасрэдных папярэднікаў раннефеадальных гарадоў (Полацк, Віцебск, Лукомль, Менск), славянізацыя насельніцтва на значнай тэрыторыі Беларусі набліжалася да завяршэння.

Трэцяя стадыя адносіцца да X—XI стст., калі на тэрыторыі Беларусі моцна павялічваецца колькасць усходнеславянскага (крывіцка-дрыгавіцкага) насельніцтва, славяне становяцца асноўным насельніцтвам края (мал. 64). Рассяленне славян мела вялікае прагрэсіўнае значэнне для гістарычнага лёсу Беларусі. Яно садзейнічала паступоваму адміранню інстытутаў першабытнага грамадства, паскарала развіццё раннефеадальных адносін і пачатак беларускай дзяржаўнасці, што засведчана ўзнікненнем Полацкага і Тураўскага княстваў.

У выніку славяна-балцкага сінтэзу ў VIII—X стст. у Верхнім Падзвінні і Падняпроўі сфарміраваліся новыя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці (пранароднасці), якія названы ў пісьмовых крыніцах. У культуры і мове крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў перапляліся славянскія і балцкія элементы. Гэта былі новыя прабеларускія ўтварэнні, у якіх пераважалі славянскія рысы і якія займалі своеасаблівае размяшчэнне сярод іншых усходнеславянскіх этнасаў. Увабраўшы ў сваю культуру шэраг балцкіх элементаў, яны адрозніваліся спецыфічнымі рысамі славянскай культуры, што ўзнікалі пад уздзеяннем балтаў. Тры пранароднасці — крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы, а таксама рознаэтнічнае насельніцтва верхняга Пабужжа і Панямоння — паступова ўцягваліся ў працэс фарміравання новага этнічнага ўтварэння — беларускага народа.

# Дадатак 1

## МАТЭРЫЯЛЫ РАСКОПАК КУРГАННЫХ МОГІЛЬНІКАЎ У ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

На тэрыторыі былой Полацкай зямлі-княства на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пачынаючы з 1965 г. праводзілася сістэматычнае даследаванне курганных могільнікаў археалагічным атрадам Беларускай экспедыцыі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі (начальнік атрада Г. В. Штыхаў). У Беларускім Падзвінні раскапана 202 насыпы ў 29 курганных могільніках (групах).

Шмат увагі патрабавала выяўленне кургаюў у Полацкім раёне. Курганы даследаваліся ў наваколлі Віцебска, Лукомля, Гарадка, у іншых месцах Віцебскай вобласці (мал. 1). Курганныя могільнікі вывучаліся таксама ў паўночнай частцы Мінскай вобласці, у наваколлі Мінска, у Заслаўі, Барысаўскім і Лагойскім раёнах. Тут вывучана звыш за 100 курганоў.

### 1. КУРГАНЫ ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ 1-га ТЫСЯЧАГОДДЗЯ н. э.

**Янкавічы (Расонскі раён).** Найбольш старажытныя курганы былі даследаваны ў наваколлі в. Янкавічы за 30 км на поўнач ад Полацка, дзе выяўлены два выключна важныя курганныя могільнікі.

Атокінскі могільнік размешчаны ва ўрочышчы Атокі (назва былой вёскі) [1] за 4 км на паўднёвы ўсход ад Янкавіч на левым беразе р. Дрысы за 300 м ад яе рэчышча. У могільніку тры насыпы — адзін вельмі доўгі і яшчэ два круглыя ў плане (мал. 10). Насып доўгага кургана амаль паралельны цячэнню ракі.

Курган 1 валападобны, уяўляе сабой насып даўжынёй 110 м (шырыня 9—10 м, вышыня 1—1,5 м), добра прасочваюцца раўкі глыбінёй 0,2—0,4 м. Курганы, большыя па даўжыні за гэты, у археалагічнай навуцы невядомыя. Насып пашкоджаны 10 круглымі ямамі, якія часам даходзілі да мацерыка [2]. На кургане расло 60 стогадовых елак і соснаў. Вывучэнне яго праводзілася на працягу трох сезонаў 1967—1968 гг. Курган раскапаны поўнасцю. Яго насып быў падзелены на секцыі, з іх кожная даўжынёў 6—10 м. Пры раскопках пакідаліся папярочная і цэнтральная ўздоўж кургана броўкі.

Увесь насып складаўся з жоўтага пяску і не меў іншых уключэнняў. Будова кургана простая. Яна адзначана ў многіх іншых пахаваннях. Каля асновы насыпу — выразная попелавугальная праслойка па ўсёй плошчы кургана, ад аднаго яго канца да другога. Яе таўшчыня 15—30 см, месцамі больш. Ніякіх перарываў у праслойцы не назіралася ўздоўж усяго падоўжанага профілю насыпу. Напэўна, такі вялізны курган насыпаны ў адзін прыём.

Пахаванні знойдзены ў трох месцах. Каля ўсходняга краю кургана ў попелавугальнай праслойцы выяўлена гліняная ляпная урна. Яна

была пастаўлена горлам уверх. Яе край знаходзіўся на ўзроўні верхняга гарызонту праслойкі, таўшчыня якой у гэтым месцы больш за вышыню урны і дасягае 40 см. Мацярык моцна абпалены. Пад урнай у мацерыку паглыбленне да 10 см. Такім чынам, урна закапана на месцы вогнішча перад збудаваннем насыпу. Перапаленых касцей у гэтай частцы кургана не знойдзена, за выключэннем тых, што былі ў самой урне, якая напоўнена да краёў касцьмі (мал. 11, 4). Іх агульная вага 1,6 кг.

Урна ўяўляе слабапрафіляваны посуд (мал. 18, 1). Яе вышыня 27,2 см, дыяметр горла 21 см (табл. 2, 11). Таўшчыня сценак 8—9 мм, дна — 16 мм. У гліне буйная жарства, ёсць каменьчыкі памерам 2—3 мм. Ніз і сярэдняя частка паверхні гаршка закопчаныя. Урна падобная да керамікі верхняга пласта Банцараўшчыны, ніжняга слоя Віцебска, Лукомля [3] і многіх іншых помнікаў V—VIII стст.[4]

За 25 м ад урны знойдзена другое пахаванне (мал. 10, 2). На мацерыку ў вялікім вогнішчы шмат перапаленых касцей разам з галавешкамі. Плошча авальнага вогнішча 24 кв. м (6×4 м), таўшчыня 0,4 м. Косці сустракаліся вышэй у насыпе, куды яны трапілі разам з пяском. Перапаленых касцей у пахаванні было 3 кг, што сведчыць пра спаленне некалькіх цел памёршых і, верагодна, жывёл. Няма сумнення ў тым, што крэмацыя адбывалася на месцы. Добра бачны пазванкі (13 шт.), косці ад чэрапа чалавека, сустракаюцца фрагменты касцяных вырабаў — фрагмент арнаментаванай касцяной пласціны (мал. 14, 24), зааморфнае адлюстраванне (мал. 14, 25). Знойдзена перагнутая бронзавая бляшка ад рэменя (мал. 14, 23) і перапаленыя рэшткі іншых бронзавых вырабаў. Для поўнага пераліку знаходак неабходна ўпамянуць пра крамянёвыя адшчэпы з попельнай праслойкі (мал. 14, 28, 29).

Асаблівае значэнне для датавання маюць бляшкі-шкарлупінкі, якіх знойдзена 19 штук (мал. 14, 1—19). Гэтыя невялікія бронзавыя вырабы служылі ўпрыгожваннем для галаўнога ўбору або рэменя. Бляшкі-шкарлупінкі — характэрная асаблівасць пскоўскіх курганоў і, мабыць, адлюстроўваюць уплыў культуры заходнефінскага насельніцтва. Яны датуюцца IV—VI стст.[5] Прыкладна сярэдзінай 1-га тысячагоддзя н. э. можна датаваць узвядзенне доўгага кургана Атокінскага могільніка.

На адлегласці 12 м ад пахавання 2 знойдзена пахаванне 3. Перапаленыя косці вагой 1 кг, перамешаныя з пяском, былі ў насыпе. Яны займалі значную плошчу і знаходзіліся вышэй попелавугальнай праслойкі на 0,3 м. Ніякіх рэчаў не знойдзена.

Уся заходняя палова кургана даўжынёй 60 м зусім пазбаўлена знаходак. У аснове насыпу прасочвалася толькі попелавугальная праслойка, як ва ўсім кургане.

Курган 2 знаходзіўся за 10 м ад усходняга краю доўгага кургана (мал. 10). Ён у плане круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 0,7 м. У 1968 г. насып быў разбураны бульдозерам пры будаванні новай шашы. Аднак яго ніжняя частка захавалася. Пры абследаванні кургана ў 1969 г. на мацерыку выяўлена попелавугальная праслойка, у якой знойдзена крыху перапаленых касцей і некалькі кавалкаў слабапрафіляванага ляпнога посуду. Круглы насып збудаваны адначасова або амаль адначасова з доўгім. Трэба асабліва адзначыць, што ніякіх прыкмет ранняга селішча на месцы ўзвядзення кургана не выяўлена.

Збоку за 15 м ад доўгага кургана знаходзіцца курган 3 круглы ў плане, дыяметрам 20 м. Яго вышыня 3 м. Насып пашкоджаны глыбокай ямай. Курган не даследаваўся.

Павалішынскі курганны могільнік размешчаны каля прасёлачнай

дарогі, за 2 км ад Атокінскага могільніка і прыкладна на такой жа адлегласці ад в. Янкавічы каля былога маёнтка Павалішына. Тут налічвалася 11 кампактна размешчаных курганоў. З іх адзін падоўжаны, астатнія круглыя (мал. 10). Вышыня курганных насыпаў 1,5—2 м. У 1968 г. былі даследаваны тры курганы, у 1970 г.— яшчэ чатыры.

Курган 1 дыяметрам 10 м, вышынёй 1,5 м. Насыпаны з жоўтага пяску, Навокал бачны ровік. У насыпе нічога няма. На мацерыку попелавугальная праслойка 20 см таўшчынёй па ўсёй падэшве кургана. Перапаленых касцей у ёй няма і толькі ў адным месцы каля самага краю насыпу на грунце знойдзены рэшткі крэмацыі вагой 0,2 кг. У паўночна-ўсходняй частцы кургана на попелавугальнай праслойцы знойдзены два кавалкі ад ляпнога посуду. Адзін з іх — венчык з рэшткамі нагару. Гэта кераміка тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Іншых знаходак няма.

Курган 2 круглы ў плане, дыяметрам 8 м, вышынёй 0,8 м. З трох бакоў бачны раўкі. Па ўсёй плошчы падэшвы попелавугальная праслойка і цёмны гумусаваны грунт. Бліжэй да цэнтра кургана знаходзіцца чорная пляма дыяметрам 0,5 м. Гэта была ямка ў мацерыку глыбінёй 0,4 м. У ёй знойдзена ляпная кераміка з расчэсваннем (абломкі вельмі малыя). У другой ямцы дыяметрам 30 см, глыбінёй 20 см з краю кургана знаходзілася кучка моцна перапаленых касцей і сярод іх два абломкі бронзавага вырабу.

Трэба адзначыць, што прыкмет культурнага слою, які папярэднічаў збудаванню курганоў, не выяўлена. Кераміка, знойдзеная ў курганах, звязана з пахаваннямі і насыпамі, мае важнае значэнне для іх датавання. Пацверджаннем сказанаму з'яўляюцца вынікі раскопак іншых курганоў.

Курган 3 падоўжаны, насыпаны на невялікай натуральнай выспе. Яго даўжыня 12 м, шырыня 7 м, вышыня 0,6—0,8 м. Вакол насыпу быў невялікі равок. Паўночная палова кургана аказалася пустой (мал. 15). На мацерыку прасочваецца попельная праслойка з крапінкамі вугольчыкаў. Знаходак няма. У паўднёвай палове кургана ў цэнтры насыпу непасрэдна пад дзірваном знойдзена пасудзіна, перавернутая ўверх дном (мал. 5). У ёй аказалася ніжняя частка другога гаршка-урны. Вышыня першай пасудзіны 14 см. Яна зроблена з шэрай гліны. Гаршчок, які быў урнай, чырвонага колеру. У ім знаходзілася некалькі перапаленых трубчастых касцей, верагодна, жывёлін. Побач кучка керамікі. Пры далейшым даследаванні тут выяўлены рэшткі дзвюх пасудзін, пад якімі была невялікая ямка. Гэтыя разбураныя гаршкі па фактуры такія, як апісаны вышэй: адзін шэры, другі чырвоны. Гэты другі гаршчок, мяркуючы па размяшчэнню гаршкоў, стаяў уверх дном і накрываў пасудзіну-урну. Тут знойдзена 200 г перапаленых касцей і шэсць кавалкаў аплаўленага шкла. Шкло блакітнае, празрыстае, ад пацерак. Усе апісаныя знаходкі складаюць адзін комплекс і абазначаны як пахаванне 1. Кераміка гладкасценная.

За 2,5 м ад пахавання 1 зафіксавана пахаванне 2. Адразу пад дзірваном на плошчы ў некалькі квадратных метраў знойдзены раскіданыя кавалкі ляпной керамікі, як гладкасценнай, так і з расчэсваннем. Іх некалькі соцен. Тут жа былі перапаленыя косці і рэшткі вогнішча. У адным месцы вылучалася чорная пляма. У ёй знойдзена каля 100 г перапаленых касцей і разбуранае начынне з расчэсамі, якія добра выражаны (мал. 16). Паміж пахаваннямі 1 і 2 знаходзіцца пахаванне 3. Тут знойдзена крыху перапаленых касцей і расціснутая пасудзіна з расчэсамі.

Калі на значнай плошчы паўднёвай паловы кургана раскопкі былі даведзены да мацерыка, блізка да цэнтра кургана ў мацерыку стала вызначацца яма. Яе самая вялікая даўжыня 3 м. Яна як бы падзяляла курган на дзве паловы: паўднёвую, насыпаную раней і абмежаваную ямай, і паўночную, больш позняю, якая ўзведзена пасля засыпкі гэтай ямы (мал. 15, ж). На паўднёвай сценцы ямы знойдзена пахаванне 4. Тут была невялікая колькасць паленых касцей і абломкі начыння з расчэсамі. У вялікай ямцы ўнізе на мацерыку таксама знойдзены абломкі ляпной керамікі з расчэсамі. Аднак рэшткі пасудзіны з расчэсамі сустрэты на паўднёвым баку ямы на мацерыку, куды яны маглі спаўзці. Уяўляе цікавасць знаходжанне невялікай ямкі дыяметрам 20 см і глыбінёй 15 см на захад ад пахавання 1, ніжэй яго, на мацерыку. У ёй было некалькі кальцыніраваных касцей, абломкі пасудзін чырвонага і шэрага колеру, а таксама аплаўленага шкла, такога ж, як у пахаванні 1.

Курган 3, пра які ідзе размова, насыпаны ў два прыёмы. Першы насып, які ледзь узвышаецца над паверхняй грунту, круглы і для лепшага яго абазначэння аддзелены ад астатняй выспы ямай, потым яма была засыпана і курган падоўжаны. У гэтай больш позняй паўночнай частцы, як ужо адзначалася, не знойдзена нічога, акрамя пахавання 1, што знаходзілася ў цэнтры кургана.

Відавочна, што круглыя курганы 1, 2 і падоўжаны курган 3 зроблены прыкладна ў адзін час. Пра гэта гаворыць наяўнасць у іх аднолькавай керамікі з расчэсамі. Ляпны гладкасценны посуд з пахавання 1 кургана 3 (мал. 18, 4) па форме блізкі да керамікі V—VII стст. тыпу Банцараўшчыны, Тушэмлі, Дзядзілавіч і іншых аналагічных помнікаў [6]. Кераміка з расчэсамі з гэтага кургана па форме блізкая дадзенаму гаршку. Яна знаходзіць таксама аналогію ў кераміцы помнікаў тыпу Адаменкі ў Беларускім Падняпроўі (кіеўская культура). Кераміка з расчэсамі сустракаецца на селішчах II—V стст., і пасля канца V — пачатку VI ст., відаць, больш не выкарыстоўвалася. Пацвердзіць верхнюю дату керамікі з расчэсамі можна на прыкладзе селішча Бельчыца, пра што будзе сказана ніжэй.

Курган 4 па сутнасці круглы ў плане, хоць яго форма не зусім правільная. Насыпаны з жоўтага пяску. Вышыня 1,2 м, папярочнік 8 м. З паўночна-заходняга боку прасочваецца равок.

Пад дзірваном па ўсім насыпу былі сляды вогнішча, сустракаліся вугольчыкі. У паўночна-ўсходняй частцы кургана ў насыпе (20 см ніжэй за дзірвановы слой, 50 см вышэй за гарызонт) знойдзены два пахаванні-трупаспаленні. Першае ў ляпной слабапрафіляванай урне (мал. 11, 3). У ёй знаходзілася 2 кг кальцыніраваных касцей.

Урна рэстаўрыравана. Яе вышыня 29 см, дыяметр горла 30 см (табл. 3). Відавочна, падобныя гаршкі ўжываліся для захавання зерня (так званыя «зерневікі»). Непадалёку ад урны знаходзіліся фрагменты другога гаршка. Гэта невялікі ляпны слабапрафіляваны посуд. За 40 см на захад ад вялікай урны на адным з ёй узроўні знойдзены рэшткі другога трупаспалення (вага 0,5 кг), якое змешчана ў неглыбокую круглую ямку. Пад насыпам прасочваецца слой таўшчынёй 20 см. На ім крапінкі вугалю.

Курган 5 круглы, вышынёй 1 м, дыяметрам 7 м. У насыпе на глыбіні 0,8 м асобныя вугольчыкі. У аснове кургаоў гумусіраваная глеба і вугольчыкі.

Курган 6 круглы, дыяметрам 7 м, вышынёй 1,4 м. У яго аснове гумусіраваны слой 20—30 см таўшчынёй, на ім вуглі. Блізка да цэнтра кургана мацярык пракалены. Знойдзены дзве перапаленыя косткі.

Курган 7 круглы, дыяметрам 10 м, вышынёй 1,2 м. Пад дзірваном прыкметы рытуальнага вогнішча. Каля цэнтра кургана пад дзірваном на глыбіні 10 см ляпная урна. Яе верх разбурыўся, ніжняя частка добра захавалася. Гэта ляпная слабапрафіляваная пасудзіна. У ёй прыкладна каля 200 г паленых касцей. Акрамя таго, у насыпе кургана на глыбіні 0,5 м у двух месцах яшчэ знойдзены перапаленыя косці і кавалак керамікі таго ж тыпу.

У Павалішынскім курганным могільніку прасочваюцца спецыфічныя рысы пахавальнага абраду. На месцы збудавання кургана разводзілі рытуальнае вогнішча на глебе. Потым тут насыпаўся курган. У курган (на падсыпцы або ўверсе) змяшчалася урна з рэшткамі крэмацыі, а пасля, відаць, разводзіўся касцёр па ўсёй паўсферычнай паверхні кургана. Трупаспаленне праводзілася па-за курганом. Курганную групу можна датаваць трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э., але не выключана больш вузкае яе датаванне — сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н. э. Атокінскі і Павалішынскі курганныя могільнікі каля в. Янкавічы існавалі ў V—VI стст. н. э. і з'яўляюцца самымі старажытнымі курганамі з трупаспаленнем у паўночных раёнах Віцебскай вобласці.

У 200—300 м на паўднёвы захад ад кургана 4 у лесе каля балота размешчаны яшчэ чатыры курганы. Яны расплыліся і маюць дыяметр да 15 м. Адзін курган вялікі. Яго дыяметр 20 м пры вышыні 2 м. Па другі бок балота пры дарозе з Янкавіч у Рудню знаходзіцца яшчэ адзін курганны могільнік. Ён размешчаны прыкладна за 1 км ад Павалішынскага курганнага могільніка.

**Рудня (Расонскі раён).** За 2 км ад вёскі ў лесе размешчаны курганны могільнік. Ён налічвае 21 курган, з якіх два доўгія. Даўжыня аднаго кургана 27 м, другога — 25 м. Трэці курган камбінаваны і складаецца з валападобнага насыпу даўжынёй 10 м, на краю якога знаходзіцца яшчэ круглы курган (мал. 10). Знешні выгляд гэтага прыкметнага помніка з'яўляецца яшчэ адным доказам на карысць таго, што доўгія і круглыя насыпы ў Беларускім Падзвінні ўзніклі адначасова. Астатнія курганы ў могільніку ў плане круглыя. У некаторых як доўгіх, так і круглых курганоў захаваліся глыбокія раўкі. У 1970 г. раскапаны тры курганы.

Курган 1 доўгі (27×8×1,2 м). Уздоўж бакоў насыпу прасочваюцца раўкі. Як высветлілася пры раскопках, першапачаткова яны былі значна глыбейшыя (да 0,8 м). У раўках выяўлена вуголле. З гэтага вынікае, што раўкі, мабыць, рабіліся да ўзвядзення кургана. Прыкметы вогнішча знойдзены на паверхні кургана, як гэта ўжо адзначалася ў Павалішынскім курганным могільніку. Пад насыпам прасочваецца слой глебы, у якім бачны крапінкі вугольчыкаў. Блізка да сярэдзіны кургана знойдзена вялікая колькасць вуглёў і галавешак. Да ўтварэння кургана тут разводзіўся агонь. Прыкмет пахавання не знойдзена.

Курган 2 круглы. Яго дыяметр 5 м, вышыня 0,7 м. Знойдзена трупаспаленне 250 г. у насыпе і бранзалет ці, магчыма, скроневае кальцо (мал. 58, 1). У паўночна-ўсходняй чвэрці блізка да краю насыпу ў мацерыку выяўлена яма, круглая ў плане, глыбінёй 0,5 м.

Курган 3 круглы. Яго дыяметр 6 м, вышыня 1 м. Пад дзірваном у насыпе перапаленыя косці і вуголле.

**Лятохі (Віцебскі раён).** Курганны могільнік з 14 насыпаў каля вёскі знаходзіцца за 1 км ад берага р. Лучосы. Курганы цягнуцца ўздоўж лясной дарогі на адлегласці 0,5 км. Тры курганы доўгія або падоўжаныя, астатнія ў плане круглыя. Ёсць насыпы вышынёй больш за 2 м. Уяўляе цікавасць валападобны курган даўжынёй 70 м.

У 1923 г. А. К. Супінскі раскапаў два авальныя курганы. У адным кургане на гарызонце рэшткі дрэнна спаленага касцяка, арыентаванага на паўночны ўсход, у другім на грунце выяўлена вогнішча [7]. Аўтар праводзіў раскопкі кurганоў у 1965, 1972 гг.

Курган 3 круглы ў плане. Вышыня 1,2 м, дыяметр 9 м. Ён размешчаны побач з апісаным доўгім курганом. У цэнтры насыпу ёсць западзіна. З паўднёвага боку ровік. Амаль пасярэдзіне курган перарэзаны вузкай траншэяй, якая засталася ад апошняй вайны. Ля асновы кургана выразна прасочваецца старажытны гумусаваны слой, на якім былі асобныя вуглі. Курган пусты.

Курган 4 у плане круглы. Дыяметр 10 м, вышыня 2 м. Пад насыпам на гарызонце знойдзена трупаспаленне ў ямцы. Колькасць касцей была значная і складала 1,9 кг. Рэчавага інвентару няма.

Курган 5 даўжынёй 18 м, шырынёй 8 м, вышынёй 1,5 м. Пахавання курган не мае. На глыбіні 1 м ад паверхні кургана амаль па ўсёй плошчы насыпу чорная праслойка таўшчынёй 18—25 см. У ёй сустракаюцца вугольчыкі, знойдзены вялікі фрагмент ляпнога слабапрафіляванага гаршка. Пасля зняцця слоя таўшчынёй 20 см у тым месцы, дзе знаходзіўся фрагмент, выяўлена чорная пляма. Гэта была яма, паглыбленая ў мацярык з гравію. Яе дыяметр 1 м, глыбіня 30 см. У яме выяўлена ніжняя частка ляпнога посуду, які быў перавернуты ўверх дном. Магчыма, гэты посуд і фрагмент належалі аднаму гаршку. Аднак пахавання тут не было.

Некаторыя вынікі дало даследаванне раўкоў вакол кургана. Знешне яны амаль не выражаны, але ў профілі добра бачны. Шырыня раўкоў 1,5 м, глыбіня 1 м. У іх гарэў агонь, што пацвярджаецца наяўнасцю чорнай праслойкі. Не выключана, што раўком першапачаткова было абазначана месца будучага насыпу і з грунту насыпана падсыпка, на якой выкананы рытуальны абрад, і ў агонь кінута частка разбітай пасудзіны. Фрагмент пасудзіны пакладзены ў ямку ў пачатку рытуалу. Затым на грунт нанеслі контур будучага кургана. Можна меркаваць, што гэта быў рытуальны курган або кенатаф трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Яго пабудавала насельніцтва, якому належыць банцараўская культура.

**Старое Сяло (Віцебскі раён).** Археалагічны комплекс знаходзіцца на беразе Заходняй Дзвіны, дзе размешчана вядомае ў археалагічнай навуцы гарадзішча і курганныя могільнікі. У 1928 г. А. М. Ляўданскі даследаваў курганы ў лесе за 1 км ад гарадзішча. Тут у першай групе налічвалася 26 курганоў, у другой — 47. У абедзвюх групах ёсць насыпы круглыя, падоўжаныя і валападобныя. Даўжыня аднаго кургана ў другой групе дасягала 40 м. Вышыня самых вялікіх курганоў 1,5—2 м.

У першай групе А. М. Ляўданскі вывучыў два курганы. У кургане 1 блізка да яго паверхні пад дзірваном знаходзіліся перапаленыя косці (1268 г.), ляпны гаршчок з чырвонай гліны і абломак другой такой жа пасудзіны. Пад курганом выяўлена попелавугальная праслойка, у якой не было рэштак крэмацыі. Знойдзеныя ў абломках дзве пасудзіны з'яўляюцца слабапрафіляванай керамікай VI—VIII стст. (мал. 6). Спосаб пахавання на паверхні кургана, форма посуду дазваляюць меркаваць, што курганы пад Старым Сялом адносяцца да помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

У другой курганнай групе каля в. Старое Сяло даследаваны адзін курган, форма якога падобная да чатырохвугольнай. Уверсе пад дзірваном у ямцы знойдзена кучка моцна перапаленых касцей чалавека разам з вуглем і попелам. Пад курганом грунт абпалены, трупаспаленне

8. Зак. 649

праводзілася на месцы збудавання кургана. Спосаб пахавання ў кургане дазваляе зрабіць выснову, што ў другой лясной курганнай групе былі таксама пахаванні трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Апошнім часам у наваколлі в. Старое Сяло адбыліся змены. Таму цяжка вызначыць месцазнаходжанне былых курганных могільнікаў. У 1973 г. аўтарам знойдзены за 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі чатыры курганы. Адзін насып вывучаны. Курган круглы ў плане, дыяметрам 8 м, вышынёй 1,4 м. Ён насыпаны з пяску, у якім зрэдку сустракаецца попел. На гарызонце попелавугальная праслойка таўшчынёй 5—7 см. Пад ёй залягаў мацярык. У кургане пахаванне не знойдзена.

**Гаравыя (Полацкі раён).** Курганны могільнік каля вёскі налічваў 38 круглых і падоўжаных у плане насыпаў. У 1928 г. А. М. Ляўданскі даследаваў восем курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У трох насыпах побач з перапаленымі касцямі чалавека выяўлены ляпныя гаршкі, шкляныя пацеркі, бронзавая спіралька. Некаторыя курганы пустыя. У кургане 1 пад самай вяршыняй стаяў ляпны слоікападобны гаршчок з крыху адагнутымі краямі, напоўнены перапаленымі касцямі чалавека (400 г). Гаршчок-урна быў накрыты другой пасудзінай такой жа формы. Трупаспаленне адбывалася па-за курганом [8]. Чатыры курганы пустыя. У астатніх знойдзены трупаспаленні, у падоўжаным кургане 7 папсаваныя агнём сінія пацеркі, рэшткі бронзавых упрыгожанняў, сярод якіх спіралька [9]. У 1980 г. дацэнт В. А. Булкін даследаваў яшчэ адзін круглы курган, у якім нічога не знойдзена, толькі выяўлены заплыўшы равок вакол насыпу.

Курган 22, паводле нумарацыі А. М. Ляўданскага, раней быў парушаны, што ён і адзначыў. У 1980 г. каля кургана выпадкова знойдзены пад дзірваном дзесяткі кавалкаў ад ляпнога начыння з расчэсамі (мал. 38, 3). Напэўна, гаршчок мае адносіны да кургана. Могільнік можна датаваць сярэдзінай — трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

**Варганы (Докшыцкі раён).** Каля вёскі знаходзіцца археалагічны комплекс, які ўключае гарадзішча ранняга жалезнага веку (культура штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская), селішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і курганныя могільнікі. У 1965 г. аўтар даследаваў на селішчы 72 м². Знойдзены сляды зрубнага жытла з печчу-каменкай, кераміка банцараўскай культуры, жалезныя серп і шылы, дзве гліняныя формы для адліўкі бронзавых упрыгожанняў, біканічныя праслiцы (мал. 19). Курганны могільнік размешчаны побач з паселішчам, за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. Захаваліся тры падоўжаных курганы. У 1965 г. даследаваны два насыпы.

Курган 1 насыпаны з пяску, меў даўжыню 9 м, шырыню 7 м, вышыню 1 м. У насыпе знойдзена ніжняя частка ляпнога гаршка. Пад насыпам на гарызонце выяўлена попелавугальная праслойка, у якой вылучаліся дзве плямы з перапаленымі касцямі.

Курган 2 мае даўжыню 8 м, шырыню 5 м, вышыню 1 м. Пад курганом на мацерыку выяўлена попелавугальная праслойка і ямка дыяметрам 40 см, глыбінёй 20 см, якая была накрыта перавернутым гаршком, дэфармаваным ад уздзеяння агню (мал. 11, 1). У ямцы знаходзіліся моцна перапаленыя косці, сярод якіх была жалезная спражка з увагнутымі бакамі (мал. 24, 2).

Курганы адносяцца да другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. Больш канкрэтную дату назваць цяжка. Можна меркаваць, што могільнік адначасовы селішчу банцараўскай культуры, каля якога побач знаходзіцца. Каля в. Варганы размяшчаюцца яшчэ два курганныя могільнікі, якія не даследаваліся.

## ПОМНІКІ АПОШНЯЙ ЧВЭРЦІ 1-га ТЫСЯЧАГОДДЗЯ н. э.

Курганы з трупаспаленнем атокінскага тыпу змяняюцца ў VIII—IX стст. могільнікамі з падоўжанымі і круглымі ў плане курганамі. Аднак гэтыя помнікі другой стадыі адрозніваюцца ад разгледжаных курганоў першай стадыі некаторымі дэталямі пахавальнага рытуалу, галоўным чынам керамікай і інвентаром. Сярод інвентару жаночых пахаванняў нярэдка сустракаюцца ўпрыгожанні, распаўсюджаныя сярод балцкага насельніцтва. Характэрным помнікам можа служыць могільнік каля в. Баркі на Полаччыне.

**Баркі (Полацкі раён).** Вёска размешчана на левым беразе р. Дрысы за 10 км ад в. Янкавічы і за 20 км на поўнач ад Полацка. Тут у 1967 г. пры дапамозе мясцовага насельніцтва быў адкрыты курганны могільнік. У ім налічвалася 18 курганоў. Адзін курган доўгі, тры падоўжаныя, астатнія — круглыя. Па звестках мясцовых жыхароў, раней курганоў было больш.

У тым месцы, дзе Дрыса бліжэй за ўсё падыходзіла да месца размяшчэння курганоў за 1 км ад могільніка, на беразе выяўлена селішча, якое займала плошчу 2 га. Магутнасць культурнага слою 50—60 см. Яно разворваецца. На раллі сустракаецца ганчарная кераміка.

Бліжэйшае гарадзішча размешчана за 5 км ад Баркоў, каля месцазнаходжання былой в. Глісноўка. Гарадзішча на ўзгорку вышынёй 4—5 м. Пляцоўка круглая, дыяметрам 40 м. Каля падэшвы — рэшткі невысокага вала і рова. Культурны слой таўшчынёй 0,3 м бедны знаходкамі, трапляецца ляпная кераміка.

У курганным могільніку ў 1970—1971 гг. даследавана дзевяць курганоў. Курган 1 круглы, дыяметрам 10 м, вышынёй 1 м. Насыпаны з мацерыковага жоўтага пяску. Каля вяршыні на глыбіні 30 см знойдзена трупаспаленне вагой 350 г. Яно знаходзілася на падсыпцы. Пад ім абпалены пясок, аднак на малой плошчы. Попелу амаль няма. Спаленне нябожчыка праведзена ў іншым месцы, потым рэшткі прынесены і змешчаны ў насып. Пад насыпам кургана выяўлены рэшткі вогнішча.

Курган 2 круглы. Яго дыяметр 8 м, вышыня 1,2 м. Знаходзіцца на краю могільніка. Насыпаны з жоўтага пяску. У паўднёва-ўсходняй частцы кургана блізка да мацерыка ў насыпе — пляма з вуглёў і галавешак. На гэтым узроўні вуглі сустракаюцца яшчэ ў некалькіх месцах у меншай колькасці. У паўночна-заходняй частцы кургана з краю амаль на гарызонце ляжала кучка камянёў. Іх некалькі дзесяткаў памерам 10—15 см. Цяжка вызначыць, ці маюць яны дачыненне да кургана. Блізка да цэнтра асновы насыпу ў мацерыку яма дыяметрам 45 см, глыбінёй 27 см. Яна акуратна выкапаная, мае правільную форму і адвесныя сценкі. Яма даверху запоўнена рэшткамі трупаспалення, якое праводзілася на месцы. Зверху знаходзіўся ляпны невялікі гаршчок, які разваліўся. Ён меў крутыя плечыкі, як і многія пасудзіны з раскапаных курганоў. Сярод кальцыніраваных касцей, якіх пасля прасейвання было 0,5 кг, знойдзена каля 200 пашкоджаных агнём рэчаў. Некаторыя з іх захаваліся параўнальна добра: 11 касцяных качак (дзве амаль непашкоджаныя), 20 бронзавых трапецападобных падвесак, чатыры бронзавыя спіралькі, жалезная спражка з увагнутымі бакамі (мал. 31). Таксама знойдзены кавалкі аплаўленай масіўнай шыйнай грыўні, зробленай з дроту, фрагмент касцяной падвескі (мал. 31, 17), дэталі жалезнай бляшанкі (мал. 31, 7, 18), шмат аплаўленых маленькіх «шарыкаў» з бронзы, ёсць «шарыкі» са срэбра. Гэта рэшткі пашкоджаных агнём упрыгожанняў.

Курган 3 круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 0,7 м. Пад насыпам у паў-

днёва-ўсходняй частцы — вуглістая пляма. У цэнтры кургана другая пляма (1×2 м). Тут стаяў гарлавінай уверх невялікі ляпны гаршчок (мал. 34, 1). Яшчэ знойдзена круглая яма дыяметрам 40 см, глыбінёй 30 см. У ёй разам з вуголлем і попелам была кучка перапаленых касцей вагой 200 г і шмат рэчаў, пашкоджаных агнём: кавалак серпападобнай шыйнай грыўні з плоскімі канцамі (мал. 31, 29), буйныя блакітныя шкляныя пацеркі (мал. 31, 30), бронзавыя спіралькі (мал. 31, 20, 21). Пацеркі і спіралькі — дэталі маністаў, якія насіліся на шыі. Сярод упрыгожанняў трапецападобныя падвескі (мал. 31, 1—4), такія, як у кургане 2.

Курган 4 падоўжаны, памерам 10×5×1,4 м. Пад дзірваном у паўночна-заходняй частцы былі валуны, якія ляжалі без пэўнага парадку. Пад насыпам у некалькіх месцах знойдзены вугаль і тры невялікія абломкі ляпной керамікі.

Курган 5 круглы, вышынёй 1 м. Пад насыпам амаль у цэнтры яма (80×30 см) глыбінёй 30 см. Каля яе ляжаў дном уверх раздаўлены ляпны гаршчок. У яме трупаспаленне і некалькі дзесяткаў аплаўленых рэчаў: жалезная спражка, спіралька (мал. 31, 26, 31), аплаўленае шкло блакітнага колеру ад пацерак. Пахаванне, напэўна, жаночае.

Курган 6 падоўжаны (8×6×0,8 м). Пад насыпам невялікая попела-вугальная праслойка. У паўднёва-заходняй частцы кургана на гарызонце ляжаў бокам ляпны гаршчок, упрыгожаны касымі зашчэпамі па венчыку (мал. 31, 2). У паўночна-заходняй частцы ў мацерыку яма дыяметрам 80 см, глыбінёй 40 см. Зверху яе знаходзіўся перавернуты ўверх дном ляпны прысадзісты гаршчок з крутымі плечыкамі і высокім венчыкам (мал. 11, 2). У запаўненні ямы знойдзена 300—400 г перапаленых касцей, сярод якіх некалькі зубоў чалавека. Знойдзена пяць бронзавых спіралек, тры трапецападобныя падвескі (мал. 31, 42), рэшткі шкляных пацерак, адна спаяная са спіралькай (мал. 31, 41).

У пахаванні прадстаўлены рэшткі маністаў. Такі тып упрыгожання вядомы на раскопках іншых помнікаў. У ім чаргаваліся шкляныя пацеркі і спіралькі (звычайна тры рады). Спіралькі невялікія ў дыяметры, пацеркі пераважна буйныя з блакітнага празрыстага шкла, некаторыя, напэўна, бясколерныя (белыя), відаць, былі пацеркі ў вочкі. Ёсць фрагменты пласцінкавага бранзалета ў сячэнні выпукла-плоскага з рабром зверху (мал. 31, 40). Некалькі кавалкаў шыйнай грыўні або бранзалета з патоўшчанымі канцамі (мал. 31, 34). Знойдзена вялікая ў дыяметры спіралька (мал. 31, 39), відаць, ад галаўнога ўпрыгожання.

У краю насыпу знойдзены рэшткі яшчэ аднаго трупаспалення. На мацерыку была невялікая кучка перапаленых касцей, чатыры кавалкі ляпной керамікі і жалезная абоймiца ад пояса (мал. 31, 47). Такім чынам, у кургане два пахаванні: жаночае і мужчынскае. Інвентар пахавання цікавы тым, што тут у комплексе даволі поўна прадстаўлены ўсе віды жаночых упрыгожанняў, якія сустракаюцца ў доўгіх курганах Смаленшчыны. Гэта развітая форма ўпрыгожанняў жаночага касцюма, характэрнага для балтаў [10].

Курган 7 круглы, вылучаецца правільнай формай і вялікімі памерамі (дыяметр 9 м, вышыня 2 м). На глыбіні 1,8 м на гарызонце ў паўночна-заходняй частцы знойдзены трупаспаленні ў двух месцах. Пахаванне 1 на мацерыку, вага перапаленых касцей 2,1 кг. У ім была жалезная спражка з увагнутымі бакамі (мал. 31, 35) і кавалкі дэфармаванага ў агні ляпнога гаршка з плечыкамі. За 60 см ад пахавання 1 у ямцы дыяметрам 70 см, глыбінёй 30 см — пахаванне 2 па абраду трупаспалення. У запаўненні ямы быў невялікі гаршчок з плечыкамі (мал. 34, 3) і перапаленыя косці, сярод якіх, несумненна, косці жывёлы. Знойдзены фраг-

мент вырабу з косці, напэўна, дэталь дзяржання нажа з плоскім чаранком. У ім жалезная заклёпка, якой змацоўваліся дзве пласцінкі.

Агульная вага касцей з пахавання 2,2 кг. Па вызначэнню В. В. Шчагловай, ёсць косці каня і хатняга быка. Належалі яны вельмі малым асобінам. Такая ж з'ява выяўлена пры вывучэнні матэрыялаў з гарадзішча Падгай у вярхоўях Заходняй Дзісны, дзе знойдзены косці жывёлы дробнай, танкарогай («ляснога тыпу»)[11]. Прысутнасць сярод рэшткаў пахавання касцей жывёлы растлумачвае значны аб'ём перапаленых касцей у кургане агульнай вагой 4,3 кг. Можна меркаваць, што калі крэмацыя прадстаўлена вялікай колькасцю касцей (1,5 кг і больш), то, напэўна, акрамя людзей (або аднаго чалавека) былі спалены яшчэ і жывёлы.

Курган 8. Ад яго захавалася ўсходняя палова. Напэўна, насып быў круглы, вышынёй 70 см. У насыпе блізка да краю і гарызонту знойдзена пляскатае глінянае прасліца і побач кавалак ляпной пасудзіны. Прасліца, напэўна, было кінута пры пахаванні як ахвяра-прынашэнне (мал. 31, 48). Пад насыпам гумусаваная глеба з украпінамі вугалю.

Курган 9 адносіцца да ліку доўгіх. Яго даўжыня 25 см, шырыня 9 м, вышыня 2 м. Насыпаны з жоўтага пяску. У пяску сустракаюцца ўкрапіны вугалю. Суцэльнай праслойкі яны не ўтвараюць, за выключэннем склону першай падсыпкі. Блізка да цэнтра насыпу на глыбіні 0,8—1,2 м сустракаюцца асобныя валуны. Пад насыпам на глыбіні 2 м зафіксавана шэрая тонкая праслойка гумусу. У ёй блізка да цэнтра знойдзены асобныя кальцыніраваныя косці, сярод якіх ёсць адзін карэньчык ад зуба чалавека. Трупаспаленне і само пахаванне праходзіла ў іншым месцы, тут жа быў узведзены гэты значны па памерах курган. Курган насыпаны, трэба меркаваць, у два прыёмы, у броўцы добра бачна граніца першапачатковага насыпу.

У курганным могільніку каля в. Баркі ў некаторых выпадках праведзена трупаспаленне на месцы ўзвядзення курганоў. Але попелавугальная праслойка пад насыпам нязначная. Суцэльнай і тоўстай праслойкі ні ў адным выпадку не прасочвалася. Пад дзірваном не знойдзена прыкмет агню, што наглядалася ў курганным могільніку Павалішына каля в. Янкавічы. Час збудавання курганнай групы ў в. Баркі на Полаччыне можна вызначыць другой паловай VIII—IX ст. Гэтыя курганы змяняюць курганныя пахаванні тыпу Аток і Павалішына каля Янкавіч трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

**Бяскатава (Гарадоцкі раён).** На ўзвышшы размешчана гарадзішча Папова Гара. Верхняя пляцоўка авальная (45×40 м), таўшчыня культурнага слою 1 м. У ім сустракаюцца ляпная тэкстыльная і гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку і кавалкі гаршкоў, зробленых на ганчарным крузе. Гарадзішча моцна пашкоджана сучасным могільнікам. Побач з гарадзішчам знаходзіцца паселішча плошчай 1 га з ляпной керамікай трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. банцараўскай культуры.

На ўсход ад гарадзішча за 0,3 км курганны могільнік, дзе захавалася 12 курганоў: адзін доўгі, чатыры падоўжаныя, астатнія круглыя. Некалькі курганоў было зрыта пры распрацоўцы кар'ера. У 1975 г. аўтарам даследаваны два курганы.

Курган 1 падоўжаны (7×5 м), вышынёй 0,8 м. На глыбіні 0,75 м пад насыпам амаль па ўсёй плошчы кургана попелавугальная праслойка 5 см. Пахаванне было адно. Яно знойдзена ва ўсходняй частцы кургана за 2 м ад цэнтра. У авальнай яме 30×40 см, выкапанай у мацерыку, на глыбіні 20 см знаходзіўся попел, вуглі і 200 г кальцыніраваных касцей, сярод якіх некалькі касцей птушкі. У пахаванні знойдзены рэчы, пашко-

джаныя агнём, дзве фігуркі птушак, мабыць, качак (мал. 32, 4, 5), бронзавае плоскае скроневае кальцо з адтулінамі для трапецападобных падвесак (мал. 32, 1) тыпу Арэфіна на Смаленшчыне (мал. 35, 32), шкляная зялёная двайная пацерка, па форме падобная на лімонку (мал. 32, 6), касцяны круглы выраб з малой адтулінай, напэўна, гузік. У ямцы быў невялікі ляпны гаршчок з плечыкамі, які распаўся. Паводле абраду пахавання і інвентару, курган блізкі да таго, што выяўлены ў могільніку ля в. Баркі на Полаччыне. Трупаспаленне жанчыны праводзілася на месцы збудавання насыпу.

Курган 2 круглы. Дыяметрам 5,5 м, вышынёй 0,8 м. Пад курганом на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні прасочваюцца сляды згарэўшага вогнішча. У паўднёва-заходняй частцы неглыбокая ямка, у якой былі вуглі. Прыкмет пахавання ў кургане не выяўлена.

**Смалькі (Гарадоцкі раён).** Курганны могільнік за 0,8 км на ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі на Гарадок. Каля 35 курганоў (10-у плане падоўжаных) зараслі хмызняком і лесам. Вышыня круглых насыпаў 1—2 м,




*Мал. 66. Планы курганных могільнікаў з абазначэннем даследаваных курганоў: а — Бяскатава (Гарадоцкі раён); б — Глівін (Барысаўскі раён), в — Дворышча (Мінскі раён)*

дыяметр 6—10 м. Памеры падоўжаных курганоў 12×8×1,5 м. Тры курганы вышынёй каля 3 м. Самы вялікі вышынёй 4,5 м, дыяметрам да 20 м. Навокал вялікіх насыпаў захаваліся глыбокія раўкі. У 1973 г. у могільніку даследаваны два насыпы.

Курган 1 падоўжаны (8×6 м), вышынёй 1,4 м. Выцягнуты з поўначы на поўдзень, насыпаны з буйіназярністага пяску. На глыбіні 1 м выяўлена пязначная попелавугальная праслойка 3—5 см. На ёй у цэнтры кургана змешчаны два ляпных гаршкі ўверх дном (мал. 27, б). Знойдзены кавалкі трэцяга гаршка, таксама з плечыкамі арнаментам «насечка». Гаршкі накрывалі невялікую яму з трупаспаленнем. Курган датуецца ў межах IX — пачатку X ст.

Курган 2 размешчаны побач з курганом 1. Ён таксама падоўжаны (8×6 м), вышынёй 1,55 м. На ўзроўні старажытнай дзённай паверхні выяўлена попелавугальная праслойка. Пахаванне не знойдзена.

**Гуркі (Гарадоцкі раён).** Каля вёскі за 6 км на поўдзень ад воз. Езярышча існаваў курганны могільнік, які займаў плошчу 2 га. У ім налічвалася 25 курганоў, якія цягнуліся ўздоўж дарогі на в. Жукава (мал. 76, б). Вышыня курганоў 1,5—2,2 м. Амаль палова насыпаў у плане падоўжаныя, два прамавугольныя, некалькі курганоў круглыя. У 1975 г. даследаваны адзін падоўжаны курган (8×6 м) вышынёй 2,2 м. На глыбіні 1 м знойдзены галавешкі, рэшткі вогнішча. Пад курганом зафіксаваны слой вогнішча 10 см без прыкмет пахавання.

**Вусце (Полацкі раён).** Каля вёскі знаходзіцца курганны могільнік з 29 насыпаў, у плане круглых, некаторыя курганы падоўжаныя. Вышыня насыпаў 1—2 м. У 1974 г. быў даследаваны падоўжаны курган (6×4 м) вышынёй 1 м. Пад насыпам на глыбіні 0,9 м выяўлена попелавугальная праслойка, у якой знойдзены дзве кальцыніраваныя костачкі. У паўднёва-заходняй частцы кургана ў гэтым слоі знойдзены ляпны гаршчок з крутымі плечыкамі (мал. 34, 6). Курган датуецца ў межах IX— пачатку X ст.

**Прыхабы (Расонскі раён).** За 5 км ад вёскі пры дарозе на в. Тофель ёсць сем курганоў, з якіх тры падоўжаныя. У 1970 г. даследаваны адзін. Яго дыяметр 9 м, вышыня 1,15 м. Пад насыпам па ўсёй плошчы прасочваецца попелавугальная праслойка. У паўночна-ўсходняй частцы кургана на мацерыку ўскрыта ямка дыяметрам 20 см, глыбінёй 20 см. У ёй крыху кальцыніраваных касцей. Рэчавага інвентару няма.

**Банонь (Полацкі раён).** У 1967 г. даследаваліся курганы, якія размешчаны каля дарогі паміж былой вёскай Банонь і Экімань. Гэта бліжэйшы да Полацка курганны могільнік з усіх, якія існуюць цяпер. Ад Полацка за 5—6 км на захад, на левым беразе Заходняй Дзвіны. У могільніку 30 круглых насыпаў, якія добра захаваліся. Вакол іх ёсць раўкі. Насыпы вышынёй 0,4—1 м. Адзін вылучаецца значнымі памерамі.

Курган 1 дыяметрам 4 м, вышынёй 0,4 м. Пад насыпам на падэшве знойдзены перапаленыя косці. Трупаспаленне адбылося тут на грунце. Таўшчыня праслойкі 10 см. У ёй дзве чорныя плямы. Рэчаў няма.

Курган 2 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,7 м. Насып амаль зліваецца з суседнім курганом. Трупаспаленне адбылося на грунце, пра што сведчыць тоўсты слой вогнішча. Рэшткі перапаленых касцей змешчаны ў лейкападобнай ямцы глыбінёй 20 см. Яе дыяметр зверху 50—70 см. Сярод кальцыніраваных касцей знойдзены чатыры рэчы: разбіты кругавы гаршчок (мал. 67, 4), нож з тоўстай спінкай, ключ, жалезная спражка (мал. 67, 2).

Курган 3 дыяметрам 7,5 м, вышынёй 0,5 м. У плане амаль круглы. На грунце рэшткі трупаспалення. Рэчаў няма. Попельная праслойка па

ўсёй плошчы кургана. Верагодна, памёршы спалены на гэтым месцы.

Курган 4 дыяметрам 6,5 м, вышынёй 0,5 м. Трупаспаленне адбылося на месцы, на грунце. Недалёка ад цэнтра кургана ў яго паўночна-заходняй частцы пляма з перапаленымі касцямі.

Курган 5 дыяметрам 8 м, вышынёй 0,6 м. Тоўсты слой попелу на грунце.

Курган 6 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,4 м. На грунце попел і вуголле.

Курган 7 дыяметрам 11—12 м, вышынёй 2 м. Гэта самы вялікі курган. Навокал ёсць равок глыбінёй 40 см. На глыбіні 0,8—1,2 м у розных месцах кургана выяўлены попел і спаленыя косці. Верагодна, яны трапілі ў насып разам з пяском, калі насыпаўся курган. На глыбіні 1,9 м на падэшве адкрыта праслойка з попелам і вуголлем. У ёй шмат моцна



*Мал. 67. Банонь (Экімань). Рэчы з раскопак курганоў другой паловы X — пачатку XI ст.: 1, 3, 5—10 — з кургана 7; 2, 4, 11, 12 — з кургана 2*

перапаленых касцей. Іх агульная вага 3,2 кг. Вялікую цікавасць уяўляе паўднёва-заходні сектар (мал. 67). Тут адкапаны рэшткі спаленых бярвенняў. Амаль у цэнтры кургана вялікая пляма, насычаная перапаленымі касцямі. Знойдзены цуглі (мал. 67, 3), жалезныя дэталі бізуна (мал. 67, 6—8). Побач ляжалі тры камяні. Знойдзены жалезныя кольцы ад кальчугі, рэшткі наканечніка стралы (мал. 67, 10), жалезная спражка. Невялікі кругавы гаршчок быў кінуты як ахвяра на яшчэ не застылае вогнішча і разбіўся (мал. 67, 1). Таўшчыня праслойкі ля цэнтра 10 см, ля краю 2—3 см. Крэмацыя адбылася на гэтым месцы. Верагодна, быў спалены воін разам з канём.

Пахавальны абрад у курганнай групе — трупаспаленне на месцы, дзе пасля гэтага насыпаны курган. Рэшткі крэмацыі зграбаліся ў кучку (курганы 1, 2, 3, 4, 7). У курганах 5, 6 пахаванняў не знойдзена. У кургане 7, магчыма, пахаваны полацкі дружыннік у другой палове X—пачатку XI ст.

**Рудня (Полацкі раён).** Курганны могільнік знаходзіцца на беразе р. Вушача ў 15 км на паўднёвы захад ад Полацка. Помнік даўно вядомы ў археалагічнай навуцы [13]. А. М. Семянтоўскі паведаміў пра скарбашукальныя раскопкі ў 1887 г. і знойдзеных рэчах [14]. У 1928 г. могільнік даследавалі А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі [15], пра што ўжо падрабязна гаварылася.

У 1961 г. А. Р. Мітрафанаў вывучыў чатыры насыпы. Курган 15 падоўжаны (10,8×8,4), вышынёй 1,7 м, збудаваны ў два прыёмы. Пад пазнейшым насыпам бліжэй да паўднёвага краю знойдзена трупаспаленне ў глінянай урне. Кальцыніраваныя косці знаходзіліся таксама вакол урны. Побач з ёй стаялі яшчэ пяць цэлых ляпных гаршкоў [16]. Тут жа быў нож з прамой спінкай. У урне разам з перапаленымі касцямі знойдзены дзве шкляныя пацеркі і галоўка каня, выразаная з косці [17]. У выніку вывучэння больш ранняга насыпу на мацерыку выяўлены яшчэ два трупаспаленні, у кожным быў разбіты гаршчок.

Курган 16 у плане чатырохвугольны. Даўжынёй 10,9 м, шырынёй 10,3 м, вышынёй 1,6 м. Насыпаны з жоўтага пяску. На мацерыку блізка да цэнтра кургана знойдзена трупаспаленне, праведзенае на месцы збудавання насыпу. Кальцыніраваныя косці, вуглі і попел змешчаны ў неглыбокай ямцы. У пахаванні знойдзены кавалкі знарок разбітага гаршка і жалезная спражка.

Курган 17 падоўжаны (8×6 м). Вышынёй 1,4 м. На мацерыку знойдзена вогнішча і ў невялікім паглыбленні трупаспаленне, дзе былі дзве пашкоджаныя агнём шкляныя пацеркі і кавалкі гаршка.

Курган 18 круглы, размешчаны ва ўсходняй частцы могільніка. У насыпе сустрэты два абломкі ляпной керамікі з паселішча, на якім размешчаны курганы. Пахаванне не выяўлена.

У 1967 г. для даследавання аўтарам былі выбраны насыпы, якія знаходзяцца на ўскрайку курганнай групы, выцягнутай уздоўж берага р. Ушачы.

Курган 19 у плане круглы, паўсфярычны. Дыяметрам 8,5 м, вышынёй 1,6 м. Ён складаўся з двух слаёў. У верхнім сустракалася слабапрафіляваная кераміка V—VIII стст. Ніжні слой таўшчынёй 50 см складаўся з перамешанага культурнага слою з той жа керамікай.

Пад дзірванам у вяршыні кургана знойдзена некалькі аплаўленых пацерак у вочкі. На глыбіні 40 см выяўлены чэрап чалавека і некалькі касцей, па якіх можна меркаваць пра заходнюю арыенціроўку памёршага. Пад чэрапам знойдзена пацерка ў вочкі, якая не была ў агні (мал. 62, 6). Каля ног стаяў ганчарны гаршчок, побач з ім быў нож, каля таза-

вай косці скроневае бранзалетападобнае крывіцкае кальцо, абломак масіўнай сярэбранай шыйнай грыўні (мал. 62, 3). На глыбіні 1,4 м знойдзена глінянае прасліца, бронзавая трубачка і кавалкі керамікі, якія адносяцца да паселішча. Напэўна, пры пахаванні нябожчыка па абраду трупапалажэння было разбурана больш ранняе трупаспаленне. Дата трупапалажэння можа вызначацца канцом X або пачаткам XI ст.

Курган 20 круглы, дыяметрам 5,5 м. Крэмацыя адбылася на месцы, пра што сведчыць абпалены пясок. У паўночнай частцы насыпу выяўлена чорная пляма з вуглямі і перапаленымі касцямі. Побач знойдзена калачападобнае крэсіва (мал. 28, 4), нож і зубы чалавека. У насыпе вышэй попельнай праслойкі стаяў ганчарны гаршчок з лінейным арнаментам (мал. 28, 1). Амаль на гэтым узроўні выяўлена бразготка з крыжападобнай прарэзінай, арнаментаваная касымі нарэзамі, побач знаходзілася шкляная трайная сіняя пацерка (мал. 28, 3). Дата пахавання X ст.

Курган 21 круглы, дыяметрам 5 м, вышынёй 1 м. У насыпе на падсыпцы знойдзена чорная пляма, перапаленыя косці. Інвентар адсутнічае.

Курган 22 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,8 м. У насыпе няма ніякіх праслоек і ўключэнняў. Курган парожні, відаць, кенатаф.

Курган 23 круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 80 см, насыпаны з культурнага слою цёмнага колеру. Блізка да цэнтра на мацерыковым жоўтым пяску знойдзена ў невялікай ямцы трупаспаленне вагой 250 г. У цэнтры плямы жалезная спражка (мал. 28, 6), кавалкі ляпнога гаршка з плечыкамі і вялікай колькасцю жарствы ў гліне.

Такім чынам, ёсць дакладныя звесткі пра 23 даследаваныя курганы каля в. Рудня. Трупаспаленняў, размешчаных на грунце пад курганом, было 14, трупаспаленняў у насыпе — чатыры. У адным кургане было адно трупаспаленне ў насыпе, другое — на грунце. Трупапалажэнні знойдзены ў двух курганах: у адным на грунце, у другім на падсыпцы. Два курганы не змяшчалі пахаванняў, з'яўляліся кенатафамі.

А. М. Ляўданскі датаваў могільнік «не пазней VIII—IX стст.» [18] Але тут, несумненна, ёсць курганы з пахаваннямі X ст. Курганны могільнік каля в. Баркі больш ранні, чым разглядаемы могільнік каля в. Рудня Полацкага раёна, у якім ёсць курганы з посудам, зробленым на ганчарным крузе не раней сярэдзіны X ст., а таксама знойдзены два трупапалажэнні. Курганны могільнік каля в. Рудня мае агульныя рысы з пахаваннямі, даследаванымі каля в. Глінішча ў бліжэйшым наваколлі Полацка.

**Глінішча (Полацкі раён).** Курганны могільнік каля вёскі добра захаваўся, налічвае 53 курганы, размешчаныя кампактна па ўскрайку па ўзвышшы Амеціна Гара за 7 км на поўдзень ад полацкага Верхняга замка. Усе насыпы круглыя, з жоўтага пяску, параслі лесам. Каля асобных курганоў раўкі. У 1965 г. раскапана 11 насыпаў [19], у 1967 г.— яшчэ дзевяць.

Курган 1 вышынёй 0,9 м, дыяметрам 6 м. Пад насыпам на гарызонце амаль пасярэдзіне попелавугальнай праслойкі кучка моцна перапаленых касцей. У ёй рэшткі драцянога скроневага кальца, аплаўленыя шкляныя пацеркі. Зверху касцей разбіты невялікі гаршчок з лінейным арнаментам (мал. 49, 7). Яго фрагменты дэфармаваны ў выніку знаходжання ў агні. Гаршчок падпраўлены на ганчарным крузе, але край венчыка застаўся такім жа, як у ляпным посудзе. Час пахавання — X ст.

Курган 2 вышынёй 1 м, дыяметрам 7 м (мал. 49, 8). У насыпе праслойка з чарнаватага пяску. Трупаспаленне адбылося на месцы, пра што сведчыць попелавугальная праслойка на гарызонце. У ёй дзве кучкі касцей, у кожнай зверху па аднаму разбітаму ганчарнаму гаршку. Адзін

зусім маленькі, па памерах і форме такі, як гаршчок з кургана 1. Але ў ім па краю венчыка зроблены касы зрэз. Ніжнія часткі гаршкоў ляжалі ўверх дном. У попелавугальнай праслойцы абломак сярпа з насечкай па рэжучаму краю і жалезная падковападобная фібула (мал. 33, 20). Дата кургана — другая палова X ст.

Курган 3 вышынёй 1,5 м, дыяметрам 7 м. Ёсць равок. Попелавугальная праслойка на грунце ўключае перапаленыя косці. Знойдзены кавалкі ганчарнага посуду з лінейным арнаментам.




*Мал. 68. Гленішча. План курганнага могільніка з абазначэннем даследаваных і разбураных курганоў*

Курган 4 вышынёй 0,7 м, дыяметрам 4 м. На грунце попелавугальная праслойка з перапаленымі касцямі. Рэчаў няма.

Курган 5 вышынёй 1 м, дыяметрам 6 м. Вакол прасочваецца равок. Амаль пасярэдзіне вышыні насыпу праслойка чырванаватага пяску. Ніжэй тонкая попелавугальная праслойка. У ёй крыху перапаленых касцей, дно ляпнога гаршка, сланцавы брусок з адтулінкай для нашэння.

Другая попелавугальная праслойка выяўлена на гарызонце. На праслойцы дзве кучкі касцей, у кожнай па аднаму разбітаму ляпному гаршку, кінутаму на незастылае вогнішча (мал. 34, 14). Знойдзены рэшткі перапаленага ланцужка з каляровага металу. Напэўна, у кургане былі тры пахаванні.

Курган 6 вышынёй 1 м, дыяметрам 6 м. Нічым не вылучаецца ад апісаных вышэй курганоў па памерах. Але ён аказаўся найбольш багаты інвентаром. Змяшчае два пахаванні. Верхняе жаночае пахаванне змешчана ў насыпе кургана на падсыпцы вышынёй 0,7 м. У попелавугальнай праслойцы знойдзены разбіты ляпны гаршчок чырвонага колеру (мал. 34, 15), кавалкі другога ляпнога посуду. Акрамя таго, знойдзены лімонападобная двайная пацерка з празрыстага сіняга шкла (мал. 68), такая ж адзінкавая пацерка, паставая дэфармаваная пацерка, два кавалкі аплаўленага шкла, спіральны пярсцёнак з расшыранай сярэдняй часткай. Асаблівую цікавасць уяўляюць фрагменты плоскага скроневага кальца з заходзячымі канцамі і арнаментаваным выпуклым пояском, з

двух бакоў якога ідзе зубчатая нарэзка, дзве белыя круглыя невялікія пацеркі. Падобныя пацеркі знойдзены неаднаразова ў Гнёздаўскім могільніку на Смаленшчыне. Прасліца біканічнай формы зроблена з гліны. Жалезныя бляшкі служылі набойкамі для кожанага рэменя. Час верхняга пахавання ў кургане вызначаецца X ст.

Ніжняя попелавугальная праслойка амаль раўнамерна распаўсюджваецца па ўсёй плошчы насыпу. Блізка да цэнтра знойдзены черашковы наканечнік стралы з пяром полымяпадобнай формы, кавалкі ляпнога начыння, падобнага на посуд з верхняга пахавання, жалезны нож з тоўстай спінкай і доўгім чаранком для ручкі. У кургане два амаль аднача-совыя пахаванні, напэўна, мужа і жонкі. Дата кургана — першая палова X ст.

Курган 7 на паверхні ледзь бачны. Пад дзірваном выяўлена толькі праслойка вугалю і попелу.

Курган 8 дыяметрам каля 7 м, вышынёй 1 м. Пад курганом на грунце вогнішча таўшчынёй 18 см, якое супадае з акружнасцю яго асновы. Блізка да цэнтра — першая авальная пляма з дробнага вугалю і перапаленых касцей. У паўднёва-ўсходняй частцы кургана на тым жа ўзроўні — другая такая пляма. У першай пляме знойдзены маністы са шкляных пацерак, сярод якіх добра захавалася рабрыстая эліпсападобная пацерка жоўтага колеру, і ляпны міскападобны посуд, які быў кінуты на вогнішча (мал. 34, 11). На другой пляме стаяў гарлавінай уверх амаль цэлы ляпны прысадзісты гаршчок (мал. 34, 13). Ён не выкарыстоўваўся як урна і быў пастаўлены на незастылае вогнішча, ад чаго некалькі дэфармаваўся. Напэўна, у ім знаходзілася ежа. Непадалёку ад гаршка знойдзена пашкоджаная агнём рэльефная пацерка ў вочкі, кавалкі скроневага кальца. Час пахавання — X ст.

Курган 9 вышынёй 1,2 м, дыяметрам 6 м. У насыпе выяўлены дзве тонкія попелавугальныя праслойкі. У верхняй знойдзена некалькі чарапкоў ад ганчарнага посуду чырвонага колеру з грубым лінейным арнаментам, невялікая колькасць перапаленых касцей і абломкі вырабу, зробленага з тонкага кручанага жалезнага дроту. Спаленне праведзена па-за курганом.

Курган 10 на паверхні ледзь бачны. На мацерыку маленькія плямы вугалю і попелу.

Курган 11 вышынёй 1,6 м, дыяметрам 9 м. Ён адзіны змяшчаў трупапалажэнне. У насыпе прасочваліся плямы попелу і вугалю, знойдзены невялікія кавалкі ляпнога посуду. Напэўна, гэта прыкметы трызны. Касцяк ляжаў у цэнтры, пад невялікай плямай рытуальнага вогнішча на мацерыку. Пахаванне галавой на захад. Даўжыня касцяка звыш 1,4 м. Канечнасці рук не захаваліся. У кісці левай рукі літое бронзавае кальцо, круглае ў папярочным сячэнні. Чэрап храналагічна даследаваўся. Па вызначэнні М. І. Салівон, ён належаў даросламу мужчыну.

Курган 12 паўсферычны, насыпаны з жоўтага пяску. Дыяметр 10 м, вышыня 1,8 м. Вакол былі раўкі. На глыбіні 40 см прасочвалася па ўсёй плошчы насыпу праслойка з попелу і невялікай колькасці спаленых касцей. На глыбіні 70 см у насыпе знойдзены абгарэлы кавалак чэрапа, некалькі ніжэй — рэшткі абгарэлай трубчатай косці і, напэўна, костачка птушкі. Амаль на мацерыку выяўлены рэшткі трупаспалення, праведзенага на месцы. У цэнтры кургана вялікія вуглі і абпалены пясок. Цікава, што блізка да цэнтра кургана выяўлены рэшткі спаленага слупа (мал. 39).

Амаль у цэнтры на гарызонце ў попелавугальным слоі знойдзена разбітая ганчарная пасудзіна, якая ляжала бокам. На яе паверхні прасоч-

валася пакрыццё ангобам, выкарыстоўванне якога вядома ў X—XIII стст. Пасудзіна была кінута на вогнішча і разбілася. Два яе абломкі дэфармаваліся ад агню. Арнамент на пасудзіне лінейны, адна лінія хвалевая. Знойдзены фрагменты другога гаршка. Ён таксама дэфармаваны, зроблены на крузе і мае арнамент з дзвюх хвалістых ліній. У попелавугальнай праслойцы знойдзены рэшткі вырабу з каляровага металу (мал. 33, 1, 2), білонавы пярсцёнак, шырокасярэдзінны з завязанымі канцамі, і жалезны нож (мал. 33, 3, 4).

Курган 13 круглы. Вышынёй 0,9 м, дыяметрам 6 м. На глыбіні 0,8 м слой попелу да 10 см з украпінамі вугалю на гарызонце. Рэчаў няма. Знойдзена невялікая колькасць спаленых касцей. Напэўна, гэта дзіцячае пахаванне.

Курган 14 вышынёй 0,9 м, дыяметрам 5—7 м. На глыбіні 40 см плямы попелу з прымешкамі дробных вуглёў. На ўсёй плошчы падэшвы кургана зафіксаваны слой попелу, ён значна таўсцейшы каля цэнтра кургана. Месцамі выяўлены вялікія галавешкі (мал. 39), але перапаленых касцей не знойдзена. Відаць, курган можна лічыць кенатафам.

Курган 15 круглы, вышынёй 0,7 м, дыяметрам 5,5 м. У цэнтры насыпу яма, запоўненая пяском, і фрагменты касцей. У насыпе былі плямы попелу. На глыбіні 60—70 см па ўсёй плошчы кургана слой попелу з вугалем таўшчынёй да 5 см. Пад курганом пахаванне не знойдзена.

Курган 16 вышынёй 1,2 м, дыяметрам 8,5 м. У цэнтры кургана яма глыбінёй да 30 см. У насыпе знойдзены абвугленыя плахі, якія ляжаць паралельна. Выяўлена 600 г перапаленых касцей, сярод якіх некалькі фрагментаў керамікі, бронзавае кальцо з прыкіпеўшымі да яго фрагментамі жалезнага нажа і жалезных пласцін невядомага прызначэння, а таксама кавалак абгарэлай бяросты, па краях якой прасочваюцца скразныя адтуліны. Напэўна, частка каробкі (мал. 33, 5). Увесь грунт на глыбіні 1 м пакрыты попельнай праслойкай таўшчынёй да 5 см і дробным вугалем. У паўночна-заходняй частцы выяўлена вугальная пляма дыяметрам 70 см пры таўшчыні 5—8 см. На ёй некалькі перапаленых касцей. Знойдзены жалезны нож, на падэшве — фрагмент керамікі ад ляпнога гаршка.

Курган 17 вышынёй 1,2 м, дыяметрам 8 м. Пасля зняцця дзірвана на глыбіні 20—30 см у паўднёва-ўсходняй частцы знойдзены фрагмент керамікі. У насыпе на рознай глыбіні шматлікія попельныя і вугальныя праслойкі. На глыбіні 1,2 м на падэшве кургана значны вугальны і попельны слой таўшчынёй 3—5 см. Папярочнік плямы 3—4 см. Знойдзены фрагменты ад ганчарнага гаршка (мал. 33, 7). Перапаленых касцей выяўлена 70 г. Знойдзены абломак бронзавага ўпрыгожвання, напэўна, бранзалета, у сячэнні чатырохвугольнага (мал. 33, 8). Дата кургана — сярэдзіна—другая палова X ст.

Курган 18 вышынёй 1 м, дыяметрам 6 м. У вяршыні сляды заплыўшай ямы глыбінёй 15 см. На глыбіні 50 см знойдзены венчык ляпнога посуду (мал. 33, 13). На падэшве кургана праслойкі попелу з перамешкамі мелкага вугалю. У паўднёва-ўсходняй частцы на глыбіні 45 см была вугальная пляма з абгарэлымі рэшткамі слупа пасярэдзіне. Слуп стаяў вертыкальна і захаваўся на 15—20 см. Ніжняя яго частка паглыблена на 20—25 см. Вакол знойдзена некалькі фрагментаў кругавой керамікі з шырокім лінейным арнаментам (мал. 33, 14), нож з тоўстай спінкай (мал. 33, 9), аплаўленыя пацеркі — сінія «лімонападобныя» (мал. 33, 12). На мацерыку попельны і вугальны слой. Выклікаюць цікавасць знойдзеныя ў насыпе, напэўна, адначасовыя абломкі керамікі ад ляпнога і ганчарнага посуду. Дата кургана — сярэдзіна—другая палова X ст.

Курган 19 вышынёй 1,2 м, дыяметрам 8 м. У паўночна-ўсходняй частцы на глыбіні 1 м вугальная пляма, на якой знойдзена кальцо з жалезным стрыжнем, напэўна, цуглі. Па падэшве зафіксавана праслойка попелу з дробным вугалем. На глыбіні 1 м знойдзены спаленыя плашкі, перапаленыя косці (агульная вага 900 г), два ляпныя гаршкі: адзін нізкі, вышынёй 8 см, дыяметрам 7,5 см, другі больш высокі (табл. 5, 10). Акрамя таго, выяўлены некалькі фрагментаў бронзы (мал. 33, 18), жалезны нож (мал. 33, 19), якія былі ў агні, рабрыстая пацерка (мал. 33, 16), некалькі кавалкаў аплаўленых пацерак у вочкі, жалезная падковападобная фібула (мал. 33, 15). Увесь інвентар характэрны для X ст. Трупаспаленне праведзена на месцы збудавання кургана, пра што сведчыць моцна абпалены пясок на мацерыку.

Курган 20 вышынёй 85 см, дыяметрам 6,5 м. На ўсёй плошчы падэшвы знойдзены слой попелу з дробнымі вугольчыкамі. Знаходак няма, як і ва ўсіх малых курганах.

Датаванне вывучаных курганоў знаходзіцца ў межах канца IX—пачатку XI ст. У іх прысутнічае выразны рэчавы інвентар X ст. Таму большасць курганоў датуецца менавіта гэтым стагоддзем.

## ДАРАХОЎСКІ АРХЕАЛАГІЧНЫ КОМПЛЕКС

У наваколлі в. Дарахі ў радыусе 2—3 км на паўднёвым беразе воз. Сенніца ў Гарадоцкім раёне Віцебскай вобласці даволі кампактна размяшчаюцца 11 курганных могільнікаў, у якіх налічваецца да 150 курганоў. Ёсць некалькі адзінкавых насыпаў. На беразе возера знойдзены тры паселішчы. Пра гэтыя помнікі ўпершыню паведаміў археолагам у канцы 60-х гадоў краязнавец І. А. Вашчыла.

Паселішча 1 — Лысая Гара за 0,6 км на ўсход ад вёскі на невялікім узвышшы плошчай 0,5 га на беразе воз. Сенніца, пры ўпадзенні ў яго ручая. Даследавалася ў 1972—1973 гг. Раскапана 104 кв. м культурнага слоя таўшчынёй 0,3—0,6 м. У мацерыку выяўлены невялікія ямы, верагодна, ад слупоў. Знойдзены ляпны посуд трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і кераміка феадальнага перыяду, некалькі перапаленых костачак, жалезны шлак. Верагодна, да гэтага паселішча адносяцца бліжэйшыя курганныя могільнікі (мал. 9).

Паселішча 2 у напрамку на в. Дубакрай на беразе возера за 1,2 км на паўночны захад ад в. Дарахі на ўзвышшы 2 га сярод балота. Культурны слой захаваўся каля падэшвы гары. У 1978 г. даследавана 40 кв. м таўшчынёй 1 м. Выяўлены камяні, магчыма, ад печы. Знойдзена 456 кавалкаў ляпной керамікі другой і трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., глінянае прасліца, два жалезныя шылы, фрагмент сярпа, жалезныя шлакі. На балоце каля селішча выяўлены камень ад жорнаў дыяметрам 38 см з высвідраваным паглыбленнем.

Паселішча 3 Чорная Зямля плошчай 1 га знаходзіцца за 1,5 км на паўночны захад ад Дарахоў на беразе Сенніцы. Таўшчыня культурнага слоя 0,8 м. У шурфе (2×1 м) знойдзена 60 кавалкаў ад гаршкоў XI ст. На раллі выяўлена ляпная кераміка. Да гэтага паселішча адносіцца курганны могільнік Дарахі V. Устаноўлена, што курганныя могільнікі належаць да трох перыядаў складанай этнічнай гісторыі Беларускага Падзвіння: трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., VIII—IX і X—XI стст. Усяго даследавана 40 курганоў[20].

# КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ ТРЭЦЯЙ ЧВЭРЦІ 1-га ТЫСЯЧАГОДДЗЯ Ў НАВАКОЛЛІ ДАРАХОЎ

Курганны могільнік Дарахі І знаходзіцца за паўднёвай ваколіцай в. Дарахі, налічвае 12 насыпаў (мал. 9). У плане яны падоўжаныя або круглыя, у папярочніку маюць 7—11 м, вышынёй 0,5—1 м. Адзін курган доўгі, памерам 22×10 м, вышынёй 1,2 м. У могільніку даследаваны дзевяць курганоў (мал. 25).

Курган 1 падоўжаны (12×9×1 м). Пад дзірваном на глыбіні 20 см выяўлены кавалкі невялікага разбітага гаршка слоікавай формы, раскіданыя на плошчы 1 кв. м (мал. 4). Ніжэй невялікая ямка плошчай 1 кв. м з вуголлем, попелам, мноствам перапаленых касцей, дзе былі жалезныя цуглі (мал. 17, 1). Пахаванне змешчана ў насыпе, на падсыпцы 0,5 м вышэй за мацярык. Пад курганом прасочаны слой глебы, попел і вугольчыкі. Рытуал спалення памёршага адбываўся па-за курганом.

Курган 2 круглы, паўсфярычны, дыяметрам 6 м, вышынёй 1 м. У насыпе назіраліся крапінкі вугалю. Курган парожні.

Курган 3 падоўжаны, памерам 10,5—9,5 м, вышынёй 1,2 м. Пад насыпам знойдзены толькі два невялікія кавалкі ад ляпнога гаршка.

Курган 4 у плане правільнай круглай формы, дыяметрам 5,5 м, вышынёй 0,8 м. Вакол бачны раўкі. Пад дзірваном на глыбіні 10—15 см знойдзены два пахаванні-трупаспаленні. У першым пахаванні урнай служыў ляпны гаршчок з невялікім рабром у верхняй частцы (мал. 18, 9). Урна была запоўнена кальцыніраванымі касцямі і шчыльна накрыта другой слабапрафіляванай пасудзінай, магчыма, VI—VII стст. (мал. 18, 7).

Другое пахаванне за 2,5 м ад першага ва ўсіх дэталях яго паўтарала. Кераміка захавалася дрэнна. Урна разбурана, яе кавалкі былі ў агні (мал. 18, 10). Гаршчок, які накрываў, распаўся. Ён быў падобны да гаршка першага пахавання і таксама меў уверсе адтуліны. У пахаванні знаходзіліся косці, сярод іх аплаўленая пацерка сіняга колеру. Абодва апісаныя пахаванні змешчаны ў насыпе.

Курган 5 круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1,3 м. Насыпаны з жоўтага пяску, вакол раўкі. У дзірвановым пласце на глыбіні 7—10 см знойдзена пасудзіна, перавернутая ўверх дном. Дно разбурылася, таму што знаходзілася на самой паверхні вяршыні кургана (мал. 13). Пасудзіна, якая накрывала, вялікая ў дыяметры, пад ёй свабодна змяшчаліся дзве урны. Адна стаяла горлам уверх (мал. 18, 2) з невялікай колькасцю касцей, другая маленькая урна ляжала бокам (мал. 18, 6). У ёй знаходзілася некалькі перапаленых костачак. Пад урнамі была ямка з вялікай колькасцю кальцыніраваных касцей. На яе ўзроўні (1 м вышэй за гарызонт) па ўсяму насыпу выразна прасочвалася попелавугальная праслойка, якая ўтварылася ў працэсе збудавання кургана. У праслойцы за 2,2 м ад першага пахавання была кучка перапаленых касцей (100 г) і два маленькія кавалкі ляпнога гаршка, бронзавы просты пярсцёнак (мал. 17, 5). Пад гаршкамі расчышчана яма дыяметрам 0,8 м, глыбінёй 0,5 м. Знойдзены два зубы жывёл. Паводле вызначэння В. В. Шчагловай, адзін належаў цяляці, другі — хатняму быку. Выяўлены карані зубоў чалавека. У пахаванні знаходзіўся жалезны выраб, мабыць, звяно ад ланцуга (мал. 17, 2). На ўзроўні попелавугальнай праслойкі знойдзена жалезнае кальцо (мал. 17, 3), аплаўленая шкляная пацерка (мал. 17, 4), бронзавая спіралька. Сярод касцей тры кавалкі ляпной глянцаванай керамікі. Відаць, пахаванне жаночае. Як у папярэднім выпадку, яно змешчана ў насыпе на 1 м вышэй за мацярык. Спаленне, мабыць, право-

дзілася па-за курганом, але вялікі агонь разводзіўся таксама на ўзроўні пахаванняў. Разам з целамі людзей былі спалены таксама забітыя жывёліны.

Курган 6 падоўжаны (12×8 м), вышынёй 1,1 м. Пад насыпам каля краю на мацерыку знойдзены невялікі ляпны гаршчок слоікавай формы (мал. 18, 5), прыкмет пахавання не выяўлена. Такая ж з'ява адзначана ў кургане каля в. Лятохі.

Курган 7 падоўжаны (8×5 м), вышынёй 1 м. Пахаванне ў ім не выяўлена. Пад дзірваном знойдзена шмат вугалю і кавалкі гаршка, зробленага на ганчарным крузе. У верхняй частцы пасудзіны хвалісты арнамент. Выяўлены яшчэ кавалак ад другога гаршка з вертыкальным венчыкам. Непадалёку ад цэнтра кургана на мацерыку ляжаў вялікі кавалак гаршка з патоўшчаным венчыкам ад гаршка, які быў знойдзены ў пачатку раскопак пад дзірваном зверху насыпу. Пасудзіна мела нагар з унутранага боку, як быццам рэшткі перагарэлай кашы. На мацерыку выяўлены кавалкі бяросты. Важна адзначыць, што курган 7 шчыльна размешчаны сярод астатніх насыпаў, так што не ўзнікла сумнення ў прыналежнасці яго да гэтага курганнага могільніка. Курган па знешніх прыкметах не адрозніваўся ад іншых насыпаў, хоць і маладзейшы за іх на 300—400 гадоў.

Курган 8 круглы, дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м. Пад насыпам, складзеным з жоўтага пяску, была попельная праслойка 10 см і асобныя вуглі. Курган парожні.

Курган 9 падоўжаны ў плане (22×10×1,2 м), з заходняга боку равок глыбінёй 0,25 м, дзе знойдзены слой попелу і вугалю. У паўднёва-заходняй чвэрці пад дзірваном выяўлена пахаванне 1 (150 г). У паўночна-заходняй частцы ў насыпе знойдзена пахаванне 2 (каля 400 г перапаленых касцей) у ямцы 20×20 см, глыбінёй 10 см. У паўднёва-заходняй чвэрці на глыбіні 10 см знойдзены яшчэ два пахаванні. Пахаванне 3 выяўлена ў ямцы дыяметрам 40 см, глыбінёй 20 см. Тут было 2,5 кг кальцыніраваных касцей. Пахаванне 4 змешчана ў ямцы дыяметрам 20 см, глыбінёй 10 см. Касцей было 130 г. У паўночна-ўсходняй частцы на глыбіні 70 см у ямцы знаходзілася пахаванне 5 (400 г). Пры раскопках у паўночнай броўцы на глыбіні 15 см у ямцы (1×0,7×0,2 м) знойдзена вялікая колькасць (прыкладна 8 кг) перапаленых касцей (пахаванне 6). Зверху сярод касцей знойдзена жалезная спражка з хобатападобным язычком, якая пабыла ў агні (мал. 17, 9). Пад касцямі выяўлены абпалены пясок, дзе разводзіўся ачышчальны агонь. Пахаванне 7 знойдзена ў паўднёвай броўцы на глыбіні 30 см у ямцы памерам 30×40 см, глыбінёй 30 см, дзе было 6,5 кг перапаленых касцей.

У паўночна-заходняй частцы кургана на глыбіні 0,8 м у невялікай попелавугальнай праслойцы знойдзены тры кальцыніраваныя костачкі і 22 кавалкі ад гаршка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. У той жа частцы кургана ў невялікай попелавугальнай праслойцы мелася значная колькасць вугольчыкоў і чатыры кальцыніраваныя костачкі (мал. 25). У паўднёва-ўсходняй частцы кургана ў попелавугальнай праслойцы знойдзены два кавалкі керамікі. На мацерыку прасочана канава глыбінёй 0,4 м, якая праходзіла праз насып (мал. 25, 5). У ёй у адным месцы раскіданы перапаленыя косці і кавалкі керамікі. У паўднёва-заходняй частцы яма памерам 90×50 см, глыбінёй 35 см. Па яе краях шмат вугольчыкаў. У цэнтральнай частцы кургана на мацерыку знойдзена самая вялікая яма памерам 4,5×2,7 м, глыбінёй 0,7 м (мал. 25, 6).

Курган уяўляе цікавасць у першую чаргу тым, што ў ім было не менш за сем пахаванняў і вялікая колькасць перапаленых касцей. Можна мер-

каваць, што трупаспаленне праводзілася па-за курганом, затым косці змяшчаліся ў прыгатаваны насып. Гэта своеасаблівае магільнае сутарэнне таго часу, калі яшчэ былі моцнымі перажыткі родавых адносін. Магчыма, курган служыў могільнікам роду ці патрыярхальнай сям'і. Паводле звычая, разам з нябожчыкам спальвалася і жывёла.

Такім чынам, большасць раскапаных курганоў у могільніку Дарахі I датуецца трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Знойдзеная ляпная кераміка надобная да пасудзін верхняга слою банцараўскага гарадзішча. Выключэннем з'яўляецца курган 7, дзе знойдзены кругавы посуд XI ст.

На невялікай адлегласці ад разглядаемай курганнай групы знаходзіўся адзінкавы курган на развілцы дарог. Ён даследаваны ў 1975 г. У плане курган круглы, дыяметрам 6,6 м, вышынёй 1,2 м, насыпаны з жоўтага пяску, відавочна, збудаваны на месцы натуральнага паглыблення. Па курганах прасочана старажытная дзённая паверхня. Крыху вышэй мацерыка на ўсёй плошчы праходзіць праслойка таўшчынёй 0,15 м (месцамі 0,2 м), у якой знойдзены галавешкі. Пахаванне ў кургане не выяўлена.

Курганны могільнік Дарахі III размяшчаецца за 0,2 км ад могільніка Дарахі I. Налічвае пяць курганоў вышынёй 1 м. Могільнік даследаваны поўнасцю ў 1973 г.

Курган 1 круглы, дыяметрам 5 м, вышынёй 0,8 м. Ён самы малы ў групе. Пад насыпам прасочаны старажытны гумусіраваны слой. Курган парожні.

Курган 2 круглы, дыяметрам 7,5 м, вышынёй 1 м. Насыпаны з жоўтага пяску. У насыпе ў розных месцах знойдзены асобныя перапаленыя косці.

Курган 3 круглы, дыяметрам 7,5 м, вышынёй 0,85 м. У насыпе знаходзіліся вуглі, попел і галавешкі. Знойдзена некалькі кальцыніраваных касцей.

Курган 4 круглы, дыяметрам 10 м, вышынёй 1,4 м. Вакол прасочваецца равок. Гэта самы вялікі курган з усіх круглых насыпаў у гэтай групе. Глыбіня ровіка дасягае 0,4 м, шырыня да 1 м. У ровіку знойдзены попел і вуглі. Пад насыпам на старажытнай дзённай паверхні на плошчы ўсяго кургана прасочана попелавугальная праслойка 15—25 см. Курган парожні.

Курган 5 падоўжаны (13,5×8 м), вышынёй 1,25 м. Вакол прасочаны равок глыбінёй 20 см. Пад дзірваном у насыпе знойдзена трупаспаленне ў ямцы дыяметрам 0,3 м, глыбінёй 25 см. Вага кальцыніраваных касцей 1,5 кг. Адна костка са слядамі апрацоўкі і простым арнаментам (мал. 17, 7). Пахаванне 2 знаходзілася каля падэшвы кургана. Вельмі перапаленыя косці займалі плошчу 90×50 см пры таўшчыні плямы 30 см. Пахаванне 3 знаходзілася блізка да цэнтра кургана пад дзірваном у ямцы памерам 60×80 см, глыбінёй 10 см. Вага касцей 1,5 кг. На мацерыку знойдзена капаўка шырынёй да 2 м, якая ішла амаль пасярэдзіне кургана. Напэўна, курган насыпаўся ў два прыёмы.

Курганны могільнік Дарахі IV налічвае 13 курганоў, з якіх раскапана пяць (мал. 21, в).

Курган 1 круглы, дыяметрам 10 м, вышынёй 1,7 м. Пад дзірваном адразу выявіліся адзнакі пахавання. Пахаванне 1 было ў насыпе на падсыпцы ў ямцы дыяметрам 60 см, глыбінёй 0,4 м. У ёй 1 кг кальцыніраваных касцей, сярод якіх была жалезная шпора (мал. 17, 6). Захаваны канец адагнуты вонкі, шыпканічны. Найбольш прымальная для яе дата — трэцяя чвэрць 1-га тысячагоддзя н. э. Непадалёку ад пахавання, вышэй за яго знойдзена раздаўленая пасудзіна, зубы хатняга быка. Па-

хаванне 2 зменчана таксама ў насыпе, кальцыніраваных касцей мала. Тут жа разбіты гаршчок, фрагменты перапаленыя ў агні. Пахаванне 3 у самым цэнтры кургана ў ямцы дыяметрам 30 см, глыбінёй 20 см. Перапаленых касцей мала. Сярод іх знойдзена жалезная спражка, якая пабыла ў агні (мал. 17, 10). Побач шмат кавалкаў ад гаршка жоўтага колеру банцараўскай культуры. У кургане былі чатыры падобныя ляпныя гаршкі. У насыпе прыкладна на палове яго вышыні прасочана праслойка з пяску, што можа сведчыць пра пахаванні менавіта на падсыпцы. Пад курганом на гарызонце зафіксавана тонкая праслойка ачышчальнага кастра.

Курган 2 круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. У цэнтры на глыбіні 40 см ад вяршыні пахаванне ў авальнай ямцы памерам 60×50 см, глыбінёй 30 см. Касцей прыкладна 200 г, з паўночнага боку кургана быў добра бачны ровік глыбінёй 0,3 м, у якім знойдзены вуглі.

Курган 3 у плане круглы, дыяметрам 12 м, вышынёй 1,4 м. На гарызонце прасочана попелавугальная праслойка 5—15 см. У паўднёвай частцы кургана ў мацерыку выяўлена авальная ямка памерам 60×42 см, без прыкмет пахавання.

Курган 4 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,6 м быў парожнім.

Курган 5 падоўжаны ці прамавугольны (мал. 26). Яго даўжыня 14,2 м, шырыня 8 м, вышыня да 1 м. Курган насыпаны з жоўтага пяску ў адзін прыём. Пад насыпам попелавугальная праслойка 10—20 см, якая мае форму авала. Праслойка перакрывае дно чатырох ям, якія маюць хутчэй за ўсё натуральнае паходжанне (мал. 26, 1—4). У насыпе раскапана восем пахаванняў (два урнавыя, шэсць бязурнавых). Пахаванне ў урне (1) і бязурнавае пахаванне (5) з'яўляюцца найбольш раннімі. Пахаванне 5 размешчана часткова ў мацерыковай яме, часткова ў попелавугальнай праслойцы. Памеры ямкі 0,4×0,3 м, глыбіня 0,3 м. У ямцы былі кальцыніраваныя косці. Сярод касцей — зубы чалавека, пяць кавалкаў бронзавых калец і адно малое калечка. Урнавае пахаванне выяўлена на глыбіні 0,2 м. Урна ляпная, слабапрафіляваная трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., адрозніваецца вялікімі памерамі — вышыня 37 см, дыяметр 32 см (мал. 22, 2). У ёй былі кальцыніраваныя косці чалавека і, мабыць, жывёліны, агульнай вагой 2 кг. Адразу пад дзірваном знаходзілася пахаванне 4. Кальцыніраваныя косці (вага 275 г) і попел змешчаны ў ямцы няправільнай формы памерам 0,8×0,5 м, глыбінёй 0,1 м. Непасрэдна пад дзірваном адкрыта урнавае пахаванне 2. Урна ўяўляла сабой ляпную слабапрафіляваную пасудзіну. Гаршчок па памерах меншы, чым урна з пахавання 1. У кургане выяўлена яшчэ шэсць бязурнавых пахаванняў-трупаспаленняў. Адно пахаванне знаходзілася ў паўднёва-заходняй частцы пад дзірваном у ямцы дыяметрам 0,5 м, глыбінёй 0,7 м, дзе былі кальцыніраваныя косці, другое пахаванне — у паўднёва-ўсходняй частцы пад дзірваном на глыбіні 0,5 м. Дыяметр ямы 0,3 м пры глыбіні 0,7 м. У ёй змяшчаліся перапаленыя косці агульнай вагой 1,5 кг. Трэцяе пахаванне — у паўночна-ўсходняй частцы пад дзірваном з невялікай колькасцю кальцыніраваных касцей (40 г). Яшчэ бязурнавае пахаванне знойдзена ў паўднёвай частцы кургана непасрэдна пад дзірваном. У пятым бязурнавым пахаванні было 600 г кальцыніраваных касцей, у шостым іх вага складала 500 г.

Курганны могільнік Дарахі VI размешчаны ля дарогі на в. Кайкі, за 2 км на паўднёвы ўсход ад в. Дарахі (мал. 21, г). Налічвае сем невялікіх курганоў вышынёй да 1 м, з якіх даследаваны чатыры.

Курган 1 круглы, дыяметрам 5,5 м, вышынёй 0,9 м. Пад насыпам прасочваецца попелавугальная праслойка. Курган парожні.

Курган 2 круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. Пад дзірваном блізка да цэнтра знойдзена разбураная ляпная пасудзіна банцараўскай культуры даволі вялікіх памераў. У ёй знаходзіўся 1 кг кальцынiраваных касцей. Гаршчок стаяў горлам уверх. У яго сценках ёсць адтуліны (мал. 18, 8). У насыпе на глыбіні 60—70 см адзначана попелавугальная праслойка, ніжэй ішла невялікая падсыпка пяску, пад якой знаходзіўся старажытны гумусіраваны слой. У некаторых месцах пясок на мацерыку абпалены. У ім прасочваецца авальная яма глыбінёй 20 см. У ёй таксама абпалены пясок.

Курган 3 падоўжаны, некалькі падобны да чатырохвугольніка. Даўжыня насыпу 12 м, шырыня 7 м, вышыня 1,1 м. У ім знойдзены чатыры пахаванні. Яны былі пад дзірваном на невялікай глыбіні, у маленькіх ямках. У пахаванні 1 — 250 г кальцынiраваных касцей. У пахаванні 2 столькі ж касцей. Ямка пахавання 3 больш за астатнія (80×45, глыбіня 25 см). У ёй каля 4 кг перапаленых касцей. У пахаванні 4 пад дзірваном трупаспаленне вагой 500 г.

Курган 4 круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1,2 м. Ён насыпаны з жоўтага пяску, у якім сустракаюцца попелавугальныя ўкрапіны. Курган утрымлівае два пахаванні. Пад дзірваном пахаванне 1, якое змяшчае невялікую колькасць кальцынiраваных касцей.

Пахаванне 2 у паўночна-заходняй частцы на глыбіні 0,15 м змяшчае 2,5 кг перапаленых касцей. Частка крэмацыі знаходзілася ў урне, якая была раздаўлена і ляжала бокам (мал. 18, 11). Яна слабапрафіляваная, вышынёй 22 см, дыяметр вусця 20 см. Пры яго зачыстцы знойдзены рэшткі 10 шкляных пацерак вялікага памеру з блакітнага празрыстага шкла. Большасць пацерак вельмі аплаўленая.

Пасярэдзіне вышыні кургана ёсць попелавугальная праслойка. Пад курганом, на гарызонце, такой праслойкі не праслежана. Дата кургана — трэцяя чвэрць 1-га тысячагоддзя н. э.

Курганны могільнік VII (Зуявы Ляды) налічвае чатыры курганы, два круглыя і два крыху падоўжаныя або авальныя.

Раскапаны курган 1 амаль круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. Ён некалькі расплыўся. У цэнтры кургана пад дзірваном у ямцы памерам 0,2×0,5 м і глыбінёй 0,3 м змешчана трупаспаленне. Крэмацыя адбывалася па-за курганом. Запаўненне ямы — пясок, перамешаны з попелам, і кальцынiраваныя косці. Вага пахавання да 1 кг.

Па невялікай падсыпцы вышынёй 0,2 м праходзіць попельная праслойка 0,1—0,15 м з дробнымі вугольчыкамі. У паўночна-заходняй частцы кургана яе таўшчыня 0,2—0,25 м. Мацерыковы пясок пад насыпам адрозніваецца больш яркім, чырванаватым колерам.

Курганны могільнік VIII (Копаная Елка) налічвае чатыры курганы, з якіх вывучаны толькі адзін падоўжаны памерам 9×6,3 м, вышынёй 0,8 м. Збудаваны з жоўтага пяску. Па невялікай няроўнай падсыпцы праходзіць попельная праслойка 5—15 см (у адным месцы 40 см). Пахаванне не знойдзена.

Курганны могільнік IX з некалькіх насыпаў размешчаны ўздоўж дарогі, якая вядзе ва ур. Зуявы Ляды (мал. 9). Каля гэтага могільніка пазней, у часы Полацкага княства, узнікла вялікая курганная група V.

З групы даследаваны адзін круглы курган дыяметрам 7,8 м, вышынёй 1,3 м. Вакол яго равок глыбінёй 0,2 м, дзе знойдзены вуглі. Пахаванне выяўлена збоку на глыбіні 0,7 м у ямцы (70×50 см). Яна была запоўнена вуглем і перапаленымі касцямі, сярод якіх знойдзены зубы чалавека. Вага касцей каля 3 кг. У цэнтры кургана выяўлена другая яма з попелам і вуглем.

Наяўнасць надзвычай вялікай колькасці кальцыніраваных касцей, што характэрна для пахаванняў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., дае некаторыя падставы адносіць курган менавіта да гэтага перыяду.

## КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК КАНЦА VIII—IX ст.

Курганны могільнік Дарахі II размешчаны на беразе воз. Сенніца ва ўрочышчы Еўграфаў Хутар за 2 км на ўсход ад в. Дарахі. Налічвае 17 крыху надоўжаных высокіх насыпаў. Іх даўжыня 7—9 м, шырыня 6—7 м, вышыня 1,5—2,2 м. Курганы размешчаны кучна, вельмі параслі лесам. Даследаваны тры курганы, насыпаныя з жоўтага пяску.

Пад насыпам кургана 1 выяўлены прыкметы невялікага рытуальнага вогнішча. Рэшткі трупаспалення, якое адбылося па-за курганом, былі змешчаны на гарызонце ў невялікай ямцы. Зверху знаходзіліся два ляпныя гаршкі, перакуленыя ўверх дном (мал. 34, 7, 8), тыповыя для курганоў Віцебшчыны і Смаленшчыны VIII — пачатку X ст. Сярод кальцыніраваных касцей знойдзены дзве бронзавыя спіралькі, 15 невялікіх аплаўленых рэчаў і, што асабліва цікава адзначыць, кавалкі плоскага скроневага кальца (мал. 17, 14).

Курган 2 надоўжаны памерам 9×11×1,7 м. На глыбіні 1 м выяўлена попелавугальная праслойка 1,3×0,6 м. У насыпе знойдзены кавалак балотнай руды. Пад насыпам па ўсёй плошчы прасочвалася другая попелавугальная праслойка. На ёй блізка да цэнтра кургана знаходзіўся перакулены ўверх дном невялікі ляпны гаршчок з плечыкамі (мал. 34, 9). Пад гаршком у мацерыку яма дыяметрам 0,5 м, глыбінёй 20 см, дзе знойдзена 310 г перапаленых касцей.

Курган 3 надоўжаны (10×8 м), вышынёй 1,55 м. У насыпе з пяску выяўлены невялікія праслойкі попелу, кавалак жалезнага шлаку, некалькі кавалкаў ляпных таўстасценных пасудзін з буйной жарствой банцараўскай культуры, костка жывёліны. Недалёка ад цэнтра кургана знойдзены своеасаблівы камень ад жорнаў, пра які гаварылася вышэй. Блізка да цэнтра насыпу на глыбіні 1,25 м быў выяўлены прысадзісты міскападобны ляпны гаршчок (мал. 34, 10) вышынёй 8,6 см (табл. 5, 17), з дном таўшчынёй 2 см. Ён стаяў горлам уверх, як потым высветлілася, каля ямы 1 (дыяметр 75 см, глыбіня 0,25 м), у якой было трупаспаленне, дзе знойдзена 14 кавалкаў ляпной таўстасценнай керамікі і жалезны шлак. Яма 1, выкапаная ў мацерыку, запоўнена попелам, вугалем, перапаленымі касцямі. Паводле вызначэння В. В. Шчагловай, тут прысутнічаюць перапаленыя косці каня. Акрамя таго, ёсць крыху абгарэлыя косці — рэбры, пазванкі і інш. Паколькі яны ў кургане захоўвалі анатамічны парадак, можна меркаваць, што ў магілу зверху кальцыніраваных касцей была пакладзена частка тушы каня.

Яма 2 знаходзіцца за 4 м на паўночны захад ад ямы 1 каля краю кургана. У плане яна авальная памерам да 1 м глыбінёй 55 см, запоўнена попелам і пяском. Каля яе знойдзены нож, гліняная прасліца (мал. 17, 19), кавалкі пасудзін банцараўскай культуры. Яма 3 дыяметрам 0,4 м, глыбінёй 0,2 м выяўлена за 2 м на ўсход ад ямы 1. Яна запоўнена попелам і вугалем. У яме знойдзены два кавалкі вялікай ляпной пасудзіны (сценка з часткай дна) і некалькі перапаленых касцей. Яма 3 была перакрыта попелавугальнай праслойкай ад рытуальнага вогнішча, якое займала амаль усю плошчу кургана.

## КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК X—XI стст.

Сярод курганных могільнікаў ля в. Дарахі група 5 самая вялікая, складаецца з 63 насыпаў. У плане яны ў большасці круглыя (мал. 69), вышынёй 0,5—1,3 м, дзе праводзіліся пахаванні на працягу доўгага часу. У некаторых выпадках у больш раннія насыпы з крэмацыяй зроблены ўпускныя пахаванні — трупапалажэнні.

Курган 1 круглы, дыяметрам 5 м, вышынёй 1 м. У пясчаным насыпе былі невялікія кавалкі балотнай руды. Пад курганом знойдзены касцяк, які ляжаў галавою на захад без рэчавага інвентару.

Курган 2 на ўскрайку курганнай групы 5, доўгі насып (12,8×5,5×1,55 м). З двух бакоў меў невялікія раўкі глыбінёй 0,7 м. Гэты доўгі курган размешчаны сярод круглых кurганоў. Насып з жоўтага пяску, але ў ім прасочваюцца шматлікія праслойкі. Курган збудаваны ў адзін прыём, калі мець на ўвазе яго даўжыню, але ў вышыню ён падсыпаўся. Першапачатковая вышыня насыпу складала 1 м. У насыпе сустракаліся праслойкі вугалю і месцы, дзе гарэў агонь. На гэтым узроўні знойдзены разбіты гаршчок. Ён зроблены на ганчарным крузе і датуецца X ст. Пад курганом на гарызонце прасочваліся сляды вогнішча. Курган узводзіўся ў X ст. і першапачаткова не змяшчаў пахаванняў. Аднак пазней ён выкарыстоўваўся для ўпускных трупапалажэнняў. У ніжняй яго частцы на ўзроўні гарызонту іх выяўлена тры. Пахаванні былі ў ямах, дасягаўшых мацерыка і некалькі ў яго заглыбленых. Шкілеты ляжалі амаль у адзін рад арыентаваныя на захад (мал. 69). Пахаванне 1 жаночае, кісці злёгку сагнутых рук, напэўна, ляжалі на жываце. Вакол шыі 13 шкляных пацерак, на пальцы левай рукі — рэшткі бронзавага бранзалета. Каля чэрапа — скроневае кальцо. Сярод рэшткаў драўлянага вырабу знойдзены костачкі пладоў слівы. Усе яны мелі па дзве адтуліны для працягвання ніткі (мал. 70, 4). Іх насілі ў складзе маністаў разам з пацеркамі. Такія ж знаходкі вядомыя па раскопках іншых помнікаў[21]. Побач знаходзілася бронзавая бразготка з адной прарэзінай пасярэдзіне (мал. 70, 1). Пахаванне 2 мужчынскае. Касцяк ляжаў на спіне, кісці рук зложаны на жываце. Пахавальны інвентар адсутнічае. Пахаванне 3 у яме ніжэй узроўню мацерыка на 0,2 м. Касцяк ляжаў на левым плячы, кісці рук на жываце. Каля левай рукі быў бронзавы пярсцёнак (мал. 70, 3), крыху вышэй — рэшткі драўлянага вырабу. На локцевай косці — бронзавы бранзалет са звужанымі канцамі. На чэрапе захаваліся цёмныя валасы і скроневае бранзалетападобнае кальцо з дроту, адзін канец якога завостраны (мал. 70, 7). Паводле інвентару, пахаванне жаночае. Заслугоўвае ўвагі становішча рук памёршых. Яны складзены на жываце. Відаць, пахаванне адносіцца да пачатку XI ст.




*Мал. 69. Дарахі. Курганны могільнік V. План кургана 2*

Курган 3 круглы, вышынёй 1,15 м, дыяметрам 8 м. Змяшчаў тры трупапалажэнні. Першы касцяк (1,65 м) быў на глыбіні 0,75 м на попелавугальнай праслойцы на невялікай падсыпцы з пяску. На локцевай косці левай рукі было крэсіва. Каля пояса знаходзілася бронзавая лірападобная спражка без носіка з жалезным язычком (мал. 70, 8). Другі дзіцячы касцяк даўжынёй 90 см ляжаў на падсыпцы, амаль на адным узроўні з першым пахаваннем. Ён таксама знаходзіўся на попелавугальнай праслойцы, але ў адрозненне ад першага і трэцяга касцякоў ляжаў галавой на захад. Паблізу знойдзены абломак ляза нажа. Трэці шкілет даўжынёй 175 см размяшчаўся непадалёку ад першага (абодва пахаванні арыентаваны галавой на поўнач). Ён ляжаў на попелавугальнай праслойцы. Каля правай рукі фрагменты жалезнага нажа. Усе тры касцякі ляжалі на спіне з выцягнутымі ўздоўж тулава рукамі. У насыпе знойдзена некалькі крамянёвых адшчэпаў і два кавалкі ад ляпных таўстасценных пасудзін з паселішча, якое папярэднічала курганам, але культурны слой пад курганамі не прасочваецца.

Курган 4 круглы ў плане, дыяметрам 7 м, вышынёй 1,15 м. Пад дзірваном знойдзены часткі чэрапа чалавека. Касцяк выяўлены блізка да цэнтра на глыбіні 90 см. Ён ляжаў на падсыпцы з пяску вышынёй 20 см, арыентаваны на захад. Каля таза з левага боку знаходзіўся аднабаковы грэбень з касцяным футаралам, змацаваны бронзавымі заклёпкамі. Накладныя пласцінкі грэбня, таксама як і футарал, упрыгожаны арнаментам (мал. 70, 11). Такія вырабы неаднаразова знаходзілі ў могільніках X — першай паловы XI ст.[22] Каля левай нагі стаяў невялікі гаршчок, падпраўлены на ганчарным крузе (мал. 49, 1). Яго верхняя частка ўпрыгожана лінейна-хвалістым арнаментам. Пасудзіну трэба датаваць другой паловай X ст. Каля касцяка быў жалезны нож (мал. 70, 10). Пад касцяком прасочвалася попелавугальная праслойка. Ніжэй яе знойдзены кавалак ляпнога слабапрафіляванага гаршка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. з паселішча. На мацерыку выяўлена чатырохвугольная яма памерам 80×60 см, глыбінёй 20 см. У ёй было некалькі касцей ад чэрапа.

Курган 5 круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 1 м. На глыбіні 0,7 шкілет, які дрэнна захаваўся (1,65 м). Па ўсёй плошчы кургана праходзіць попелавугальная праслойка таўшчынёй 10—20 см. Каля шкілета быў жалезны нож і падковападобная фібула з арнаментаванай дужкай плоскавыпуклага сячэння і дзевяціграннай галоўкай, якая павінна датавацца не пазней пачатку XI ст. На грунце знойдзена ляпная кераміка слоікавай формы з паселішча.

Курган 6 круглы, дыяметрам 6,5 м, вышынёй 0,75 м. Пад насыпам была попелавугальная праслойка, у цэнтры якой яма памерам 1×0,5 м, глыбінёй 20 см. На вогнішчы — трупапалажэнне, відаць, жанчыны. Каля чэрапа 10 кавалкаў ад пацерак, бісер, лімонка жоўтага колеру. Дата пахавання — пачатак XI ст.

Курган 7 круглы, дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м. Пад насыпам па ўсёй плошчы выяўлена попелавугальная праслойка, ніжэй яе — яма памерам 70×50 см, глыбінёй 20 см. У яме нічога не знойдзена. На праслойцы ў цэнтры кургана ляжаў касцяк (1,6 м), арыентаваны на захад. Побач два камяні. Рэчавага інвентару няма. Пахаваны мужчына ўзростам старэй за 50 гадоў.

Курган 8 круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 0,9 м. Пад дзірваном у цэнтры яма, у якой знаходзіліся попел і вугалі. На мацерыку знойдзены ляпны гаршчок, які распаўся. Ён быў перакулены ўверх дном. Побач ляжалі рассыпаныя кальцыніраваныя косці, прасочваліся вугольчыкі.

Перапаленых касцей больш за 1 кг. Крэмацыя праводзілася па-за курганом. Попелавугальная праслойка пад насыпам невялікая. Ля асновы насыпу пасярэдзіне выяўлена авальная яма памерам 2×1 м, глыбінёй 0,3 м са шкілетам, арыентаваным на захад, рукі выцягнуты ўздоўж тулава. Шкілет даўжынёй 1,7 м належаў жанчыне старэй за 50 гадоў. Трупапалажэнне без інвентару змешчана ў насып больш ранняга кургана.

Курган 9 круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 0,95 м. Пад дзірваном ямка, напэўна, позняя. У насыпе некалькі вышэй гарызонту на попелавугальнай праслойцы — касцяк галавой на захад. У праслойцы знойдзена лірападобная спражка XI ст. На мацерыку знойдзены нож, пярсцёнак, кавалачак ляпной керамікі, каля таза прамавугольная спражка «з носікам» (мал. 70, 18). Пахаваны ўзростам за 50 гадоў.




*Мал. 70. Дарахі, курганны могільнік V. Інвентар кургаnoў канца X — першай палавіны XI ст.: 1—3, 5, 7, 8, 12, 16—18 — бронза; 9, 10 — жалеза; 6, 13, 14, 15 — шкло; 11 — косць; 4 — плады слівы*

Курган 10 круглы. Дыяметрам 7,5 м, вышынёй 1 м. Пад дзірваном — ямка з рэшткамі вогнішча. На гарызонце попелавугальная праслойка таўшчынёй ад 10 да 20 см. У цэнтры ляжаў галавой на захад касцяк жанчыны старэй за 50 гадоў. Непадалёку знаходзілася кучка з чатырох камянёў. Рэчаў няма.

У курганнай групе V пераважаюць трупапалажэнні. Пад насыпамі прасочваецца праслойка ачышчальнага вогнішча. У шэрагу выпадкаў касцяк ляжыць на невялікай падсыпцы. Некаторыя касцякі ў яме пад курганом. Дата трупапалажэнняў X—XI стст.

## КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ СА ЗМЕШАНЫМ АБРАДАМ ПАХАВАННЯ

Часта сустракаюцца могільнікі з курганамі, якія змяшчаюць у адных выпадках трупаспаленне, у другіх — трупапалажэнне, рэдка абодва тыпы адначасовых пахаванняў прысутнічаюць у адным кургане, што бачна на прыкладзе помнікаў каля вёсак Вышадкі, Бельчыца, Дарахі V. Бывае, што ў больш ранні курган з крэмацыяй упушчана трупапалажэнне.

**Вышадкі (Гарадоцкі раён).** Курганы размешчаны побач з гарадзішчам на беразе воз. Вышадскае. У паўночнай ад дарогі частцы могільніка 60, у паўднёвай — 147 курганоў. Насыпы круглыя, некаторыя па-




*Мал. 71. Вышадкі. План-схема гарадзішча і курганнага могільніка*

доўжаныя, вышынёй ад 0,3 да 2—2,5 м. Самы вялікі курган вышынёй 5 м з глыбокімі раўкамі. У заходняй частцы могільніка тры валуны, падобныя на крыжы.

У 1971 г. даследаваны два насыпы. Курган 1 акруглы, вышынёй 1,3 м, 5 м у папярочніку. Пад курганом выяўлена прамавугольная яма памерам 1,65×0,45 м, глыбінёй 0,5 м з касцяком, арыентаваным на захад, у драўлянай дамавіне скрынкавага тыпу. У нябожчыка рукі выцягнуты ўздоўж тулава. Знойдзена невялікае жалезнае кальцо, а пад насыпам кавалак пасудзіны VI—VIII стст. Напэўна, курган узведзены на месцы паселішча.

Курган 2 круглы, вышынёй 1 м, дыяметрам 4,5 м. Пад насыпам яма 1,85×0,55 м, глыбінёй 25 см. У драўлянай труне тыпу прамавугольнай скрыні знаходзілася пахаванне. Касцяк арыентаваны на захад, ляжаў на левым баку, галава схілена, твар павернуты на поўнач. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава. Рэчавы інвентар адсутнічае.

Улічваючы, што нябожчыкі знаходзіліся ў ямах, а рукі ў іх былі складзены на жываце або грудзях, што назіраецца ў больш позніх пахаваннях XII ст., даследаваныя курганы трэба аднесці да першай паловы XII ст.

У 1980 г. аўтарам даследаваны яшчэ 23 курганы (№ 3—25). Усе яны размяшчаліся на адным участку курганнага могільніка на поўдзень ад дарогі. Спецыяльна даследаваліся курганы невялікіх памераў.

Курган 3 у плане амаль круглы. Вышыня 0,4 м, папярочнік — 3,5 м. Пад насыпам прасочваецца невялікае паглыбленне да 10 см. Тут знаходзяцца вуглі і прыкладна 100 г перапаленых касцей, тры абломкі бронзавага вырабу і два абломкі керамікі, адзін ад ляпной пасудзіны, напэўна, з паселішча другой паловы X ст.

Курган 4 круглы, вышынёй 0,25 м, дыяметрам 2,2 м. Насыпаны з пяску, як і папярэдні. Пад курганом блізка да цэнтра выяўлена пляма, у якой былі вуглі і крыху перапаленых касцей.

Курган 5 круглы. Вышыня 0,4 м, папярочнік 3 м. У насыпе блізка да мацерыка знойдзены валун памерам 20 см. Больш нічога не выяўлена.

Курган 6 круглы. Вышыня 0,45 м, папярочнік 3 м. У насыпе амаль у сярэдзіне знойдзены тры валуны, якія ляжалі ў кучцы. Пад насыпам у мацерыку выяўлена яма (мал. 72, 1). Яе даўжыня 2,1 м, шырыня 1,7 м, глыбіня 0,4 м. У яме знаходзіліся два касцякі, арыентаваныя на захад. Абодва пахаванні адначасовыя. Даўжыня першага шкілета 1,55 м, другога — 1,67 м. Каля першага касцяка знойдзены пярсцёнак з шырокай сярэдняй часткай і заходзячымі канцамі. Каля шыі выяўлена сем своеасаблівых пацерак. Яны чачавіцападобныя, памерам 0,7 см, пасярэдзіне маюць адтуліну для працягвання ніткі, зроблены з белага металу, хутчэй за ўсё волава (мал. 74, 5). Каля другога пахавання знойдзены кавалкі ляпнога гаршка, падпраўленага на ганчарным крузе.

Курган 7 круглы, дыяметрам 5,1 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам у цэнтры выяўлена амаль круглая яма дыяметрам каля 2 м, глыбінёй 0,7 м. У цэнтры ямы знойдзены чэрап, відаць, мужчыны з прабітай адтулінай, што сведчыць пра гвалтоўную смерць. Ніякіх адзнак другіх касцей шкілета не прасочана. Складваецца ўражанне, што ў кургане закапана толькі галава.

Курган 8 у плане круглы, вышынёй 0,7 м, дыяметрам 3,7 м. На мацерыку выяўлена яма глыбінёй 0,7 м, у якой знаходзіўся шкілет (даўжыня 1,7 м), арыентаваны на захад, без інвентару.

Курган 9 акруглы. Вышыня 1 м, папярочнік 3,5 м. Вяршыня кургана плоская. Пад насыпам прасочваліся ўкрапіны вугалю. У цэнтры падэшвы




*Мал. 72. Вышадкі. Трупапалажэнні ў курганах: 1 — курган 6; 2 — курган 8; 3 — курган 10; 4 — курган 11; 5 — курган 12*

кургана знойдзена бронзавая падвеска-конік (мал. 58, 3). Прыкмет пахавання не выяўлена.

Курган 10 круглы, вышынёй 0,75—0,97 м, дыяметрам 3,4 м. Вяршыня плоская. Пад насыпам выяўлена яма глыбінёй 0,5 м, у якой знойдзены касцяк, арыентаваны на захад. Яго даўжыня 1,6 м без уліку ступняў, якія не захаваліся. Каля шыі 30 зялёна-блакітных пацерак. Па форме яны зонныя, некаторыя бочкападобныя. Ёсць яшчэ 11 бясколерных шкляных пацерак.

Курган 11 круглы, вышынёй 0,6 м, дыяметрам 3 м. На вяршыні кургана ёсць западзіна. Пад дзярновым слоем зафіксаваны вугаль, у мацерыку — яма, у якой выяўлена пахаванне ў труне скрыневага тыпу, арыентаванага на захад. Шкілет даўжынёй 1,69 м часткова пашкоджаны скарбашукальнай ямай.

Курган 12 круглы, вышынёй 0,69 м, дыяметрам 3 м. Пад насыпам яма глыбінёй 0,25 м. У ёй касцяк (мал. 72, 5). Захаванасць яго дрэнная. Няма сумненняў у тым, што ён меў мерыдыяльную арыенціроўку.

Курган 13 круглы, вышынёй 0,6 м, дыяметрам 3 м. Пад дзірваном на глыбіні 0,1 м выяўлена невялікая яма з вугалем. Пад насыпам прасочвалася гумусавая праслойка з украпінамі вуглёў. Пахаванне не знойдзена.

Курган 14 круглы, дыяметрам 3,6 м, вышынёй 0,65 м. Вяршыня плоская. Па памерах і вышыні ён нічым не адрозніваецца ад суседніх курганоў, якія кучна размешчаны каля яго. Гэты курган аказаўся незвычайны па колькасці інвентару. Абрад пахавання — трупаспаленне на месцы размяшчэння кургана. Вуглі і перапаленыя косці змешчаны ў пляме, якая мае папярочнік 1,5—1,8 м, таўшчыню 0,1—0,2 м. У адным месцы ў мацерыку прасочваецца ледзь бачнае паглыбленне, дзе было шмат знаходак. Перапаленыя косці знаходзіліся ў розных месцах плямы. Усяго іх сабрана 600 г.

У пляме знойдзена каля 300 фрагментаў бронзавых рэчаў, пашкоджаных агнём. Больш за 150 фрагментаў ад плеценага ланцужка (мал. 30, 9—11). Акрамя таго, мноства фрагментаў ёсць у запечанай масе. Відаць, аснову вырабу складалі некалькі радоў ланцужка, да якой прывешваліся іншыя ўпрыгожанні. Ад розных упрыгожанняў выяўлена 111 фрагментаў, сярод якіх два трымальнікі з адтулінамі (мал. 30, 2, 3), трапецапа-




*Мал. 73. Вышадкі. Трупапалажэнне ў кургане 11, трупаспаленне ў кургане 14: а — дзірван; б — пясок; в — попел; г — кальцыніраваныя косці; д — камні; е — абрыс плямы, ж — мацярык*

добныя падвескі, амулет у выглядзе, мабыць, чалавечай фігуры (мал. 30, 4), шмат вялікіх спіралек, зробленых з бронзавых палосак, якія маюць з вонкавага боку рабро (мал. 30, 5—7). Спіралькі вялікага дыяметра, хутчэй за ўсё ад галаўнога ўбору.

Таксама знойдзены сердалікавая чатырнаццацігранная, сердалікавая шматгранная, хрустальная круглая, хрустальная чатырнаццацігранная, паставая рабрыстая пацеркі. Захаваліся малыя паставыя пацеркі дыяметрам 0,7 см, вышынёй 0,2 см, па колеру жоўтыя. Усе пацеркі ў выніку ўздзеяння на іх агню зараз выглядаюць белымі. Як было вышэй сказана, шмат пашкоджаных агнём рэчаў спяклося ў злітак 620 г. У гэтым злітку бачны фрагменты ланцужка, спіралек, дыяметр якіх дасягае 1,6 см, а таксама дробныя зонныя паставыя пацеркі. Знойдзены абломак тыглю для плаўкі каляровых металаў і ляпны невялікі гаршчок з масіў-




*Мал. 74. Вышадкі: 1—7 — рэчы з раскопак курганоў 6, 10, 23; 8 — глінянае праслица з гарадзішча*

ным дном таўшчынёй 1,6 см і верхняй часткай, якая мае плечыкі (мал. 75, 1). Гаршчок быў кінуты ў вогнішча пры пахаванні. Ён блізкі да посуду з курганоў ля вёсак Баркі, Глінішча. Мяркуемая дата збудавання кургана IX — пачатак X ст.

Курган 15 у плане круглы, вышынёй 0,4 м, дыяметрам 2 м. Пад насыпам дзве невялікія ямкі. У іх знаходзіліся вуглі, побач знойдзены асколкі ляпной керамікі. Усяго ў кургане выяўлена сем такіх абломкаў, з якіх пяць належалі таўстасценнаму посуду паселішча. Два абломкі як быццам паходзяць па фактуры на ляпную кераміку IX ст. Венчыкаў няма і цяжка гаварыць пра датаванне знойдзеных матэрыялаў. Прыкметы пахавання адсутнічаюць.

Курган 16 круглы, вышынёй 0,6 м, дыяметрам 3 м. На мацерыку пляма з вугалю. У верхняй частцы знойдзены тры кальцыніраваныя косткі.

Курган 17 круглы, вышынёй 0,7 м, дыяметрам 3 м. Пад насыпам у двух месцах вуглі і перапаленыя косці (400 і 600 г). Знойдзена пяць кавалкаў ляпной керамікі.

Курган 18 падоўжаны. Памерам 5×3 м, вышынёй 0,89 м. Зверху невялікае паглыбленне. Пад дзірваном прасочвалася праслойка чорнага колеру з вугалем. Пад насыпам выяўлены дзве плямы, таксама з вугалем. Знойдзены кавалак ад ляпной пасудзіны, які адносіцца да паселішча. Пахаванне адсутнічае.

Курган 19 круглы, вышынёй 0,7 м, дыяметрам 4,5 м. Насып з пяску. Пад дзірваном яма, у якой быў вугаль. Гэта цікавая асаблівасць заўважана аўтарам у шэрагу курганоў. Пад насыпам выяўлена яма памерам 1,1×1,5 м, глыбінёй 0,2 м. У ёй знаходзіліся вуглі, перапаленыя косці (400 г), тры кавалкі ляпной керамікі з буйной жарствой у гліне. Трупаспаленне праведзена на месцы ўзвядзення кургана, пра што сведчаць вуглі амаль на ўсёй плошчы насыпу.

Курган 20 круглы, вышынёй 69 см, дыяметрам 4 м. Пад дзірваном выяўлена чорная праслойка. Курган насыпаны з пяску. На мацерыку знойдзены вугаль і 10 кальцыніраваных касцей.

Курган 21 у плане круглы. Вышыня 0,5 м, папярочнік 3,5 м. Вяршыня плоская. Пад насыпам у трох месцах выяўлены плямы дыяметрам 0,2—0,5 м. Пляма, бліжэйшая да цэнтра, глыбінёй 0,4 м, напоўнена вуглямі, сярод якіх 50 г перапаленых касцей.

Курган 22 круглы, вышынёй 0,7 м, дыяметрам 4 м. У цэнтры насыпу ўпадзіна. Пад насыпам у розных месцах знойдзены перапаленыя косці. Іх больш у невялікай пляме — 180 г.

Курган 23 акруглы. Вышыня 0,7 м, папярочнік 3 м. З плоскай вяршыняй. Пад дзірваном выяўлена ямка дыяметрам 0,5 м, у якой знаходзіліся вуглі. На мацерыку прасочваецца старажытны чорны гумусавы пласт, вуглі, месцамі вялікая колькасць перапаленых касцей. Блізка да цэнтра косці (100 г) ляжалі кучкай у неглыбокай ямцы. Сярод іх знойдзена сем кавалкаў дроту ад бранзалетападобнага кальца. Захавалася яго частка з завязанымі канцамі (мал. 74, 1). Тут была аплаўленая буйная шкляная пацерка. Непадалёку знойдзены жалезны бранзалет з пятлёй на адным канцы і кручком на другім для зашпільвання. Знойдзены шэсць абломкаў ляпной керамікі з буйной жарствой у гліне і кавалак жалезнага шлаку. Напэўна, курган датуецца пачаткам X ст.

Курган 24 у плане круглы. Вышыня 0,7 м, папярочнік 3 м. Вяршыня плоская. Пад дзірваном у цэнтры насыпу выяўлена ямка з вуглем. Пад курганом амаль у цэнтры расчышчана ямка дыяметрам 0,4 м, глыбінёй 0,2 м. У ёй знойдзена 150 г перапаленых касцей. Косці знойдзены пад насыпам, а таксама ў іншых месцах. У ямцы выяўлены ляпны гаршчок,

які быў кінуты ў агонь, разбіўся і яго часткі моцна дэфармаваліся. Вышыня гаршка 8,5 см. Ён мае плечыкі, дно — з падсыпкай пяску (мал. 75, 2).

Курган 25 круглы, вышынёй 0,65 м, дыяметрам 3 м. Пад курганом на гарызонце ў паўднёвай частцы знойдзена вуголле. Пахавання няма.

Такім чынам, у могільніку выяўлены трупаспаленні апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. у 11 курганах, трупапалажэнні ў васьмі курганах, у шасці курганах пахаванняў не было.




*Мал. 75. Вышадкі. Ляпны посуд: 1 — з кургана 14; 2 — з кургана 24. Азярцо. Кругавая кераміка; 3, 4 — з кургана 3 (трупаспаленне)*

**Слабодка I (Чашніцкі раён).** Каля вёскі знаходзяцца тры курганныя могільнікі за 5—7 км ад старажытнага горада Полацкай зямлі — Лукомля. Усяго тут налічваецца 143 курганы.

Першы курганны могільнік размешчаны за 1,5 км на захад ад вёскі. Ён налічвае 105 круглых у плане насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м. Адзін курган вызначаўся вялікімі памерамі і дасягаў у вышыню 3 м. Курганы знаходзяцца на паўночным узвышаным беразе Лукомльскага возера, цягнуцца паласой на 400 м уздоўж берага (мал. 76, а) і называюцца «валатоўкамі». У 1967 г. даследавана два, у 1969 г. — сем, у 1971 г.— тры курганы.

Курган 1 дыяметрам 8 м, вышынёй 0,9 м. У паўднёва-заходняй частцы кургана на глыбіні 0,5 м у кучцы знойдзены перапаленыя косці, побач абвугленае бервяно. У кучцы выяўлены чатыры двайныя лімонападобныя жоўтыя пацеркі, адна лімонка трайная, адна адзінарная, абломак днішча ад ганчарнага гаршка з лінейным арнаментам. Трупаспаленне адбылося на месцы ў X ст. Пад насыпам зафіксаваны культурны слой паселішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Курган 2 дыяметрам 3 м, вышынёй 0,8 м. Насыпаны з культурнага

слоя, у якім сустракаецца ляпная кераміка з тоўстымі сценкамі (таўшчыня да 1 см). Адзін чарапок з расчэсамі. Пад насыпам кургана таксама выяўлены культурны слой паселішча V—VII стст.

Курган 3 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,7 м. Збоку насыпу пад дзірваном на глыбіні 30 см раскапана шэсць гаршкоў. Яны знаходзіліся на абпаленым грунце, два стаялі горлам уверх, астатнія ляжалі бокам. У гаршках крыху паленых касцей. Косці знаходзяцца таксама ў попелавугальнай пляме пад гаршкамі. Знойдзена скроневае кальцо авальнай формы з бронзавага дроту з крыху заходзячымі адзін за адзін свабоднымі канцамі.

Асаблівую цікавасць уяўляюць адзін ляпны, пяць кругавых гаршкоў, фактура ўсіх іх падобная. Ляпны гаршчок мае крутыя плечыкі і прамы венчык (мал. 34, 17). Па тулаву нанесены няроўна размешчаны арнамент з трох хвалістых ліній. Вышыня пасудзіны 12 см. Тры кругавыя гаршкі маюць адагнуты просты венчык. На адным — на ўзроўні шыйкі хвалістая лінія, на другім — па тулаву лінейна-хвалісты арнамент, на дне — кляймо ў выглядзе крыжа. Чацвёртая пасудзіна падобная на папярэднія, але яе венчык звонку некалькі скошаны. Пяты гаршчок захаваўся амаль поўнасцю (мал. 49, 4). Тулава пакрыта лінейным арнаментам. Венчык скошаны і некалькі патоўшчаны. Дата кургана — X ст.

Курган 4 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам збоку на глыбіні 40 см знойдзены разбураны кругавы гаршчок з чырвонай гліны, падобны па фактуры да гаршкоў апісанага кургана 3. Па тулаву лінейна-хвалісты арнамент, венчык патоўшчаны. Гаршчок некалькі больш позні, чым посуд з кургана 3, адносіцца да канца X ст. або да першай паловы XI ст. Каля гаршка асобныя спаленыя косці.

Курган 5 дыяметрам 10 м, вышынёй 1,8 км. Пад насыпам знойдзены рэшткі жалезнага нажа. Іншых знаходак няма.

Курган 6 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,7 м. Збудаваны з гліны. У насыпе знойдзены кавалак кругавога гаршка з лінейным арнаментам і буйныя вуглі. Адзнак пахавання няма.

Курган 7 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,7 м. Збудаваны з гліны. У насыпе знойдзены кавалак ад ляпнога посуду і некальцынíраваныя косці чалавека. Збоку насыпу на грунце раздаўлены кругавы гаршчок, побач абломак шкляной пацеркі чорнага колеру і рэшткі нажа. Пад гаршком выяўлена невялікая ямка з трупаспаленнем. Кавалак ляпнога посуду належаў гаршку тыпу доўгіх курганоў Смаленшчыны. Кругавы посуд мае ўскладнёны венчык і адносіцца да канца X ці пачатку XI ст.

Курган 8 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,75 м. Насыпаны з гліны. На глыбіні 0,4 м прасочаны на невялікай плошчы тонкі попелавугальны слой. Пад насыпам выяўлены гумусавы грунт. Курган пусты.

Курган 9 круглы, паўсфярычны, дыяметрам 19 м, вышынёй звыш за 3 м. На глыбіні 0,5 м у паўночнай частцы знойдзена 20 абломкаў керамікі: 18 ляпных, два кругавых з лінейным арнаментам X ст. Сярод ляпной керамікі ёсць венчыкі слабапрафіляваных пасудзін і два фрагменты з расчэсамі. На глыбіні 80 см знойдзена трупаспаленне вагой у 900 г без рэчаў, якое знаходзілася ў ямцы дыяметрам 60 см, глыбінёй 20 см. На глыбіні 1 м знойдзена другое трупаспаленне ў такой жа ямцы. Вага касцей 300 г. У насыпе кургана неаднаразова выяўлена ляпная кераміка слоікавай формы, якая мае адносіны да паселішча.

Верхняя частка кургана вышынёй 1,4 м насыпана з шэрай глебы і культурнага слоя. Гэта частка і з'яўляецца пахавальным курганом, які, можна меркаваць, насыпаны на месцы больш старажытнага курганападобнага землянога збудавання.

Ніжэй за пласт шэрай глебы знаходзіцца падсыпка жоўтага пяску таўшчынёй 0,5 м. Пад ім зноў выяўлены праслойкі шэрай глебы агульнай таўшчынёй 1 м. Каля падэшвы кургана знаходзіўся культурны слой чорнага колеру таўшчынёй 70 см, пад якім адкрываўся мацярык. Такім чынам, з улікам ніжняга чорнага слоя вышыня кургана складае 3,8 м. Напэўна, тут знаходзілася першапачатковае збудаванне, звязанае з паселішчам трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Прызначэнне гэтага




*Мал. 76. Планы курганных могільнікаў: а — Слабодка I; б — Гуркі; в — Смалькі*

збудавання, яго характар канчаткова не высветлены. Дакладна можна сцвярджаць, што на яго паверхні ў X ст. былі змешчаны трупаспаленні.

Курган 10 вышынёй 1 м, дыяметрам 7 м. У насыпе знойдзены чатыры ляпныя чарапкі, адзін з расчэсамі. На гарызонце чорны культурны слой старажытнага паселішча, дзе ляжалі рэшткі спарахнелага касцяка. Устанавіць яго арыентацыю нельга. Знойдзены абломак кругавога посуду з лінейным арнаментам.

Курган 11 вышынёй 0,7 м, дыяметрам 6 м. Пад дзірваном у насыпе ў двух месцах невялікая колькасць перапаленых касцей. Напэўна, тут два пахаванні. Яны размешчаны з краю насыпу. У пахаванні 1 — абломкі ад двух гаршкоў, у пахаванні 2 — кавалкі аднаго гаршка. Дыяметр днішча 7,5 см, венчык патоўшчаны. З унутранага боку па краю

венчыка ёсць канаўка для крышкі. Пасудзіну можна датаваць XI ст. Тут былі перапаленыя косці вагой 30 г. У кургане знаходзіўся другі гаршчок канца X — пачатку XI ст. Яго тулава ўпрыгожана арнаментам, падобным на хвалісты.

Курган 12 вышынёй 0,6 м, дыяметрам 5 м. Ён складаецца з суглінку і цяжкі для раскопак. Знойдзены жалезны нож з патоўшчанай спінкай і сем абломкаў кругавога посуду XI ст., на адным хвалісты арнамент. Курган насыпаны на чорным слоі.

У курганным могільніку большасць трупаспаленняў (курганы 1, 3, 4, 9), асобныя пахаванні — трупапалажэнні на гарызонце (курган 10). У кургане 7 была крэмацыя і трупапалажэнне. Могільнік X — пачатку XI ст. збудаваны на месцы паселішча другой — трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Гэта адзін з курганных могільнікаў тых часоў, калі адбываўся пераход ад крэмацыі да трупапалажэння.

**Бельчыца (Полацкі раён).** За 4—5 км ад Сафійскага сабора, на беразе левага прытоку Заходняй Дзвіны р. Бельчыцы, ва ўр. Валатоўкі, каля в. Бельчыца вядома курганная група. У 1928 г. А. М. Ляўданскі раскапаў дзевяць насыпаў. Былі выяўлены тры тыпы пахаванняў: трупаспаленне, трупапалажэнне на грунце, часам на вогнішчы, і трупапалажэнне ў грунтавой яме. Першы тып курганоў А. М. Ляўданскі датаваў X ст., другі — XI ст., трэці — XII ст.[23] Курганы збудаваны на месцы больш старажытнага паселішча з ляпной керамікай.

У 1965 г. аўтарам для раскопак быў выбраны добра захаваны насып (па нумарацыі А. М. Ляўданскага курган 11) круглы ў плане, вышынёй 1 м, насыпаны на ўзвышаным месцы. Пад дзірваном знойдзена палова буйной пацеркі ў вочкі X — пачатку XI стст., з процілеглага боку насыпу каля краю — жалезныя восці для біцця рыбы (мал. 37, 10). Напэўна, было трупапалажэнне, якое поўнасцю спарахнела. Каля падэшвы выяўлены культурны слой паселішча, месцамі таўшчынёй 0,5 м, насычаны ляпной гладкасценнай керамікай, часам арнаментаванай расчэсамі, абломак жалезнага сярпа, бронзавае кальцо з завернутым канцом, глінянае прасліца (мал. 37, 9). Дату паселішча можна вызначыць сярэдзінай 1-га тысячагоддзя н. э.

**Плусы (Полацкі раён).** Курганны могільнік знаходзіцца за 20 км на поўдзень ад Полацка, ва ўр. Барок, дзе налічвалася 38 круглых насыпаў. Яны цягнуцца на 200 м па заходняму схілістаму берагу воз. Суя (мал. 40). Паміж курганнай групай і сучаснай вёскай выяўлена паселішча плошчай 3 га. Верхні слой яго развейваецца. На паверхні шмат керамікі XI—XIII стст. Тут знойдзены бронзавы пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, тры жалезныя рыбалоўныя кручкі, тонкі палачкападобны бронзавы злітак, нацельны бронзавы літы крыжык з патоўшчанымі канцамі. Звесткі пра такія крыжыкі XI—XIII стст. сабраны Э. С. Мугурэвічам[24]. Паселішча размяшчалася на месцы стаянкі каменнага веку. Знойдзены наканечнік стралы з крэмнію і некалькі крэмніевых тонкіх адшчэпаў. Сляды іншых паселішчаў XI—XIII стст. ёсць уздоўж берага возера на пясчаных узвышшах, дзе знаходзіцца в. Плусы. У 1965, 1967 гг. у могільніку каля паселішча даследавана 14 курганоў.

Курган 1 дыяметрам 9 м, вышынёй 2 м. Насыпаны на месцы паселішча V—VIII стст. з культурнага слоя. Больш ранняе пахаванне — трупаспаленне — выяўлена на гарызонце. Трупаспаленне праведзена на месцы. Пахаванне парнае, напэўна, X ст.

Верхняе трупапалажэнне ўпушчана ў насып. Каля сцягна ляжаў кругавы гаршчок з лінейным арнаментам і кляймом у выглядзе разеткі на днішчы (мал. 56, 16). Бліжэй да сцягна ляжаў жалезны нож. Каля

грудзей — жалезная падкованадобная фібула, ніжэй — бронзавае кальцо. Датаванне пахавання XI ст.

Курган 2 дыяметрам 6,5 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам глыбокая яма. Крыху вышэй гарызонта знойдзена невялікая колькасць перапаленых касцей і вуглёў. Амаль на мацерыку быў нож з патоўшчанай спінкай і доўгім дзяржаннем (мал. 56, 17), наставая двайная «лімонка». Да пахавання адносіцца чарапок ад гаршка, зробленага на ганчарным крузе. Такая кераміка добра вядома па раскопках Полацка[25]. У насыпе, асабліва ўнізе, многа ляпной керамікі. Курган насыпаны на месцы паселішча трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Курган 3 дыяметрам 8 м, вышынёй 1,2 м. На гарызонце знойдзены разбіты ляпны гаршчок (мал. 34, 16), блізкі да ляпной керамікі з курганоў каля Глінішча. Ён ляжаў бокам. У ім і побач знаходзілася трупаспаленне. Косці вагой 400 г былі на плошчы ў 1—1,5 кв. м. Цяжка сказаць, ці мае адносіны да пахавання абломак глінянага прасліца і невялікая трапецападобная падвеска (мал. 56, 5). Яны могуць належаць больш ранняму паселішчу. У насыпе знойдзены 33 абломкі ляпной керамікі, два з расчэсамі. Курган насыпаны на месцы паселішча ранняга жалезнага веку.

Курган 4 дыяметрам 6,5 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам захавалася невялікая праслойка чорнага культурнага слоя, якая была прарэзана ямай. Яма арыентавана па лініі паўночны захад — паўднёвы ўсход. Пры яе зачыстцы на глыбіні 0,4 м знойдзены рэшткі касцей чалавека, якія ляжалі ў няправільным анатамічным парадку. У паўночна-заходняй частцы ямы знойдзены чэрап і чэлюсць, крыху далей ад чэрапа — плечавая косць, на якой знаходзіўся ўверх дном маленькі гаршчок з простым адагнутым вонкі венчыкам, зроблены на ганчарным крузе (мал. 49, 10). Каля шыйных пазванкоў знойдзены нож, каля тазавай косці бразготка з крыжападобнай прарэзінай і касой нарэзкай (мал. 56, 3). Вакол касцей сляды струхнеўшага дрэва ад дамавіны. На захад ад пахавання было вогнішча таўшчынёй 5 см. У насыпе знойдзена пяць кавалкаў ляпной керамікі з паселішча. У кургане пахавана дарослая жанчына. Дата пахавання — не пазней пачатку XI ст.

Курган 5 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,9 м. У насыпе на глыбіні 0,6 м чорны пласт з ляпной керамікай паселішча. У цэнтры кургана на мацерыку знойдзена яма, якая прарэзала культурны пласт. Даўжыня ямы 240 см, шырыня 80 см, глыбіня ў мацерыку 30 см. Каля пахавальнай ямы сляды вогнішча.

У пахавальнай яме на глыбіні 30 см знойдзены шкілет, які дрэнна захаваўся, за выключэннем чэрапа. Пахавана была юная жанчына. Пры раскопках ля рэштак шкілета знойдзены бронзавы «змеегаловы» бранзалет (мал. 56, 7), бронзавае разамкнутае кальцо, абматанае тканінай, арнаментаваная галоўка ад бронзавага пярсцёнка (мал. 56, 13), скроневае дробнае бронзавае кальцо. Недалёка ад чэрапа ляжаў на баку кругавы гаршчок, упрыгожаны трыма хвалістымі лініямі (мал. 49, 11). На захад ад яго знойдзены жалезны нож, абломак пярсцёнка і дзве пацеркі — адна сіняя, другая каменная бясколерная (мал. 56, 8, 9), вітое кальцо з завязанымі канцамі (мал. 56, 12), пласцінчатае кальцо, упрыгожанае ёлачным арнаментам (мал. 56, 6), бразготка з крыжападобнай прарэзінай. Дата кургана XI ст.

Курган 6 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,8 м. На грунце заўважана цёмная пляма, як і ў папярэдніх выпадках. Тут раскапана пахаванне ў яме ў труне, ад якой застаўся слой гарахні зверху касцяка. Глыбіня ямы 0,35 м. На дне ляжаў шкілет жанчыны. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава.

Каля правай рукі знойдзены нож, на левай руцэ плецены бранзалет з добра завязанымі канцамі (мал. 56, 15). Такія знаходкі добра вядомы на Беларусі. Каля левай тазавай косці знойдзена кальцо, упрыгожанае арнаментам «ёлачка» (мал. 56, 14). Каля чэрапа было некалькі фрагментаў тонкіх дроцікаў, верагодна, ад скроневых кольцаў. Вакол шыі знойдзена 220 пацерак (мал. 90, 11—19). Сярод іх 11 шкляных пасярэбраных, па форме рабрыстых, чатыры ружовыя біканічныя, шэсць ружаватых паставых бочкападобных, тры шкляныя залачоныя, адна паставая чырвоная чатырохвугольная, дзве паставыя ружаватыя зонныя, 12 двайных шкляных залачоных, дзе трайныя шкляныя пасярэбраныя, 120 двайных пасярэбраных, 59 адзінарных шкляных пасярэбраных. Пахаванне датуецца сярэдзінай XI ст.

Курган 7 дыяметрам 5,5 м, вышынёй 0,5 м. Пад курганом у мацерыку — яма. У ёй на глыбіні 0,3 м ляжаў шкілет галавой на паўднёвы захад. Ёсць рэшткі труны. Пахавана старая жанчына без рэчаў.

Курган 8 — адзін з найбольш буйных курганоў у групе. Форма ў плане крыху нагадвае прамавугольную. Даўжыня 10 м, шырыня 8 м, вышыня каля 2 м. Курган вылучаецца сваім прыгожым выглядам. На вяршыні кургана плоская пляцоўка. У насыпе сустракаліся асобныя дробныя вуглі, на глыбіні 0,8 м — асобныя дробныя перапаленыя косці. Рэчаў няма, за выключэннем некалькіх таўсценных ляпных чарапкоў, якія трапілі сюды з паселішча. Курган быў насыпаны ў два прыёмы.

Курган 9 дыяметрам 5 м, вышынёй 0,5 м. На вяршыні насыпу заплыўшая яма. На грунце выяўлена невялічкая кучка касцей ад шкілета чалавека. Рэчаў не знойдзена, калі не лічыць 11 чарапкоў ляпной керамікі, якая належала паселішчу. Між іншым, жыхары вёскі паведамілі, што ў 1910—1912 гг. мясцовы селянін С. Барліцкі займаўся «вывучэннем» курганоў і раскопваў іх «калодзежам». Відавочна, гэты курган і быў ім раскапаны.

Курган 10 дыяметрам 4 м, вышынёй 0,3 м. На глыбіні 0,25 м мацярык. Курган пусты.

Курган 11 дыяметрам 6 м, вышынёй 0,7 м. Нічога не знойдзена.

Курган 12 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам — яма, у ёй шкілет галавой на захад. Ёсць рэшткі труны. На шкілеце знойдзена некалькі кавалкаў жалеза, верагодна, цвікоў. Адзін цвік быў каля ног.

Курган 13 дыяметрам 8 м, вышынёй 0,9 м. На мацерыку пад насыпам яма. У ёй шкілет, які вельмі дрэнна захаваўся. Каля яго гаршчок, зроблены на ганчарным крузе (мал. 49, 13).

Курган 14 дыяметрам 8,5 м, вышынёй 0,8 м. Пад насыпам яма. У ёй шкілет галавой на захад. Рэчаў няма.

З 14 даследаваных курганоў каля в. Плусы сем зусім аднолькавыя па абрадзе пахавання. Спачатку на грунце выкопвалася яма, паглыбленая ў мацярык на 0,3 м. Яма звычайна арыентавана па лініі захад—усход. У яе апускаўся нябожчык галавой на захад. У двух выпадках побач з пахавальнай ямай заўважаны рэшткі невялікага рытуальнага вогнішча. Усе пахаванні ў ямках датуюцца XI ст. Аднак у групе ёсць курганы, якія паводле звычаю пахавання і керамікі блізкія да курганоў каля в. Глінішча. Курганная група каля в. Плусы насыпана на месцы паселішча V—VIII стст. Найбольш раннія курганы насыпаны ў X ст., але іх асноўная колькасць адносіцца да XI — пачатку XII ст. Насельніцтва, якое пакінула гэтыя курганы, жыло недалёка на паселішчах, на беразе возера Суя, пра якія гаварылася вышэй.

## КУРГАНЫ З ТРУПАПАЛАЖЭННЯМІ XI—XII стст.

На тэрыторыі Полацкай зямлі даследаваны таксама курганныя могільнікі з пахаваннямі пераважна па абраду трупапалажэння. У некаторых з іх толькі ў выключных выпадках зафіксаваны асобныя трупаспаленні.

**Слабодка II, III (Чашніцкі раён).** Вышэй гаварылася пра курганны могільнік Слабодка I, у якім пераважаў абрад пахавання трупаспалення. За 0,3 км на захад ад гэтага могільніка размешчаны другі курганны могільнік, які складаецца з васьмі курганоў. У 1974 г. тут былі даследаваны два насыпы [26].

Курган 1 у плане круглы. Дыяметрам 11 м, вышынёй 1,35 м. Збудаваны з чырвонай гліны. У сярэдзіне кургана прасочвалася прымесь шэрай глебы з украпінамі вуглёў. Знойдзены сагнуты жалезны нож, напэўна, наўмысна пашкоджаны пры пахаванні. На ўзроўні гарызонту зафіксавана попелавугальная праслойка таўшчынёй 10 см. У ёй знойдзены другі нож, баявая сякера-чакан, бронзавая падкованападобная фібула (мал. 60, 13). Напэўна, тут было зусім спарахнеўшае трупапалажэнне, таму пры яго раскопках прыкмет не выяўлена.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 1,1 м. Насыпаны з пяску. На глыбіні 85 см рэшткі вельмі дрэнна захаваўшагася касцяка. Нябожчык ляжаў галавой на паўночны захад. Мабыць, гэта заходняя арыенціроўка з адхіленнем на 45°. Інвентар адсутнічае. Пахаванне праведзена па абраду трупапалажэння на попельнай праслойцы, якая засталася ад вогнішча.

Трэці курганны могільнік самы дальні ад в. Слабодка за 1,5 км на захад ад могільніка 1. У ім 30 паўсферычных курганоў вышынёй ад




*Мал. 77. Планы курганных могільнікаў: а — Гарадзішча (Мінскі раён); б — Закур'е (Чашніцкі раён); в — Слабодка III (Чашніцкі раён)*

0,8 да 2,2 м, але некаторыя насыпы выглядаюць авальнымі (мал. 78, в). У 1974 г. даследавана шэсць курганоў.

Курган 1 амаль круглы, вышынёй 1,85 м, дыяметрам 11,5 м. Насыпаны з пяску і гліны. Пад курганом вугальная праслойка, на якой два трупапалажэнні. Адно пахаванне арыентавана галавой на паўночны захад без інвентару, другое амаль не захавалася, але тут знойдзены ногі. У мацерыку зафіксавана авальная ямка памерам 45×25 см, глыбінёй 9 см, якая была напоўнена попелам.

Курган 2 круглы, вышынёй 1,8 м, дыяметрам 8 м. Зверху ў цэнтры кургана паглыбленне. У насыпе вышэй за гарызонт на 0,3—0,6 м праходзяць невялікія попельныя праслойкі. У паўднёва-заходняй частцы насыпу знаходзіўся касцяк даўжынёй 1,74 м, інвентар адсутнічае. Старажытны гарызонт уяўляў сабой гумусавую чорную глебу 5—17 см. На ёй пахаванне 2, арыентаванае таксама, як першы касцяк. Знойдзена шыфернае прасліца і кавалкі гаршкоў. У мацерыку тры неглыбокія ямы, запоўненыя гумусам.

Курган 3 авальны ў плане (9×6,9 м), вышынёй 1,85 м. У профілі добра бачныя тры слоі: зверху пясок, у сярэдзіне шэрая глеба, унізе — чорная глеба. У слоі шэрай глебы, дзе былі бачныя вугольчыкі, вышэй мацерыка знойдзены частка чэрапа і зуб чалавека, непадалёку металічны крыжык (мал. 60, 14) і 15 пацерак. Пацеркі шкляныя залачоныя (мал. 90, 2, 5—7), адна сіняя чатырохгранная (мал. 90, 10) і плоская пацерка з сіняга празрыстага шкла (мал. 90, 9).

Курган 4 круглы, дыяметрам да 7 м, вышынёй 0,9 м. Насыпаны з гліны. Блізка да цэнтра ляжалі два касцякі, напэўна, жанчыны і дзяўчынкі, арыентаваныя на захад. Труп дарослай жанчыны быў пакладзены на попельную праслойку таўшчынёй 10—20 см. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава. З двух бакоў галавы знойдзены пацеркі, з правага боку чэрапа пяць скроневых кольцаў і сярэбраная манета, якая служыла падвескай, з левага боку — чатыры кальцы. На пальцы правай рукі — бронзавы пярсцёнак, каля пояса злева фрагмент жалезнага сярпа (мал. 60, 6), 64 пацеркі шкляныя залачоныя, малыя па памерах (мал. 90, 3, 4), адна рабрыстая залачоная пацерка (мал. 90, 1), шэсць пацерак бурштынавых цёмна-аранжавых, па форме круглых. Скроневыя кольцы зроблены з круглага дроту: шэсць кольцаў з заходзячымі канцамі, два са свабоднымі патончанымі. Адно эсаканечнае кальцо даволі рэдкае для тэрыторыі Паўночнай Беларусі (мал. 60, 11). У пахаванні быў дынарый дыяметрам 2 см, з адтулінай для прымацавання вушка. Манета Этэльрэда II (979—1016 гг.), чаканеная ў Англіі. На тыльным яе баку выява «доўгага крыжа». Час абарачэння такіх манет 997—1003 гг.[27]

Касцяк першага пахавання быў пашкоджаны пры другім больш познім (упускным) пахаванні. Час, які аддзяляў другое пахаванне ад першага, быў, напэўна, непрацяглы. Даўжыня другога касцяка 1,45 м. Каля грудзей знаходзілася дзіцячая чэлюсць і ракавіна ўліткі.

Курган 5 круглы, дыяметрам 5,2 м, вышынёй 0,75 м. Насыпаны з чырвонай гліны, у аснове попелавугальная праслойка 5 см. Курган пусты.

Курган 6 круглы ў плане. Дыяметр 6 м, вышыня 1,55 м. У пясчаным насыпе сустракаліся невялікія плямы з попелу. Пад курганом гумусавы слой. Пахаванне не знойдзена.

Час збудавання трэцяй курганнай групы каля в. Слабодка вызначаецца XI ст., таксама як і другой групы. Абедзве курганныя групы ўзніклі некалькі пазней першага курганнага могільніку, у якім ёсць трупаспаленне. Ён функцыяніраваў да пачатку XI ст.

**Пуканаўка (Полацкі раён).** Курганны могільнік быў вядомы з 1873 г. Знаходзіцца па абодва бакі дарогі з в. Пуканаўка на Заазер'е і налічвае 76 кургаyоў добрай захаванасці. Амаль усе яны ў плане круглыя, па форме паўсфярычныя. Толькі адзін агледжаны курган можна лічыць падоўжаным. Самы вялікі курган дасягае вышыні 3 м. Астатнія насыпы вышынёй 0,5—1,5 м. У 1967 г. раскапана шэсць курганоў. Яны насыпаны з пяску, каля некаторых прасочваюцца раўкі.

Курган 1 авальны, памерам 7×6 м, вышынёй 0,8 м. Вакол бачныя




*Мал. 78. Планы даследаваных курганоў: а — Дарахі VI (к. 4); б — Дарахі II (к. 3); в — Слабодка III (к. 4); г — Дарахі V (к. 3)*

раўкі. Каля падэшвы насыпу ляжалі побач «на рабро» чатыры пярсцёнкі двух тыпаў (мал. 79, 3—7). Два пярсцёнкі зроблены з дроту і сагнуты ў два з паловай абароты. Два іншыя пярсцёнкі пласціністыя з арнаментам у «ёлачку». Тут быў абломак нажа і кругавы гаршчок (мал. 49, 15). Яго тулава пакрыта хвалістым арнаментам. На грунце попелавугальная праслойка. Яна прарэзана ямай, якая ішла ўступамі і дасягала глыбіні 40—60 см. У яме нічога не знойдзена. Пад насыпам на мацерыку выяўлены кавалкі касцей чэрапа чалавека. Яны не маюць слядоў агню. Напэўна, на рытуальным вогнішчы было трупапалажэнне, якое спарахнела.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,9 м. На грунце ў попелавугальнай праслойцы вылучалася больш чорная круглая пляма. Пахаванне не выяўлена.

Курган 3 дыяметрам 7,5 м, вышынёй 0,9 м. Пад курганом на грунце

попелавугальная пляма. Знойдзены кавалкі кругавога гаршка. Пахавання няма.

Курган 4 дыяметрам 6,5 м, вышынёй 1,2 м. На попелавугальнай праслойцы знаходзіўся касцяк мужчыны (184 см), які ляжаў галавой на захад. У нагах стаяў невялікі ляпны гаршчок (мал. 79, 1), побач знаходзіўся жалезны ўтульчаты наканечнік дзіды (яго даўжыня 18 см, шырыня пяра 3,5 см) (мал. 79, 8). Каля левай рукі ляжаў нож.

Курган 5 дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. Пад насыпам праслойка з украпінкамі вугалю. Курган пусты.

Курган 6 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,9 м. На грунце тонкая попелавугальная праслойка. Пахаванне не знойдзена.

Такім чынам, у двух курганах былі трупапалажэнні, у чатырох — пахаванняў няма, выяўлены толькі попелавугальныя праслойкі. У гэтых адносінах курганы падобныя на пустыя насыпы, вывучаныя ў Баноні. Датаваць курганы каля в. Пуканаўка можна другой паловай X — пачаткам XI ст.

**Кастрыца (Лепельскі раён).** Адкрыты цікавы комплекс археалагічных помнікаў. За 1 км ад в. Кастрыца размешчана гарадзішча, якое было поўнасцю раскапана ў 1965 г. Помнік трохслойны: днепрадзвінская культура, культура тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны і эпохі ранняга феадалізму IX—XI стст.[28] Да гарадзішча прымыкае паселішча XI ст., побач курганны могільнік з 14 круглых насыпаў. Адзін курган вышынёй 3,5 м стаіць асобна. Курганны могільнік збудаваны на месцы паселішчаў VI—X стст. Тут у 1965 г. даследаваны два курганы.

Курган 1 дыяметрам 14 м, вышынёй 1,8 м. Насыпаны з двух слаёў суглінку, у верхнім — сустракаецца ляпная кераміка з лінейным арнаментам. Выяўлены кавалак гліпянага прасліца, тачыльны камень з пясчаніку. Пахаванне знаходзілася на мяжы верхняга і ніжняга слоя на 1 м ніжэй за вяршыню насыпу. Яно было на падсыпцы (0,8 м). У насыпе выяўлены кавалкі чэрапа чалавека і 16 малых паставых пацерак дыяметрам 4 мм (мал. 59, 4). Знойдзена круглая металічная падвеска, выкапаная з тонкага ліста медзі (мал. 59, 5), арнаментаваная чаканкай (ад цэнтра разыходзяцца восем ліній). Блізка да сярэдзіны кургана стаяў горлам уверх невялікі кругавы гаршчок з рэшткамі касцей птушкі (мал. 49, 9). Знойдзена пацерка ў вочкі чорнага колеру X — пачатку XI ст., якая пабыла ў агні (мал. 59, 3), і другая шкляная пасярэбраная




*Мал. 79. Пахавальны інвентар: 1, 8 — з кургана 4; 3—7 — з кургана 1 каля в. Пуканаўка; 2 — серп з кургана каля Барысава*

пацерка (мал. 59, 1), літое паясное бронзавае арнаментаванае кальцо, якому вядомы шматлікія аналогіі[29]. На ўзроўні трупапалажэння, што амаль не захавалася, выяўлены тры валуны (20—30 см). Курган насыпаны на месцы паселішча, пра што сведчыць культурны слой таўшчынёй 20 см, дзе знойдзена ляпная і кругавая кераміка з лінейным арнаментам. Курган збудаваны ў пачатку XI ст. на месцы паселішча X ст., якое існавала таксама ў больш ранні час (VI—VIII стст.).

Курган 2 у плане круглы, дыяметрам 7 м, вышынёй 0,9 м. У насыпе выяўлены два слоі і культурны пласт паселішча. Курган збудаваны ў адзін прыём. На гарызонце старажытнай дзённай паверхні знаходзіліся тры касцякі. Адзін з іх у цэнтры кургана ляжаў галавой на захад. Даўжыня касцяка 165 см. Непасрэдна пад сківіцай знаходзіўся валун, больш буйныя два камяні знаходзіліся ў паўночна-ўсходняй частцы кургана. Пахавана дарослая жанчына. Знойдзена значная колькасць упрыгожанняў.

На чэрапе было скроневае кальцо з адным завернутым канцом з белага металу (серабра або білону). Другое меншае кальцо такога тыпу знойдзена каля сцягна (мал. 59, 14), дзе знаходзіўся таксама шырокасярэдзінны пярсцёнак з завязанымі канцамі (мал. 59, 15). Ён зроблены з белага металу ці сплаву. Каля шыі шмат пацерак, у тым ліку 79 малых зонных светлазялёных. Шкло крыху празрыстае. Такія пацеркі звычайна сустракаюцца з рэчамі X ст. Акрамя гэтага ёсць тры буйныя шкляныя залачоныя пацеркі дыяметрам 10 мм, вышынёй 9 мм. Найбольш часта яны ўжываліся ў XI ст.[30] Яшчэ знойдзена адна сіняя зонная пацерка (мал. 59, 12), характэрная для X—XI стст., адна пацерка паставая і адна шкляная пасярэбраная шматрабрыстая (мал. 59, 8). Час узвядзення кургана трэба вызначыць першай паловай XI ст. У паўднёва-заходняй частцы кургана знаходзіліся яшчэ два касцякі. Адзін ляжаў галавой на паўночны захад. Каля галёнкі была прыгожая мазаічная пацерка (мал. 59, 11). Мазаіка жоўтага, чырвонага, сіняга, зялёнага колеру. Яе дыяметр 12 мм, вышыня 10 мм. Трэці касцяк ляжаў галавой на паўночны захад. Даўжыня касцяка 1,5 м без уліку адсутнічаючых ступняў. Акрамя мазаічнай пацеркі ніякіх іншых рэчаў пры двух пахаваннях няма. З трох пахаванняў у кургане адно багатае і два бедныя.

**Забор'е (Глыбоцкі раён).** Каля вёскі знаходзяцца два курганныя могільнікі. З іх першы за 1,5 км на паўднёвы ўсход ад Забор'я каля балота, налічвае 41 курган. Большасць курганоў у плане круглыя, ёсць падоўжаныя і чатырохвугольныя. Вышыня самага вялікага кургана дасягае 2 м. Каля курганоў прасочваюцца раўкі. Другі курганны могільнік размешчаны за 1 км ад першага, пашкоджаны кар'ерам, з якога бяруць пясок. Усяго захавалася 10 курганоў. У першым могільніку ў 1975 г. раскапаны курган амаль у сярэдзіне могільніка.

Курган 1 дыяметрам 5 м, вышынёй 1,1 м. Насыпаны з пяску. У мацерыку знойдзена яма глыбінёй 20—30 см, дзе знаходзіўся касцяк, арыентаваны на захад. Даўжыня касцяка 1,3 м без уліку ступняў. У лобнай частцы чэрапа круглая адтуліна памерам 4 см, што сведчыць пра гвалтоўную смерць. На 10 см вышэй касцяка з яго правага боку каля калена ляжаў гаршчок бокам, зроблены на ганчарным крузе. Яго венчык крыху патоўшчаны (мал. 49, 14). Каля галёнкі з правага боку быў жалезны нож. На левай руцэ некалькі вышэй локця знойдзены бранзалет, скручаны з двух тонкіх бронзавых провалак. Канцы бранзалета звязаны вузлом (мал. 58, 4). Паводле тыпу рэчаў і абраду, гэта славянскае пахаванне канца X — пачатку XI ст.

**Малое Сітна (Полацкі раён).** У вярхоўі р. Палоты каля дарогі ў в. Палучча па беразе глыбокага возера ёсць дзве групы курганоў. У першай захавалася некалькі насыпаў. У 1969 г. раскапаны адзін курган. У плане падоўжаны (6×4 м), вышынёй 1 м. Пад курганом на мацерыку знаходзіцца попелавугальная праслойка. Яе таўшчыня 20 см. Пахаванне адсутнічае.

Другая група размешчана на адлегласці 200 м ад першай у вёсцы. Захавалася шэсць звычайных курганоў вышынёй 1—1,5 м. Адзін курган пашкоджаны раней. У 1969 г. аўтарам даследавана застаўшаяся яго частка. Гэта быў круглы курган дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м. На гарызонце знойдзены пашкоджаны касцяк. Нябожчык пакладзены на спіну галавой дакладна на поўнач. У вобласці жывата знаходзілася бронзавая прамавугольная спражка (мал. 45, 1). Пад касцяком прасочваліся адзнакі рытуальнага вогнішча. Дата пахавання XI ст.

**Захарнічы (Полацкі раён).** У ніжнім цячэнні р. Палоты за 2 км ад вёскі ў лесе размешчаны курганны могільнік з 14 паўсферычных насыпаў вышынёй 1—1,5 м. Адзін курган вылучаецца буйнымі памерамі і дасягае ў вышыню 3 м. У 1969 г. раскапана пяць курганоў, насыпаных з пяску.

Курган 1 дыяметрам 6 м, вышынёй 1,3 м. Пад курганом на гарызонце рэшткі попелу і вугалю. Больш нічога не знойдзена.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 1,3 м. Пад насыпам пасярод попелавугальнай праслойкі выяўлены прыкметы ямы памерам 2,5×1 м, паглыбленай у мацярык на 0,7 м. Яе вуглы закругленыя. На дне знойдзены касцяк мужчыны (172 см), які ляжаў галавой на захад. Кісці рук зложаны ў ніжняй частцы жывата. Каля пояса знаходзілася бронзавая прамавугольная спражка (мал. 45, 2) і масіўнае кальцо (мал. 45, 3).

Курган 3 дыяметрам 7 м, вышынёй 1,2 м. Пад насыпам попелавугальная праслойка, прарэзаная прамавугольнай ямай памерам 2,25× ×1,2 м, глыбінёй 0,53 м. На дне ямы знаходзіліся косці і прасочваліся сляды дрэва. Напэўна, гэта рэшткі дамавіны ці дошак, якімі была абкладзена яма. Касцяк ляжаў галавой на захад. Яго даўжыня 147 см. Каля шыйных пазванкоў касцяка знойдзены рэшткі маністаў, 110 шкляных пацерак, сярод якіх тры біканічныя з сіняга шкла, 12 — шкляных рабрыстых (мал. 45, 7), адна двайная паставая лімонка жоўтага колеру, тры тыпу жоўтага бісеру. Астатнія некалькі дзесяткаў малых пацерак жоўтых паставых па форме зонных (мал. 45, 17). У яме знойдзена чэлюсць дзіцяці. Не выключана, што тут былі два пахаванні.

Курган 4 змяшчаў на гарызонце рэшткі вогнішча, прарэзанага прамавугольнай ямай (1,6×1 м) глыбінёй 0,6 м. На дне ямы знаходзіўся дзіцячы касцяк даўжынёй 1 м, арыентаваны галавой на захад. Рукі сагнуты ў лакцях, так што зложаныя разам іх кісці знаходзіліся каля падбародка, што назіраецца ў латгалаў. На касцяку некалькі вышэй тазавых касцей знойдзена бронзавая падкованападобная фібула са стылізаванымі выявамі на канцах (мал. 45, 13). Блізкія аналогіі вядомы ў старажытнасцях усходняй Прыбалтыкі. Каля касцяка рэшткі дрэва ад дамавіны. На думку доктара медыцынскіх навук Л. Н. Казей, шкілет належаў дзіцяці (10 год). У кургане выяўлены абгарэлыя косці, сярод якіх восем шыйных пазванкоў, належаўшых дзецям [31]. Можна меркаваць, што ў кургане знаходзілася пахаванне як па абраду трупаспалення, так і трупапалажэння.

Курган 5 паўсферычны, дыяметрам 6,5 м, вышынёй 1,2 м. Пад курганом попелавугальная праслойка таўшчынёй 10 см. У ёй знойдзены

кальцыніраваныя косці. У цэнтры плошчы праслойкі выяўлена прамавугольная яма, закранаючая мацярык. Даўжыня ямы 2 м, шырыня 1 м, глыбіня 0,6 м. На дне ямы выяўлены рэшткі дрэва, напэўна, ад труны і касцяк, арыентаваны галавой на захад. Даўжыня касцяка 167 см, захаванасць дрэнная. Каля правай ключыцы знойдзены тры сярэбраныя або білонавыя пярсцёнкі (мал. 45, 20—22), якія знаходзіліся адзін у адным. Каля правага калена была бронзавая спражка з жалезным язычком і рэшткамі скуранога раменьчыка (мал. 45, 18). З правага боку каля кісці рукі ляжаў жалезны нож (мал. 45, 24). Яшчэ знойдзена 45 пацерак (мал. 45, 5) і бронзавая спіралька (мал. 45, 6). Усе пацеркі невялікія зонныя, па колеру зялёныя або фіялетавыя. Пахавана жанчына старэй за 50 гадоў.

Такім чынам, абрад пахавання ў курганах 2, 3, 5 аднолькавы. На грунце разводзілася рытуальнае вогнішча. Потым пасярэдзіне плямы выкопвалася яма, у якую змяшчалася труна з нябожчыкам галавой абавязкова на захад. Курганы ўзведзены ў XI ст. Па пахавальнаму абраду яны блізкія да кургаиоў каля в. Плусы.

**Мінтурова (Полацкі раён).** Вёска размешчана за 8—10 км на паўночны ўсход ад Полацка. Каля яе выяўлены два гарадзішчы [32], паселішча і курганны могільнік, у якім раней налічвалася 173 насыпы [33].

У 1966 г. аўтарам даследаваны адзін курган, у плане круглы, дыяметрам 5 м, вышынёй 1 м, насыпаны з пяску. У яго цэнтры прасочана вузкая яма, якая даходзіла да грунта. Пад курганом выяўлена попелавугальная праслойка таўшчынёй 15 см амаль па ўсёй плошчы, у якой знойдзены венчык гаршка. Ён мае скошаны ў сярэдзіну край, уздоўж якога праходзіць жалабок. Гэта спецыфічны полацкі тып керамікі, якая з'явілася ў XI ст. і мела значнае распаўсюджанне ў XII ст.[34] З улікам гэтай акалічнасці можна меркаваць, што курган адносіцца да XII ст. Другі курган гэтага часу з трыма трупапалажэннямі даследаваў у 1988 г. Г. М. Семянчук.

**Двор Саланевічы (Полацкі раён).** Каля вёскі на беразе воз. Нявіда курганны могільнік, ад якога захавалася толькі шэсць паўсферычных насыпаў. За 1,5 км ад вёскі на паўднёвым беразе воз. Вялікі Белянок размешчаны другі могільнік з 17 курганоў, круглых у плане, вышынёй ад 0,5 да 1,5 м. У першым могільніку ў 1974—1975 гг. даследаваны два курганы.

Курган 1 круглы, дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м. У насыпе блізка да мацерыка знойдзены толькі тры дробныя перапаленыя косці.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 0,8 м. На гарызонце тры касцякі добрай захаванасці. Ніжні касцяк арыентаваны на поўнач. Два іншыя ляжалі зверху перпендыкулярна першаму, галовамі на захад. Адзін касцяк буйны, даўжынёй 1,75 м. Пры касцяках не было рэчаў. У насыпе знойдзены ляпны чарапок V—VII стст. і кавалкі кругавых пасудзін. Відаць, курган узведзены на месцы больш ранняга паселішча.

**Закур'е (Чашніцкі раён).** Курганны могільнік за 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, побач з шашою Чашнікі—Новалукомль. Раней тут налічвалася каля 100 курганоў. У 1883 г. Е. Р. Раманаў даследаваў тры курганы. У адным кургане знойдзены рэшткі крэмацыі, у другім — трупапалажэнне. Рэчавы інвентар складалі нож, сярэбраны пярсцёнак, пяць пацерак і дзве завушніцы (напэўна, скроневыя кольцы). У трэцім кургане знойдзена, мабыць, трупаспаленне і шэсць упушчаных у насып позніх касцякоў, з якіх адзін дзіцячы, астатнія дарослыя [35].

У цяперашні час захавалася 19 курганоў, паўсферычных, вышынёй 1—2 м. Адзін курган вылучаецца значнымі памерамі і мае вышыню

3 м. У 1971 г. даследаваны чатыры курганы ў розных месцах могільніка.

Курган 4 дыяметрам 6 м, вышынёй 1,05 м. На мацерыку знойдзены 12 кавалкаў кругавой керамікі. Мацярык цвёрды. Пахавання не выяўлена.

Курган 5 дыяметрам 8 м, вышынёй 1,6 м. На гарызонце ляжаў касцяк, арыентаваны на захад. Нябожчык (1,7 м) пакладзены на спіну. У вобласці таза знойдзена бронзавая спражка з адбіткам тканіны, моц-




*Мал. 80. Закур'е: 1 — план кургана 6; 2 — план кургана 5*

на спрацаваны сланцавы брусок, жалезны нож з рэшткамі драўлянай ручкі, бронзавае паясное кальцо і калачападобнае крэсіва. Сякера з адбіткам тканіны ляжала пад правым каленам (мал. 42, 1). Каля ног і чэрапа — чатыры цвікі даўжынёй 11—12 см. Пахаванне датуецца XI ст.

Курган 6 дыяметрам 10 м, вышынёй 1,6 м. На глыбіні 1,3 м на падсыпцы 0,3 м касцяк (1,55 м). Нябожчык ляжаў на спіне галавой на поўнач, кісці рук на жываце (мал. 80). У насыпе знойдзена пяць кавалкаў ляпной керамікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Відаць, курган узводзіўся на месцы паселішча, культурны слой якога дакладна не прасочваўся. Да пахавання адносяцца невялікі нож, бронзавае кальцо дыяметрам 2 см, сагнутае з дроту, сердалікавая васьміграннная пацерка, чатыры шкляныя залачоныя пацеркі дыяметрам 10 мм, каменная цыліндрычная пацерка такіх жа памераў (мал. 42, 4—9), два жалезныя каваныя цвікі. Дата пахавання XI ст.

Курган 7 дыяметрам 3 м, вышынёй 0,7 м. Ён выглядае зусім малым у могільніку. Каля краю насыпу ляжала галёнка. Напэўна, косць выпадковая і курган адносіцца да ліку парожніх.

**Лукомль (Чашніцкі раён).** Гэты вельмі старажытны горад Полацкай зямлі знаходзіўся на берагах р. Лукомкі. Тут захаваліся гарадзішча, селішча, курганныя могільнікі [36].

Курганы каля Лукомля былі даследаваны ў 1888 г. Е. Р. Раманавым. Ён апісаў курганную групу за 0,9 км ад гарадзішча на ўскрайку

поля каля дарогі на в. Чарэя, дзе шэсць курганоў размяшчаліся ў два рады. Е. Р. Раманаў раскапаў адзін курган у верхнім радзе, другі — з краю. Былі знойдзены трупапалажэнні з вялікай колькасцю рэчаў, сярод якіх сякера-чакан, наканечнікі дзідаў [37], берасцяное вядро з жалезнымі абручамі [38]. У 1966—1967 гг. аўтар даследаваў гэты курганны могільнік, які можна разглядаць як рэшткі некропаля старажытнага Лукомля. На грэбні ўзвышша даследаваны тры курганы. Дарэчы, у 1970 г. курганы былі адноўлены ў першапачатковым выглядзе.

Курган 2 дыяметрам 10 м, вышынёй 1,2 м. Насыпан са жвіру. У насыпе было ўпускное трупапалажэнне (180 см). На глыбіні 1,2 м ад вяршыні знойдзены касцяк мужчыны ўзростам 25 год, арыентаваны на захад. Касцяк ляжаў на мацерыку з вельмі шчыльнай гліны, пасыпанай камянямі. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава, кісці рук каля тазу, левая нага сагнута ў калене. Вакол касцяка выяўлена 11 каваных цвікоў. Каля правага пляча знаходзіўся жалезны наканечнік дзіды, каля правага калена — невялікая жалезная баявая сякера. Яе ручка спарахнела, аднак у правушыне частка захавалася, дзе быў жалезны кручок для падвешвання сякеры, відаць, да пояса (мал. 50, 1). Паміж каленямі знойдзена бронзавая падкovападобная фібула, на ўзроўні таза з абодвух бакоў па адпаму бронзаваму кальцу, арнаментаванаму кружкамі. Каля кісці левай рукі — невялікі жалезны нож, ад якога акрамя ляза захавалася касцяное дзяржанне. На ім награвіраваны княскі знак — трызубец [39]. Курганны інвентар не пакідае сумнення ў тым, што гэта пахаванне дружынніка XI ст., пра што ўжо гаварылася.

Курган 3 дыяметрам 10 м, вышынёй звыш за 2 м. Здавалася, курган добра захаваўся і не пашкоджаны. Зусім іншае выявілася пры раскопках. У вяршыні знойдзены асобныя косці чалавека. На глыбіні 1,5 м выяўлены дзве кучы чалавечых касцей і 15 чарапоў. Шкілеты знаходзіліся ў беспарадку. Сярод іх ёсць дзіцячы. Складаецца ўражанне, што ў кургане была выкапана глыбокая яма, у якую кінулі трупы. Ніякіх рэчаў не знойдзена, за выключэннем невялікага абрыўка скуры ад абутку. Напэўна, у старажытным кургане намнога пазней былі закапаны забітыя ў час вайны жыхары Лукомля.

Курган 4 даследаваны ў 1967 г. Насып складаўся з гравію, пад ім пласт шэрай глебы таўшчынёй 40 см. У насыпе знойдзены перамешаныя косці чалавека і каваны цвік. Курган раней быў раскапаны траншэяй.

У 1888 г. Е. Р. Раманаў адзначыў яшчэ два курганы ў ваколіцах Лукомля. Адзін за 1 км на поўнач ад апісанага курганнага могільніка на сядзібе селяніна, другі — самы вялікі ў Лукомлі — на такой жа адлегласці на захад. Першы з гэтых курганоў захаваўся да 1956 г. і быў зрыты.

Другі вялікі курган «валатоўка» захаваўся да цяперашняга часу каля сучасных могілак, на правым беразе Лукомкі. Ён правільнай паўсфярычнай формы. Дыяметр 20 м, вышыня звыш за 4 м. Не даследаваўся.

У 1966 г. знойдзена яшчэ адна «валатоўка» сярод хмызняку на левым беразе Лукомкі. Яна даследавана ў 1967 г. Насып авальны памерам 15×12 м, вышынёй 2,5 м. Верхні шэры слой мае таўшчыню 1,5 м. У ім знойдзена ляпная і кругавая кераміка. На глыбіні 0,5 м шыфернае праслiца. У кургане на розных узроўнях выяўлена некалькі шкілетаў. На глыбіні 1,2 м касцяк, арыентаваны на захад, пры ім два цвікі. Ніжні слой перавышаў па таўшчыні 1 м і з'яўляўся культурным слоем паселішча. Мацярык быў дасягнуты на глыбіні 2,9—3 м ад вяршыні гэтага вялікага кургана.

**Домжарыцы (Лепельскі раён).** На 122 км шашы Мінск—Лепель за 2 км на паўднёвы захад ад воз. Плаўна на тэрыторыі Бярэзінскага дзяржаўнага запаведніка каля в. Ствольна і Домжарыцы захаваўся курганны могільнік, які складаецца з дзвюх груп. Есць даныя, што каля в. Ствольна ў 1931 г. А. М. Ляўданскі ў курганным могільніку з 209 даследаваў два курганы і адну магілу, абкладзеную камнем. Ён датаваў пахаванне XII ст.[40] Хутчэй за ўсё размова ідзе пра гэты курганны могільнік, які лепш прывязваць да в. Домжарыцы — цэнтра Бярэзінскага запаведніка. Курганны могільнік падзяляецца ярам на дзве часткі, цяпер захавалася ў паўночнай частцы 29 кургаНоў, у паўднёвай — 151 курган.

У 1975 г. В. Е. Собаль у сувязі з будаўніцтвам дарогі правёў выратавальныя раскопкі двух кургаНоў.

Курган 1 быў пашкоджаны бульдозерам. Насып паўсферычны. Вышынёй 1,9 м, дыяметрам 9,5 м. Блізка да цэнтра на глыбіні 0,4 м знойдзены невялікі гаршчок з абламаным венчыкам (мал. 34, 19). Сустракаліся попельныя плямы і вугольчыкі. На падэшве кургана сляды вогнішча. На попельнай праслойцы ляжаў галавой на захад буйны, папэўна, мужчынскі касцяк. Каля левай нагі стаяў ляпны гаршчок з плечыкамі. Вышыня пасудзіны і яе дыяметр 12 см. Пахаванне датуецца X ст. (мал. 34, 18).

Курган 2 у плане авальны памерам 7,5×8,8 м, вышынёй 1,3 м. Пад насыпам на попельнай праслойцы ляжаў касцяк галавой на захад. Каля ног знаходзілася перакуленая ўверх дном пасудзіна з хвалістым арнаментам, бронзавае кальцо з арнаментам. Пахаванне датуецца другой паловай X — пачаткам XI ст. (мал. 49, 16).

У 1979 г. аўтарам даследаваны 10 кургаНоў, з іх пяць у заходняй ад дарогі частцы могільніку каля балота (№ 3, 5, 6, 7, 8) і столькі ж (№ 4, 9, 10, 11, 12) ва ўсходняй частцы. Для раскопак выбіраліся насыпы, менш зарослыя лесам, невялікіх памераў.

Курган 3 круглы, вышынёй 0,8, дыяметрам 5 м. З аднароднага пяску. На глыбіні 0,7 м ад вяршыні на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні сустракаліся вуглі. У мацерыку выяўлена яма глыбінёй 0,7 м, у плане прамавугольная з акругленымі вугламі (мал. 44). У ёй на глыбіні 1,4 м ад вяршыні насыпу знаходзілася пахаванне — трупапалажэнне, арыентаванае на паўночны ўсход. Даўжыня касцяка 1,65 м. Правая рука выцягнута ўздоўж тулава, левая злёгку сагнутая, кісць ляжыць на сцягне. Па вызначэнню Л. М. Казей, пахавана жанчына 45—50 гадоў. Бачна сцёртасць зубной эмалі, зубы мелі каразійнае паражэнне.

У яме каля ног бачны вуглі. Складаецца ўражанне, што агонь палілі двойчы: на ўзроўні старажытнай паверхні, перад тым як выкапалі яму і пасля гэтага. Побач з галавой стаяў ляпны гаршчок (мал. 55, а). З гэтага боку каля скроні знаходзіліся два кальцы, сагнутых з бронзавага дроту, адно дыяметрам 1 см, другое — 3 см. З левага боку каля скроні захаваліся валасы і знойдзена вялікае бранзалетападобнае крывічскае кальцо дыяметрам 7 см з завязанымі канцамі, каля шыі 113 малых шкляных пацерак зялёнага колеру. На левай руцэ — бронзавы віты бранзалет з акуратна злучанымі канцамі (мал. 81, 11). Пад касцямі прасочваліся рэшткі дрэва.

Курган 4 вышынёй 0,6 м, дыяметрам 4 м. Пад насыпам была яма глыбінёй 0,5 м, якая ўніз моцна звужалася. На дне яе ляжаў шкілет (1,32 м) галавой на захад. Відаць, пасля таго як выкапалі яму, палілі рытуальны агонь. Па вызначэнню Л. М. Казей, жанчына 16—18 гадоў з прыкметамі хваробы позняга рахіту. Абедзве рукі сагнуты ў лакцях

і падняты кісцямі да грудзей (мал. 43, 2). Такое становішча рук назіраецца ў могільніках латгалаў [41].

Курган 5 вышынёй 1,2 м, дыяметрам 6 м. Вакол яго раўкі 0,3—0,4 м. Пад дзірваном у асобных месцах вуглі. Пад насыпам выяўлена яма глыбінёй да 0,5 м, у ёй касцяк (1,71 м) арыентаваны галавой на поўдзень з невялікім адхіленнем на захад. Левая рука выцягнута ўздоўж тулава, правая — злёгку сагнута. Па вызначэнню І. У. Чаквіна, мужчына ўзростам за 30 гадоў. Інвентар адсутнічае.




*Мал. 81. Домжарыцы. Пахавальны інвентар: 1—6 — курган 6; 7—8 — курган 7; 9—12, 14 — курган 3*

Курган 6 у плане авальны. Вышыня 1 м, папярочнік 5—6 м. Пад насыпам яма глыбінёй 0,4 м з касцяком (1,52 м), арыентаваным на захад. Левая рука сагнута ў локці і паднята кісцю да грудзей, як гэта назіралася ў кургане 4. Правая рука злёгку сагнута ў локці, кісць ляжыць на лабку. На прадплеччы правай рукі знаходзіцца бронзавы пласцінкавы бранзалет (мал. 81, 3). Каля правай нагі з унутранага боку пярсцёнак з заходзячымі канцамі (дрэнна захаваўся), недалёка гаршчок, зроблены на ганчарным крузе, абпальванне няроўнае. Каля чэрапа знойдзены дзве выпуклыя металічныя падвескі, упрыгожаныя кропкавым арнаментам (мал. 81, 1, 2). Каля шыі былі шкляныя пацеркі (12 залочаных, тры пасярэбраныя, іншыя распаліся). З двух бакоў чэрапа захаваліся скроневыя бранзалетападобныя кольцы (мал. 81, 5). Яшчэ знойдзены нож побач з левай рукой, на падплечча якой надзеты бронзавы «змеегаловы» бранзалет. Пад шкілетам прасочваліся рэшткі дрэва. Пахавана жанчына 30—40 гадоў.

Курган 7 вышынёй 0,9, дыяметрам 4 м. З паўднёвага боку равок. Пад насыпам на мацерыку чорная праслойка, якую прарэзала яма глыбінёй 0,4 м. У ёй касцяк, арыентаваны на захад. Пахаванне пашкоджана. На фаланзе пальца — бронзавы пярсцёнак кругладротавы з патоў-

шчанай сярэдняй часткай і заходзячымі канцамі. Каля чэрапа скроневае кальцо з тонкага дроту і заходзячымі канцамі. Вызначэнне полу пахавання выклікае цяжкасці. На чэрапе ёсць адзнакі мужчынскага шкілету.

Курган 8 у плане авальны, даўжынёй 7 м, шырынёй 6 м, вышынёй 1,2 м. З паўднёвага боку ёсць два раўкі. Пад насыпам блізка да цэнтра выяўлена яма глыбінёй да 35 см. У ёй шкілет (1,65 м), арыентаваны галавой на поўдзень з адхіленнем да захаду, рукі ляжаць на жываце. Інвентар адсутнічае.

Курган 9 вышынёй 1,1 м, дыяметрам 4 м. Пад насыпам яма глыбінёй 0,6 м з касцяком (не менш за 1,5 м), арыентаваным на захад. Пахавана жанчына ўзростам да 30 гадоў.

Курган 10 вышынёй 1 м, дыяметрам 3,5 м. Пад насыпам выяўлена яма глыбінёй 0,6 м, у якой касцяк (1,57 м) арыентаваны на захад, рукі зложаны на жываце. Касцяк, напэўна, жаночы, ляжаў на спіне тварам уверх.

Курган 11 вышынёй 1,1 м, дыяметрам 4,5 м. Даўжыня касцяка 1,7 м. Ён знаходзіўся ў яме пад курганом. Пахавана жанчына ва ўзросце 35—45 год (вызначэнне І. У. Чаквіна).

Курган 12 вышынёй 0,8 м, дыяметрам 3,5 м. Пад насыпам выяўлена яма глыбінёй да 0,4 м. У ёй знаходзіўся дзіцячы касцяк даўжынёй 1,07 м. Захаванасць дрэнная. Адна рука выцягнута ўздоўж тулава, другая ляжыць на жываце. Касцяк арыентаваны на захад.

Разглядаемы курганны могільнік датуецца XI ст., належаў крывічам і знаходзіцца ў цэнтральнай частцы былога Полацкага княства, якое дасягнула тады значнага росквіту. Ён мае некаторыя асаблівасці. Тут выяўлены трупапалажэнні з ляпнымі пасудзінамі, па форме падобнымі на кераміку культуры доўгіх курганоў паўночнай Беларусі, для якой характэрны пахавальны звычай трупаспалення. У гэтым курганным могільніку, часцей, чым у іншых, адзначаецца своеасаблівае налажэнне рук кісцямі каля падбародка, што характэрна для пахавання латгалаў.

# Дадатак 2

## МАТЭРЫЯЛЫ РАСКОПАК КУРГАНОЎ У МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Крывічы-палачане з Беларускага Падзвіння рассяляліся ў суседнія раёны Верхняга Падняпроўя, у меншай ступені у Панямонне. У Віцебскай вобласці на поўнач ад Докшыц знаходзяцца вытокі Бярэзіны, у якую ўпадае правы яе прыток — Свіслач. У Талачынскім раёне бярэ пачатак Друць, якая непасрэдна ўпадае ў Днепр. Гэтыя рэкі актыўна выкарыстоўваліся крывічамі-палачанамі для ўнутранай каланізацыі суседніх раёнаў, калі фарміравалася тэрыторыя Полацкай зямлі [1]. У выніку полацкія крывічы змешваліся з дрыгавічамі. Тут у 60—80-я гады даследавана звыш за 80 курганоў.

**Пагадзіца (Барысаўскі раён).** Курганны могільнік знаходзіцца за 1 км на паўднёвы захад ад Пагадзіцы пры дарозе на в. Круглае. Налічвае прыкладна 50 курганоў, якія цягнуцца паласой 0,5 км. У адных месцах насыпы размешчаны шчыльна, у іншых — знаходзяцца на некаторай адлегласці адзін ад другога. Ствараецца ўражанне, што тут размешчана некалькі невялікіх курганных груп. З усходняга краю могільніка (бліжэй да вёскі) знаходзіцца адзін валападобны курган. Яго даўжыня 13 м, шырыня 6 м, вышыня 1,8 м. Гэта самы высокі курган у могільніку. Прыкладна пасярэдзіне могільніка ёсць група з васьмі курганоў, сярод іх адзін доўгі (15×6×1,5 м). У заходняй частцы могільніка налічваецца 22 круглых у плане курганоў вышынёй ад 0,5 м да 1,5 м. Адзін нізкі курган можна аднесці да падоўжаных. У сярэдняй частцы могільніка невялікі курган, напалову зрыты бульдозерам пры пашырэнні дарогі. Ён насыпаны з пяску, у ніжняй частцы прасочвалася вугальная праслойка. У 1980 г. аўтарам даследавана два малых курганы.

Курган 1 круглы. Дыяметр 3,1 м, вышыня 0,9 м. У насыпе збоку знаходзіўся валун. У мацерыку было невялікае паглыбленне. У ім прыкметны вугалі. Больш нічога не знойдзена.

Курган 2 мае папярочнік 3,1 м, вышыню 0,8 м. Насыпаны з пяску. Пахавання не выяўлена. На ўзроўні гарызонту знаходзіўся буйны валун. У аснове насыпу знойдзена жалезная спражка з увагнутымі бакамі (мал. 24, 3).

**Глівін I (Барысаўскі раён).** За 0,2 км на ўсход ад вёскі каля дарогі ў в. Навасёлкі на правым беразе Бярэзіны знаходзіцца паселішча памерам 250×120 м. Культурны слой таўшчынёй 0,5 м. У 1982 г. аўтар даследаваў 32 м$^2$. Знойдзена ляпная слабапрафіляваная кераміка II—V стст. (некаторыя фрагменты з расчэсамі), кавалак глянцаванай міскі зарубінецкай культуры, ляпны посуд VIII—IX стст., ганчарная кераміка X—XIII стст. і больш позняга часу.




*Мал. 82. Ізбішча: 1 — план кургана 20; 2 — курган 21, а — дзірван; б — пясок; в — попелавугальная праслойка; г — камні; д — знаходкі; е — мацярык*

Побач з селішчам знаходзіцца курганны могільнік І. Ён налічвае 55 насыпаў дыяметрам 4—10 м, вышынёй 0,5—2,5 м. У 1982 г. аўтар даследаваў 18 кургано́ў.

Курган 1 у плане авальны. Папярочнік 3 м, вышыня насыпу 1,5 м. Насып меў стромкія схілы, навокал прасочваліся раўкі. У паўночна-ўсходняй частцы пад дзірваном на глыбіні 0,4 м ад вяршыні кургана знойдзена кальцыніраваная костка. У паўднёва-ўсходняй частцы выяўлены кавалак ляпной керамікі.

Курган 2 у плане авальны. Папярочнік па лініі поўнач—поўдзень 5 м, усход—захад 6 м, вышыня 1,5 м. Насыпаны з пяску, як усе курганы ў гэтым могільніку. Пад дзірваном знойдзена трупаспаленне вагой 200 г. У ім былі кавалкі не менш трох ляпных гаршкоў. Адзін гаршчок прадстаўлены буйнымі фрагментамі (мал. 38, 4). Гэта славянская пасудзіна, відаць, IX ст. На ўзроўні, дзе знойдзена пахаванне, попел быў раскіданы па ўсяму насыпу. На мацерыку прыкмет вогнішча не прасоч-




*Мал. 83. Ізбішча. Рэчы з кургана 64 з трупапалажэннем (раскопкі В. Казея)*

валася. Такім чынам, як і ў папярэднім выпадку, пахаванне зроблена ў насыпе, калі вышыня падсыпкі складала 1 м. У насыпе кургана знойдзены кавалкі пасудзін трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. з селішча.

Курган 3 авальны, папярочнік 6—7 м, вышыня 2,5 м. З заходняга і ўсходняга бакоў мае раўкі. У паўночна-ўсходняй частцы на 0,4 м ніжэй за вяршыню знаходзілася трупаспаленне (1,3 кг). Пахаванне было на 2,1 м вышэй за мацярык. У насыпе знойдзены валун.

Курган 4 авальны, папярочнік 6—7 м, вышыня 2,5 м. Гэта быў курган амаль паўсфярычнай формы, які добра захаваўся. Пад дзірваном у насыпе знойдзена кальцыніраваная костка ад сцягна чалавека.

Курган 5 мае папярочнік 3—3,5 м, вышыню 1,5 м. У насыпе былі вуглі. Прыкмет пахавання не знойдзена.

Курган 6 мае папярочнік 2—2,5 м, вышыню 1 м. У насыпе траплялiся вуглі і попел. Пахавання не выяўлена.

Курган 7 мае папярочнік каля 2,6 м, вышыню 1 м. У насыпе траплялiся вуглі. Пахавання не знойдзена.

Курган 8 мае папярочнік 5—6 м, вышыню 1,5 м. У насыпе траплялiся вуглі. Прыкмет пахавання няма.

Курган 9 мае папярочнік 5—6 м, вышыню 2 м. У насыпе былі вугалі. Блізка да мацерыка амаль у цэнтры кургана выяўлена пяць кавалкаў ад ляпнога гаршка, магчыма, IX ст. Пахавання не знойдзена.

Курган 10 мае папярочнік 6—7 м, вышыню 2,5 м. Насыпаны з пяску. На глыбіні 0,5 ніжэй за вяршыню кургана ў цэнтры знойдзена трупаспаленне ў трох кучках (0,84 кг). Трапляецца вуголле. У ніжняй частцы кургана на глыбіні 2 м выяўлены яшчэ кальцыніраваныя косці.

Курган 11 мае папярочнік 7—8 м, вышыню 2 м. У насыпе выяўлены вуглі і попел. Пахавання не знойдзена.

Курган 12 дыяметрам 5 м, вышынёй 0,9 м. Насып мае правільную паўсфярычную форму. У ім знойдзены ў некалькіх месцах вуглі і попел, якія трапілі сюды пры ўзвядзенні кургана. Пахавання не выяўлена.

Курган 13 у плане круглы, дыяметрам 8 м, вышынёй 1 м. Пад дзірваном амаль у цэнтры кургана знаходзілася трупаспаленне вагой 50 г. Косці рассыпаны ў выглядзе плямы памерам 0,6 м. Сярод іх знойдзена вушка ад бронзавага упрыгожання. Выяўлена ляпная кераміка з расчэсамі, якая трапіла ў насып з культурнага слоя паселішча, які знойдзены ў аснове кургана магутнасцю ад 20 да 50 см. У мацерыку былі дзве ямы. Адна яма мае папярочнік па напрамку поўнач—поўдзень 2,5 м, глыбіню 0,3 м. У ёй знойдзена тоўстае дно ад вялікага начыння тыпу зерневіка, венчык ад слабапрафіляванага посуду трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. У культурным пласце пад курганом выяўлена шмат ляпной керамікі розных часоў: кавалкі ад пасудзін з расчэсамі, глянцаваны чарапок і іншая гладкасценная кераміка другой і трэцяй чвэрцей 1-га тысячагоддзя н. э.

Курган 14 паўсфярычны, дыяметрам 10 м, вышынёй 1,7 м. З поўначы каля кургана захаваліся два раўкі. На глыбіні 0,4 м недалёка ад цэнтра насыпу ў дзвюх невялікіх ямках знойдзены кальцыніраваныя косці вагой 0,69 кг. Можна меркаваць пра два пахаванні ў кургане. У насыпе знойдзены два кавалкі ляпной керамікі, адзін з іх ад глянцаванай міскі зарубінецкай культуры I—II стст. н. э.

Курган 15 мае паўсферычную форму, вакол раўкі. Дыяметр 8 м, вышыня 2 м. У паўднёва-заходняй чвэрці на глыбіні 0,4 м у двух месцах знойдзены перапаленыя косці (120 г). Пахаванне змешчана на падсыпцы, якая мела вышыню 1,6 м.

Курган 16 дыяметрам 3 м, вышынёй 0,6 м. Гэта зусім малы насып




*Мал. 84.* Глівін. План кургана 2, план кургана 14 з двума пахаваннямі-трупаспаленнямі: *а* — дзірван; *б* — пясок; *в* — пахаванні; *г* — кераміка

з жоўтага пяску. У кургане трапляліся вугольчыкі. Пахавання не знойдзена.

Курган 17 дыяметрам 8 м, вышынёй 2 м, насып правільнай паўсферычнай формы. Добра прыкметны тры раўкі вакол кургана. У верхняй частцы кургана на глыбіні 0,4 м знойдзены перапаленыя косці, якія былі ў кучцы (150 г). На гэтай жа глыбіні знойдзены кавалак гаршка з расчэсам. У насыпе ўсяго выяўлена 35 кавалкаў ад ляпных гаршкоў пераважна II—V стст.

Курган 18 у плане круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 1 м. Пахавання ў ім не знойдзена. Пад насыпам выяўлены культурны слой селішча і 29 кавалкаў ляпной керамікі, два маюць расчэсы.

Курганны могільнік каля в. Глівін мае свае асаблівасці ў параўнанні з курганамі Беларускага Падзвіння. Усе пахаванні па абраду трупаспалення знаходзяцца на падсыпцы, вышыня якой 1 м, а ў некаторых выпадках — 1,5 м. Пахаванні змешчаны ў неглыбокія ямкі і амаль адсутнічаюць у гліняных урнах.

Пад курганамі на мацерыку прыкмет рытуальнага вогнішча дакладна не выяўлена. Усе курганы насыпаны з жоўтага пяску, у многіх выпадках захаваліся побач раўкі. Трупаспаленне адбывалася заўсёды па-за курганом. Калі курган насыпалі да вышыні прыкладна 1 м, прыносілі попел і вуголле з таго месца, дзе адбывалася крэмацыя. Гэтым у нейкай ступені можна растлумачыць адсутнасць у курганах рэчавага інвентару, бо ён мог застацца на месцы спалення нябожчыка. Попел рассыпалі па насыпе. Здаралася, што прыносілі значную колькасць перапаленых касцей і змяшчалі іх у насыпе ў неглыбокіх ямках. Затым курган насыпалі на поўную вышыню. Звяртае ўвагу ўстойлівы абрад пахавання ва ўсіх курганах. Толькі ў адным выпадку (курган 2) можна з упэўненасцю сцвярджаць, што разам з трупаспаленнем былі кінуты як ахвяра рэшткі трох пасудзін. Гэтая тыпавая славянская кераміка (мал. 83), якая дазваляе датаваць час пахавання IX ст. Курганы насыпаны на месцы селішча жалезнага веку II—V і VI—VII стст.

**Глівін II (Барысаўскі раён).** За 1 км ад першага курганнага могільніка каля в. Глівін знаходзіцца другі могільнік пры дарозе на в. Навасёлкі, які налічвае чатыры курганы. У 1982 г. тут даследаваны два насыпы.

Курган 1 у плане паўсферычны, дыяметрам 8 м, вышынёй 1,5 м, насыпаны з пяску, навокал ёсць тры раўкі. У насыпе знойдзены попел і валун. Пахавання не выяўлена.

Курган 2 у плане крыху падоўжаны. Папярочнік 4—5 м, вышыня 1,5 м. З краю насыпу выяўлены валун. Пахавання не знойдзена.

**Малы Стахаў (Барысаўскі раён).** Курганны могільнік размешчаны за 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 40 курганоў дыяметрам 4—10 м, вышынёй 0,5—2,5 м. У 1931 г. А. М. Ляўданскі даследаваў тры курганы. У вяршыні аднаго кургана знойдзены перапаленыя косці, рэшткі перапаленых бронзавых упрыгожанняў, шкляныя пацеркі і ляпны посуд [2]. Курганы насыпаны на месцы паселішча жалезнага веку, магчыма, банцараўскай культуры.

У 1971 г. аўтар даследаваў адзін курган, у якім пахавання не выяўлена. У насыпе знойдзена ляпная і ганчарная кераміка, кавалак гліnянай патэльні.

**Пчэльнік (Барысаўскі раён).** Курганны могільнік размешчаны за 3 км на поўнач ад в. Пчэльнік пры дарозе на в. Кішчына Слабада ў ляс-

ным гушчары. Захавалася 146 кургаиоў. Яны круглыя, вышынёй ад 0,5 да 2,5 м. Самы вялікі курган мае дыяметр 20 м, вышыню 3,5 м. Каля буйных курганоў прасочваюцца глыбокія раўкі. У 1968 г. паўразбураны курган даследаваў настаўнік-краязнаўца М. М. Прохарчык. Пад насыпам на гарызонце ляжаў касцяк жанчыны, арыентаваны на захад. Каля яго знойдзены чатыры шкляныя пазалочаныя пацеркі, чатыры невялікія бронзавыя скроневыя кальцы з заходзячымі адзін за другі




*Мал. 85. Заслаўе. Курганная група II: 1—4 — курган 1; 5 — курган 2*

канцамі, каля левага калена стаяў высокі гаршчок[3]. Дата кургана XI ст. У 1971 г. аўтар даследаваў два курганы.

Курган 2 у плане круглы, дыяметрам 5 м, вышынёй 1,5 м. Пад насыпам на гарызонце знойдзены шкілет, арыентаваны на захад, без рэчаў.

Курган 3 у плане круглы, дыяметрам 5,4 м, вышынёй 1,6 м. Пад насыпам на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні выяўлены прыкметы трупапалажэння, але яно дрэнна захавалася. Можна меркаваць, што касцяк арыентаваны на ўсход. Рэчавы інвентар адсутнічае.

**Барысаў (цэнтр Барысаўскага раёна).** Гарадзішча, дзе ўзнік пачаткова Барысаў, знаходзіцца ў в. Старабарысаў на левым беразе Бярэзіны. Паміж Старабарысавым і Барысавым знаходзіцца курганны могільнік. Да 1926 г. у шасці курганных групах налічвалася 204 курганы, у плане звычайна круглыя. Вышыня курганоў 0,8—2 м, адзін насып меў вышыню 3 м. Курганы даследавалі У. З. Завітневіч (1892 г.), А. М.

Ляўданскі (1928 г.) [4]. Раскапана больш за 10 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне пад курганом зрэдку на вогнішчы галавой на захад, трапляюцца пахаванні ў грунтавых ямах. Знойдзены бронзавыя і сярэбраныя пацеркі тыпу ўпрыгожанняў дрыгавічоў, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, бронзавы пласцінкавы бранзалет, лунніца, пярсцёнкі, крыжыкі (мал. 63). Раскапаныя курганы датуюцца XI—XII стст. У 1971 г. аўтар даследаваў адзін курган. Насып круглы, дыяметрам 6 м, вышынёй 1,6 м. На гарызонце пад курганом знойдзены шкілет, які ляжаў галавой на захад. Каля шкілета знаходзіўся жалезны серп (мал. 79, 2). У могільніку былі пахаваны жыхары старажытнага Барысава. В. Н. Тацішчаў без спасылкі на крыніцу пісаў: «У 1102 г. Барыс Усяславіч полацкі хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўшыся, заснаваў горад Барысаў, назваў у гонар свайго імя і людзей тут пасяліў» [5]. На аснове гэтага паведамлення В. Я. Данілевіч выказаў меркаванне, быццам горад быў заснаваны для палонных яцвягаў [6]. Аднак пры раскопках на дзядзінцы і пасадзе старажытнага Барысава не знойдзена прыкмет прысутнасці тут яцвяжскага насельніцтва. Выяўленыя матэрыялы тыповыя ўсходнеславянскія [7]. Не знайшло пацверджання меркаванне пра магчымую прысутнасць яцвягаў у выніку археалагічных даследаванняў курганоў у наваколлі Старабарысава.

**Заслаўе (Мінскі раён).** Летапісны Ізяслаўль размяшчаўся ў паўднёвай частцы Полацкай зямлі. У XII ст. ён з'яўляўся цэнтрам княства. Археалагічны комплекс вывучаўся з перарывамі на працягу больш за 100 гадоў, што ўжо адзначалася. У 1967 г. аўтарам раскапана 14 курганоў.

*Курганная група II.* У 1971 г. аўтар даследаваў два невялікія курганы дыяметрам каля 5 м, вышынёй 0,6—0,8 м. У кургане 1 быў касцяк,




*Мал. 86. Заслаўе. Курганная група III. Рэчы з кургана 1 (1960 г.)*

арыентаваны на ўсход, і рэчы: нож, жалезная падкованадобная фібула, наканечнік дзіды, кругавы гаршчок (мал. 85, 1—4). Курган 2 — без пахавання. Знойдзены ляпны гаршчэчак (мал. 85, 5).

*Курганная група III.* Курган 1 дыяметрам 8,5 м, вышынёй 2 м. Раскапаны ў 1960 г. У насыпе над шкілетам знаходзіўся невялікі ганчарны гаршчок з лінейным арнаментам і патоўшчаным венчыкам («манжэтай») у верхняй частцы (мал. 86, 2). Касцяк знаходзіўся на попелавугальнай пляме на грунце, арыентаваны галавой на поўдзень. З левага боку таза ляжала жалезная падкованадобная фібула, недалёка — бронзавая спражка, каля левага бядра — нож, каля правай голені — сякера з вузкім лязом (мал. 86, 1). Дата пахавання — першая палова XI ст.

Курган 2 размешчаны побач з курганом 1. Пахаванне выяўлена на глыбіні 90 см. Шкілет (162 см) ляжаў галавой на ўсход (мал. 87). Каля галавы знойдзена крэсіва і наканечнік дзіды, каля таза жалезная падкованадобная фібула, з другога боку нож. Ля бядра справа стаяла кругавая пасудзіна, жалезная сякера ляжала каля ступні. Касцяк ляжаў на попельнай пляме. Паміж сякерай і кісцю рукі знаходзіўся гаршчок. Пахаванне датуецца канцом X ст.

*Курганная група V.* Курган 1 (па А. М. Ляўданскаму 5) мае дыяметр 6 м, вышыню 1,1 м. На грунце амаль у цэнтры кургана касцяк (154 см), арыентаваны галавой на захад. Чэрап перавёрнуты ўніз. Каля калена разбураны гаршчок з кляймом на дновшчы (мал. 53, 1), недалёка шыфернае прасліца (мал. 53, 2), на грунце рытуальная попельная пляма. Курган 2 (4) дыяметрам 5,5 м, вышынёй 1 м. На мацерыку попельная праслойка. Яна прасочвалася і крыху вышэй. Праслойка была па ўсёй плошчы кургана, але асабліва вялікая пляма ля самага касцяка. Касцяк ляжыць галавой на захад. Яго даўжыня 140 см (мал. 88, 1). Па вызначэнню І. І. Салівон, тут пахаваны дарослы мужчына. Каля левага бядра знойдзены крэмень, калачападобнае крэсіва, нож, недалёка ад ступні — лірападобная спражка (мал. 53, 4).

*Курганная група VI.* Пасярэдзіне курганнай групы пракладзена шаша Мінск—Радашковічы. У 1967 г. праводзіліся даследаванні галоўным чынам у заходняй частцы могільніка.

Курган 1 (4) дыяметрам 7 м, вышынёй 1,5 м. Насып з пяску з прымессю гравію. У ім сустракаюцца вугольчыкі. На грунце попелавугальная праслойка і касцяк галавой на захад, кісці рук на тазавых касцях, ногі злёгку сагнутыя. Каля чэрапа з левага боку знойдзена разамкнутае скроневае драцяное кальцо. Курган зноў насыпаны пасля яго даследавання. Курган 2 (15) дыяметрам 4 м, вышынёй 0,5 м. Насыпаны з пяску. Нічога не знойдзена, няма і попельнай плямы.

Курган 3 (28) дыяметрам 8 м, вышынёй 0,7 м. На глыбіні да 1,3 м знойдзены касцяк галавой на захад. На поўнач ад цэнтра — другі касцяк, таксама арыентаваны на захад. У першага касцяка захаванасць дрэнная, чэрап адваліўся ўбок і разбураны, правая рука ляжыць уздоўж тулава, левая — на тазавых касцях. Рэчаў няма. Другі касцяк добра захаваўся, правая рука сагнутая і ляжыць на поясе, левая — выцягнута ўздоўж тулава. Каля галавы знойдзены рэшткі жалезнага вырабу. Верагодна, пахаванне было на рытуальным кастрышчы. Абодва пахаванні адначасовыя.

Курган 4 (44) знаходзіцца ва ўсходняй частцы групы VI. Дыяметр 6 м, вышыня 1 м. Насыпаны з пяску з гравіем, як многія курганы каля Заслаўя. Пад насыпам у цэнтры кургана на глыбіні 1 м касцяк галавой на захад. Чэрап належаў дарослай жанчыне. На правай плечавой косці быў жалезны бранзалет, з левага боку чэрапа бронзавае скроневае

кальцо з заходзячымі канцамі, на безыменным пальцы левай рукі — віты бронзавы пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, пад галавой знойдзены два фрагменты кальца, на шыі дзве шкляныя пазалочаныя пацеркі, вышэй таза з правага боку нож.

Курган 5 (21) дыяметрам 5 м, вышынёй 0,9 м. На глыбіні 0,8 м у цэнтры выяўлены два касцякі, якія ляжалі «валетам», побач адзін ля другога ці нават адзін на другім. Адзін касцяк арыентаваны галавой на захад, другі — на ўсход. Абодвы пахаванні адначасовыя. На касцяку з заходняй арыентацыяй на шыі была падвеска з напаяным прыгожым узорам (мал. 53, 15). Вышэй таза з правага боку знойдзены нож і металічная пацерка з зерню (мал. 53, 12). Рукі ляжаць на тазавых касцях. Каля касцяка з усходняй арыенціроўкай знойдзена бронзавая спражка (мал. 53, 13), бронзавае і жалезнае кольцы (мал. 53, 16), паміж тазавымі касцямі выяўлена кальцо з заходзячымі канцамі (мал. 53, 11). Кісці рук былі на жываце.

Курган 6 (29) — адзін з самых вялікіх курганоў каля дарогі




*Мал. 87. Заслаўе. Курганная група III. Інвентар кургана 2 (1967 г.)*

(мал. 89, 2). З усходняга боку ён зпоўз да схілу так, што выглядае авальным. Гэта быў круглы паўсферычны курган. Дыяметр 12 м, вышыня 1,9 м. На глыбіні 1,2 м ад вяршыні прасочваліся праслойкі попелу і вугалю. На мацерыку знойдзены рэшткі вогнішча. У насыпе выяўлены рэшткі згнілага дрэва. Блізка да мацерыка знойдзена трупапалажэнне (даўжыня 1,73 м) галавой на захад. Каля левай рукі рэшткі жалезных абцугоў, тут жа бурштынавая пацерка, па форме падобная на біканічнае праслііа (мал. 52, 2). Вакол касцяка шэсць вялікіх жа-




*Мал. 88. Заслаўе: 1 — курганная група III (к. 2); 2 — курганная група V (к. 1)*

лезных цвікоў, напэўна, ад труны. Каля касцяка знойдзены цуглі (мал. 52, 8), два крэмні, кавалак папругі, абшытага удвая і арнаментаванага, а таксама сярэбраная манета. Па вызначэнню В. Н. Рабцэвіча, манета Атон і Адыльгейда (дынарый, Саксонія) 60—70-я гады X ст. Пытанне пра датаванне гэтых манет разгледжана В. М. Поцідым. Манеты чаканіліся ў 991—995 гг. Найбольш часта яны сустракаюцца ў скарбах першай паловы XI ст. З боку кургана на прамежку 2 м ад пахавання знойдзены абломак ганчарнай пасудзіны (мал. 52, 15). Такая кераміка часта сустракаецца на археалагічных помніках Заслаўя: у ніжніх пластах культурнага слоя на дзядзінцы на Замачку, пасадзе. У кургане пахаваны рамеснік, відаць, у пачатку XI ст.

Курган 7 (22), як і курган 6, выглядае авальным, але першапачаткова быў, відаць, круглы. Папярочнік 8 м, вышыня 1,2 м. На грунце попельная праслойка. На ёй ляжыць касцяк (даўжыня 1,7 м), арыентаваны галавой на захад з адхілам на поўнач. Пры касцяку на грудзях бліжэй да пояса ліраладобная бронзавая спражка (мал. 52, 10). Ля кісці правай рукі бронзавае кальцо, у папярочным разрэзе круглае (мал. 52, 9). У нагах ля ступні знаходзіўся разбураны ганчарны гаршчок (мал. 52, 11).

Курган 8 (10) дыяметрам 4 м, вышынёй 0,9 м. На глыбіні 0,6 м у насыпе знойдзены абломак керамікі XII ст. На грунце заўважаны рэшткі вугальнай праслойкі.

Курган 9 (20) уяўляе даволі вялікі насып (дыяметр 8 і 6 м), адзін яго бок зрэзаны. На глыбіні 0,5 м ад вяршыні амаль па ўсёй плошчы насыпу слой попелу таўшчынёй 5—7 см, у якім зрэдку сустракаюцца дробныя вуглі. Пад ім на мацерыку, дзе прыкметны слабы пласт вогнішча, знойдзены касцяк даўжынёй 171 см, арыентаваны галавой на

захад. Каля сцягна стаялі два гаршкі (мал. 52, 12, 13). Вялікая пасудзіна ляжала бокам, меншая стаяла каля ступні. Каля сцягна ляжала кальцо дыяметрам 2,8 см (мал. 52, 14). Курган 10 (8) ледзьве прыкметны, вышынёй 0,4 м. Нічога не выяўлена, адсутнічае нават вогнішча. Курган 11 (11) вышынёй 0,3 м. У ім нічога не выяўлена.

Вывучэнне курганоў у наваколлі Заслаўя было закончана ў 80-я гг. Ю. А. Заяцам[8]. Ён зрабіў цікавыя рэканструкцыі адзення і ўзбраення дружыннікаў і апалчэнцаў[9]. Заслугоўвае ўвагі спроба вызначыць са-




*Мал. 89. Заслаўе: 1 — курганная група VI (к. 9); 2 — курган 6, а — дзірван; б — пясок; в — попелавугальныя праслойкі; г — знаходкі; д — памеры плямы; е — пашкоджанне насыпу; ж — грунт*

цыяльную прыналежнасць пахаваных у гэтым могільніку. Несвабодныя, асабіста залежныя людзі вызначаюцца паводле іх палажэння ў кургане адносна асноўнага пахавання або па характару пахавальнага інвентару[10].

**Вейна (Лагойскі раён).** Курганны могільнік размешчаны за 1,2 км на паўночны ўсход ад вёскі каля дарогі. Налічвае 41 курган дыяметрам 6—10 м, вышынёй 2—2,5 м. Каля вялікіх курганоў захаваліся глыбокія раўкі. У 1970 г. у разбураным кургане знойдзены касцяк, арыентаваны на захад, у нагах была жалезная сякера з апушчаным шырокім лязом. Даўжыня сякеры 16,5 см, шырыня ляза 10,7 см.

У 1978 г. аўтар даследаваў два курганы. Курган 1 знаходзіўся на краю могільніка. Яго дыяметр 6 м, вышыня 1,1 м. Пад насыпам на гарызонце выяўлена попельная праслойка таўшчынёй 10 см. Знойдзены рэшткі шкілета, амаль поўнасцю разбуранага карапямі дрэва.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 1 м. Пад насыпам на плошчы кургана зафіксавана попелавугальная праслойка. У ёй у паўночна-за-

ходняй частцы знойдзена кучка кальцыніраваных касцей вагой 150 г. Амаль у цэнтры кургана выяўлены рэшткі трупапалажэння. Захаваліся косці ног. Касцяк ляжаў галавой на захад, пахавальны інвентар адсутнічаў. Такім чынам, у кургане знаходзіліся два адначасовых пахаванні: адно — трупаспаленне, другое — трупапалажэнне. Напэўна, курганы адносяцца да канца X—XI ст.

**Дворышча (Мінскі раён).** Курганны могільнік размешчаны на старой Койданаўскай дарозе каля яра на ўзвышшы. Захавалася звыш за



*Мал. 90. Пацеркі і скроневае кальцо з курганоў: 1—10 — Слабодка III (к. 4); 11—19 — Плусы (к. 6); 20—27 — Дворышча (к. 2)*

20 курганоў, якія размешчаны ў трох месцах. Большасць курганоў у плане круглыя, некаторыя выглядаюць авальнымі. Вышыня курганоў ад 1 да 1,5 м, каля некаторых прыкметны раўкі. У 1977 г. аўтарам даследаваны чатыры курганы.

Курган 1 меў дыяметр 8 м, вышыню 1,2 м. Пад насыпам на мацерыку ў двух месцах знойдзены рэшткі касцей. Памёршы ляжаў галавой на захад. Каля таза выяўлена калачападобнае крэсіва, крэмень, нож і дужка ад вядра. На дужцы былі вушкі для прымацавання да вядра.

Курган 2 дыяметрам 7 м, вышынёй 1,1 м, насыпаны з гліны і пяску. У паўночна-заходняй частцы на глыбіні 0,6 м знаходзіліся асобныя косці чалавека, у тым ліку сківіца. У паўднёва-ўсходняй частцы кургана на глыбіні 0,2 (з боку насыпу) знойдзены кругавы гаршчок з па-

тоўшчаным («манжэтападобным») венчыкам. Такая кераміка ў вялікай колькасці выяўлена на паселішчах на Менцы, якія знаходзяцца за 8 км ад гэтых курганоў. У самым цэнтры кургана пад насыпам знойдзена асноўнае пахаванне, якое добра захавалася. Касцяк быў арыентаваны на захад. Яго даўжыня 1,7 м. У чэрапе былі дзве круглыя адтуліны, прабітыя, відаць, сякерай-чаканам. Гэта сведчыць пра насільную смерць. Вакол шыі былі знойдзены ўпрыгожанні: скроневае пярсцёнкападобнае кальцо дыяметрам 2 см, зробленае, відаць, з білонавага дроту, з такога ж металу зроблена буйная зярнёная пацерка (мал. 90), мазаічная аранжавая пацерка інкруставаная «вочкамі», вельмі прыгожая, каштоўная і рэдкая, тры сердалікавыя пацеркі (мал. 90), дзве лімонападобныя пацеркі. Пад касцяком былі рэшткі згнілага дрэва.

Курган 3 у плане авальны, памерам 4—5 м, вышынёй 1 м, насыпаны з пяску і суглінка. У паўночна-заходняй частцы насыпу былі знойдзены невялікія косці ад чэрапа. Каля цэнтра кургана блізка да мацерыка выяўлена пляма з попелу і вугалёў, дзе былі кальцыніраваныя косці агульнай вагой каля 30 г. На гарызонце зафіксавана тонкая попелавугальная праслойка.

Курган 4 дыяметрам 5 м, вышынёй 0,5 м. Ён знаходзіўся побач з вялікім курганом. Курган без усялякіх прыкмет пахавання. Аднак пад дзірваном у самым цэнтры насыпу на глыбіні 20 см знойдзены гаршчок, які стаяў уверх гарлавінай. Невялікая пасудзіна па сутнасці ляпная і толькі крыху падпраўленая на ганчарным крузе. У яе выразныя плечукі, патоншчаны венчык, ніжэй шыйкі нанесены лінейны арнамент. Раскапаныя курганы адносяцца да канца X — пачатку XI ст.

**Азярцо I (Мінскі раён).** Курганны могільнік знаходзіцца за 2 км ад гарадзішча на Менцы, дзе, верагодна, размяшчаўся першапачаткова горад Менск [11]. На левым беразе р. Пціч на гары захаваліся тры курганы. Курган дыяметрам 16 м, вышынёй 3 м даследаваў у 1979 г. В. А. Карпека. Выяўлена паслядоўнасць збудавання кургана. Спачатку на грунце быў пастаўлены зруб памерам 5×4,8 м, вышынёй да 1 м. Усяго ў ім налічвалася пяць вянкоў. Ён быў прысыпаны грунтам. На адным узроўні з драўляным зрубам каля двух яго вуглоў пакладзены камяні. У кургане на вышыні 1,8 м ад яго падэшвы над зрубам змешчана пахаванне. Кальцыніраваныя косці былі на плошчы 1,5×2 м. Відаць, трупаспаленне зроблена па-за курганом, а затым косці прынесены і змешчаны ў насыпе. У пахаванні знойдзены пашкоджаныя агнём фрагменты фібулы, бронзавая арнаментаваная бляшка ад папругі, невялікая частка вырабу з белага металу, магчыма, пярсцёнка, кавалак тачыльнага бруска і кавалак ганчарнага гаршка. У насыпе былі рэшткі кругавых пасудзін і фрагмент дна з кляймом. Пахаванне адносіцца да X ст.

**Азярцо II.** Другі курганны могільнік знаходзіцца за 300 м ад першага могільніка на лузе пры ўпадзенні Менкі ў Пціч. У ім налічваецца чатыры насыпы дыяметрам 9 м, вышынёй 0,8—0,9 м. Летам 1980 г. аўтарам разам з В. А. Карпекам даследаваны два курганы.

Курган 2 меў дыяметр 10 м, вышыню 0,6—0,8 м. Амаль на мацерыку знойдзена значная колькасць кальцыніраваных касцей і рэшткі перапаленых бронзавых вырабаў.

Курган 3 насыпаны з суглінку. Яго дыяметр да 9 м, вышыня 0,9 м. Пад насыпам выяўлена шмат гліны, якая была сюды прынесена для ўзвядзення пляцоўкі. У паўднёвай палавіне кургана выяўлены прамавугольны ў плане зруб памерам 2,2×2,8 м. Ад яго захаваліся рэшткі ў выглядзе абвугленага ніжняга вянка (мал. 91). У цэнтры зруба шмат кальцыніраваных касцей, якія былі абазначаны ў час раскопак як па-

хаванне 2. У ім знойдзены жаночыя ўпрыгожанні: дзве бронзавыя спіральныя пацеркі, якія маюць форму двайнога конуса (мал. 61, 3), дзве бронзавыя чатырнаццацігранныя пацеркі, упрыгожаныя цыркульным арнаментам, пяць дробных жоўтых шкляных пацерак, кавалак шыйнай грыўні, арнаментаваны ломанай лініяй з белага металу, фрагмент плоскага серпападобнага скроневага кальца (мал. 61, 15), кавалак бронзавай трапецападобнай падвескі з выпуклым арнаментам, рэшткі іншых бронзавых вырабаў. У гэтым пахаванні знойдзены два вялікіх



*Мал. 91. Азярцо. План кургана 3: а — дзірван; б — пясок; в — кальцыніраваныя косці; г — паленае дрэва; д — суглінак; е — рэчы; ж — гліна*

кавалкі ад кругавой пасудзіны з патончаным венчыкам і лінейным арнаментам (мал. 75, 4), глінянае біканічнае прасліца (мал. 61, 10).

Найбольшая колькасць перапаленых касцей знаходзілася не ў зрубе, а побач з ім (пахаванне 1). Тут вылучалася пляма дыяметрам 30 см, насычаная перапаленымі касцямі (2,1 кг). Каля гэтага месца былі выяўлены кавалкі ад кругавога гаршка з патоўшчаным венчыкам («карнізікам») (мал. 75, 3), бронзавая спражка (мал. 61, 1), жалезнае кальцо, бронзавая трапецападобная падвеска, жалезныя дэталі бізуна (мал. 61, 13).

У кургане пахаваны мужчына і жанчына. Трупаспаленне праведзена на мясціне, дзе затым быў насыпаны курган. Адбывалася гэта ў другой палове X ст. Напэўна, тут пахаваны жыхары паселішча, якое знаходзілася побач на берагах Менкі.

# Бібліяграфія

## Уводзіны


[1] Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982. С. 158.
[2] Повесть временных лет. М.; Л., 1950. Ч. 1.
[3] Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972. Ч. 2. С. 14—15.
[4] Сергеева З. М. Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян и Руси. М., 1988. С. 71.
[5] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977. С. 434.
[6] Веревкин М. Записка об археологических памятниках Витебской губ. // Тр. ВОМПК. Вільня, 1893. С. 198, 203, 204, 208.
[7] Бараг Л. Да пытання аб волатах — асілках старажытных беларускіх паданняў // Полымя. 1945. № 10. С. 103—112; Бараг Л. Г. «Асілкі» белорусских сказок и преданий // Русский фольклор. Вып. 8. М.; Л., 1963.
[8] Писаренко Ю. Г. О значении местного названия кургана «Волотовка» // Актуальные проблемы историко-археологических исследований. Киев, 1987. С. 129.
[9] Прыкладна з другой паловы XIX ст. шырока распаўсюдзілася назва курганоўвалатовак — «французскія магілы», што звязана з памылковымі сцвярджэннямі, быццам у курганах пахаваны французы, якія загінулі пры адступленні арміі Напалеона (Дучиц Л. В. Народные названия археологических памятников Белоруссии // Археология и история Пскова и Псковской земли: Тезисы докладов научно-практической конференции. Псков, 1989. С. 79—81).
[10] Нидерле Л. Славянские древности. М., 1956. С. 114—115.
[11] Каспяровіч М. Волаты і звязаныя з імі перажыткі (першапачатковыя вынікі даследавання) // Наш край. 1929. № 6—7. С. 84—89; Ясінскі А. Два словы аб волатах (Да праблемы першапачатковага насельніцтва Беларусі) // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы класа гісторыі. Мн., 1929. Т. 3. Кн. 8. С. 201—216.
[12] Гринблат М. Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968. С. 32—33.
[13] Ластоўскі В. Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. С. VII; Дучыц Л. У. Мосар // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985. С. 235; Вильчинский Ф. О. Сообщение о раскопках курганов возле деревни Поули // Записки Русского археологического общества. Спб., 1853. Т. 5 (перечень заседаний).
[14] Шадыро В. И. Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985. С. 11.
[15] Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1970. Ч. 1. С. 213—224; Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии // Памятники железного века и эпохи феодализма. Вып. 2. Мн., 1971. С. 36—91.
[16] Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.). Мн., 1978. С. 8; Шноре Э. Могильник древних балтов // Наука и мы. 1990. № 9. С. 24.
[17] Шадыро В. И. Ранний железный век Северной Белоруссии. С. 107.
[18] Белорусская археология. Мн., 1987. С. 63, 67.
[19] Третьяков П. Н., Шмидт Е. А. Древние городища Смоленщины. М., 1963. С. 29, 30, 33; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 48—58; Русанова И. П. Славянские древности VI—VIII вв. М., 1976. С. 68—71; Загорульский Э. М. Древняя история Белоруссии. Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.). Мн., 1977. С. 7; Перхавко В. В. Раннесредневековые древности междуречья Днепра и Немана V—VIII вв.: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1978. С. 21.
[20] Митрофанов А. Г. Археологические памятники восточных балтов на территории Белоруссии в эпоху железа (VIII в. до н. э.— IX в. н. э.) // Из древнейшей исто-

рии балтских народов по данным археологии и антропологии. Рига, 1980. С. 108—109.

[21] Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1978. С. 8—9.

[22] Лысенко П. Ф. Дреговичи. Мн., 1991. С. 98.

[23] Там жа. С. 56—62.

[24] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1991. С. 31—61; Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн., 1975; Ён жа. Города Полоцкой земли IX—XIII вв.; Ён жа. Ажываюць сівыя стагоддзі. Мн., 1982; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Полацкі і Навагародскі перыяды. Мн., 1990; Тарасаў С. В. Чарадзей сёмага веку Траяна. Мн., 1991.

## Глава 1

[1] Дучыц Л. У. Мосар // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985. С. 235.

[2] Вильчинский Ф. О. Сообщение о раскопках курганов возле деревни Поули // ЗАО. Спб., 1853. Т. 5 (перечень заседаний).

[3] Говорский К. А. Поездка из г. Полоцка по направлению т. н. Ольгердовой дороги // ЗАО. Спб., 1853. Т. 5. С. 88—97.

[4] Кусцинский М. Ф. Из заметок о курганах Лепельского уезда // Полоцкие Епархиальные ведомости. Витебск, 1903. № 7; Российский исторический музей. Указатель памятников. М., 1893. С. 151, 157.

[5] Алексеев Л. В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // СА. 1968. № 3. С. 87, 88.

[6] Сементовский А. М. Белорусские древности. Спб., 1867.

[7] Сапунов А. П. Река Западная Двина. Витебск, 1893; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896.

[8] Романов Е. Р. Раскопки в Могилевской губернии в 1883 г. // Труды МАО. Вып. 1. М., 1889. Т. 13. С. 146—150.

[9] Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии // Труды ВОМПК. С. 1—18; Ён жа. Археологическая карта Гродненской губернии // Труды IX АС в Вильне. М., 1895. Т. 1.

[10] Покровский Ф. В. Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Труды IX АС. М., 1895. Т. 1. С. 166—220.

[11] Спицин А. Археологические раскопки. СПб., 1910. С. 88.

[12] Памяти Александра Николаевича Лявданского // СА. 1964. № 4. С. 120, 121.

[13] Ляўданскі А. М. Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Менскай акругі // Працы. Мн., 1928. Т. 1. С. 2.

[14] Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX—XIII вв. С. 22, 26.

[15] Ляўданскі А. Археалагічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Працы. Мн., 1930. Т. 2. С. 173.

[16] Ляўданскі А. М. Археалагічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Працы. Т. 2. С. 173.

[17] Ляўданскі А. Н. і Палікарповіч К. М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг. // Запіскі Беларускай акадэміі навук. Мн., 1936. Кн. 5. С. 216.

[18] Голубович Е. и Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. 1945. XI. С. 135—137.

[19] Чернягин Н. Н. Длинные курганы и сопки // МИА. 1941. № 6; Алексеев Л. В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины (Материалы к археологической карте Витебской области БССР) // Труды ПОКЕ. 1959. Т. 1. С. 273—302; Ляпушкин И. И. Славяне Восточной Европы накануне образования Древнерусского государства // МИА. 1968. № 152. С. 98—109; Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Мн., 1971. С. 31—91; Седов В. В. Длинные курганы кривичей // САИ. Вып. Е1—8. М., 1974. С. 56, 57.

[20] Алексеев Л. В. Полоцкая земля (Очерки истории Северной Белоруссии) в IX—XIII вв. М., 1966. С. 70—80; Ён жа. Полоцкая земля // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975. С. 202—215.

[21] Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970. С. 124.

[22] Ляўданскі А. Археалагічныя доследы ў вадазборах рр. Сажа, Дняпра і Касплі ў Смаленскай губерніі // Працы. Т. 2.

[23] Алексеев Л. В., Сергеева З. М. Раскопки курганов в Восточной Белоруссии // КСИА. 1973. № 135. С. 49—55.

[24] Сергеева З. М. Курганы у дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР) // КСИА. 1969. № 120. С. 107—111; Яна ж. Раскопки курганов в Толочинском районе (БССР) // КСИА. 1972. № 129. С. 61—64; Яна ж. Раскопки курганов на Друцком волоке // КСИА. 1974. № 139. С. 49—52.

[25] Сергеева З. М. О подковообразных фибулах с утолщенными концами на территории древней Руси // КСИА. 1977. № 150.

